## *Дзевяноста шосты*

Калісьці Вітас Пяткявічус у інтэрв'ю «Литературной газете» гаворку закончыў тым, што, адышоўшы ад палітыкі, паедзе на сваю далёкую дачу і будзе сталярыць, «чтобы не сойти с ума».

Я адыходжу не ў сталярку, а зноў ды зноў у добрую кнігу, у працу літаратурную, якая ў мяне не які-небудзь адыходны промысел ці славутае хобі, але адзіная справа жыцця.

* * *

Пайшоўшы з паста прэзідэнта, Франсуа Мітэран хацеў заняцца любай літаратурай, аднак лёс дадаў яму толькі пару месяцаў жыцця... Калі я пачуў па радыё, што ён, чалавек зусім майго пакалення, быў у нямецкім палоне, жыва ўявіліся натоўпы французаў у «маіх» шталагах II-D і XIII-B, і наіўна падумалася, што сярод тых тысячаў, якіх бачыў ды чуў я, мог быць і гэты...

А тое, што ён пажадаў, каб яго пахавалі ў родным кутку, нагадала Пальчэўскага, Адамовіча, Танка...

Прэзідэнт магутнай, прыгожай краіны папрасіў, каб на апошнім развітанні з ім былі толькі родныя і найбліжэйшыя сябры.
Ёсць жа і такія інтэлігентныя кіраўнікі!..

* * *

Казімеж Машыньскі, дарэчы, настаўнік і сябар Генадзя Цітовіча, у сваёй капітальнай працы «Kultura ludowa słowian» цікава расказвае і пра зоркі, як яны ў розных славян называюцца па-рознаму.
Светла і міла згадаліся Міцкевічавы свіцязянскія «gwiazdy nad tobą i gwiazdy pod tobą»,— як яны ўспрымаліся мною, вясковым хлапчуком, упершыню. Вялікая, сапраўдная паэзія ў дзіцячай адкрытасці сэрца як быццам памнажаецца на сіле.

* * *

Бальнічная санітарка, старая дзеўка з бязвольна ціхіх, малапрыкметных руплівіцаў. Калі я сядзеў у чарзе да доктара, яна падышла, павіталася, і мы, даўно знаёмыя, трохі пагаварылі. Яна тут лавіла старэйшую медсястру пры дэрматолагу, каб спытацца ў яе, як гэта дапамагчы старому бацьку з яго пролежнямі. Нічога ж, ніякіх лекаў, каб добрых, няма. І пахаваць жа цяпер чалавека так дорага. Так яна гаварыла, і многа суму, болю было ў яе сіратлівай безвыходнасці...
А днямі прыйшло пісьмо ад сардэчнай сяброўкі, таленавітай паэтэсы, у якім яна, сама пакутніца, піша пра бацьку, якому «ўжо лёс дазваляе на дзевяноста чацвёрты паверх жыцця ўзбірацца. Дзякуй Богу, што

хоць і з кульбаю, але на ўласных нагах трымаецца, наш верабейка, ды галава ў яго светлая...»

Сёння, вельмі рана прачнуўшыся, успомніў і тыя пролежні, і сяброўчына пісьмо, і тое яшчэ, чаму няма меры і разумення. У тэлеперадачы «Дзікае поле» паказваўся платны кілер (на ўсё цяпер няпростыя акрэсленні), аброслы пад арыштам гарадскі юнак, які амаль зусім па-дзелавому тупа, абыякава да маральнага сэнсу справы расказваў, што яго наняла маладая жанчына забіць яе маці,— такое вырашэнне, здаецца, кватэрнага пытання. Яе па нейкіх прычынах не паказалі. А ў яго, відаць, адна бяда,— што папаўся...

* * *

У падарожжы па Гомельшчыне (для «Я з вогненнай вёскі...»), калі мы на Калеснікавым чырвоным «Масквічы» ўехалі ў Мележавы Глінішчы, нас запыніла вялізная чарада гусей. Разгегаліся, а ўцякаць ані думаюць. Тут наш Валодзя выбухнуў за рулём: «Гусей праганіце!..» А чародка жанчын, што сáма разгаманілася поблізу, адказала — таксама з гонарам: «А мы вас не ведаем...»

Потым, у Мінску, Іван Паўлавіч, калі мы расказалі яму пра гэта, задаволена смяяўся, рады, здаецца, не толькі за жанчын, але і за гусей.

* * *

Вечар Улашчыка, рыхтуючыся да якога, пераглядаў па колішніх паметках на палях ягоныя «Очерки по археографии...» і «Была такая вёска». Думалася, ідучы ў Дом літаратара, пра амаль пустую залу, тым

больш што сцюдзёна было, аднак аказалася — вельмі нямала тых, каму ён, Мікалай Мікалаевіч, блізкі ды цікавы.

Выступіўшы, заўсёды хочацца спытаць каго-небудзь, як у цябе атрымалася. Гэтым разам, можна сказаць, не найгорш, прынамсі, коратка. Бо сябры-літаратуразнаўцы, ды калі яны яшчэ і выкладчыкі, цягнуць часамі бязлітасна. Так было і гэтым разам. А ўсё ж уражанне ад вечара ўрачыста-прыемнае — далучэнне да такой слаўнай асобы, чалавека і вучонага.

* * *

Я трохі вядомы ў маёй вельмі малавядомай у свеце краіне, і вядомасць мая, якая ёсць і якая будзе, калі яна будзе,— гэта не тое, чым трэба жыць і чым я ў асноўным жыву.

* * *

Удала паправіўшы нешта ў новым рукапісе, добра недаўмяваць: як жа гэта магло так і пайсці, без такое неабходнай праўкі?! Нават не проста добра, а радасна, на сваім месцы сябе адчуваеш, далёка ад гнілі, якою пачаўся дзень, а з годнасцю.

* * *

Унучка Крапівы, мастацтвазнавец, выкладчыца, не зусім маладая жанчына, выступаючы на стагоддзі Кандрата Кандратавіча, сказала:

«Выхоўваць можна і святлом зялёнай настольнай лямпы...»

Гэта — пра тое, як яна, будучы шасцігадовай дзяўчынкай, любіла свайго дзядулю і, калі аднойчы ўвечары вельмі захацела да яго ў кабінет, цікавала праз шчыліну ў прыадчыненых дзвярах. Ён сядзеў за сваім пісьмовым сталом, для малое не проста вялікім, а вялізным, і штосьці пісаў. Яна глядзела, глядзела і зачыніла дзверы, перамагла самую сябе разуменнем, што дзядулю не трэба перашкаджаць.

* * *

У школе-інтэрнаце сустракаліся з дзецьмі-сіротамі, пераважна ад жывых, недастойных бацькоў. Маладзейшыя сябры-пісьменнікі гутарылі з дзецьмі меншымі, што займалі першыя рады, а я ў канцы — са старшакласнікамі. Адказваючы на адно з пытанняў: які мой твор найлепш мне падабаецца, «само сказалася»:

«Хацеў назваць «Вайну і мір», але ж успомніў, што гэта не я напісаў».

Разам са слухачамі весела засмяяўся.

* * *

Максім Гарэцкі, дадатковы, пяты том твораў, «Літаратурная крытыка і публіцыстыка».

Сярэдняя каморніцкая адукацыя. А ўся культура — ад таленту і працы над сабой. Яшчэ адно выдатнае сведчанне, як гэта важна для сапраўднага літаратара.

Перачытваецца нават крытыка, чаму, відаць, садзейнічае і прысутнасць аўтара ў яго свабодзе, хоць і няпоўнай, падыходу да роднай літаратуры. Гэтым ён мне нагадвае Юльяна Кшыжаноўскага, які ўмеў

гаварыць праўду, хоць і прыкрую, і жывым ды вядомым.

Дакрананне да гэтай душы дапамагае трымацца на годным узроўні.

Бедная, родная хатка на фотаздымку і родная вёска, якую мне давялося бачыць двойчы. Цяпер, успамінаючы іх да шчымоты сэрца, можна гаварыць і пра народнасць Гарэцкага, і пра здзіўляючы цуд ягонага ўзлёту на вышыні агульналюдской культуры, і пра трагедыю ды злачынства,— замучыць, замардаваць такога чалавека і літаратара на сорак пятым годзе жыцця!..

Дзеля належнай арыентацыі ў злобе нашых дзён такое трэба памятаць.

* * *

Класавае, што законна застаецца ў свядомасці,— той векавы жахлівы здзек з прыгнечанай большасці, што выклікаў пратэст, паўстанні, рэвалюцыі, здзек, з якім нельга змірыцца, і наогул, з пазіцыі чалавечнасці, і таму, што і сам ты з той большасці.

Думаў — зноў над Гарэцкім («Маленькі фельетон»), успамінаючы нядошла-пацешныя прэтэнзіі на «шляхецкія карані» ў некаторых нашых адраджэнцаў.

* * *

Чэслаў Сэнюх пераклаў «чарнобыльскія» паэмы Сяргея Законнікава, якія вось-вось павінны з'явіцца зборнікам. Ад гэтай весткі, казаў мне Чэслаў па тэлефоне, Сяргей быў «cały w skowronkach». Хараша гэта, і чую яго ўпершыню. Прыемна было сказаць

нашаму добраму сябру, што чарговы раздзел з «Новай зямлі», прысланы мне, перакладзены ім выдатна, як і тры папярэднія. Няхай і Чэславу як найшчадрэй заспяваюць скаўронкі-жаўранкі варшаўскія!..

* * *

Просты, недапісаны аловак, які перазімаваў тут, на дачы, у пустой шуфлядзе стала, і зноў вось пайшоў у работу, прыемна ўбачыўся мне прыладай вытворчасці, паўнапраўнай, як гэблік, сякера, нож у іншых руках. А я ім толькі раблю паметкі на палях пазычанай мне сюды кнігі.

* * *

Адзін з указаў царыцы Елізаветы Пятроўны — наконт вызвалення з архангельскай ссылкі прыдворнага кухэн-майстра Халябны — падпісаны **Елисавет.** Прыгадаўся Сабакевіч, які падсунуў Чычыкаву ў мужчынскі спіс мёртвых душ адну Елисаветъ Воробей. Гогаль не мог не ведаць «августейшего» Elisabeth, з пятроўска-нямецкім форсам; магчыма, ведаў гэта і Міхайла Сямёнавіч. Усё-такі танчэй, праўдападобней, чым — скажам так — Екатеринъ ці Пелагей!..

* * *

«Созерцая жизни великие, невольно думаешь и о своей давно прожитой и тускло догорающей ныне».

Аляксандр Чаянаў, «Венедиктов, или Достопамятные события жизни моей».

Зноў здзіўленне: якая цярплівасць у добрых, але сціплых кніг, як яны ўмеюць чакаць чытача, які не ўмее іх заўважаць. Мяркуючы па годзе выдання, 1989-ы, кніга гэтая гадоў чатыры-пяць стаяла тут, на паліцы старое дачнай «сценкі», летавала пры людзях і зімавала без іх, у сваёй непарушнай ціхай цярплівасці.

Словы, якімі я пачаў запіс, маглі б і эпіграфам да нечага быць, а спадабаліся яны проста так сабе, дый настолькі, што падштурхнулі да старонак сшытка. Як ужо неаднойчы бывала з іншымі кнігамі.

* * *

Навокал дрэвы,— і тут, на ўзлеску, і трохі воддаль, над Нёманам,— а бусліная пара, замест дуба ці ліпы, выбрала проста слуп, пашарэлы ад слотаў ды маразоў невысокі слуп электрасеткі. Драўляны, вядома, з разгіраčанымі ўпорынамі, бо стаіць ён на крутым павароце лініі дратоў, што ідуць-вісяць ад вёскі да трох гарадскіх лецішчаў.

На слупе над дарогай — навалач голля, якое і звісае, і тырчыць канчарамі, а над гэтай вялізнай, непрычасанай чупрынай ужо самавіта, па-сямейнаму вытыркнуўся тонкі трохкутнік белай шыі і чырвонай дзюбы. Мусіць, у матчыным клопаце села сама гаспадыня, а гаспадар кудысьці паляцеў, таксама ж не так сабе.

Каля такога дзіва, убачанага мною ўпершыню, ісці захацелася асцярожна.

Другім раннім ранкам, калі і ён, гаспадар, стаяў на ўскрайку гнязда, я не вытрымаў, павітаўся: «Здароў!» А буська ў адказ недаверліва падзюбаў паветра доўгім чырвоным вастрыём у адзін, у другі бок, яшчэ і яшчэ павагаўся, што рабіць, і ўсё-такі, нібы з натугай, замахаў прыгорблена крыламі, пашыбаваў у большую свабоду, над краем поля да ракі, за якою, ажно да пушчы на даляглядзе, адно луг ды луг.

А поле, вялікі клін паміж лесам і Нёманам, сёлета пад лёнам. Ён яшчэ толькі ўзышоў, зарунеўся. Канец мая, блакітная радасць ільнянога росквіту — наперадзе. Па-дзедаўску шчасліва думаю: калі прыедуць школьнікі-ўнукі.

Пераехаўшы з горада днямі, я так вось і пакланіўся роднай красе,— і каля дзіўнаватай буслянкі, і далей на дарозе, калі пастаяў пад разбукечанай крывуляй сасной, што адна пры дарозе ад поля, уся ў румяным ранішнім сонцы, таксама ж красуня — кронай у чыстым блакіце, а медным ствалом на фоне пяшчотнай ільняной зеляніны.

* * *

Аказваецца, і Сталін, і Гітлер у раннім юнацтве абодва спявалі — адзін у царкоўным, а другі ў касцельным хорах, маючы на гэта пэўны слых і голас. У-ми-ли-тель-но!..

* * *

Гаспадыні гадоў за шэсцьдзесят, а сама яшчэ ледзь не як кветка, і сукенка сёння ў яркіх кветках на цёмным. Хвалю, думаючы, што ёй гэта прыемна, а яна як апраўдваецца: «Старая ўжо яна ў мяне, **утрупянела**, у шафе вісючы!..» І пагаварылася нам прыемна, гэтым пачаўшы пагодлівы дзень, і новае слова панёс я.

* * *

«Чорт з голаду і мухі еў». А я, не абражаючы Энгельса як вучонага, спрабую ад бяскніжнасці дачытаць ягонае «Паходжанне сям'і, прыватнай уласнасці і

дзяржавы». І вось жа зноў пачынаю, паралельна чытанню, сёе-тое тэматычна блізкае ўспамінаць.

У адной жанчыны было ажно тры непрыгожыя дачкі. Суседскаму дзецюку яна, удава, прапануе, вядома ж, сам-насам, узяць каторую з яе дзяўчат, а ён, з не меншай прастадушнасцю, кажа:

— Калі ж, цётка, яны ў вас такія брыдкія!..

— Ой, дарагі мой, зірні ты на іх маімі вачыма,— якія ж яны брыдкія, дзяўчаты як дзяўчаты!

Нават пашчымлівае сэрца ад такога матчынага клопату...

А вось і іншае, можна сказаць — пагодлівае, што ўспомнілася мне з мінулага суседняй вёскі.

Удавец араў удаве, а яна, як у песні пяецца, прынесла яму есці. Паселі, пагаманілі, толькі ўжо еў ён адзін. Бравы кавалерыст царскай арміі, нярослы вусач з мянушкаю Вус. А потым на мякенькай, пушыста-цёплай раллі, падаслаўшы яго каптан і яе сачок, у чыстаполіцы, пад лагодным раннеасеннім сонейкам, пад кабыліна хрупанне ды пазваньванне цуглямі пакахаліся як мае быць, ужо не ўпершыню.

У цёткі гэтай — ажно чатыры дачкі, дзве старэйшыя, прыгожыя, тады былі ўжо замужам, яшчэ адна на дзеўку бралася, а найменшая хадзіла ў школу. І гэтыя абедзве — адразу ж відаць — таксама будуць красунямі. Па маме.

А пра каханне на раллі я што чуў, а што і ўявілася.

Вось так, геносэ Энгельс. І пойдзем з вамі далей...

* * *

Да салаўёў, шпакоў, буслоў, ластавак, зязюляў сёння я з ранняй, пустой дарогі, адтуль, дзе за дачамі злева нізкі, амаль балотны луг, а справа Нёман,—

першы раз сёлета дый ранавата яшчэ пачуў перапёлачку. Так ласкава, па-песеннаму і захацелася яе назваць.

А яшчэ ж і пра жораваў.

Не толькі чуў ужо іх галасы з таго самага нізкага лугу,— аднаго назіраў у палёце. І не ў тым характэрным для жораваў паэтычна-вырайным клінаванні неба, а нізка над дарогай, над краем лесу, калі я, захоплена спыніўшыся, то бачыў, то не бачыў, то зноў бачыў яго, шэра-магутнага прыгажуна, у ажурна-сетачных прасветах лісцяных ці хвойных вяршыняў. У нейкім звычайным, будзённым клопаце ён аднекуль або кудысьці спяшаўся, і гэта было для мяне незвычайна і люба.

* * *

...Старая, халодная хата і вузенькая, доўгая палоска поля — вось і ўсё, апроч мазольных рук, што было ў жанчыны-бабылькі. Асабліва востра бачыцца мне тая палоска, мікраскапічная рысачка на планеце Зямля... Хоць бы ж ужо ў адным, нерасцягнутым месцы, а зматаным у палянку быў гэты кавалачак яе апоры на белым свеце, а то ж такая тонкая, доўгая палоска. Можа, як і жаль, балючы сіроцкі жаль — на ўсё жыццё...

* * *

Хвалюе музыка, паэзія — як музыка, а добрая, з божым знакам проза таксама хвалюе — паэзіяй.

Мне прывезлі багаты том Рэя Брэдберы, і вось я чытаю «Вино из одуванчиков», і вось яно зноў: «...и пробуждается поэзия во мне!..»



З ночы неба, нарэшце, зацягнута, пачынае нібыта накрапваць кволенькі дождж. На першай вясковай сядзібе, куды я прыйшоў, нестарая, ветлая гаспадыня папраўляла за хлявом леташні падсцілачны стажок саломы. Даў «дабрыдзень», спытаўся, каб загаварыць:

— Дажджу баіцёся?

— Ага! Яму ж ужо хочацца ісці.

Якая простая, мілая дакладнасць роднага слова!..

А дождж?

Толькі назаўтра пад раніцу, папярэдзіўшы сваё набліжэнне груваскімі грымотамі, на наш зялёнаціхманы закутак небывала заядла абрынулася адразу навальніца. Дождж не проста падаў зверху цяжарам кропляў — ён хвастаў адтуль чысценькай, свежай гушчай вады. З шумам, музыку якога цяжка перадаць. Як і густое, шчодра бясконцае тупаценне па шыферы над маім рабочым пакойчыкам на гарышчы.

Ды вось ён як раптоўна пачаўся, так абрывіста і закончыўся. І старая ліпа перад маім высокім акном зноў у лагодным, светлым спакоі, толькі сабе паварушвае найменшымі галінкамі ды паасобнымі лістамі.

І здаецца, што ранняя парнасць не прадвяшчае новага дажджу, а проста вільгаці стала як быццам удосталь, нават для нашай прылясной ненасытнай пясчанасці.



Бедныя шляхцюкі, Чачот і Міцкевіч, круціліся каля магнацкіх дачок, пакутліва кахалі, адзін Зосю Малеўскую, другі Марылю Верашчаку, тыя любілі іх вершы, бавіліся іхнімі залётамі, а замуж павыходзілі за сваю раўню. Ажно мне прыкра ад гэтага, пра што гаварыў калісьці на адпаведным выступленні ў Доме літаратара, а сёння, каля стэнда ў

Карэліцкім музеі, сказаў такое маладзейшаму сябру. І ён адказаў, што, можа, Марылю бацькі не пускалі за Адама таму, што «паўжыдак»? Кажучы грубавата, але ж па-народнаму блізка да праўды. А па-магнацку — chudopachołek — чалавек нізкага паходжання, пра што я падумаў пазней.

* * *

Калі мне было і шэсцьдзесят, і пяцьдзесят, я рабіў штосьці **як на адчэпнае, як прыблізнае**,— такое было адчуванне...

Падумаў так, чытаючы Брэдберы, успомніўшы той час, калі мы летавалі ў вёсцы ў гаспадара і я пісаў «Гіпноз», «А-я-я-яй!», «Сумленніцу», вёў запісы. А быў жа мой час і ранейшы, і пазнейшы, і было ў кожным часе сваё **прыблізнае**, з чаго і складаецца творчы набытак,— не той, якога спачатку хацелася.

* * *

...Зноў Лермантаў:

> ...Глубокая еще дымилась рана,
> по капле кровь точилася моя.

«Дымилась», «точилася» — і так, і так добра, натуральна.

А вось у Коласа мяне раздражняе ягонае «ўхадзілась», «варушылась»,— так і хочацца натуральнага ў нашай мове «ўхадзілася», «варушылася», «азвалася» — такога поўнагалосся, ці як тут сказаць...



На Чачотавым свяце ў ягоных Малюшычах, на вялізнай зялёнай паляне за вёскай.

Я сядзеў на першай лаўцы перад эстрадай, а яна, маладзенькая, у нацыянальным уборы, збегла са сцэны і нахілілася да майго твару, і — праз яе духмяна-цёплую задыханасць ды праз хвацкую музыку вясковага аркестра, пад які яна толькі што спявала ў гуртку таксама гарэзлівых сяброўак,— стала запрашаць мяне на танец. Пачаў апраўдвацца хворымі нагамі, а сам міжволі, як быццам і просячы прабачэння, прылажыўся да яе свежанькай шчакі.

А дома, прачнуўшыся рана, стаў ныць і над такім яшчэ старэчым смешным грахом.

На лаўцы той я быў, вядома, не адзін, і яна збегла са сцэны не адна,— дзяўчаты ўзялі сабе з публікі кавалераў, у тым ліку і «мая», і ў чатыры пары, зайздросна закружыліся ў вальсе па нізка-зялёнай траве.

А потым зноў на сцэну, каб паспяваць яшчэ і саступіць пляцоўку іншаму ансамблю, якіх сабралася вельмі нямала.



Пасля артыкула Змітра Бугаёва ў майскім «Полымі» пра раманы Лынькова і Крапівы папрасіў прывезці мне з Мінска толькі «Мядзведзічы»,— захацелася аржанога хлеба. Лынькоў раздражняе сваімі саладжавымі інверсіямі, а ў Крапівы ўсё строга, натуральна, вобразна без падпявання. Мова вёскі блізкая да нашай, хоць ты й Уздзеншчыну далучай да Наваградчыны, з прыемнасцю ўспамінаючы, як гэта Смоліч у сваёй геаграфіі кажа, што іменна Наваградчына ды Случчына — галоўная база, аснова беларускай літаратурнай мовы... Не дакладна прыгад-

ваецца, але па сэнсе ў яго так. І фальклор мядзведзіцкі (чытай нізкоўскі) блізкі да нашага загорскага.

За выключэннем некаторых сцэнаў,— асабліва сваркі ў хаце Верамейчыкаў,— раман перачытваўся... не, чытаўся праз паўстагоддзя як штосьці новае. Значыцца, можна гэтую прозу аднесці да тое, якая перачытваецца? — спытаюся з прыемнасцю. Такімі кавалкамі не кідаюцца, асабліва пры нашай усё ж такі беднасці.

* * *

І мілая, і разумная, і паважаная. Так што не выпадае, ну, зусім не выпадае, неяк няёмка думаць пра аголенасць пад сціплай, але спраўнай вопраткай або лягчэйшым адзеннем. Тое **ўсё** — толькі камусьці аднаму, у поўным інтыме і назаўсёды.

* * *

Святасць жаласці, шкадавання. Усіх, бо ўсе, калі глыбей разабрацца, незразумела і безнадзейна няшчасныя.

Сяды-тады такое вяртаецца да мяне, як балючае шчасце.

Можа, гэта і ёсць тое асноўнае: «Любіце адзін аднаго»?..

* * *

Мая парэчка пакуль што абсыхае на кустах, а я чытаю. Брэдберы, апавяданне «Нескончаемый дождь». Без выбару, а на чым спыніўся дзён некалькі таму назад, залажыўшы ў патрэбным месцы агрызак алоўка.

Адчайная фантастыка, бясконцае шлёпанне пад дажджом не дзе-небудзь, а на Венеры, і раптам — такое зямное, блізкае, што ажно я, як ад радасці, засмяяўся: «...дождь, в котором тонут все другие дожди и воспоминания о дождях».

* * *

Нават у такой ідылічнай глухамані, як наша, не схаваешся ад жахаў сучаснасці.

Днямі мне расказалі, што той вусаценькі «незаконны» сын нашага партызана і хутаранскай цёткі, які так хораша вытанцоўваў на «свяце вёскі», ужо задушаны ў сваёй мінскай кватэры. Хутчэй за ўсё сябрамі, якія ведалі, што ў яго з'явіліся «вялікія грошы» на нейкую пакупку.

А яшчэ праз два дні другая хутаранка пахвалілася, калі я зайшоў, што ў нядзелю да яе са Стоўбцаў прыязджалі сын і ўнучка. Яна, артыстачка, толькі выбрала клубніцы, а ён, шафёр грузавіка, і падлогу, і бялізну ёй памыў, і яшчэ сёе-тое зрабіў за нямоглую маму, але даўжэй пабыць не змог, бо ў сябра ягонага — пахаванне. Два юначкі запрасілі яго чатырнаццацігадовую, адзіную дачку на матацыкл, на штосьці там наскочылі, зубаскалячы, самі абодва жывыя, а яна — насмерць...

Столькі такога і страшнейшага, і без вайны, а боль адчуваюць толькі родныя, у каго яны ёсць, а збоку, воддаль мы толькі гаворым пра страшнае, як рэгіструючы яго, ведучы бясконцы, як той дождж на Венеры, падлік складаемых усяленскага адзічэння...

* * *

Свята ўІніцы.

На загладжана-ўтравянелым котлішчы колішняй хаты, дзе нарадзіўся Уладзіслаў Паўлюкоўскі, прывезены ды пастаўлены валун з зубрыным профілем і на ім умацавана мемарыяльная дошка.

І тут мне, як два тыдні таму назад у Карэлічах, на адкрыцці помніка Яну Чачоту, выпаў гонар і адкрываць, і прамаўляць пра яшчэ аднаго славутага земляка.

Два зборнічкі вершаў Улада Ініцкага, «Клім ба́баю» і «Сон Гаўрылы», трапіліся мне ўлетку 1934-га, а цяпер, выступаючы, нават прысвячэнне на адным з іх працытаваў па памяці:

Вам, браты мае й сястрыцы,
Дробнай шляхце, як з Ініцы,
Так з ваколіцаў Міра,
І ўсім тым, каго зямля
Беларуская трымае,
Гэту кніжку прысвячае
Аўтар.

Прыемны ўспамін сенавання ў тым далёкім годзе, дні, якія праходзілі з паэзіяй Ініцкага, з паэзіяй блізкага зямляцтва, з прадчуваннем і майго творчага шчасця. Хоць я, калі гаварыць усё, бачыў і слабасць гэтай паэзіі ў параўнанні з тою, якую я ўжо ведаў — рускую, польскую, родную.

А самога Уладзіслава Міхайлавіча (як ён па бацьку, мне падказалі яго гарадскія пляменніцы) бліжэй, паўней пазналася якраз там, у Ініцы, з дзіцячых захопленых дэкламацыяў, з выступленняў і пажылой настаўніцы, і адной з пляменніц гэтага «паэта, перакладчыка, этнографа і мастака», 100-годдзе якога віленскія беларусы, на сорам Саюзу пісьменнікаў, адзначылі, як і належалася, летась. Абтрапанае

фота дваццацітрохгадовага ў 1918 годзе прапаршчыка з мярлушкавай папахай, шабляй і недарослымі вусамі, а таксама з дарчым надпісам швагру, з падтэкстам у агульнавядомых словах «судьба играет человеком», паказала мне ўсё тая ж найбайчэйшая пляменніца-мінчанка. А **судьба** з гэтым чалавекам, трэба сказаць, добра-такі **наигралась**,— ордэн Чырвонага Сцяга ў грамадзянскую вайну, за што пілсудчыкі не даравалі яму ў канцы 20-х, пасадзіўшы на Лукішкі, а ў канцы 30-х — у Картуз-Бярозу, а пасля яшчэ аднаго вызвалення Вільні, у палавіне 40-х, у савецкі лагер, вызвалены з якога сконам Сталіна гэты яшчэ адзін наш пакутнік патрываў зусім нядоўга...

Ініца — вёсачка на дваццаць двароў, сядзібы на адным баку вуліцы, а другі бок зялёны, з рачулкай пад высокімі дрэвамі,— таксама Ініца, якая ўпадае ў Нёман з левага боку.

А на правым — больш вядомая вёска больш вядомага Уладзіслава — Жукаў Барок і валуны на месцы колішняга Сыракомлевага Залучча...

Вось так яно з учарашнім святам, ад карэліцка-малюшыцкага, Чачотавага, адрозным большай свежасцю разгадкі яшчэ адной з'явы ў гісторыі нашай культуры.

Падараваны мне каравай на вышываным ручніку, вялізны ды з рознымі аздобамі, сіламі траіх унукаў будзе асвоены з сырадоем, як толькі яны прачнуцца.

Смачна пякуцца гэтыя караваі, як маміны велікодныя бабкі. У ініцкіх «дробных шляхцянак» вельмі смачныя і пернікі, якіх нанеслі яны на канцэрт «адна перад адной» і раздавалі на доўгіх лаўках гасцям. Пакуль дождж не прагнаў нас у вялікі клуб не тут, а ў суседняй вёсцы.

* * *

На пахаванне Віткі не па сваёй віне спазніўся прыехаць. Увечары таго ж дня, выказваючы Наташы, ягонай дачцэ, спачуванне, пачаў з таго, што вось упершыню не папрашу яе паклікаць да тэлефона бацьку, а ён не падыдзе, і мы не пагаворым, амаль заўсёды талкова і з лёгкасцю на душы пасля развітання...

І Даніла ўжо мне не пазвоніць, каб запрасіць на яшчэ адно нейкае музейнае мерапрыемства або з просьбай паслухаць па радыё ці паглядзець па тэлевізары штосьці ягонае. Нешта перад маім ад'ездам у вёску, ці ў канцы красавіка, ці ў пачатку мая, ён званіў мне з прапановай паўдзельнічаць... ужо і не памятаю, у чым, і я адмовіўся ад'ездам. А пад канец чэрвеня, яшчэ не пачуўшы ад стаўбцоўскіх сяброў, што Даніла Канстанцінавіч у бальніцы і на адыходзе, выпадкова паслухаў па радыё яго выступленне пра малодшага брата Юрку, які загінуў на фронце пад канец 1941-га.

Выступаючы на паніхідзе, я гаварыў пра тое, як ён, і знешне пад старасць усё больш падобны да дзядзькі Якуба ў яго апошнія гады, добра настройваў і мяне на коласаўскі лад, уводзіў у атмасферу бацькавай творчасці, сам заўсёды спаважны, ураўнаважаны, прыязны — заўсёды і ўсюды, у музеі, дома ў яго, у Доме літаратара, дзе мы сустракалі яго як брата, за адных маладзейшага, другім аднагодка, а маладым і старэйшага. Апошні раз мы сустрэліся тады, калі ў музеі адзначалася стагоддзе Крапівы, і мы з Васілём Зуёнкам зайшлі пасля да хворага Данілы. Ужо зусім слабы, мала ходзячы і па хаце, ён усё ж падзяліўся з намі, над чым працуе, а потым, за так прывычна і для мяне гасцінным сталом і чарачку ўзяў, і гутарыў весела...

Праводзілі яго з музея, якому ён аддаў столькі душы, шматлюдна было і ўрачыста.

...За два дні — двух...

* * *

«Цыбуля ў мяне сёлета вельмі добрая. Як мае кулакі. Зяць паважыў адну, дык чатырыста пяцьдзесят грамаў!..»

«Відаць, гною многа даяце?»

«Ды не, гэта яна **зямлю палюбіла**!..»

Як і сама гаспадыня.

* * *

«Поэтом можешь ты не быть...»

Калі ён, Някрасаў, мог і не быць, а ў многім і не быў, дык былі ж, і ёсць, і будуць такія, што не быць паэтамі не могуць.

Ці не ў савецкі час гэтыя словы былі ўзяты на ўзбраенне сацрэалізму, так падкрэслена ды назойліва ўздымаліся ды паўтараліся? А як было з імі раней?

* * *

Яна была шчаслівая, знаёмячы мяне са сваім сынам-юнаком, і ад гэтага шчасця, як убачылася мне, выразна папрыгажэла. Красою матчынага шчасця.

І трэба ёй будзе гэта сказаць.



Стары Шэлест, колішні галава Украіны, пытаецца ў артыста Ланавога, адкуль ён, таленавіты зямлякукраінец. «З-пад Вінніцы».— «Там у вас добрыя буракі!..»

Калі б мяне хто спытаўся пра тыя мясціны, я мог бы згадаць сваё, што ўспомнілася над газетай. «Вінніца? Ведаю, быў». Не проста ўспомнілася, але адчулася цяжарам і пахам і прадчуваннем раскошы вялізная дыня на маіх каленях. Абапал асфальту цудоўная пшаніца, асфальт роўненькі, гонкі, аднак яна, дыня, чамусьці гучна лопнула і раскалолася, не дачакаўшыся свайго часу. І трэба было кроіць вялікія лусты, частавацца і ў нашай машыне, з шафёрам, з маёю Нінай і Алесем Адамовічам, і, спыніўшыся, у другой, дзе Валодзя і Зося Калеснікі.

Наша цудоўнае падарожжа, ужо вяртанне з Закарпацця. Трыццаць гадоў таму назад — як у казцы?..



Уся дробная і драбнейшая проза, бядота, цемра жыцця з мноствам людзей, зблізку ўбачаных, уведаных табою ў сваёй — без віны ці з нейкай доляй іхняй віны — беспрасветнасці, усе тыя цёткі і дзядзькі, што жылі-мадзелі і сышлі ў невядомасць — даруй, Божа,— нібы плесень ці мох-лішай, які можна сцерці, як з валуна, з глоба Зямлі, каб стала на далейшае чысцей. Якая грэшная думка!.. А я ж і святасць іхнюю бачыў, памятаю, стараўся запісаць...

* * *

Бог долі не дае —
Ніхто замуж не бярэ!..

Як хараша народ абыходзіцца без рыфмавання. Ад мамы чутае — ці то з песні, ці то з роздуму толькі. А мне гэта ў пачатак полькі добра ўкладалася, успамінаючы маладзенькіх дзяўчат, захопленых у танцы.

* * *

Па радыё, у выкананні Шырмавай капэлы:

«Святый Боже, святый крепкий, святый бессмертный — помилуй нас!..»

Уявіўся натоўп гарадскіх нувабранцаў, нейчых, у нейкіх сем'ях — хлопчыкаў, якім праз год будзе і наш Міша, унук. З мамінымі клункамі яны і з сумам ці адчаем на тварах.

Як тыя, якіх дзесяткамі, сотнямі б'юць штодзённа ў Чачні...

* * *

Пры Польшчы. Мірскі суддзя Рассудоўскі (нібы псеўданім, а не сапраўднае прозвішча), пра якога весела гаварылася ў нашым Загоры. На адным судзе ў яго, як на спектаклі, пабыў аднойчы і я. Спецыяльна зайшоў з кірмашу.

— Ты што ж гэта — дзіця ёй прыжыў, а замуж не бярэш?

Адказчык у хромавых ботах, дый сам фартовы дзяцюк. А яна, што падала на суд, ужо і абабілася ў такім клопаце ды ганьбе.

— Чаму гэта не бяру, пане сэндзя пакою? Бяру!

— Ага, бярэш! Як цяпер, перад панам сэндзяй, дык ты бярэш, на судзе. А потым будзе зноў...

Дзябёлы, вусаты, з добрай беларускай мовай пан сэндзя пакою вырашае справу як мудры міратворац:

— Ідзі, брат, ды бяры яе. **Любіліся дагэтуль, дык любіцеся і далей...** Кто там настэмпны?

Апошняя фраза на мове службовай.

Другая судовая справа, пра якую мне ўжо ў вёсцы весела расказалі, пачалася таксама з пытання, яшчэ карацейшага:

**— Ну што, украў гусака?**

І няма ўжо тым часам у каго спытацца пра таго, хто мне нагадвае нечым і Вінцука Дуніна-Марцінкевіча, і Мельхіёра Ваньковіча...

* * *

Ман, «Доктар Фаўстус».

Свабода ў мастацкай павольнасці, поўным праве гаварыць грунтоўна і няспешна, што я рассмакаваў яшчэ ў «Іосіфе і яго братах». Гавару як хачу, і нікуды вы не дзенецеся, будзеце слухаць мяне, плысці са мною, куды я хачу.

Мне прыемна і тое, чытаючы, што помніцца і дом Будэнброкаў у Любэку, і дом ягоны ў Нідзе... Добра таму, хто назапасіў трохі ўражанняў!..

Не-не дый любуюся Сёмухавымі моўнымі знаходкамі ў гэтым вельмі нялёгкім, пра што ён і сам гаварыў, дадаўшы, «але ж і вельмі цікавым» перакладзе.

* * *

Сёння ўжо ў мяне пісьменніцкага звання не адбярэш, што зроблена мною — зроблена. А толькі вось зноў я жыва адчуў той балючы страх, які наведваў

мяне ў самым пачатку юнацтва,— страх, што без літаратуры, без майго ў ёй удзелу, я — **нішто**... Чаму ж мне і сёння стала так горка і страшна, як быццам зноў у мяне анічога няма, нават надзеі, як у пачатку?..

* * *

Выступіў з добрым артыкулам, у подпісе пад ім для падмацунку абвесіўшы сваё імя цэлым абярэмкам званняў ды прэміяў.

* * *

Самюэль Джонсан:

«Я ніколі не адчуваў жадання пагутарыць з чалавекам, які напісаў больш, чым прачытаў».

* * *

Самы пачатак кастрычніка, некалькі начных прымаразкаў — і ўжо не толькі наша ліпа пасыпалася так хутка пажаўцелай лістотай, але і прыдарожны дуб, што найбліжэйшы нам успамінамі пра знойдзеныя пад ім баравікі, таксама неўпрыцям азалаціўся.

Жонка неяк сказала, што, каб яна была пісьменніцай,— ой, як хораша напісала б пра свае адчуванні ў лесе!..

Я таксама хацеў бы гэтага шчасця. А толькі ўспамінаю, як яно ў мяне бывала.

* * *

Гэта лянота, старэчая немач ці проста добра памаўчаць, падумаць, падрамаць?..

«Мозг устал»,— скардзіўся ў сваім апошнім годзе Леў Мікалаевіч, і ў ягоным выпадку гэта зусім зразумела.

Аднак ці было ў яго столькі страху, колькі перажылося намі, ці ведаў ён **і такую стому**?..

* * *

Ад завірухі ў нас і ў Расіі — зноў думка, што найбольш адпаведнага часу, каб заняцца толькі мастацкай творчасцю, не трэба чакаць, галоўнае — гэтую творчасць — адкладаючы «на лепшы час», калі можна будзе не маўчаць.

* * *

На коласаўскай канферэнцыі, з выступлення Міхася Мушынскага, здаецца, упершыню пачуў, што «стрэльбы, хлопчыкі, бяры!» — пазнейшае, вымушанае цэнзурай, рэдактурай ці, чаго добрага, і ўласнай стараннасцю аўтара. А першапачаткова было не стрэльбы, а бомы. Як жа гэта лепш гучала — з **натуральнай зброяй** лесарубаў, плытнікаў, наогул землякоў народнага (у галоўным значэнні, не знешне тытульным) паэта!..

...Думалася і пра тое, што класавая барацьба з панамі за зямлю мела і свой працяг агіднай крывавасці ў суседскіх, нават і ў сваяцкіх, братніх бойках за пераараную ці толькі паварушаную гранічную баразну, што мы ў дзіцячай і юнацкай рэальнасці бачылі раней, чым у марксісцкіх талмудах.



«Працую над вершам». І саліднасць, і гонар у такой заяве. І неяк няёмка чуць такое: гэта — праца? Можа, таму няёмка, што верш той, як большасць іх у гэтага аўтара, будзе слабы?.. Дый наогул — справа тут, можна сказаць, інтымная, не настолькі ў працы яна, як у таінстве.



З цікавасцю перабраў учора кнігу Аляксандра Булыкі «Даўнія запазычанні беларускай мовы».

«**Уюкъ, вьюкъ**», «уюк» (*тур.* jük); на въюки складшися, въскокъ побегли...; на уюки свое борошно брати...» Прыклады адпаведна з шаснаццатага і семнаццатага стагоддзяў.

А мне згадалася выпадковая кніга ў маёй вясковай падлеткавасці, дзе вядомы дарэвалюцыйны літаратуразнавец, прозвішча якога дакладна не памятаю, сказаў, што ён наогул не ведае мацнейшай, ярчэйшай вобразнасці ва ўсёй сусветнай паэзіі, чым такое:

...Звонков раздавались нестройные звуки,
Пестрели коврами покрытые вьюки,
И шел, колыхаясь, как в море челнок,
Верблюд за верблюдом, взрывая песок.

Ён толькі сцвердзіў тое, што я адчуваў ужо тады. А сёння мне зноў лягчэй на душы ад сапраўднай паэзіі.



Апошнім часам, калі я, пішучы, маю патрэбу ў найбольш адпаведным слове, яно як быццам не само прыходзіць, а хтосьці **яшчэ** адзін падказвае мне яго. Дзіўнае адчуванне!..

* * *

Камусьці ўручаюць нейкі ордэн **трэцяй ступені**; глядзіш на тэлеэкран, і нават староннямy табе няёмка,— ну, добра, ну, не дацягнуў чалавек, але ж навошта гэта падкрэсліваць?..

* * *

Перакладаю з «Gazety Wyborczej»:

«Адзін англіканскі біскуп паведаміў, што не ўяўляе сабе неба без свайго сабакі...»

«На брытанскіх фермах няма сабак на ланцугу. Англічане кажуць: «Калі сабака носіць намордшк, дык гэта азначае, што насіць яго павінен гаспадар».

І тут мне прыгадаўся пасляваенны выпадак. У нядзелю тры паэты сядзелі, начэкваючы чацвёртага партнёра да прэферанса. Ужо не паэта, а галоўнага рэдактара адной з газет, нядаўна прызначанага на гэтую пасаду партыйнага таўкача, выціснутага з ЦК. І вось ён нарэшце паказаўся ў брамцы, а гаспадыня спалохана закрычала свайму: «Ой, а Дзік жа на дварэ без намордніка!» Аўчар, праўда, яшчэ малады, але возьме ды кінецца.

Аднак наймаладзейшы з «пулькістаў», Максім Танк зарагатаў: «Нічога! І ён таксама ж без намордніка!..»

Прозвішча мелася і тут, ды не хочацца згадваць.

* * *

Там, дзе N. растлумачвае паходжанне слова **Нарач** — ад індаеўрапейскага **нар** (вада),— успомнілася, што гэтую назву найбольшага нашага возера я

ўпершыню ўбачыў у Танкавай паэзіі, і нават прачытаў яе з іншым націскам, Нара́ч, ледзь не ад таго, што лазіць па норах... Такое было веданне роднай геаграфіі, хоць гэты прадмет у школе я любіў. Адтуль Нарач аніяк не помніцца.

* * *

Бліскучы нарыс Льва Талстога пра Паскаля нагадаў мне пра польскі двухтомнічак вялікага француза, куплены ўжо даўно. Тады я адразу ткнуўся ў першы томік, «Myśli», пагартаў і другі, «Rosprawy i listy», але ж, як і ў іншых выпадках бывала, адклаў. А тым часам і два дзесяцігоддзі мінула. Але што гэта значыць пры нашай вечнасці — скажам з горкай іроніяй... Буду чытаць, памятаючы, што і Мантэнь таксама быў дачакаўся ў мяне сваёй чаргі.

А пакуль што ўчора перад сном выбліснула ў памяці напісанае ў семнаццатым стагоддзі па-французску, у дваццатым перакладзенае на польскую мову вялікім майстрам гэтай справы Жаленьскім-Боем, а цяпер вось з яе на нашу:

«Рэкі — гэта дарогі, якія ідуць, нясуць нас туды, куды мы хочам з імі ісці».

* * *

Журналістка з трыбуны цытуе Ота Вайнінгера, з ягонай кнігі «Пол і характар», пра нацыі мужчынскія і жаночыя. «Немцы — нацыя мужчынская...» Я не стрываў: «У канцы вайны яны былі ўжо нацыяй жаночай!..» Бо згадалася лета сорак чацвёртага, безліч прадстаўнікоў мужчынскай нацыі з разгаўнела-прыкрым «Гітлер капут!..».

А Вайнінгер мне запомніўся іншай цытатай — пра любоў да чалавека, якая вымяраецца веданнем той граніцы свабоды, якую твой бліжні сам акрэсліў для сябе, і павагай да той граніцы.

Такое, здаецца, з 1938-га, а то і з яшчэ ранейшага чытання «Полу і характару», яшчэ адной выпадковай кнігі.

* * *

Цётчын псеўданім «Гаўрыла з Полацка» пераклікаецца не толькі з Багушэвічавым «Сымонам Рэўкам з-пад Барысава» і «Яськам-гаспадаром з-пад Вільні» ў Каліноўскага, а яшчэ — весела бачыцца мне — і з прыказкай «Не адзін Гаўрыла ў Полацку». З гарэзнасцю спрытнай падпольшчыцы: шукай мяне, знайдзі!..

# *Дзевяноста сёмы*

Ад кожнага літаратурнага пакалення патрабуецца ў творчасці новае — за любую цану.

Ад кожнай чарговай вясны чагосьці небывалага не патрабуем, абы толькі яна была сама сабою.

* * *

Кабінет прасторны, вокны вялікія, батарэі халодныя, і таму ўсе, чалавек каля дваццаці, сядзяць апранутыя. Ідзе абмеркаванне сітуацыі, народжанай «вертыкальным» часам: як выратаваць газету творчай інтэлігенцыі... Настрой цьмяна-цяжкі, пануры ва ўсіх, хто выступае і хто маўчыць.

Яна, што сядзіць насупраць мяне, каля кніжнай «сценкі», маўчыць. І наогул яна ціхая, я як быццам і голасу яе на слых не ведаю. Мне яна час ад часу гаворыць штосьці сваім надрукаваным пра музыку ў яе праяўленнях рознымі канцэртамі, фестывалямі, поспехамі паасобных талентаў, ужо больш або менш пакуль што заслужаных, а то і новых, зусім новых. Гаворыць талкова, ці з абурэннем, ці з радасцю, ці з зацікаўленай шчырасцю. Гэта — час ад часу, з

ціхенькім подпісам у канцы новай гаворкі. А цяпер, на нарадзе, яна маўчыць. Толькі бачу, як на чорным левым рукаве яе футра белыя пальчыкі правай рукі перабіраюць-варушацца, ці то грэючыся, ці забаўляючыся па-малечы, ці з нуды.

Калі мы разыходзіліся, я сказаў ёй:

— Усё гавораць, гавораць, а мы сабе думаем: «Пісаць усё роўна трэба».

І пра пальцы сказаў. А яна ўсміхнулася, можа, і ўдзячна.

Зноў вось — і пры новым, выратавальным рэдактару — чытаю добры, няспешна грунтоўны нарыс са звычным подпісам у канцы і ўспамінаю тое перабіранне пальцамі, беленькімі на чорным рукаве, тую цёплую ўсмешку на развітанне.

* * *

Рускае «чрево» з нашым «чэравам» — не зусім тое самае. Там і абаяльнасць царкоўнаславянскай узвышанасці, а ў нашым чуецца і грубая прыземленасць: «Во чэрава наеў!» Зусім не аднолькава гэта: «Во чреве матери» і «ў матчыным чэраве». Больш падыходзіць «лона», хоць у тлумачальным слоўніку і стаіць глыбакадумнае «Уст.»...

* * *

«Люблю наш край» і «Эх ты, Нёман-рака», якія спяваліся і на загорскай вуліцы вечарамі, прынятыя як божы дар, безымянна. Цяпер мне дадалася яшчэ «Магутны Божа», і вось — Мікола Равенскі, адкрыццё.

* * *

Спавяданне сціпласці — не ад немачы, а мудра, з высока жыватворчай радасцю. Бачачы вялікіх, адчуваючы іх прысутнасць і ўсведамляючы сваё месца ва ўсеагульным творчым жыцці.

* * *

У пошце «Нашай нівы» за 1909 год ёсць і пацешныя псеўданімы вясковых ці мястэчковых энтузіястаў: Пятрок Праўдурэж, Праснак, Праўдаказец, Стэфан Брахалка, Кракра, Тарас Бульба, Таракан...

Чытаючы капыльскія допісы Цішкі Гартнага, успаміналіся яго пазнейшыя высокія пасады і завышанае, як расказваюць сучаснікі, меркаванне пра свой сціплы талент паэта і празаіка, а таксама і «панская», па-капыльску сказаўшы, начная доўга-белая кашуля ў літаратурным музеі...

З адпаведнымі кадрамі для найвышэйшых дзяржаўных пасадаў слаба было ў нас і тады, калі стваралася незалежная Беларусь.

* * *

У канцы семдзесят дзевятага, у Браціславе, мяне пазнаёмілі з тамашнім карэспандэнтам, здаецца, «Комсомольской правды», сказаўшы, што гэта з паходжання беларус. Даволі пажылы таварыш ветліва сказаў, у нейкай меры па-зямляцку, што ён яшчэ ў школе зачытваўся «Палескімі рабінзонамі» і іншымі маімі творамі... Прыйшлося з усмешкай падзякаваць.

У дзевяноста пятым годзе, на адкрыцці помніка Алесю Адамовічу ў ягонай Глушы, выступаў я, адкрываючы ўрачыстасць, тады маскоўскі крытык Валянцін Аскоцкі і, ад родных, Міхась Тычына. А ўвечары наша слаўнае тэлебачанне, з падачы некага боўдзілы-рэпарцёра, перадало, што выступалі там Васіль Быкаў, Рыгор Барадулін і... Янка Маўр...

Гэта мне днямі зноў прыгадалася ў сувязі з каралішчавіцкім летам пяцідзесятага. Ці прэзідыум Саюза пісьменнікаў, ці толькі сам Броўка назначыў двух паэтаў у дапамогу Канстанцыі Буйла пры складанні кнігі яе вершаў «Світанне». Гэтай прыемнай, вясёлай і таварыскай масквічцы было тады пяцьдзесят сем гадоў. Аднак яе значна маладзейшы муж прыслаў на імя Броўкі «исполненный несдерживаемой ревности» ліст, які Пётр Усцінавіч зачытаў на паседжанні праўлення, калі Канстанцыя Антонаўна, закончыўшы работу над рукапісам, была ўжо ў Маскве. А ліст той Броўка атрымаў раней, калі яна гасціла яшчэ ў Доме творчасці, дзе — дакладна помніцца з таго раўнівага пісьма — «вокруг нее увиваются молодчики типа Янки Мавра»...

Паважаны Іван Міхайлавіч (шэсцьдзесят восьмы ад роду) сядзеў у першым радзе, рукі склаўшы на жываце, то назад, то наперад круцячы вялікімі пальцамі. Счакаўшы, калі аціхне рогат, ён сказаў, як часта бывала, па-руску: «Благодарю за доверие!», ад чаго смех паўтарыўся.

Так яго, хоць аднойчы, зблыталі, трэба думаць, са мною, бо з Янкаў на той час у Каралішчавічах быў адзін я. І дыстанцыю, вядома ж, захоўваў належна.



Над «Нашай нівай» (той самы дзевяцьсот дзевяты) падумваецца і пра Янку Журбу, якога знайшлі на Чашнiччыне ці ў саміх Чашніках, пасля чаго старэнькі, нярослы паэт, ужо сляпы, з'явіўся ў Мінску. Хадзіў ён з павадыром, ад адзіноты сваёй часта заходзіў у Саюз пісьменнікаў. Пры мне аднойчы спытаўся ў прыёмнай у ветлівай сакратаркі, ці ёсць куды-небудзь запрашальныя білеты, а яна адказала, што толькі на выстаўку маладых мастакоў. «Дайце, калі ласка, я хоць і не бачу, але папрысутнічаю». Па нестарой тады бяздумнасці гэта здалося мне нават пацешным, як і тое, што ён казаў пра N.: «Гэта не чысты паэт, ён піша яшчэ і прозу». Пацешным... Замест таго каб лепш наблізіцца, паслухаць таго, хто пачынаў у «Нашай ніве» і многа чаго ведаў, а яно пайшло з ім у нябыт. Як і з Купаліхай, і з Сушынскім, старэнькую ўдаву якога яшчэ ўсё можна ўбачыць на мерапрыемствах у Купалавым музеі.



Сустракаеш думку, падобную да тое, што і цябе раней наведала, нядаўна і даўней, якую ты і запісаў. Прыемна і разам з тым боязна, ці не палічыць хто цябе потым плагіятарам, сустрэўшы тую думку ў кагосьці іншага, запісаную так даўно, ажно ў шаснаццатым стагоддзі.

Вось у Паскаля цяпер пра тое, што мы жывём мінулым і будучым, найменш дбаючы пра наша сёння. Прыемна, аднак, што і табе прыходзяць думкі, якія прыходзілі вялікім, і так ужо даўно, хоць і не даўней за тых, што жылі ды думалі ў глыбейшых па даўнасці эрах.

* * *

«Не вялікай трэба асветы, каб мець здаровую думку».

«Nie wielkiego potrzeba mieć wykształcenia, by mieć zdrową myśl».

Я — з польскай, Жаленьскі-Бой з лацінскай, а тады Сенека сам:

«Paucis opus est litterys ad bonam mentem».

І на сотнях іншых моў змест аднолькава мудры.

* * *

«Багатай скрыні пані». Тут і пасажны куфар, і скрыня наогул, скажам, ужо не з уборамі, а з мукой, калі ўжо нявеста добра **ўгаспадынілася**.

Дазволіўшы сабе гэта, можа, і як наватвор, успомніў тое, што ўчора бачыў, гартаючы куплены днямі фальклорны том «Гульні, забавы, ігрышчы».

Ходзіць пятух па вуліцы.
**Скукарэчыўся.**
— Ці ты ножку зламіў,
ці скалечыўся?

* * *

Добры вечар, добры вечар!
Добры вечар, талака!
Да **ўхараводзьжтка**
Ты нас **гэценькі** вечар.

У трэцім радку падкрэсленае слова свавольнаёмкае, хоць і цяжка яго за першым разам вымалаць языком, затое ж у чацвёртым радку «гэценькі» — цуд пяшчотнасці. Жаночай.

А вось і вясёлае, таксама ў жанчын:

Гаварылі, сват багаты,
А яны пяшком прыйшлі,
Маладога ў мяшку няслі,
А свата — у карзіне,
Каб не з'елі свінні.

Або і такое, у дзіцячым свавольстве гульні:

Мужык — Вожык,
Украў ножык,
Купіў мыла,
Памый рыла.

Так яно — адхіліўшыся ад Паскаля, які ў сваёй каталіцкай набожнасці бачыцца і нуднаватым.

* * *

Прачнуўся ў тры, паныў у цемры і ўспомніў, што можна пачытаць у «Полымі» Жука. І прачытаў яго «Сны пра маму». Свежы боль. І думаецца, якая ўсё гэта лухта, марнота з супермоднымі акрэсленнямі жанраў, плыняў, выбрыкаў, чым займаюцца некаторыя з маладых, ад бездапаможнасці ў пошуках нахапаўшыся «вучоных» тэрмінаў. **Жыццё і душа!** Гэта і відаць у Алеся.

Такое ўспомнілася з «Атлантаў і карыятыдаў», дзе і Шамякін, у раздзелах пра смерць маці, узышоў быў на сапраўднае.

* * *

Незлічонае мноства дробязей. Можна іх пазнаваць, не пазнаваць, зноў пазнаваць — усё роўна для пазнавання іх не паменшае. Толькі што цікава.

* * *

Яшчэ не ўмеючы чытаць, я часта гартаў багата ілюстраваны том «20 тысяч лье под водою», з толькі што — скажам цяпер, здалёк — абуджанай цікавасцю ўглядаўся ў голага чалавека, які свабодна плыве сабе ў вадзяным глыбінным бязмежжы. Потым мне сказалі, што ён называецца капітанам Нэма. І вось толькі цяпер, праз акіянскую тоўшчу пражытых гадоў — такое простае: nemo — па-лацінску — **ніхто**. І гэта не пра нікчэмнасць, ■ пра ўсясветнасць чалавека: так мне бачыцца. Цёпла, з журбінкай згадваючы таго, да светлай суцішнасці незвычайнага плыўца ў невымернай, спакойнай, светлай вадзе.

* * *

Успаміны Насовіча.

Ягоная «трасянка», у параўнанні з сённяшняй, усеагульнай, выглядае бязгрэшнай, ці што, бо й не трасянка гэта, а цытаванне роднага, што і хораша падмацоўвае плынь апавядання, і дапамагае ў разгадванні прычыны захаплення гэтага магілёўскага паповіча родным словам.

І што тут дзівіцца таму, што ў яго пачалося ледзь не з канца XVIII стагоддзя, але не стала нацыянальнай свядомасцю і за тры чвэрткі XIX, калі такія эрудыты, як Адам Багдановіч і Яўхім Карскі, і ў наша стагоддзе ўвайшлі з няпоўнай яснасцю ў нацыянальным пытанні, нібы прыглядаючыся збоку: ну, што ж тут у іх атрымаецца з гэтай беларускасцю?..

* * *

Купала, поўнае выданне, першы том.

«Аўтарцы «Скрыпкі беларускай»:

...Эх! іграй жа той, хто можа:
**Плакаць будзе весялей.**

Прыблізнае рыфмаванне ідзе ў яго і ад народнага, і, часткова, ад польскай паэзіі таксама.

«Куды ты рвешся»:

Цягай ты **лапаці** з лазы.

І не здаецца, што гэтыя «лапаці» — дзеля памеру, нават прыемна такое, убачанае ўпершыню.

У каментарыях: «У пазнейшых прыжыццёвых выданнях не друкаваўся». Даволі часта гэта паўтараецца. Дваякі падтэкст: ці тут патрабавальнасць аўтара, ці іншая, знешняя «патрабавальнасць»? У паасобных выпадках у карэктуры аўтарава прыпіска, адрасаваная друкарні: «Выбросить, а наборъ оставить». А набор жа тады быў ручны, і працы людское шкада, і надзея на пазнейшае надрукаванне жыве ў паэтавай душы.

«Разлад»:

Рака **затоўчана** крывёю.

Можна падумаць або сказаць, што лепш прыдалося б **закрашана,** аднак тут бачыцца не толькі чырвонае, кроў, але і... мяса, целы забітых. Жудасней даходзіць.

...Выгадаваць дачушку і **здаць** яе,— як сына ў салдаты, там на здзек начальству, на ваенную кроў і смерць,— а тут на службу ў панскі двор ці ў чужую, багатую гаспадарку... Ніколі, здаецца, не адчуваў гэтага, бацькоўскага, так балюча, як цяпер, над Яго старонкамі...

* * *

У «Крыніцы» Вацлаў Гавал. Памылюся, відаць, аднак узнікла чамусьці думка, што і тут, чаго добрага, нацяжка, як з творчасцю другога драматурга — Кароля Вайтылы.

І памыліўся, што не цяжка было і прадбачыць. І даты яго жыцця, і п'еса «Аўдыенцыя», і прамовы ў высокіх людзях (Парыж, Афіны), і перад «мілымі прысутнымі» ў родным Аламаўцы, нарэшце, і артыкул Ірыны Шаблоўскай на першы раз далі нямала для знаёмства. Кажу: на першы раз, бо, уласна кажучы, чытаў дагэтуль толькі штосьці адно ягонае, у «Иностранной литературе», што і не надта запомнілася. Мала і гэтага, што сіламі траіх нашых чэхістаў дала «Крыніца», аднак пачатак адчувальна зроблены.

Глыбокія рэчы Гавал гаворыць так проста, ясна, што нашым мудрагелям — у адным і тым жа нумары часопіса — варта было б пакарыстацца добрым прыкладам, каб змоладу адвучвацца ад туманнага тарахцення тэрмінамі і спадзявання на падтэкст.

* * *

Уважлівае, зацікаўленае знаёмства з добра, з адборнага зерня складзенай кімсьці анталогіяй паэзіі аднаго народа ці народаў некалькіх дае табе магчымасць і права сказаць, што ты тую паэзію пазнаў, няхай не поўнасцю колькасна, але па якасці дастаткова.

Тое самае і з філасофіяй, з выдатна складзенай анталогіяй агульналюдской мудрасці. І я, знаёмы з такімі анталогіямі, дзякуючы Талстому (яго «На каждый день», «Круг чтения», «Путь жизни»), магу перш за ўсё радавацца ў душы, а то і гаварыць пры

адпаведнай патрэбе, што я знаёмы з чалавечай мудрасцю, выпрацаванай, выпакутаванай, народжанай азарэннем на працягу многіх стагоддзяў у самых розных кутках Зямлі, на шматфарбным мностве моў.

Запісаць гэта захацелася ад той старонкі ў томе «На каждый день», дзе гаворыць Паскаль, якога я нядаўна чытаў па-польску, у ягонай кнізе, а цяпер, як новае, чытаю з паметкай «По Паскалю», упэўнены, што рускі мудрэц сваім пераказам мудрасці француза цэльнасці яе не парушыў, на свой лад ні ў чым не перавёў.

* * *

«Записки янычара» Канстанціна Міхаловіча з Астравіцы.

На Косаўскім полі туркі перамаглі сербаў, султан Мурад і ягоны сын Мустафа былі забітыя, але другі сын Мурада, Баязід, і перамог, і ўзяў у палон князя Лазара і ваяводу Каіміра. Трэба трохі кантэксту, каб належна пачулася тое, што мяне ўразіла:

«И тогда сказал Баязид князю Лазарю: «Вот видишь лежащих на носилках моих брата и отца. Как ты мог противиться ему?» Князь Лазарь молчал. А Каимир воевода сказал: «Милый князь, отвечай султану, **умная голова не пень от вербы, чтобы выросла второй раз**».

Далей была і мужнасць, і жорсткасць, якое і ў часе тым, і ў кнізе многа. Аднак мяне, можна сказаць, і ўразіла дэталь з вярбовым пнём, якая цераз тоўшчу некалькіх — сербскай, чэшскай ці польскай, бо дагэтуль не ўстаноўлена, на якой былы янычар пісаў,— заблішчала залацінкай народнага таленту, дарэчы — адзінай такой ва ўсім змястоўным і цікавым сярэдневяковым тэксце.



Як далёкі, ледзь чутны, хвалююча доўгачаканы погрымак, вяшчун вельмі патрэбнага дажджу, адчуў я стрыманы водгалас мастацкага слова...

Каб жа яно прыйшло, вярнулася і да мяне!..



«Мне давялося бачыць велікапышныя мячэці Стамбула, Дэлі, Сараева, Кордавы, Ташкента...»

Так пачаў выступленне на міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі «Праблемы вывучэння і захавання культурнай спадчыны татарскага народа на Беларусі». А прадоўжыў успамінам пра сціплую драўляную мячэць на зеляніне татарскіх агародаў каля руінаў Мірскага замка і ціхенькай рэчкі Міранкі, знаёмай мне па ручной рыбалцы, дзе я, хлапчук, насіў пры старэйшым браце мокрую торбу з плоткамі, акунямі і мянькамі, якіх ён лавіў рукамі ў падрэзах і норах. Не ў Міры, вядома, а далей на поўнач, на нашых лугах за Вушай, у якую Міранка там упадае. З тых малечых гадоў я памятаю тую мячэць, як і наваградскую, убачаную крыху пазней, усё ў той жа сумнавата-цьмянай таямнічасці, як і мінскую, нарэшце, пасляваенную...

Усе яны, кожная ў розны час ды «па жаданні працоўных», знікалі з нашай рэчаіснасці, і зніклі ўсе, за выключэннем іўеўскай, якая ацалела і якую мне абяцалі сёлета паказаць.

А пакуль што ўчора я пабачыў новую мячэць, другую ў Беларусі пасля Іўя, у Смілавічах, у якіх я, дарэчы, ніколі яшчэ не бываў. Сучасная па сілікатна-

белай цэгле, міжнародна-ісламская, бо збудаваная ў значнай меры за даляры зямлячкі, што апынулася ажно ў Кувейце.

Зацяжное маленне ў бясконцых глыбокіх паклонах.

А высока над мінарэтам,— я выйшаў на двор адзін,— над агародамі далекаватай ускраіны мястэчка — жаваранак, якому трэба грэцца песняй.

* * *

Сярод мірскіх татараў, якіх больш ці менш ведаў, апроч кажушнікаў ды агароднікаў, помніцца стрункавысокі, прыемна інтэлігентны загадчык раённага аддзялення сувязі.

Пагодлівая восень сорак чацвёртага. Нейкі дзядзька звяртаецца да начальніка з пытаннем, ці можна яму выпісаць газету. «Пожалуйста, вот вам местная «Стяг свободы», вот областная «Червонная звезда». А дзядзька, расчаравана: «Ну, усё гэта гаўно, адны калхозы. Мне, таварыш, каб гэта «Праўду» або «Ізвесція».— «К сожалению, пока ничем не могу вам помочь...»

А часова выконваючы абавязкі рэдактара таго самага гаўнянага «Сцяга свабоды», значыцца, я — толькі засмяяўся ў душы і запомніў гэта больш як на паўстагоддзя.

* * *

«Зямля стаіць пасярод свету...» Добрая кніга, падрыхтаваная Уладзімірам Васілевічам. А ўсё ж ёсць у ёй крыху славутага «вясковага ідыятызму». Ска-

жам, ката жывога закопваць, каб на тым полі «дашчэнту знішчыць» асот, або «калі хочаш нашкодзіць суседу, то сей, ідучы яму насустрач... Тады ў суседа жыта прападзе». Адламаны на малацьбе кавалак цэпа, кінуты ў бок хаты непрыяцеля, «выкліча там няшчасце і бойку».

Няхай сабе навука і павінна захоўваць усё, але ж чытаць такое нявесела. І здзіўленне бярэ, колькі людзям ды пакаленням трэба было тыя павер'і збіраць, запамінаць у найменшых, абавязковых драбніцах, на што сыходзіла разумовасць, духоўнасць чалавека працы.

* * *

І Сянкевіч лічыў, што ў будучыні пісьменніцкі дзённік будзе найважнейшым літаратурным жанрам. Прачытаў я пра гэта ў газеце «Polityka», без спасылкі, дзе пан Генрык, вялікі спецыяліст па «fikcji literackiej», пісаў ці гаварыў такое.

* * *

«Шасцімоўны слоўнік прыказак». Нямала падобных, ад латыні да нашых, як падобна ў кожнага народа тое, што нараджае агульналюдскую мудрасць. Прыемна ад гэтай агульнасці, ад моўных залацінак мудрасці і вобразнасці. Можна было б і нацытаваць. Мне — толькі сваё, рускае і нямецкае. Да латыні яшчэ звяртаюся, а французскае ды англійскае нават і прачытаць належна не магу. Толькі што ў перакладзе. Як і лацінскае.

* * *

...Як мы ўтрох, наш Міша, Валодзя і я, да снедання палажылі старому Калесніку добрую лугавіну над Серваччу — зноў прыгадалася тая раніца, той росны луг, спраўныя косы, маладыя сілы і дружба наша светлая, нейкая затоеная песня роднай сувязі з прыродай і сялянскай працай...

* * *

Успомнілася слова **выскрабак** і той маленькі боханчык з рэшткі цеста ў дзяжы, гарачы і духмяны падарунак малому ад маці, і тое яшчэ значэнне слова пра найменшага ў сям'і, любімага мамай ці не найбольш з усіх народжаных ёю, бо апошненькага ў шчасці і пакутах мацярынства.

А **выскрабак** наш — **колобок** па-руску, **chlebek** па-польску, яшчэ раз **колобок**, па-ўкраінску,— гэта так казачна-хораша, з невычэрпнай паэзіі маленства.

* * *

Я стараўся добра пісаць на роднай мове... Не, так нельга. Як быццам я стараўся, практыкаваўся дыхаць чыстым паветрам,— а я ж ім проста шчасліва дыхаў... А ўсё ж няясна і так сказалася.

* * *

Калі б які злосны разумнік на сустрэчы са студэнтамі (зрэдку трапляліся і такія) сказаў мне, што я мала і слаба пішу, можна было б адказаць:

«Я ведаю гэта і сам, сяды-тады пра гэта думаю. З той розніцай, што гэта мне балюча».

* * *

«Целую ваши персты, бряцавшие на струнах давидовой псалтыри»,— пісаў Насовічу магілёўскі протаіерэй Цвёрды, «знакомый мне от самой юности». Водгук на «Псаломские песни».

Весела скажам: так трэба адгукацца на творчыя ўдачы сяброў!

* * *

«Калі я раней памру, дык ты пасадзі мне ў галавах рабіну. Вельмі ж я іх люблю...»

А маладым, што падслухалі гэтую размову старэнькага ўдаўца з такою ж удавою, якім дзеці ды ўнукі не далі сысціся, такое бяздумна здалося смешным. Бо тут ужо, калі па-сучаснаму, не рэшткі сексу, а толькі старэчы дур, нейкім чынам шкодны нашчадкам у справах спадчынных.

* * *

Паэтка, гадочкаў пад пяцьдзесят, спакойна, з усмешкай кажа мне, што прозы яна наогул не чытае — толькі вершы. Наколькі лягчэй жывецца!..

* * *

«Ні цыбулькі, ні ўкрышыць». Успомнілася, зірнуўшы на палавіну вялікай цыбуліны на кухонным акне.

І ў гэтым «укрышыць» на ўвазе маецца, трэба думаць, якая-небудзь скварчына.

І яшчэ штосьці тут ад неўміручасці роднай мовы.

* * *

Пасля позневячэрняй навальніцы з маланкамі ды грымотамі раніца мокра-ціхая, з гудзеннем туркачых ці туркачоў, зрэдку салаўіным перасвістам і несціханым, фонавым шчабятаннем рознай іншай драбязы. Слівы толькі што дружна расцвілі, а ўжо і сыплюцца пялёсткі,— і дождж прычыніўся, і наогул яна, быстрацечнасць жыцця.

Ва ўспрыманні красы прыроды ў мяне не ўпершыню адчуванні больш сялянскія, звычныя даўно, без лішняга паэтычнага ахкання.

* * *

«Очень благодарю вас за Масарика. Он был в Ясной, и я очень полюбил его».

Ці пра гэты прыезд (у маі 1887 года), ці, хутчэй, пра пазнейшы, чытаў у пісьмах Талстога, тады яшчэ не адчуваючы ўдзячнасці гэтаму чэху за магчымасць атрымаць у Празе вышэйшую асвету сотні заходнебеларускіх юнакоў, сярод якіх быў Жылка, Дварчанін і іншыя. Не адчуваў, бо проста не ведаў пра гэта ў сваёй ранняй вясковай маладосці.

Як і яшчэ пра адну высакародную постаць — латыша Яна Райніса, якому беларусы таксама маюць за што дзякаваць.

* * *

«Зорка» нашага тэлебачання, здаровы мужчыніска, пастрыжаны «пад гаршчок», расказваючы пра свінакомплекс, для большай вобразнасці адхіляецца ў лірыку: «Тут во такое мноства гэтых рохкаючых істот...»

* * *

Пайшоў у наш надрэчны гаёк з балоцістым ровам высекчы заказаныя жонкай кіёчкі і спыніўся там адразу, і смяяцца захацелася, узняўшы вочы на яшчэ рэдкую лістоту вершняку, смяяцца радасна ад двубоя, калі сказаць па Караткевічу, двух салаўёў, так блізка і так захоплена, у смелай ці азартнай блізкасці да чалавека. Нават у амаль паўдзённым сонцы.

* * *

«На добрым харчы **выраўнялася**». Такое — і пра кабыліцу, і пра дзеўку, то гаспадарскім, то мужчынскім вокам гледзячы.

Само ўсплыло такое акрэсленне ва ўдзячнай памяці, з набытку ў народзе.

* * *

Колькі нагаворана з іхняга і з нашага боку пра неабходнасць аб'яднання, але ж ні слова — ні ў друку, ні па тэлевізары ці па радыё — пра тое, што апаганьваецца, ліквідуецца мова нашага народа, найгоршым, найзлачыннейшым, як дагэтуль, чынам. Такое жахлівае «між іншым»!



Пад вечар, трохі паварушыўшыся на гаспадарцы, вольна прысеў за сталом пад ліпай, у сонейку, якое яшчэ так не хутка сядзе. Летняя ласка, што сёлета так апазнілася.

Падумалася пра сяброў, якіх перажыў. Можа, таму, што перад гэтым, круцячы ваду з калодзежа, залюбаваўся белымі аблокамі над цёмнай зелянінай ялін і святлейшай бяроз. Міша любіў такое маляваць, а Валодзя і маляваць, і здымаць. Падумалася, паўтараю, як у апраўданне самому сабе, што я перажыў іх, і брата, і нашага з ім сябра, як і некаторых іншых блізкіх людзей, можа, і дзеля таго, каб сказаць пра тых, што адышлі, справядліва добрае слова...

Наіўна гэта — такое дзеля?..



Прынёсшы з пасёлка малако, дапоўніўшы з калонкі бочкі на паліўку, падумаў, што вось і паднімуся цяпер на сваё гарышча, да старога, заслужанага пісьмовага стала, да акна, расчыненага ў сонечна-зялёна-галасістую толькі ад птушак раніцу, і буду, як молячыся, дачытваць Міхасёвы вершы.

Аднатомнік — трошкі за трыццаць аркушаў прозы, паэзіі, крытычнай эсэістыкі. Гасцюючы ў мяне, наш польскі друг Флёрыян Няўважны ўбачыў у кніжнай шафе салідны том выбранага Лукаша Калюгі і сказаў адно толькі «О!». Тут я адчуў сябе каўказцам і падаў яму гэты том. Далей стаяў другі аднатомнік, і па таўшчыні, і па колеры вокладкі вельмі падобны. Міхась Стральцоў. Мой Флёрак толькі зірнуў на

мяне, а я на гэты раз сказаў «О!» і аддаў яму і Міхася. Потым, вядома, было шкада, як ні справядліва гаворыцца, што іменна той падарунак блізкаму найбольш дарагі, якога шкада. Доўга і дарма стараўся я потым знайсці тыя аднатомнікі ў нашых кнігарнях. І толькі дзякуючы маладому сябру, паэту Міхасю Скоблу, які на той час стаяў бліжэй да кніжнай справы, абодвух любімых намі ўдалося дастаць і ў маю шафу Найлепшых.

Аднатомнік. Шэсцьсот старонак. І няма ў мяне гэтым разам сумнага адчування, як гэта мала для пяцідзесяці гадоў. Такая паўната душы праяўлена, ва ўсіх жанрах, здаецца, з роўнай сілай, так многа тут для расшыфроўкі ўдумліваму чытачу. Вось перайшоў я да «Чалавека з Малой Багацькаўкі», і няма адчування, што гэта зноў жа перачытванне, а ёсць, як новае і паэтычна мудрае, можа, і нароўні з мастацкай прозай ці з вершамі бачанне жыцця — на сусветны яго размах і агульналюдскае паглыбленне.

...Тыя далёкія, на дальнім водшыбе, Чыжоўскія могілкі, дзе ён, Міхась, назаўсёды прылёг каля маленькага сына, адзінага сярод дачок. Хутка ўжо будзе і дзесяць гадоў, калі я маўчаў на яго пахаванні...

І цяпер, памаўчаўшы, можна зноў да яго і Максіма Гарэцкага.

* * *

Сёлета недзе чытаў, што ў Іркуцкай вобласці кожны дзесяты жыхар — беларус. Во як растрэслі нас па імперыі!

Калі прапануюць на дамейкаўскім «круглым стале» ў Карэлічах нешта сказаць пра земляка-юбіляра, можна будзе адштурхнуцца ад таго, што апошнім часам даволі часта паўтараецца: «Куды не трапяць беларусы?!», сказаць, як дзевятнаццатае стагоддзе і палякаў растрэсла па свеце — ад Якуціі да Чылі...

* * *

Добра, хораша, а потым такі чалавек чалавецтва — Растраповіч — кажа, што на Украіну ён са сваёю бандурай не паедзе: «Подожду, пока отдадут Черноморский флот».

Чым не «подбрюшие России» ў Салжаніцына,— пра рэспублікі Сярэдняй Азіі, суверэнныя краіны з шматвекавой гісторыяй?..

Ах, вялікія людзі мастацтва,— і чаго вам у палітыку?!

* * *

Пры дарозе ад нашых лецішчаў у пасёлак, на шырозным дубовым пні, неяк жа і зарадзіўшыся, і ўкараніўшыся ў тугой трухлявасці за некалькі гадоў, можна сказаць, што і неўпрыцям для нас, людзей розных узростаў, вырасла на падлетніцу і далей весела расце зусім упэўнена прыгожая бярозка. Можа, нават надзвычай прыгожая, бо як на троне або ў вялізнай кадзі вазона, а іншыя стракаценькія красуні стаяць крыху воддаль чародкай, адна на адну падобныя, мілыя звычайна, а не выключна.



Прарок Ісаія:

«И оскудеют реки, и каналы Египетские обмелеют и высохнут; камыш и тростник завянут.

...И восплачут рыбаки, и возрыдают все бросающие уду в реку, и ставящие сети в воде впадут в уныние...»

І само па сабе гэта здорава і весела нагадала маіх рыбакоў: Калесніка, Янкоўскага, паэта і акцёра Пятра Ламана, блізкага земляка, брата Мішу калісьці і сына Андрэя цяпер...



Не так шукаю патрэбнага слова, як яно само ідзе да мяне з запасу напрацаванага за гады шукання і знаходжання, ідзе, як быццам хтосьці шчыра паслужлівы шэпча мне з-за патыліцы: трэба вось так. І я бяру яго, найбольш патрэбнае слова ў любай, неабходнай паслухмянасці.



«Кніжнік ты!» Або нават яшчэ і «Фарысей!». Так мог бы, не вельмі клапоцячыся, што тут да чаго, вякнуць на мяне адзін з тых нашых, што спакваля дзічэлі ад падзённай службы казённаму сацрэалізму, да таго яшчэ глушачы свае здольнасці або таленты вульгарным дробнаганарарным выпіваннем.

А я ў гэтай пажыццёвай «кніжнасці» выратавальна бачу, адчуваю повязь са светам народнага і агульналюдскога слова. У захапленні словам іншых акумулі-

руючы і сябе, у сабе абуджаючы творчую сілу. Як і цяпер, у богведама якога далёкага і сілай таленту блізкага прарока і паэта Ісаіі.

Захапляюся і думаю, як жа з такім магутным тэкстам спраўляецца наш нястомна ўсмешлівы, таленавіты руплівец Сёмуха.

Вывучэнне Талмуда, Карана, другіх і трэціх свяшчэнных тамоў... Ёсць што раскопваць, вышукваць,— столькі нявывераных імёнаў, геаграфічных назваў, гістарычных вузлоў і тут, у Ісаіі. Яны ў сваёй пераважнай большасці ідуць у мяне пакорна, моўчкі міма ды міма, а я як быццам і не бяднею ад гэтага, бо галоўнае — мудрасць, красу — бяру ў дастатковасці.

* * *

«Ни вола его, ни осла его...»

Той здаравіла ў вялым спакоі брыдзе, валачэ, што прычэпяць, а гэты, меншы, і гару, здаецца, панясе, пад ёю тупаючы ножкамі. Значна пазней будуць у мяне вослікі крымскія, югаслаўскія, балгарскія, а найперш былі яны ў Душанбэ (тады, у канцы 1947-га, у Сталінабадзе), калі Павел Нілін смяшыў нас на вуліцы сваімі папрокамі здаравенным вершнікам у паласатых халатах:

«Что ж ты уселся? Да пожалел бы ты бедную животину!»

Вершнікі не разумелі чужога жартаўніка, дзве іх нагі спакойна віселі з-пад крысся амаль да самай зямлі, а спераду і ззаду за імі тупацелі ножкі пацешна танчэйшыя. Мы едзем, мы ідзём, мы не спяшаемся, мы паспеем! І вось вам спрадвечна палесцінскае прарочае блаславенне:

«Блаженны вы, сеющие при всех водах ■ посылающие туда вола и осла».

…У тым самым Сталінабадзе, на ўрачыстым прыёме кожнаму з гасцей з розных рэспублікаў было прапанавана прывесці ў тосце нейкую мудрасць з роднага фальклору. Я з ходу нічога іншага не прыдумаў, як працытаваць Крапіву:

«Каб Сонца засланіць — вушэй асліных мала».

Прынялося!.. Вельмі ў мясцовым каларыце, з мноствам руплівых тупалаў, якімі мы цешыліся, як экзотыкай. Нават ногі спусціўшы да самай зямлі...

* * *

Каму гэта дадзена — ведаць, што́ не старэе, што застанецца? Вунь як яно ў Ісаіі, сына Амосава, выблісквае з рытарычнай нудоты часовага, калісьці важнага — тое, што хвалюе і сёння:

«Скажет ли глина горшечнику: «что ты делаешь» и твое дело **скажет ли о тебе**: «у него нет рук»?

Горе тому, кто говорит отцу: «зачем ты произвел **меня** на свет?», а матери: «зачем ты родила **меня**?»

Зрэшты, многа чаго хацелася б не толькі адзначыць на полі, але і выпісаць, як быццам у дзіцячай радасці патрымаць у руках тое, што ўсцешыла вочы зводдаль.

* * *

Галава-галоўка ў некаторых жанчын — як вельмі рэдкая асаблівасць, прынамсі, мною ўбачаная, галоўка, што неяк па-птушынаму міла паварочваецца над

усёй спакойнай, паўнацэннай постаццю то ў адзін, то ў другі бок — трохі ў здзіўленні, а то і ў згодзе з тым, што адбываецца, а перш за ўсё — з цёплай, вельмі нейкай утульнай усмешкай.

* * *

Гарадская бомжыстая кошка з сучаснай ментальнасцю мацярынства. Унізе зрабілі ёй логава, а яна сваю чацвёрку кацянят раз-пораз разносіць па адным пад дзверы на другім паверсе, каля каторых ёсць дыванчыкі. Занясуць ёй зноў малых наніз, а яна неўзабаве назад разнясе.

* * *

Столькі за век нагаварылася, што хочаш нешта, хай сабе і дарэчы, расказаць, а боязна: відаць, я ўжо гэта расказваў?..

Так і з запісваннем, толькі адказнасць большая.

* * *

Марыя Кіпель, настаўніца, жонка Яўхіма і маці Вітаўта, ва ўспамінах пра свой пакутніцкі шлях жонкі «ворага народа» добрым, удзячным словам згадвае Міхася Лынькова, які дапамагаў ёй выжыць, як ні небяспечна гэта было для яго, члена партыі і наогул чалавека «свайго часу», чым некаторыя спрабуюць апраўдваць свае, не надта каб годныя паводзіны ў той цяжкі час.

Прыемна было гэта прачытаць пра Міхася Ціханавіча ў «Крыніцы», падумаць пра тое, чаму жыць у народнай памяці.

* * *

Апрыкрыла ўжо скардзіцца на тое, што не пішацца, бо невядома ж, колькі каму з нас трэба, пасапраўднаму **трэба** напісаць.

* * *

Даўка ў роце, нават у горле ад сказанага глупства. А потым і помніцца будзе прыкра... Дадам і прафесійнага: варта было тое глупства ляпнуць міжволі, каб знайсці гэтае «даўка» як удалае слова.

* * *

Адзін «бэнээфавец», а другі «грамадавец», у розны час ды не змаўляючыся, абодва цёпла і ўдзячна згадваюць Валодзю Караткевіча, дзякуючы якому яны адчулі сябе беларусамі.

А Валодзем называюць яго не яны, а я.

* * *

Ад сшытка — да кнігі, і зноў мудрае ў найпрасцейшай падачы: яму, Талстому, пішуць пра цяжкую заблытанасць у нейчым жыцці, а ён:

«Если бы я был моложе, я бы сейчас сказал, что это происходит от того-то и того-то. Теперь же я

прямо скажу, что не знаю». («Цяпер» — калі яму ішоў восемдзесят другі.)

Няхай сабе я і «вязень цытатаў», як пісаў у «Крыніцы» таленавіта-вясёлы Леанід Дранько-Майсюк, але выпішу яшчэ і гэта:

«Напрашивается художественная работа, но ей надо заниматься мне только тогда, когда она так же неустранима, как кашель».

Эх, каб пакашляць!..

* * *

Ілюстрацыя ў польскай кнізе: капліца ў віленскай Вострай Браме. Як урачыста, з якой пашанай трэба тут трымацца, як трымаюцца — на малюнку — некалькі чалавек.

А ў памяці ажыла статная, румяная красуня камсамолка з карэльскай групы турыстаў, з-за нешматлікасці далучанай да нашай, беларускай. Кастрычнік пяцьдзесят шостага, Стамбул. Як тая красуня прагрэсіўна гыгыкнула, бліснуўшы беленькімі буйнымі зубамі за спакусліва сакавітымі вуснамі, гледзячы на тое, як у раскошна-велічнай Айя-Сафіі на вялізным дыване моляцца старыя туркі.

Ясыр, ятаганы, галеры, гарэм (для паланянак — у лепшым выпадку) — гэта згадалася цяпер, а можа, і тады, калі я, за яе спалохана, абурыўся такім наіўным хамствам.

* * *

Сёння ў нашай чатырохмеснай палаце начуем толькі ўдвух. «Я из охраны КГБ». Так назваўся сусед, калі мы знаёміліся. Бездапаможна цыбаты,

заядлы курэц, адна за адной у туалеце, хоць у самога «сасуды» ды глаўкома, і так, і так курэнне вельмі не рэкамендуецца. Неяк раней, таксама сам-насам, ён мне расказваў, як суправаджаў вайсковыя транспарты — яшчэ ў Карэю, калі там была вайна поўначы з поўднем, і трэба было пераапранацца ў іхнюю форму, потым у Венгрыю, «на усмирение контрреволюции», відаць, і ў Чэхаславакію, пра што ён на маё пытанне прамаўчаў. А сёння, пасля доўгага маўчання ў цемры, седзячы на ложку са спушчанымі цыбамі, сусед раптам загаварыў пра тое, як гэта цяжка сядзець у адзіночцы... Мне адразу згадаўся Рафаіл Сяржант, заходнебеларускі падпольшчык з яго дзесяццю гадамі адзіночкі, а за ім яшчэ страшнейшае: сляпая і глухая «адзіночка» старэнькай Зоські Верас перад яе няспешным адыходам... А курэц мой перайшоў на іншае: як ён адзін толькі раз за трыццаць гадоў службы ў ахове суправаджаў чалавека, асуджанага на смерць, і пацяшаў яго ў «варанку», што гэта яны едуць яшчэ раз да следчага. «А там дзверы ў тупы калідорчык, такая камера-тупік, у якую ўпускаюць, а там такое ўстройства — аўтаматы такія з усіх бакоў, што пасякуць чалавека адразу...»

«І з гэтага людзі ядуць свой хлеб»,— падумалася ледзь не ў дрыжыках ад жаху...

* * *

Акуратнасць бальнічнай «гаспадаркі» — добра засланы ложак, чыста ў тумбачцы. Згадалася «гаспадарка» лагерная, у палоне, што складалася ў мяне з адной брызентавай торбы ад «хобатнага» супрацьгаза, у якім пісьмы з дому, Евангелле, якім мяне бласла-

віла маці, блакнот, брытва з памазком і кавалачкам эрзац-мыла, ніткі з іголкай...

Згадалася ўсё гэта, калі чытаў у «Полымі» старонкі Танкавага дзённіка. У падмаскоўным цэкоўскім санаторыі Максімаў супалатнік здзіўляўся, як гэта выдатны беларускі паэт так акуратна засцілае свой ложак. А паэт адказаў, што навучылі гэтаму — на Лукішках...

* * *

Нервовая слязлівасць, да якое мяне давяла бальніца, дома, здаецца, ужо прайшла. А вось узяўся за ігру цымбаліста Янкеля ў «Пане Тадэвушы» і — адразу слёзы. Ды гэта ўжо ад захаплення, адзнака найвышэйшага, найчысцейшага настрою.

Успомніўся трыумф Аркадзя Астрамецкага ў Варшаве, у верасні 1955-га, на Дэкадзе нашай культуры ў ПНР, калі зала апладзіравала стоячы, а Танк усцешыў сяброў-палякаў ледзь не воклічам з месца:

— Ten by się ośmielił zagrać przy Jankielu!

На ўвазе маючы сказанае ў Міцкевіча крышку раней:

Było cymbalistów wielu,
Ale żaden z nich nie śmiał zagrać przy Jankielu.

Цяпер, ведаючы пра яўрэйскае, па маці, паходжанне вялікага паэта, ігра старога Янкеля ўспрымаецца яшчэ інакш.

* * *

І такое днямі падумалася: якая ж кніга будзе ў мяне як чытача апошняй — значнае штосьці або і так сабе?..

А чытаю значнае. У «Скарынічы» (выпуск 3) — «Навальніца» М. М. Улашчыка. Пасля пазначанага ў

канцы: «На гэтым рукапіс абрываецца» выразна ўявіў старога, якім бачыў яго, здаецца, апошні раз, у Каралішчавічах. Магутнага чорным памерам паліто, то сур'ёзна, нават нібы панура маўклівага дзеда, то няспешна, талкова гаваркога, каля ганачка ў верасняўскім прысмерку. Гэта быў верасень восемдзесят трэцяга, канец месяца, мяркуючы па тым, што мы прыехалі групай сяброў ушанаваць мілую Ніну Мацяш з 40-годдзем. Дачытаўшы яго незакончаную аповесць, я падумаў, што, можа, якраз ад гэтага рукапісу ён, наш паважаны Мікалай Мікалаевіч, і выйшаў на гоман перад ганкам, зрабіўшы перапынак у сваёй працавітай самоце? Стан такі ведаю з павагай.

«Скарыніча» мне прывезлі ад Каўкі з Масквы, а з канца чэрвеня да палавіны лістапада ў Скарынаўскім цэнтры ляжала, чакаючы мяне, другая кніга, таксама ад Аляксея Канстанцінавіча: «Русь — Літва — Беларусь». Дзякуючы яму пісьмом, я пісаў, як гэта ў нашым шалёным часе хораша — шчыра-прыязная гутарка разумна дарослых дзяцей розных народаў, тут — рускага, украінскага, польскага, якім ёсць што сказаць пра вялікага сына Беларусі. Упершыню так кажу пра яго, шматпакутнага, непераможна працавітага, па-народнаму мудрага, таленавітага чалавека, з якім і мне пашчасціла сустрэцца ў жыцці, у абодвух пад канец яго. Належна разумець значэнне гэтага чалавека прыходзіцца ўжо наўздагон.

Падобнае адчулася праз некалькі дзён у падоранай Зінаю Мажэйка кнізе «Белорусская этномузыкология», чытаючы пра Генадзя Цітовіча. Побач стаяў у кнізе артыкул пра Шырму, аднак падумалася, што пра Рыгора Раманавіча я ведаю дастаткова, і пачаў з Генадзя Іванавіча, каб зазірнуць і на другі бок медаля ў таго, хто бываў такім весела-«брахлівым»

на нашых сяброўскіх сустрэчах. Побач былі таксама велічныя вобразы яго папярэднікаў—Янчука, Федароўскага, Кольберга, Машынскага, у якасці дастойных сведак і яго, Генадзевай, значнасці.

* * *

Дачытаў «Дочь» Аляксандры Львоўны Талстой. Не толькі магутная, але і паслядоўная на сваім жанчына. І ўспомнілася, як у пяцьдзесят другім годзе хтосьці з наведвальнікаў Яснай Паляны спытаўся ў экскурсаводкі пра гэтую дачку Льва Мікалаевіча і атрымаў адказ, што «это имя не упоминается здесь по просьбе родных великого писателя...». Хоць ты скажы, што па просьбе і яго самога,— як ілгаць, дык ілгаць!..

Усё ж такі, як цвёрда трэба было верыць у сваё і як далёка наперад бачыць, каб сёння можна было і друкаваць такое ў Расіі, і не здзіўляцца гэтаму, як першаадкрыццю. Веры тут больш, чым бачання.

* * *

Юхан Смуул і Георг Отс не прызнаюцца маладой Эстоніяй, бо «пры Саветах яны былі ў заслугах». Шкада іх, крыўдна за іх не толькі як эстонцаў, патрыётаў, але і як мастакоў, што так нямала зрабілі для ўсіх людзей.

Успамінаецца, з якой прыемнасцю чытаў я ў вёсцы Смуулаву «Лядовую кнігу», а ў дарозе на Далёкі Усход ягоныя вершы, як я заўсёды любіў слухаць мужнага душою Отса.

Маладая Беларусь таксама нямала мудрагеліла, а пра эстонцаў можна было думаць, што яны разумнейшыя.



Тры паэты з трох розных пакаленняў. Імёнаў іх не назаву, думаючы пра кроўную крыўду ў адказ. А ва ўсіх іх аднолькавая ўпэўненасць, што слова з рыфмай, вузкім слупочкам само па сабе ўжо мае незвычайную сілу і значнасць, якія забяспечаць яму... прынамсі, даўгалецце, а то і вечнасць. Булава ў нашых ранцах муляе да самага канца. Старэйшага за мяне і маладзейшага прачытаў, можна сказаць, па даўнім знаёмстве, а зусім маладога — з думкай: а можа, я і памыляюся наконт яго несапраўднасці. Ды вось ад усіх трох вялікіх газетных падборак дыханула амаль аднолькавай нудой, і як быццам упершыню падумалася, як бязлітасна бяздумна многа ў нас такой, умоўна кажучы, паэзіі, як невядома, куды з ёю падзецца!..

Зусім недалёчка пытанне: а з прозай што, лепш? Якое там! Калі ў «паэзіі» загоны ды загончыкі, дык у «прозе» — абшары, панскія ці калгасныя. І двукоссе таксама, і нуда адпаведна разлеглая.

А яшчэ ж і бескантрольнасць пад выглядам свабоды слова, і адсутнасць свабоднага адбору, аб'ектыўнай рэдактуры. Асабліва ў выданнях «за свой кошт», з зусім ужо апушчанымі лейцамі...



Міша быў у Навагрудку, гімназістам, Колі недамагалася ці проста так было ім з мамай вырашана, што на начлег з коньмі магу паехаць і я, сямікласнік. Не памятаю, з кім з суседніх хлопцаў ці мужчын паехаў,— у памяці сядзіць і зноў вось, чытаючы Кіркора ў «Живописной России», ажыло тое, як ноч нечакана задажджылася і ў кішэньцы майго пінжака

да роскісу намоклі тонкія папяроскі «Wanda», найтаннейшыя з тых, што меліся ў нашай краме. Маё курэнне, дзеля даросласці і маладзецтва, так і не адбылося. Відаць, першы гэта быў і апошні раз, бо курыць я і не пачаў, і не прывык — да дзён акупацыі, калі і я паддаўся такой усенароднасці, каб назусім пакінуць курыць ажно ў лютым пяцьдзесят сёмага.

Другі начлег. Увосень, здаецца, трыццаць сёмага, час, калі атава на нізах пакошана, а ўзмежкі над Вушай пакінуты для спасвання. Пра таго, з кім я быў на тым начлезе, апошняе, сёлетняе расказала пляменніца, наведаўшы мяне ў бальніцы. Коля-Цюлік, пра якога я пісаў у апавяданні «Над фатаграфіяй», памёр, аказваецца, самахоць, павесіўся ад безвыходнасці. Жонка, дзяўчынай калісьці даволі сімпатычная, удзельніца нашай самадзейнасці, весялуха, якую я сяк-так навучыў чытаць па-беларуску, каб сама магла вывучыць ролю, вырашыла дажываць у сына ў горадзе, [redacted] мужыка ды бацьку ў адной асобе пастанавілі з вучоным сынам, мне незнаёмым, здаць у абласны «дурдом». І здалі. А там паглядзелі, што няхай сабе чалавек, як ім сказалі ягоныя жонка і сын, і хадзіў пяць гадоў у першы клас польскай школы, у якой яна закончыла ўсе тры класы, у цэлым зусім нармальны, можа вярнуцца ў родную хату, балазе яна яшчэ не прададзена. Ён і вярнуўся, каб там неўзабаве закончыць яшчэ адзін раздзельчык дзікай хронікі нашых і вясковых дзён вераўчанай пятлёю.

Пачуўшы гэта, я зноў успомніў яго, бяскрыўднага Цюліка, на год старэйшага за мяне сына нашага суседа, бывалага ды начытанага дзядзькі Паўлюка, прататыпа ў некалькіх маіх творах.

Коней нашых, адну ягоную кабылу і дзве маіх, мы пусцілі на ўзмежак над ракою, а самі ляглі пад капой атавы, так азначыўшы граніцу дазволенага для папасу.

На капе над нашымі галовамі лёг, умасціўся мой верны Жук, герой апавядання «Ветэрынар».

Калі я ездзіў на начлег у поле, на іржышча з густой канюшыннай атавай, Жукову адданасць можна было праверыць і так, што коней я навязваў на доўгія тонкія ланцугі, шпянькі паўбіваўшы каменем, які і ўпоцемку няцяжка было знайсці, і, сказаўшы Жуку: «Ляжы, а я пайшоў», сам падаваўся ў Маласельцы. Яны былі і бліжэй, і ўсё-такі вёска не свая, што цікавей. Вярнуўшыся, часамі і пазнавата, Жука я заставаў на службовым пасту. Рэшту ночы мы каратлі ўдвух, я ў гаматнай суконнай бурцы, а ён у сваім назаўсёды сезонным чорным, гладкім кажушку, часцей за ўсё і грэючыся ўзаемна.

Ноччу — на атаве над ракою — Цюлік разбудзіў мяне паштурхваннем і просьбай: «Ваня! Ваня, скажы, каб ён пусціў!» Хлопцу чамусьці собіла прыўстаць, а сабаку гэта здалося пагрозай маёй бяспецы, і ён хвацка хапнуў яго за аўчынны каршэнь. Я, вядома, буркануў: «Жук, пусці!» І мы, пад нямокрую вераснёвую цішыню і спорнае пагрызванне коней, зноў паглыбіліся ў духмяную цеплыню.

А згадалася ўсё гэта — і сусед, і мокрыя пруцікі «Wandy» — не так сабе, а там, дзе на вялікай, уборыстай кніжнай старонцы гаворка пайшла пра першы выезд з коньмі на начлег, няхай сабе ў нас і без «пиршествъ при зажженныхъ кострахъ», без «неизбежной» яечні і скокаў.

* * *

Што чуў, што чытаў, а што і сам даўно ўжо ведаю, а вось падумаў і здзівіўся толькі сёння: а што гэта на маёй Наваградчыне за такая асаблівая лю-

басць да ўсясветна ды сціпла дэкаратыўнай расліны — руты? І рэчка Рута, і вёска Руткавічы, нават тры ў адной, Горныя, Новыя і Зарэчча, гэта каля Карэлічаў, а ў бок Наваградка — дзве Руты, зноў Горная і Дольная да яе, а тады яшчэ і дзве Руткі, Першая і Другая?..

Што ж, многа руты ішло на вяночкі, якія пляліся пад песні сяброўак і слёзы маладой напярэдадні вяселля, як гаварылася, у «зборную суботу»...

Дзяцюк з гэтых маляўнічых мясцін вывучыўся на радыёжурналіста. І вось надоечы дзень мой пачаўся яго ўсхваляваным рэпартажам з Руткі-Першай. Там, бачыце, жыве бабуля, якой ужо дзевяноста сем гадоў, а яна яшчэ, Богу дзякаваць, здарова, і галава ў яе светлая, і гаворка да ладу, і рукі просяць работы. А ў той гаворцы мне ўдзячна пачулася і штосьці незвычайнае. Адказваючы ветламу юнаку, як прайшло яе сямейнае жыццё, прабабуля сказала, што жыла яна са сваім, ужо сёмы гадок нябожчыкам, **за цацку**.

Я пазваніў зямлячцы-равесніцы (няшмат ужо нас засталося!), каб упэўніцца ў сваім зразуменні сказанага старою, і мы спыніліся на тым, што гэта муж яе так любіў, што не мог налюбавацца, нацешыцца, як і яна з яго. Нават помніцца з ходу,— а ў радыё ж назад не перагорнеш, не праверыш,— што так і сказана было за дваіх: «Хораша мы пражылі, **за цацку**».

* * *

Начальнікі ўсіх калібраў, слухаючы беларускія пытанні ды разважанні радыёкаментатараў, усё-ўсё разумеюць, на ўсё дакладненька адказваюць. Застаецца толькі самім таксама загаварыць, чаго — не раўнуючы, а ўслед за прымаўкай,— не могуць і сабакі.

* * *

Я памру, а яны будуць жыць. Зайздрасць, крыўда і жах. Як быццам пайду толькі я адзін, ■ застануцца ўсе і назаўсёды.

Падумалася так увечары, ужо ў пасцелі, ■ запісаў, прачнуўшыся, у дзве гадзіны. Запісаў, палажыў блакнот і ручку на тумбачцы, выключыў бра, сказаўшы з вясёлай кплівасцю:

— Во «думаннік», во «мысляр», калі ўжо проста не філосаф!..

* * *

Пачалося з таго, што першабытны чалавек адчуў задавальненне ад болю, які ён прычыніў другому першабытнаму.

Сёння прагрэс у гэтым зайшоў так далёка, што той ці тыя, хто вінаваты, скажам, за чачэнскую вайну ці іншыя масавыя забойствы, і не лічаць сябе злачынцамі, і не пакутуюць сумленнем, таксама ж, відаць, адчуваючы задавальненне ад чужога болю.

## *Дзевяноста восьмы*

Прачнуўся каля трох і больш ужо не заснуў. Нешта незразумела грукала-пагруквала то зверху, то з бакоў, з-за белых сцен нашай палаты. Ажно я выглянуў на даўжэзны калідор, слаба асветлены, пусты і ціхі. Зверху, з гарышча ці з даху бальніцы, час ад часу чулася прызыўное, даўкае мяўканне ці некалькіх катоў на змену, ці толькі аднаго актывіста. Бліжэй пад ранне на голым голлі дрэў, мала вышэй за наш пяты паверх, папрачыналіся вароны і, павітаўшыся, распачалі суседскую гутарку.

Пачатак сёмай. Хутка прайшлі мае тры з нечым гадзіны бяссонніцы, як быццам уподбежку ад таго, што я прадумваў запісы, якія буду рабіць дома, і тыя, што буду правіць на ранейшых старонках.

* * *

Звычайная фраза, у аснове англійская, у перакладзе руская: «Но пришло время возвращаться домой при бесстрастном свете звезд...» Гэта ў рамане Эліёта «Млын на Флосе», разгубленасць маладога джэнтльмена, шчаслівага жаніха адной пры-

гожай лэдзі, які нечакана пачаў закохвацца ў другую лэдзі. Ён збянтэжаны, а зоркі **бесстрастные**, як «равнодушная природа», якой і належыцца «красою вечною сиять». Колькі ўсяго ад аднаго, па-мастацку дакладнага слова! Тут я не толькі Англію бачу, не толькі Пушкіна згадаў, але і сваё далёкае жыва адчуў. Як вяртаўся позным вечарам з суседняй вёскі Качаны, як узыходзіў з вялікай даліны на гару, па-лістападаўску аголеную ад вяснянай зеляніны і летняй жаўцізны, зноў заараной пад будучы хлеб. Ішоў няспешна і лёгка, з паэзіяй у юнацкай душы і з неабдымным, родна зорным небам нада мною... Зямля, планета, таксама неабдымная, у кожнага з людзей свае даліны і ўзгоркі, свая хада па іх, а неба, зорнае неба — адно...

Ну вось, яшчэ і Кант сюды міжволі дадаўся, так да яго падышлося...

* * *

Чытаю лежачы, з-за ног, якія зноў пагрозліва прыпухлі. Кніга цікавая, але і дрэмлецца, хоць і выспаў сёння сваю шасцігадзінную норму. Можа, таму хіліць на сон, што пасля ранішняй яснасці зноў дажджыцца за акном, кроплі рэдка падзёўбваюць па бляхе знадворнага падваконня. Павёў далонню па лобе, што са́дзяе ад зацяжной камарынай дакукі, адчуў-пачуў, як пад прычолкам чэрапа не сціхае цісіканне-шумок, і раптам падумалася:

Здаровіцца — нездаровіцца, ведаем, улічваем, неяк абараняемся, а вось жа здаецца, што ўсё гэта — твой стан, стан твайго арганізма — як быццам не ты сам, а штосьці другое, дадатковае, пабочнае, дзе цябе, **самога цябе** пасялілі...



Толькі што прачнуўся, зноў без пары, зарана, а ўжо ў душы балюча паскавытвае туга, нібы яна чакала і дачакалася твайго абуджэння. Без дай прычыны? Толькі таму, што мне апошнім часам зусім не працуецца? З гэтым жыць дзень за днём?..

Святло, вузкі прамень толькі твайго ліхтарыка ў патайной сцішнаце вышуквае і знаходзіць, хоць і даўно ўжо знаёмыя, вядомыя табе твае грахі, спыняецца на тым ці іншым з іх, каб ты зноў пакусаў, пажаваў сам сябе, хоць і не ўпершыню, але са свежым болем бездапаможнасці ў адчаі самапрызнання віны, можа, не так каб нізка баючыся, горка саромеючыся прызнання перад некім другім, як іменна ад безвыходнасці ў тузе беззваротнай адсутнасці таго калісьці блізкага, хто мог бы зразумець цябе як след, дапамагчы, даць палёгку, падказаць выхад да пэўнага, няхай сабе і не поўнага ачышчэння душы.

...И нет отрады мне!..

Развага збаўчым холадам, нібы асвяжальна сцюдзёнай вадой, нагадвае, што так ужо неаднойчы яна, твая туга, адыходзіла і вярталася, ды вось зноў прыйшла, але ж і адыдзе, каб зноў калі-небудзь вярнуцца. І так — да канца...

Ці, можа, гэта я ўжо такі танкаскуры?..



Не будзем, крый Бог, параўноўвацца, аднак, дзеля патрэбнага часам супакаення ад залішняга самаедства, успомнім чалавечую складанасць і вялікіх, у каго мы вучымся.

* * *

Неяк зімой, у Мінску, вельмі доўга седзячы ў паліклініцы ў чарзе, падумаў дый сказаў тым, з кім сумаваў:

— Многа ўсялякіх навыдумлялі ордэнаў ды медалёў, а трэба яшчэ адзін — «За цярплівасць». Першай, другой і трэцяй ступені...

* * *

А чаму гэта нам, калі ў адзіноце, абавязкова трэба падмацоўвацца то з прэсы, то з эфіру?

А калі больш падумаць, спакайней засяродзіцца, зарчэй зірнуць навокал?

* * *

Перачытваў Танкаву кніжыцу «Errata», яго апошнюю, выхадам пасмяротную, першую без аўтографа...

«Ребята! Фронтовики! Нельзя же так ставить вопрос — надо и подавать!» Зусім бязногі інвалід — пад нагамі прахожых, голас якога пачуўся мне з лета сорак пятага года. Яму, ім — **такім** — трэба было яшчэ і прасіць, упрошваць!..

Успомнілася гэта над Максімавымі радкамі з «Падземнага пераходу»:

Сляпому скрыпачу
У пустую шапку
Кладу не як падачку,
А доўг свой неаплатны
За франтавую песню
«Эх, дарогі...».

* * *

У чарговым томе «Беларускага кнігазбору» — «Магілёўская хроніка Трафіма Сурты і Юрыя Трубніцкага». Пасля перачытвання «Хронікі Быхаўца» і «Баркулабаўскай хронікі» гэта ўпершыню чыталася з цікавасцю ды са смакам. А яшчэ і з сумным водгуллем класічных слоў: «Где оскорбленному есть чувству уголок?!» Дзе там было ў хаосе бясконцага крывапраліцця, подлага гвалтавання ўсяго святога, у знішчальным полымі-дыме пякельных пажараў знайсці свае месца таму чалавеку, які гэтага не хацеў, які гэта бачыў варварскім злачынствам?.. Бо былі ж, трэба думаць, і такія, месца якім у гісторыі не адведзена.

* * *

«Я не сонца, я ўсіх не нагрэю...» Як апраўданне бездапаможнасці, шчырае ці толькі каб за яе схавацца.

А каб усім паспачуваць, ахапіўшы сэрцам тое, што чуеш пра людскія беды і трагедыі,— сэрца патрэбна хіба такое ж, як сонца.

* * *

Першы мой здымак — на самым пачатку трэцяга года жыцця — вышгукаваны мінскім фатографам з адэскага сямейнага. Маці казала: «Не даваў панамку зняць, кавэнчыў, каб у ёй. То бацька ляпнуў па срачцы ды ўзяў на калені». Другі здымак быў зроблены ажно праз сем гадоў, па просьбе старэйшых братоў, якія засталіся абодва ў Саветах. Тут ужо было, як для мяне, цэлых чатыры гады вясковага, не

абы-якім падарожжам на возе ў Мір, за дзевяць кіламетраў, з мамай і двума большымі братамі, аднаму няпоўных шаснаццаць, другому дванаццаты. Фатограф, немалады, увішны жыдок, палажыў маю правую руку на маміна плячо, а ў левую даў мне нейкую таўставатую кнігу,— як быццам я і маму люблю больш, чым усе, і самы граматны ў нашай сям'і, асірацелай пасля бацькавай смерці. Па здымку паслалі замежным братам, і дома засталося тры. Сусед наш, вясёлы дзядзька Паўлюк, паглядзеў на здымак і сказаў: «Во, і Іван свае вушы наставіў!..»

Яны ў мяне на ўсё жыццё вялікія, але ў маленстве былі яшчэ большыя, бо ці не да шостага класа трэба было стрыгчыся «пад бручку», нагала.

І вось я неяк заглянуў перад галеннем у люстэрка і да болю выразна ўявіў сябе, партызана, у паліцэйска-нямецкім палоне, у нашым мястэчку Турэц. Рукі ўжо звязаны перад павешаннем. У давяршэнне ўсіх катаванняў у пастарунку местачковы пустальга, паліцай Лісік, з якім мы ведаліся са школьнага маленства, абрэзаў мае вушы і тыцкаў імі ў зацiснуты рот: «Жуй, бандзюга сталінскі, жуй!..»

Такое ідыятычна ўявілася…

І прыгадалася, як у спякотным казахстанскім Сямірэччы, у семдзесят чацвёртым годзе, нам, групе пісьменнікаў з розных савецкіх рэспублікаў, і не такое па жаху расказвалі. Яшчэ з дзён грамадзянскай вайны. Як белыя казакі атамана Аненскага накрылі ў сябе чырвонага партызана, што забег да сям'і, вынялі з яго разрэзаных грудзей не зусім мёртвае сэрца («яшчэ трапяталася») і прымусілі жонку гэтага чалавека — на вуліцы, пры яго дзецях і пры суседзях — сэрца тое кусаць, жаваць і глытаць…

* * *

...Праследаваць сям'ю — за вінаватасць бацькі і дарослага сына, якія добраахвотна ў гітлераўскай паліцыі і днямі крывава «праславіліся» на сабачай службе. Нарэшце дагнаць тую сям'ю — жанчынуманці, дзвюх маладзенькіх дачок і найменшага, зусім яшчэ хлапчанё.

Ён мне цяпер найлепей бачыцца. Нібы ён тут адзін.

Знясіленыя ўцёкамі, ушчэнт патомленыя маці і дочкі асуджана разгаласіліся перад немінучай смерцю.

Толькі хлопчык чамусьці маўчаў.

Уся «святая» злосць адпала. Самому хоць заплач. А тут жа і суровы, да расстрэлу, за невыкананне, загад, і таварышы, якія супраць тваёй слабасці. Што рабіць?! Каб быў адзін — проста вярнуўся б, а то і сказаў бы гэтым людзям штосьці, а так...

Гэта мне толькі старому прымроілася. Лёс пазбавіў мяне ад такіх ды падобных сітуацыяў. А мог бы і не пазбавіць. І гаворкі пра гэта цяпер не было б.

...На адвячорку той хлопчык вярнуўся да мяне. Яшчэ ўсё моўчкі. Ярка, выразна нагадаўшы ўнучка ў такім самым узросце. З яго дапытліва-нястомным пазнаваннем свету, з яго наіўна-святой прагай жыць і жыць...

...Позні вечар. Не спіцца. І тэлевізар з пустой, нібы вясёлай перадачай.

Той хлопчык — нарэшце — горка заплакаў ад жаху канца...

Зноў разбалелася сэрца.

А толькі ж ад уяўлення.

* * *

З тэлеэкрана днямі было сказана, што ў сорак чацвёртым годзе, калі праводзілася дэпартацыя чачэнцаў, тыя аулы, што «супрацiўляліся», былі знішчаны разам з людзьмі...

Словы гэтыя — так адкрыта — як быццам выскачылі ўпершыню. Як гістарычна безэмацыйны факт.

* * *

Пачуў і часткова ўбачыў па тэлевізары тое, што адбывалася ва ўсходнім Берліне ў чэрвені пяцьдзесят трэцяга. Немцаў загінула сотня. Каля пяцідзесяці (больш ці менш — не ўлавіў) афіцэраў і салдатаў Савецкай Арміі асуджана трыбуналам на смерць — за адмову страляць у мірных дэманстрантаў. Восем гадоў пасля заканчэння вайны, ды такое,— нельга не задумацца, улічваючы яшчэ не астылы напал нянавісці да гітлераўцаў. Тут, у тых, што адмовіліся страляць, гераізму, бадай, больш, чым яшчэ праз дзевяць гадоў было ў Новачаркаску, калі страляць некаторыя адмаўляліся не ў нядаўніх ворагаў, а ў людзей сваіх. І ў адным, і ў другім выпадку героі не толькі асуджаны на смерць, але і зганьбаваны, як здавалася суддзям і катам, навечна.

Сумны, жахлівы гераізм!.. Як ад яго далёка да зразумення неабходнасці шукаць і знаходзіць спосабы, шляхі мірнага суіснавання. Пра новачаркаскіх адказнікаў у нас ужо гадоў колькі гаворыцца і пішацца. Таямніца берлінскіх — вось ужо раскрываецца таксама. Немцы ўшанавалі іх, як герояў. А ў нас? А каб было наадварот?..

...У тыя чэрвеньскія дні ці не з самога Берліна дэзерціраваў і ціха звар'яцеў сын нашага вясковага

суседа, здаравенны, ціхманы Відзік, Венядыкт. Гадоў з дзесятак, а то і больш, пакутаваў у адпаведным абласным шпіталі, потым быў дома, пры бацьках. З маўклівага рабіўся часам буйным, дзіка крычаў пра штосьці, стаўшы нават богведама як гугнявым, і тады яго ў хаце вельмі баяліся.

* * *

Слаўныя, бедныя нашы заходнебеларускія хлопцы — Уладзімір Жылка, Ігнат Дварчанін — пасля Златай Прагі, пасля культурнай Еўропы — адзін у ссылку на суровую Поўнач, на смерць ад сухотаў, што спыняць гарачае сэрца, другі ў ГУЛАГ і пад наганную кулю ў разумную галаву. Толькі здагадвацца можна, **як** яны адчувалі гэта, **якія** пакуты цела і душы перанеслі ў сутыкненні з бальшавіцкім варварствам, каб самім на сябе пісаць тое, што было патрэбна для іхняга знішчэння. Як бедны, мужны Дварчанін (цытую з пратакола «дазнання»):

«Печатал свои к-р стихотворения... издал вредную к-р нацдемовскую «Хрестоматию белорусской литературы»... читал лекции, вкладывая в них к-р содержание...»

Гэтае «к-р», як злавеснае карканне, на жаргоне катаў азначае контррэвалюцыю.

* * *

Нізкая душа, вырваўшыся з-пад прыгнёту, прыгнятае сама.

Паўтараю Дастаеўскага без двукосся, бо з памяці. А вось і другое, не ягонае:

Нізкая душа, дарваўшыся да ўлады, рада помсціць кожнаму, хто перад ёю ў нечым «вінаваты».

Асабістае так і ўплывае на грамадскае, на гісторыю.

* * *

Прачнуўся апоўначы ад жахлівага сну. Хораша ціхаму, разумна сціпламу хлопцу, ужо шчасліва сямейнаму, пагражала ў гэтым сне сучаснае майстэрства збіваць-забіваць чалавека бясследна...

Барані нас, Божа, хоць Ты і не надта беражэш незлічонае мноства тых, каго гробяць выбарачна або забіваюць масава — і ў нас, у СНД, і на ўсёй Зямлі. Ужо і не здзіўляючы гэтай будзённай звычайнасцю.

* * *

Выдадзеная пятнаццаць гадоў таму назад, вялікафарматная, з каляровымі ілюстрацыямі, буйным шрыфтам, разлічаным на пачынаючага чытача, а вельмі адпаведным і для чытача старога, добра-такі зачытаная ўнукамі за многія месяцы іх дачнага падрастання, кніга Максіма Танка «Ехаў казачнік Бай».

Унукі, сваім натуральным ходам, павырасталі, усё радзей знаходзяць час для дачнай раскошы, а дзеду, што з бабуляй, міжнародна-казачным ладам, у адзіноце чакаюць, употай лічаць дні, калі ў іх зялёную цішыню завітае былая найраднейшая шумеча,— дзеду захацелася гэтую кнігу пагартаць.

Можа, не так унукаў успамінаючы, пачаўшы яшчэ з таго часу, калі не самі яны, а ён ім чытаў, як успамінаючы сваё юнацтва, у якое — Бог мой, больш

за шэсцьдзесят гадоў прайшло! — можна сказаць і так: уварвалася новае паэтычнае слова:

Смяюцца і дзеці, і куры, і коні,
Як ён у шарахаўкі звонкія звоніць;
Смяюцца асверы, і стрэхі, і хаты,
Як пойдзе скакаць пад цымбалы Кудлаты.
Здаецца, няпраўда, што людзі гавораць,
Што быў ён раней абібокам і хворым.

Гэта, вядома, з «Казкі пра мядзведзя». А вось і з «Казкі пра Музыку»:

А іграў ён заўсёды
Весела.
Нават дрэва, пачуўшы яго,
Хоць бы нізка да долу
Галіны плакучыя звесіла,
Зашуміць, засмяецца.
Атрасаючы пыл,
Закалышацца вецер,
І заскачуць,
Як зайцы,
На полі снапы.

Адчуванне сапраўднай паэзіі пры перачытванні буйным дзіцяча-старэчым шрыфтам, можа, не так востра-радасна ўсхвалявала, бо яно ж, відаць, ёсць усяму свая непаўторнасць. Аднак жа і ў хваляванні старэчым, як наўздагон, ёсць свая перавага — такая, як рэха вялікай душэўнай красы, успамінальна-развітальная, журботна-радасная асалода.

* * *

Джэральд Дарэл, «Мае птушкі, жывёлінкі і радня». Выпісваю, перакладаю з польскага перакладу:

«Мне заўсёды здавалася, што мурашы ціхенька напяваюць самі сабе, пічыруючы ў працы».

Гэта мне будзе помніцца. З далёкага грэчаскага вострава Корфу — на Беларусь, так хораша — ад любові няўрымслівага англійскага хлопчыка да прыроды,— як ён ляжаў у траве, прыглядаўся...

* * *

Па тэлевізары — страшныя вынікі афганскага землятрусу,— што засталося ад вёскі ў горах. А найстрашнейшае, рэзка балючае — дзяўчынка гадоў дзесяці на фоне ўшчэнт разбуранага паселішча, якая на ўвесь дзіцячы рот выбухнула плачам якраз у той момант, як з'явілася ў кадры, пасля чаго пайшлі словы карэспандэнта пра тое, што яна засталася з усёй сям'і, на цэлым свеце — адна...

* * *

«Ва ўсіх стагоддзях і ва ўсіх людзей дзіцёнак падаецца ўзорам нявіннасці, бязгрэшнасці, дабра, праўды і прыгажосці. Чалавек нараджаецца дасканалым, гэта вялікае слова, якое сказаў Русо, і слова гэтае, як камень, застаецца цвёрдым і праўдзівым».

Днямі выпадкова сустрэў і перачытаў гэта, калісьці чытанае, у Льва Талстога. Вельмі дарэчы, бо ўжо дзён некалькі на тэлеэкране, калі даецца рэклама, малое на бацькавых руках, яшчэ не зусім выразна, хлопчык яно ці дзяўчынка, доўга і нібы тупа, лепш — недаўменна прыглядаецца да чагосьці, што за кадрам, і — нарэшце — непаўторна міла смяецца, што і відаць, і крыху чуваць. За тыя некалькі дзён і я прывык да гэтага смеху, чакаю яго і, прычакаўшы, зноў нібы ўпершыню, разам з тою малечай міжволі не ўсміхаюся, а смяюся, таксама кароткім, шчаслівым смяшком.

* * *

Нам тут пакінулі госця, які ахвотна заняў мой пакойчык на гарышчы, бо яму там і спіцца добра, і чытаецца, колькі захочаш, і матэматыкай сваёю можна ўволю пазаймацца.

Вось я прынёс з пасёлка ранішняе малако, бабуля мяне накарміла, а сама «на гадзінку» ў лес, даручыўшы мне клопат пра ўнукава снеданне, калі ён устане да яе прыходу.

Ад сонца на дварэ, ад кнігі на стале мне светла, цёпла, як быццам зусім па-новаму ўявілася, як гэта хораша, якое гэта шчасце — сын любімага сына, разумны ды дасціпны юначок, школьнік апошняга класа!..

* * *

Госцю шаснаццаць гадоў, а нага ўжо вялікая, як у дачніка-гаспадара. Мокра пасля дажджу. Абуў хлопец гумовыя боты старога — на прабежку па лясной дарозе. Калі вярнуўся, стары з усмешкай сказаў:

— Во, боты мае, калі мне заўтра ў вёску па малако, самі, глядзі ты, пабягуць! Навучыліся.

* * *

Сын бухгалтаркі, інжынер, удавец, павесіўся… Так у газеце. А я ледзь не напісаў: **нечакана**, як быццам можна такое прадбачыць або чакаць яго. З пятлі чалавека даставалі старая маці і дзесяцігадовая дачка.

Адну ён, няхай сабе не адразу, але дабіў.

А другую на ўсё жыццё забяспечыў успамінам…



Ліцэісты-гуманітарнікі, пераважна дзяўчаты, на экскурсіі ў нашай наднёманска-прыпушчанскай глухамані. Пачулі ад мяне, што аўтобус адгэтуль да электрычкі будзе толькі ў чацвер, а не ў аўторак, калі ім трэба вярнуцца ў Мінск, пачулі і заахкалі. Адна з гэтых пятнаццацігадовых подлеткаў, весялейшая:

— Ну, мама мая палезе на сцяну!

Другая, у той ёй:

— Ой, і мая ж таксама!

А тады ўжо, дружна смеючыся:

— Во быў бы цырк, каб яны абедзве разам!

Зрабіў далікатна заўвагу: усё ж такі мамы. А яны: «Дык гэта ж гумар!» А каб не ведалі мяне, дык, чаго добрага, агрызнуліся б таксама ж неяк пасучаснаму.



Учора ўвечары, добра пасля дзевяці, над лесам яшчэ невысока стаяла поўня, раскошна налітая спакойным святлом, каля якое паміргвала пястункаазорачка. Толькі адна.

Думка на думку, успамін на ўспамін — усё адразу, умомант. І ўнук, не сённяшні, а гадоў дзевяці, калі ён адзін выстойваў ціхенька на ганку, зачараваны ці зоркамі, ці яшчэ і поўняй. І воблікі некаторых сяброў, што ўжо не бачаць гэтай касмічнай красы. І мімалёт-сумок, такая журбінка, што трэба ж будзе неўзабаве і самому з гэтым развітвацца. І — нібы каб адмахнуцца ад мінору, для кантрасту,— маміна паказка пра дзеда, які гасцяваў у родзічаў, што жылі ў далёкай вёсцы, і яго з пашаны палажылі адпачываць не ў душнай летам хаце, а ў каморцы. Конча

было выйсці з патрэбай, дык ён патоўкся ў незнаёмых сенях, адчыніў дзверы ў хату, цурболіць цераз парог ды прыгаворвае:

— Во ночка, ні месячыка, ні зорачкі, цёмна, як у розе!..

* * *

Як гэта добра — пасля тых тэкстаў, якія міжволі хочацца правіць, перайсці да тых, якімі моўчкі захапляешся, адпачываючы душой!..

І колькі б я да яго, Міцкевіча, ні вяртаўся, усё чытаецца як быццам упершыню, усё новае ды новае. Ён з тых, каго пазнаваць трэба ўсё жыццё.

...Яна іграе і пяе:

Да цераз мой двор,
Да цераз мой двор
Цяцера ляцела...

І тут мне выразна ўбачылася артыкуляцыя ягоных вуснаў, як ён — праз векавечную бронзу сусветнай славы, праз чароўную сілу яго польскага паэтычнага слова — як ён то шэптам гаворыць, то шэптам спявае за ёю — па-беларуску:

Да не даў мне Бог,
Не судзіў мне Бог,
Каго я хацела...

А нам, ці толькі мне, дарма не вельмі часам верыцца, якія яны былі свядомыя польскія беларусы — Міцкевіч, Чачот... Дый сама Марыля.

...Каб не лічыць Міцкевіча беларусам, лепш, зручней лічыць тую Беларусь Польшчай. Нават гэтак падумалася амаль з самага пачатку зацікаўленага перачытвання багатага каментара да акадэмічнага вы-

дання «Пана Тадэвуша». Як толькі гэты выдатны даследчык, Станіслаў Пігань, не стараўся абыходзіць беларушчыну! Перакладу ягонае: «У Літве», «на Віленшчыне», «у родных мясцінах паэта»... Ёсць, праўда, і так: «Тамашняя польская мова», «відаць, пад уплывам беларускай», «гучанне беларускае»...

Ды ўсё гэта адзнакі і выдаткі нашай гістарычнай долі, што і сёння не надта палепшала...

...Ва ўсіх філаматаў, у іхніх успамінах пра Міцкевіча,— ані намёку на яўрэйскае паходжанне ягонай маці, што, зрэшты, цяпер у палякаў стала адкрытым.

Няма і намёкаў пра нейкую цьмяную нібыта сувязь генія з царскім III Аддзяленнем. Вось Алесь Ходзька піша Эдварду Адзінцу:

«Непараўнальны Адам! Ніхто з нас не прайшоў школу няшчасцяў з такой карысцю для сябе, як ён».

Ніякага падазрэння ў пана Алеся (Алесем ён сам сябе называў) няма, як і ў іншых ды яшчэ большых пакутнікаў. Яны любілі свайго непараўнальнага, ведалі яму цану, яго патрэбнасць, неабходнасць у іхняй найсвяцейшай справе, яны — да таго ж, не былі заражаны нашай, нашчадкаў, эпахальнай бядой — падазронасцю, недаверам...

...«Дзяды», частка III, паэма, раздзел «Дарога ў Расію».

Славутая жандарская аднаконная (?) **кібітка** на аснежаных прасторах. Сціхотны і панылы, калі не зусім адчайны, сум выгнання, невядомасці.

А ў Гогаля, у таксама чамусьці паэме, не драматычнай, а з празаічных раздзелаў,— **тройка**. Звышпафасна-патрыятычная. З «прадпрымальнікам» Чычыкавым у брычцы «господина средней руки».

...Нашы юныя ў пасляваенны час трагічныя патрыёты, героі кнігі «Гарт», якія хацелі быць падобнымі

на Міцкевіча, Зана, Чачота і іншых «Прамяністых». А іх білі кастровым паленам, што ляжала каля запаленай грубы, каб таварышу следчаму было цяплей,— білі па юнай, светлай галаве. Чужынцы-«суддзі», якія не толькі пра тых філаматаў ды філарэтаў, але і пра Міцкевіча наўрад ці чулі...

...Перакладаю з цікавай, грунтоўнай кнігі Збігнева Вуйціка пра Ігната Дамэйку:

«Балоцісты грунт, непраходныя зараснікі ліянаў і трыснягу напамінаюць часам нетры нашых палескіх пушчаў — адвечную хованку ласёў ды мядзведзяў. Толькі тут — ані следу ніякага звера. Лес пусты».

«Тут» — гэта ў Чылі. Сумесь ведання і захаплення. І скрозь у яго паралельнае бачанне Беларусі, яе пушчаў, напэўна ж, і з адчуваннем Міцкевіча, з яго словам і вобразам.

Ён жа, Дамэйка, праходзіў і тую пушчу, тыя нетры сябравага чарнавіка наваградскай эпапеі, якую рыхтаваў да набору. А перад гэтым слухаў фрагменты адтуль у Адамавым чытанні, нават у нечым служыў яму дапамогай, падказкай.

...Зноў чытаючы пра Дамэйку.

Колькі нам, беларусам, трэба яшчэ папрацаваць, каб было на каго апірацца, кім ганарыцца ды казырыць, не адчуваючы, як сёння, пэўнай няёмкасці ад гаворкі пра славутых землякоў, беларусаў «геаграфічных», якія служылі культуры іншых народаў, лічачы сябе хто палякам, а хто рускім.

...Вялізны юбілейны том — «Пан Тадэвуш» у арыгінале, у беларускім перакладзе П. Бітэля і ў рускім С. Мар.

Мне казалі, што ёсць і такое меркаванне — выдаць у адной кнізе ўсе нашы пераклады эпапеі,— Дуніна-Марцінкевіча і Ельскага, як спробы прасігналіць свету, што і мы таксама можам; Тарашкевіча,

зроблены ў пілсудчыцкай турме, і Бітэлеў — у бальшавіцкім канцлагеры, як красамоўнае гістарычнае сведчанне; і Семяжонаў, пакуль што найлепшы, але ж, на жаль, разоў ці не на паўтара даўжэйшы за арыгінал.

А каб жа і нам,— успомнім украінцаў з перакладам Максіма Рыльскага,— займець нарэшце адзін дасканалы, які ў нас, напэўна ж, будзе.

* * *

Якое б гора ні было, як ні плакалася б, расказваючы пра яго, а бульбы трэба наабіраць.

І яна абірае яе, нейчая ціха-цярплячая матуля.

* * *

Перад ушанаваннем Данусі Бічэль у Купалавым музеі, уранні, я па звычаі, пераглядаў два яе зборнікі, асабліва «Даўняе сонца», выбраную лірыку, што перачытваючы, што ўспамінаючы. Дзіўна неяк адчулася, што іншамоўнай, іншанароднай паэткай яна аніяк не магла б з'явіцца, быць, бо родная мова яе **не па выбару**, з ёю яна выйшла ў свет і ўвайшла ў паэзію па-сямейнаму, па-спадчыннаму арганічна і неадменна. І расказала пра сваё — малую дзяўчынку, пасля пра гатовую да кахання і мацярынства дзяўчыну, шчаслівую маму, а вось ужо і бабулю. У гэтую канву жаночай долі, вядома ж, уплятаецца і ценявое, і грамадскае, аднак мне найлепей бачыцца вобраз жанчыны-паэткі ў таленавітым развіцці яе галоўнай значнасці.

* * *

І пры дачцэ-дзесяцікласніцы яшчэ ўсё маладая, толькі з прыемнай ды не лішняй паўнатой паўдзённага жаноцтва, яна была вельмі рада, што мая сустрэча з выкладчыкамі, дакладней — у большасці выкладчыцамі роднай мовы і літаратуры,— падзвіжнікамі ў наш час! — у школах сталічнай вобласці, за што яна адказвала, у чым была шчыра зацікаўлена,— удалася. Рады былі і настаўнікі, рад быў і я, а сама гаспадыня сустрэчы, развітваючыся са мною перад усімі, пачала: «Я хачу вам нізка-нізка пакланіцца за...» Прысаромлены, я перапыніў яе: «Ну што вы, кланяцца?» І яна падхапіла іншае: «І праўда, я ўжо лепш так...» Пацалавала мяне духмяна ды горача, пад ухвальныя воплескі і смех, і пацалунак гэты чуваць на шчацэ вось ужо ці не пяты год.

* * *

Паміж снежна-беленькай марлевай — зверху і ўнізе — павязкай глядзяць вялікія, карыя, чыстыя вочы маладой медсястры. Хоць на плакат іх тут, у вочным аддзяленні клінікі, з загадным надпісам: «Такія павінны быць ва ўсіх!»

Сказаў ёй пра гэта назаўтра пасля аперацыі. Ужо з вольным, адслоненым тварам і з тымі — не тымі вачыма. Усміхнулася.

* * *

Працавітая, вечна занятая ўдава на пенсіі, у якое дзве каровы, пяцёра свіней, нямала курэй ды гусак, малая, з горада прывезеная ўнучка, вялікі агарод і

соткі бульбы ў полі, кожнай раніцы, прывычна, спраўна падхадзіўшыся, глядзіць па каляровым тэлевізары бразільскі, як для каго, дык і бясконцы мыльны серыял з не хітрым, але ж і займальным плецівам інтрыгаў з каханнямі і здрадамі, сяброўствамі і варажнечай. Нібы малітва, багаслужба ранняя ў яе, а то часамі,— смяецца,— «і ўвечары тое самае пагляджу яшчэ раз». І паўтор не здаецца лішнім.

Бо хочацца казкі, чагосьці здалёку прыгожага, кожны дзень небудзённага.

* * *

Пазваніла з далёкай вёскі знаёмая настаўніца-беларуска. Я не адразу пазнаў яе па голасе, што яна адчула і спыталася: «Ой, вы, відаць, не пазналі, хто звоніць?!» На што я з ходу, нечакана адказаў: «Няўжо ж вы думаеце, што я не ведаю, каго люблю?..» Жаночы смех — узнагарода. Потым і жонцы сказаў пра гэты мой пераспелы флірт. Хоць тут у мяне і не ён, а шчырая павага і сімпатыя.

* * *

Вядучы маскоўскай тэлеперадачы «Человек [redacted] маске» культурна, спакойна, словам — па-сённяшняму кажучы — высокапрафесійна даводзіў сабраным у студыі некалькім сотням людзей і некалькім мільёнам тых, што бачылі гэта на сваіх экранах,— даводзіў, што прастытутка нікому не робіць зла, яна сама сабе выбрала такі лёс, так зарабляе на жыццё, мае на гэта поўнае права і… гэтак далей.

А чалавек у масцы, які спрачаўся з вядучым на маральныя тэмы, ветліва папрасіў прабачэння, што перабівае, і спытаўся:

— Скажыце, [redacted] вы хацелі б, каб ваша дачка была прастытуткай?

Знячэўку ўдараны інтэлігент, з заходнім і ўсходнім ухілам, з выдатнай рускай мовай і, трэба думаць, з таксама выдатнай — у запасе — другой сусветнай мовай, англійскай, пачаў штосьці мямліць пра свабоду выбару і пра іншыя свабоды, а закончыў тым, што ён усё роўна і тады яе любіў бы...

Ой, не ўсё роўна, паважаны, не!..

* * *

У дачным доме, у пакойчыку на гарышчы — на сцяне над тапчаном вясковая дзяружка, зялёныя ўзоры на белым.

У вёсцы над Шчарай, у гасцявым застоллі, спяваў калісьці на пару з галасістай настаўніцай. Паслаў ёй пасля сваю кнігу з аўтографам — «За песні». А яна прыслала гэтую саматканую «перабіранку», напісаўшы на паштоўцы — «За кнігу».

Даўні ўжо, мілы ўспамін.

* * *

— А дзякуй вам, а дзякуй! — малёкае жабрачка, прымаючы шчодрую міласціну мукою.

— Богу святому! — адказвае гаспадыня.

Сціпласць правільных чалавечых паводзінаў. Народнае гэта. І маміна.

* * *

«Колькі ўжо, Богу дзякаваць, пражылося. А якое мора людзей адхлынула!..»

З гэтым я сёння прачнууўся. Калі яно ў мяне зноў жа матчына, чутае ад яе, дык яна ж мора бачыла,— як яно і на бераг ішло, як і назад адхлынала.

* * *

Вясельнаму свату, чараўніку народнага слова, якім трэба было ці нарадзіцца, ці вырабіцца такім энцыклапедыстам, часцей за ўсё ў даўнія часы непісьменным, якую трэба было мець багатую фантазію, якое ўяўленне, каб належна спраўляцца з такою процьмай прыкметаў, павер'яў, жартаў, анекдотаў, чаго працоўная вёска за свае бяспраўныя стагоддзі назапасіла!

А яшчэ ж і такая чарадзейка слова, як бабуляпавітуха,— тут ужо на адведках ды на хрысцінах.

Ды ўсё ж аднаго такога носьбіта ці адну такую носьбітку народнага багацця цяжка ўявіць праяўленага ці праяўленую поўнасцю ў адной асобе. Кожны патроху, кожнаму свая слава ў родным кутку.

* * *

Чытаць некаторых нашых філосафаў немагчыма без слоўніка,— такая процьма мудрагелістых тэрмінаў... Не памятаю, з кім я пра гэта гаварыў не вельмі даўно і хто гэта засмяяўся, што яны, тыя філосафы, і пішуць таксама па слоўніках.

* * *

Пад рэдзенькім, асцярожным дожджыкам, які нібыта і перастаў, і яшчэ ўсё цэдзіцца, я, зранку, адразу стомлена выйшаў з нашай мокрай, някошанай на паляне травы на сырую, паўзораную трактарным следам дарогу, успомніў чутае, народнае ды старэчае, і ў думках сказаў сам сабе: «Што ж, **паківаемся** далей!»

Пачаўся новы дзень.

* * *

Дзе тое XVI стагоддзе, дзе той цэнтральнапольскі маёнтак Чарноляс, а ў пана Яна Кахановўскага ідуць у вершах такія словы: babić, kramny, pót rzeczy. Сустракаючы іх, адпаведна кожнаму ўспамінаю, як гэта чулася мною, беручы па адным чалавечым веку, вельмі ўжо даўно, ды сярод тых людзей, якія пра такога трывала таленавітага ды багата адукаванага пачынальніка нацыянальнай літаратуры братняга народа, па сваёй бяздольнасці з пакалення ў пакаленне, і чуць не чулі, і ведаць не ведалі.

А гаварылі: «Яна ў мяне ўсіх маіх дзетак **бабіла**». «І сваё ж мы тчом, і ў **крамным** па святах ходзім». «З марозу вярнуўшыся ды місу гарачай капусты высербаць — гэта зусім **непаўрэчы**!..»

Вось тут і падзяліся, што чыё.

...Днямі я, чамусьці ўпершыню, падумаў пра нашу **агіду** побач з польскай ohyda. Хоць ты скажы: куды ж падзецца ад гэтай блізкасці моў? Ды нікуды, будзьма самі сабой. Толькі без нейкай таксама ж моды — браць без патрэбы суседскае, маючы нягоршае сваё. А ў нас, услед за słynnym ужо ўжываецца

і wybitny. Адзін «старацель» (не золата, а слова) у сваіх перакладах з англійскай мовы нясе ў нашу зноў жа польскае matołek, замест прыдурка, а другі, перакладаючы з нямецкай, цягне ад палякаў gałgan, замест нягодніка... І ўсё дарма!

* * *

Гістарычная забастоўка на расійскіх чыгунках увосені 1905 года дайшла да мяне ў маленстве з матчыным смехам па той прычыне, што наш чыгуначнік бацька тады, калі забастоўка закончылася, «прыехаў пастрыжаны нагала, як **галамоўза**». А прыехаў ён, трэба думаць, у Загора, бо мама тады ў Адэсе не жыла, дый прыехаў ён, як яна казала, чамусьці з Пецярбурга. Цяжка мне было разабрацца з усёй тою рэвалюцыяй. Дый галоўнае тут, што пастрыжаны «як галамоўза», значэння якога пакуль што ў слоўніках не знайшоў.

* * *

«Нуда горш за каросту». Чуў такое і ў сваёй вёсцы, і ў навакольных.

У этымалагічным слоўніку Праабражэнскага так: «Нуда, **нужда, нечистота**; нудзіць; нужа»,— гэта бр» (беларускае). «Интересно заметить,— піша ён,— что рус. **нужа**, можно сказать, совсем вытеснило цсл. нужда». (Цсл — церковнославянский.)

Са школы помніцца, у Багушэвіча:

...І жывець сабе на волі,
Без бяды, без нужы.



Учора ўвесь дзень і сёння раніца з кнігай «Фальклор у запісах Яна Чачота і братоў Тышкевічаў». Чытаючы, не-не ды ўспамінаўся рослы, з падзюбаным воспай тварам маўклівы хлапчына з Сакольскага павета Беласточчыны — Саловіч, імя якога не запомнілася.

Дваццацёх нас, нядаўніх салдатаў польскай марской пяхоты, нямецкіх палоннікаў, у пераважнай большасці беларусаў, працавала ў вялікай памеранскай вёсцы на «арбайтскамандзе», па гаспадарах, а начавалі ў абгароджанай калючым дротам «штубе» з закратаванымі вокнамі і насланай на падлозе мятай саломе.

І вось аднойчы, калі ўжо ляжалі без агню, маўчун Саловіч раптам засмяяўся і, не сказаўшы чаго, заспяваў: «Баба Ксютка, дзед Тамаш, ой-ёй-ёй, паехалі на кірмаш, ой-ёй-ёй!..» Песня адразу прыйшлася да смаку, асабліва прыпеўнае ойканне на ўсе лады ды галасы, хто яе ведаў, а хто і не. Я, напрыклад, пачуў яе ўпершыню, нават уранні запісаў у блакноце, які захаваўся. І вось успомніў той далёкі час, тую дружную грамаду, той нечакана ды грубавата вясёлы голас сябра няволі, побач з якім я пражыў некалькі месяцаў, а запомніў так надоўга.



Апошнія дні месяца хочацца дажыць, перажыць як найхутчэй, каб спакойна, памалу пачаць новы месяц, зноў з першага дня. Як у школе калісьці, ад сшытка памятага, дзе-нідзе заплямленага, а то і з дрэннай адзнакай за нейкі ўрок ці за паводзіны, хацелася, не закончыўшы яго як след, да апошняй старонкі, перайсці да новага.

Параўнанне, можа, не зусім адпаведнае,— так мне думаецца не пра прыход любога месяца, а іменна пра **мой жнівень**, як быццам я сам выбраў яго для нараджэння. Калі я служыў — у рэдакцыях, у выдавецтве, у апараце Саюза пісьменнікаў,— для адпачынку найахвотней выбіраў яго. Бо і проста жнівень люблю, калі яшчэ ўсё лета, ды ўжо не толькі ў красе, але і ў багацці.

Вось пішу, а за акном, за дрэвамі, за Нёманам, недзе на лузе — дружны і доўгі клёкат адразу некалькіх буслоў, сёлета пачуты так, у харавым выкананні, упершыню. Таксама ж невыказна журботнапрыгожае сведчанне летне-перадасенняй красы.

* * *

Днямі, калі я выйшаў па малако ў пасёлак раней звычайнага, а раніца была ціха-туманная, на павароце прылясной дарогі сустрэўся чалавек. Высокі, босы, без шапкі, аброслы і... з сякерай у руцэ. Міжволі аднекуль з'явіўся страх. Мужчына сказаў мне «здрастуйця!», я яму «добры дзень!», падумалася, што мы з ім недзе бачыліся раней, а ўсё ж я, калі размінуліся, неўзабаве азірнуўся — яшчэ ад страху ад тое сякеры...

Вось яна і зараза нашага часу, са штодзённымі жахамі ў газетах, на экранах тэлевізараў, па радыё, у гутарках з сустрэчнымі.

* * *

Учора пад раніцу — навальніца з грымотамі, такі цудоўны канцэрт, а пад вечар, калі стала і зусім сонечна, пайшоў па дарозе спачатку лугавой, а

потым лясной, з вялікімі лужынамі ў каляінах, якія трэба абыходзіць па высока атравянелай абочыне, месцамі чапляючыся за навіслае зверху голле або за стромкія дубцы лазняку знізу.

Добра пасля дажджліва-хмарных дзён!

* * *

Дарога, па якой шмат гадоў каля нашага дома ездзілі на луг над Нёманам выходныя гараджане, і сцежка, па якой мы з таго лугу даходзілі да ракі, так зараслі ў наступе штогадовага запусцення і ад шчодрых сёлетніх дажджоў,— дарога паміж высокіх дубоў, алешын і вязаў, а сцежка ў мокрай лагчыне, паміж высокага густога лазняку, так зараслі, што я з вялікай цяжкасцю перабрыў па дарозе да лугу, а перад сцежкай да ракі спыніўся стомлена...

І луг не скошаны, ды богведама ці будзе і сёлета кім-небудзь касіцца. Як запусценне, дык запусценне ва ўсім усюды!..

Перадыхнуўшы, я дабрыў да Нёмана, вышэй ад нашага ранейшага падыходу, пастаяў над нястомна быстрай вадой, тады па іншай дарозе, таксама зарослай, выйшаў на бітую, язджалую. Ногі мае ў гумовых ботах так стаміліся ад упартай зарослацці зялёнага бездарожжа, што шырокая каляіна з прыбітым дажджамі і прыгладжанай аўтамабільнымі коламі пылам адчулася з палёгкай.

А ўжо на лаве з жэрдак каля чорнага кастрышча захацелася і прысесці, і пасядзець даўжэй...



Увішная гаспадыня ў полі, а на лавачцы каля хатняй сцяны, як заўсёды ўранку, бялеюць слоікі з сырадоем, тры трохлітровыя, для дачнікаў сямейных, і адзін літровік, для старое лекаркі, што летуе адна. Раніца сёння халаднаватая, толькі шэсць градусаў. Адно з тройкі пацешных кацянят — чорны каток кемліва прымасціўся да майго слоіка, бачком прытуліўшыся да цеплыні, яшчэ жывое, што я адчуў рукою.

Калі я дома расказаў пра гэта, жонка ўсміхнулася, як быццам трошкі кпліва: «Во, будзе і мініяцюра!..» А я яшчэ ў дарозе ўспомніў Аляксея Кулакоўскага, спакойнага апавядальніка, у мове крыху паслуцку сентыментальнага, які сказаў бы з пацмокваннем: «А то ж, братачка, і дэталька!..»



Дыхтоўнасць сырамятных шораў з вострым пахам дзёгцю. І здаравенны мястэчковы рымар Хаім, брахлівы ды нястомны гаварун. Вось ён — помніцца — выклікаў з хаты на двор, дзе мы сядзім, няраслую, рухавую, заганяную малечай жонку і загадаў:

— Малка, дай міне троху соку, міне ўжо суха шыць!..

Яна ведала з яго ранейшых жартачкаў, што гэта за сок, і таму, не маючы часу на большае, сказала толькі «Мішугінэ!» і, плюнуўшы, трушком падалася ў свае незачыненыя кухонныя дзверы, бо там ужо ёй трэба на каго-небудзь больш, чым на дварэ, пакрычаць.

А ён смяецца, задаволены. Няспешна шыючы дратвай набэдрык. На надворным стале, пры якім і я прысеў на лаве.

Усю збрую нам тады пашыў. Лейцы як быццам і цяпер у маіх руках. Такія духмяна надзейныя, як ні рвецца дахаты, застаяўшыся, наша гонкая кабыліца.

Уявілася гэта ўсё, чытаючы «Голэм» Густава Мандрыка ў перакладзе з нямецкай мовы Васіля Сёмухі, якога я ўжо стаміўся хваліць, а вось жа трэба зноў.

Нізы пражскага побыту чэшскіх жыдоў. Хоць яны там не рымары ды не шаўцы ці кавалі, а рэзчыкі, гравёры ды мастакі або музы́кі.

* * *

— Пагаварыць паселі? — спыніўшыся ў роснай траве, пытаюся ў трох ластавак на белай раме навонкі адчыненага акна.

А яны пакуль што ціха сядзяць, ужо не шыбуючы ў харчавальных бясконцых палётах, маючы права на адпачынак з дарослымі дзецьмі. Здаецца, што іх якраз двое такіх з пані-маткай.

* * *

У жарабячую жычку куплялася «жывое срэбра», ртуць. І не помніцца, каб хто з сямейнікаў гаварыў пра шкоднасць гэтай ртуці. Пакуль тым маленькім і рухавым шарычкам апынуцца ў жычцы, мы іх нават пакочвалі малымі, нецярплячымі пальцамі, то я, то крыху старэйшы брат на разасланым на стале шы-

ракаватым тканым паяску. Пасля той паясок складваўся наўздоўж, з шарычкамі «жывога срэбра» ўсярэдзіне, і сшываўся, а ўжо канцы змацоўваліся на шыі жарабяці. Усё гэта рабіла мама. Яшчэ адзін брат, дзяцюк, трымаў жарабятка адной рукой пад персні, другою пад задок, а маці сшывала канцы паяска, які надоўга застанецца каляровым нашыйнікам, абручыкам ад грыўкі, што прытрымлівала яго, пад горлечка. Мама сказала свайму гаспадару: «Ну, пускай!», а тады жарабяці: «Во як табе будзе хараша!» Што жычка — ад шкоднага, зайздроснага вока, пра гэта гаварылася. Цяпер з гэтым будзе парадак! Не памятаю дакладна, можа, далейшае так і было, а можа, мне хочацца так даўявіць,— як наша кабыла, якая,— здаецца, у свежападасланым хляве — спакойна глядзела на тое абніманне-стрымліванне яе малога ды майстраванне на ягонай шыйцы, а калі яго адпусцілі і яно памкнулася храпкай пад матчын жывот, да салодкага, яна пяшчотна, стрымана за-фу-ту-ту-ка-ла.

* * *

Старому Шарыку, што прыбіўся да нас з залясной далекаватай вёскі, што ўжо і павольны, і глухаваты, і неахвотна гаўкае, нядрэнна начуецца дый днюецца пад паветкай, дзе ён ляжыць на сухім, цёплым пясочку, нібы заслужаны дзед-гаспадар у ладнай сям'і, на спрыяльна напаленай печы. Каб жа яшчэ не назолы блохі, на якіх тут кажуць «скацукі», ад якіх не адджургацца. Часамі ён нават уцякае ад іх пад нашу вялізную ліпу, на сухі, няросны дзёран на ўзлобку яе разлеглага карнявішча.

Калі па-моднаму ўздыхнуць, дык ёсць у яго і другія праблемы. Скажам, ён вельмі баіцца грымо-

таў. Ціснецца, просіцца ў хату, да людзей. Так учора, калі разгрымелася, раздажджылася, калі я адчыніў дзверы глухое веранды на ганак, дзед Шарык, намоклы ад перабежкі сюды з падпаветкі, хацеў нырнуць на веранду, а там на падлозе былі разасланы шпалеры, якія нашы дзяўчаты расклалі, абклейваючы свой бакавы пакойчык. І я сабаку не пусціў. Накрычаў на яго, і ён, паслухмяна стуліўшыся, падаўся з ганка па ходніку, а пасля па суточках паміж сеткай агароджы і сцяной — на сваю «печ». Неахвотна, асуджана.

Сусед казаў, што грому вельмі ж баіцца і іхні малады аўчар.

Штосьці таксама «касмічнае» з гэтым. Не ідылія з поўняй, і сцішната. Як у тым усеагульным, несусветным сабачым выцці ў трывожнае неба, якім у ноч магутнага землятрусу быў ахоплены ўвесь распрасторны Ташкент, што мне якраз цяпер, пішучы, успомніўся з красавіка 1966 года.

* * *

Югаславія, май пяцьдзесят шостага.

Саракагадовыя, з адхіленнямі ў пэўную нязначную маладзейшасць ці старэйшасць, мы адчувалі сябе значна маладзейшымі, чым былі. Максім Танк, Пімен Панчанка, Алесь Адамовіч, калі ўспамінаць толькі найбліжэйшых з нашай турысцкай групы. Такому адчуванню спрыяла і часовае вызваленне ад службовых ды сямейных абавязкаў, і свабода, можа, перш за ўсё тая, што адчувалася пасля XX з'езда партыі, якая ўпершыню паспрабавала абтрэсвацца ад сталінскіх

грахоў. Спрыяла па-свойму і краса прыроды, і прысутнасць у групе жанчын, таксама ў нечым вызваленых, і гасціннасць югаславян, якіх так яшчэ нядаўна было загадана лічыць ворагамі.

Сёння мне светла прыгадаўся адзін наш ранак, наш молада-пусты, заразліва-неадчэпны смех ад новай забавы ў вясёлым аўтобусе. Ужо і не помніцца выразна, адкуль ды куды мы ехалі, хто завёў тую забаву. А была яна ў тым, што мы пачалі прыдумваць на рускі лад «имена и отчества» з медыцынскіх тэрмінаў. Стараліся ды вызначаліся, хто як мог, то больш, то менш смешна, а смешна было перш за ўсё ад таго нашага памаладзення. Не буду ўзнаўляць па памяці што-небудзь з найсмяшнейшага, тым больш цяпер прыдумваць такое, бо вось прыгадалася толькі адно, а яшчэ выразней — той адзін з сяброў, хто гэта сказаў.

Са смехам бывае такая бяда, што ён, непрадказальны гарэзнік, падступае, нібы чых ці кашаль, якраз у найменш адпаведны момант. Здаецца, і ўсе варыянты перабраныя, і смеху ўдосталь было ў дарозе,— хопіць, пара́ і пасталець. Тым больш што ў новым цудзе-горадзе экскурсія пачнецца з цуду тут найзначнейшага — старадаўняга храма. Зноў жа не памятаю, што гэта было — сербская царква, харвацкі касцёл ці баснійская мячэць, але справа тут не ў такой дакладнасці.

Справа ў тым, што наш вясёлы сябар,— можа, не за ўсіх весялейшы, але па-свойму вясёлы ды смяшлівы Пімен,— глядзіць на мяне ў нашым ужо, нарэшце, сур'ёзным, заслуханым, заглядзелым гурце, глядзіць, а мне відно, як яму цяжка стрымлівацца ад смеху. Нават і адварочваецца, каб стала лягчэй. А ўжо калі мы ўсе выйшлі з таго цуду-храма на сонца, калі мой

Пімен аказаўся зусім побач, найдалей ад жанчын, ён, як быццам выпускаючы з рота струмень доўга трыманай вады, паўшэптам прасіпеў: «Триперинна Люисовна!» І вызвалена засмяяўся.

Ну што ж, няхай яно цяпер і не надта смешна, а для кагосьці староння і звычайная пошласць... Тых, каго я назваў, усіх ужо няма. Час ідзе, адсоўвае даты іх адыходу, хоць і няспешна, а ўсё далей, далей — да журботнага **даўно**. І кожны ўспамін, тым больш вясёлы, з рэшткамі маладосці... ну, гэта само па сабе зразумела...

* * *

«Литературка» ўспомніла Маноліса Глезаса — пасля доўгага палітычнага перапынку. А ў памяці маёй ажыў сонечны Акропаль і зноў турысцкі смех, на гэты раз з Максімам Танкам, калі мы пачулі ад грэка-экскурсавода, які, крыху пацешна па-руску, да планавага апавядання пра подзвіг Маноліса з ягоным сябрам Сантасам, якога ў нас чамусьці наогул замоўчвалі, дадаў і такое:

Юнакі-студэнты не толькі знялі тады з высачэннага дрэўка гітлераўскі чырвоны сцяг, але і разаслалі яго на свяшчэннай эладскай зямлі, можа, дадам цяпер, яшчэ і на вуглы паклаўшы для большай трываласці чатыры асколкі спрадвечнага мармуру, а на белую круглую пляму з чорным «гакэнкройцам», свастыкай, гарэзна... апаражніліся. У імя антычнай, роднай вечнасці.



Калі я ў канцы вайны і чатыры гады пасля яе працаваў у сатырычна-гумарыстычным друку, прыходзілася значна больш, чым пазней, заглядваць і ў суседскія вясёлыя часопісы. «Крокодил» вылучаўся культурай мастацкага афармлення, «Пэрэць» народным гумарам, а мы ў сваім «Вожыку» сяк-так намагаліся тыя якасці спалучаць.

Аднак помніцца гумар найбольш украінскі. Скажам, такое, пра будаўніцтва. На лесвічнай пляцоўцы кошка і кацяня. Малое насцярожана: «Мама, мыш!» А кошка спакойна: «Гэта не ў нашым пад'ездзе». Або такое, з медыцынскага жыцця. Разбіты, пакарэжаны, нават на мыліцах «масквічок» стаіць перад белым халатам і акулярамі. Стэрэатыпнае пытанне: «На што скардзіцеся?» І адказ, свяжэйшы: «На студэбекера».

Паўстагоддзя мінула, толькі старэйшыя сучаснікі памятаюць тыя няраслыя «Масквічы» і магутныя амерыканскія лендлізаўскія грузавікі. Нядаўна я, стары, пачуўшы ад маладога бальнічнага лекара ўступнае: «На что жалуетесь?», успомніў «Пэрэць» і пакорна сказаў: «На студэбекера». Смешнасць тут прыйшлося гістарычна растлумачыць, каб і лекару і супалатнікам было смешна.



Эстраднае дзяўчо натужна верашчыць па радыё, бясконца паўтараючы страсна-кахальнае «Твой саксафон! Твой саксафон!»! З такой пястотай у голасе, як быццам яе дома ці ў дзіцячым садзе толькі што знялі з гаршчочка. Знялі, ага, а яно адразу ж — у эфірны секс, у моду на звышпяшчотнасць.

* * *

Гераіня аднаго жаночага апавядання, немаладая мастачка, што «выходзіла з дому **па сякой-такой патрэбе**», нагадала мне безнадзейна старую дзеўку, нашу вясковую суседку, якая ў будзень па-святочнаму апранутая, пад вялікай квяцістай хусткай, ішла па вуліцы, а другі наш сусед спытаўся цераз плот: «Юста, куды ж гэта ты?» — «У Турэц».— «А чаго?» — «За сваёю патрэбай».— «А чаму ж так далёка?»

І сапраўды — да мястэчка аж чатыры кіламетры.

* * *

**Нэтудыхата** — гэта не проста адно з пацешных, але і сапраўдных украінскіх прозвішчаў,— ім можна карыстацца іншасказальна, напрыклад, так: «Не туды ты, браце, палез у сваіх разважаннях!»

* * *

На вясковым двары стаяць «Жыгулі» з **разяўленым** багажнікам. Па штосьці прыехаў з горада сын або зяць.

Сам я сказаў сабе ўчора ўвечары гэтую сучасную **разяўленасць**, сам і засмяяўся, як быццам і сапраўды ад нейкага адкрыцця.

* * *

Гледзячы па тэлевізары на **выседжвальнікаў** гэтага парламента, на мноства лысых, сівых і маладзейшых галоў, неяк дзіўна, нават і весела падумалася:

Чаго-небудзь вартай у кожнага з гэтых багата апранутых целаў з'яўляецца толькі галава, якая да таго ж не заўсёды варыць адпаведным чынам, а за гэты верхні прыдатак народу трэба смачна карміць, хораша адзяваць, абуваць, абмываць, мякка вазіць, пільна ахоўваць яшчэ і такое мноства самаўпэўненых ды капрызных, раскормленых ды распоеных целаў. Дорага!..

* * *

Згадаўся «левітанаўскі» Псёл у жніўні шэсцьдзесят сёмага. Золата купалоў над Волгай, у зелянiне, найбольш бярозавай, на крута-высокім травяністым беразе, адкуль — хто седзячы, хто прылёгшы — мы глядзелі ўніз, на тое золата з крыжамі.

Там пачутае пра інтэрв'ю сталічнага журналіста з жонкай мясцовага самадзейнага мастака, інжынера, які ўвесь свой вольны час аддаваў палітры. Для душы.

«Уж лучше бы он пил!..» — уздыхнула тая, з выгляду, на фотаздымку, інтэлігентная жанчына.

* * *

Ну талент, ну голас, ну абаяльнасць знешняя, нават і юная сціпласць свайго дадала. А потым пачы-на-ец-ца! Каралевай спачатку хацелася быць, а далей ужо і каралева яна, і ёй ужо гэтага мала... Лезе, лезе наверх усё мноства назапашаных недахопаў, якім так уласціва множыцца ад папулярнасці і дабрабыту. І незаўважна тая дзяўчо-дзеўка-баба, якой яна тым часам стала, такая нецікавая ў сваім зношана-аблезлым самалюбстве.

* * *

Наднёманская вёска Беражна. Не «Бережное» на рускі лад, навязанае ад слова «бережливость», але ад **берага** — спрадвеку Беражна, з націскам на «е».

А вось ластавак-беражанак тут не называюць беражанкамі, як у іншых навакольных вёсках, а **берагулькамі**.

Уязджаем з Калеснікам у доўгае-доўгае Беражна. Даганяем дзяўчыну, якая лёгка ды спраўна ідзе па сцежцы каля платоў. Параўняліся, абагналі, і мой Валодзя, такі звычайна ўважлівы за рулём, сказаў з нядрэнным веданнем прадмета:

— А нішто сабе берагулька!..

* * *

Прозвішча Баравік ніколі не выклікала ў мяне якога-небудзь здзіўлення, нават усмешкі. А вось пачуў ад маладога знаёмага, што дзявочае ў яго сімпатычнай жоначкі — Падасінавік, і... стала весялей.

Бо і я ж люблю іх знаходзіць.

* * *

Тры дні пагодзіла, і камбайн паспеў зжаць-змалаціць, як гаворыцца — **выхапіць** ад канчатковага змарнення добры ячмень. Толькі салома засталася на нізенькай пожні, крыху пад сонца, а больш, як аказалася, пад дождж. А потым яе ўсё-такі застагавалі, хоць і на́дсыр.

Поле ўжо тым часам заараное, прыемная прастора свежа-чорнай раллі. А над ёю, на фоне задарожнага

starога ельніку, над вялізным стогам, хоць раніца і церпка-халодная, курыцца пара. Як дымок над ледзь жывым саламяным, у ранішнім сонцы светлым, вулканам.

Гэта нават і прыгожа, калі думаць... ну, не пра «чыстую красу», а проста толькі пра знешні выгляд, такі бок жыцця.

* * *

Плоска-шырокая аўтамабільная каляіна лясной дарогі, па якой не часта ездзяць. Светла-шэры пясочак стракатa і ўжо даволі густа пацярушаны апалаю лістотай. З некалькіх дзён, менш ды больш пацямнелай, пабляклай ды ярка свяжэйшай. Добра ідзецца па гэтым мяккім шоргаце, у сонечнай ласкавасці ранняга адвячорка, у сцішаным, урачыстым стаянні дрэў. Адны ў спакойнай вечназялёнай трываласці, другія і без ветру спакваля цярушачы долу славутыя чырвань і золата.

Прыблуда Шарык, і сёння на нашай дачы толькі што накормлены, у добрым настроі суправаджае мяне. Нялёгка цюхкае то спераду, то ззаду, то пастарэчы трэцца, блытаецца ў маіх нагах, нібыта хочучы мяне спыніць, хоць абодва мы не спяшаемся.

Крыху стаміўшыся, прысядаю на змалку люба пярэстым, таўставатым ствале бярозы-вываратня, з камлём у карнявішчы, што бокам тырчыць над сваёй ямай. У палавіне перарэзаны ствол трохі задзёрты над травою, нібы й запрашае прысесці. Вяршыня яшчэ не старое бярозы перацягнута на другі бок дарогі. Гэта ўсё яшчэ летась, калі тут прайшоў буралом.

Сабака спачатку таксама прысеў на хвасце, побач са мною, нават лабаціну падставіў пад маю далонь, з

палёгкай хэкаючы ў сваім не вельмі вылінялым чорна-бурым кажушку, потым устаў, адышоўся, гжэчна адзначыўся на зялёнае вераценца — ялаўцовы стромы кусцік, а тады прылёг, нейтральна гледзячы на дарогу, з яшчэ ўсё недаразяўленай для спатольнага хэкання пыскай.

І тут адбылося прыемнае.

Цішыня такая светлая, супакойная, што я ці то ўбачыў, ці то яшчэ і пачуў, як перада мною, блізка да невысокага сядзення, сонечныя каліўцы мятліку выразна заварушыліся. Самі па сабе,— так чамусьці падумалася, пакуль, у наступны момант, не ўспомнілася, што гэта ж мой стары, расхэканы спадарожнік толькі што іх растрывожыў, пасядзеўшы тут ды прайшоўшы. І вось яны старанна, абавязкова выпроствающца, штосьці нязлосна шэпчучы адно з адным.

Смешна? І міла ў такой красамоўна-журботнай прыродзе, цікава нават з такою драбніцай.

Васіль Пяскоў, якога я люблю чытаць, амаль як Сетана-Томпсана (ведаю — любімага і Пясковым), нядаўна з замілаваннем пісаў у газеце пра месяц жнівень, з яго багатай красой, сваю сакавітую замалёўку закончыўшы нечакана:

«Состояние души такое, при котором яснополянский мудрец записал поразившие меня когда-то слова: «Вышел в Заказ вечером и заплакал от любви, благодарной за жизнь».

І ў жніўні, і ў верасні...

* * *

Пачаў чытаць у «Полымі» артыкул пра творчасць Макаля. А паралельна, у памяці, чуцён мне быў па тэлефоне ягоны плач і праклёны ўсім, хто давёў да

таго, каб недзе за светам і невядома завошта гінулі хлопчыкі-салдаты. Гэта было ў 1982-м, я віншаваў Петруся з пяцідзесяцігоддзем, а ён праклінаў і плакаў — за адзінага сына, пра раненне ці хваробу якога ў Афганістане толькі днямі паведамілі.

А раней калісьці Пятрусь даверліва прагаварыўся мне, як ён, «солдат срочной службы», увосені 1956-га быў у Венгрыі і павінен быў даць падпіску пра маўчанне наконт таго, як там адбывалася «подавление бунта».

Бацьку сваё, сыну сваё...

Прачытаўшы добры артыкул пакуль што незнаёмай Зінаіды Драздовай, узяў у бібліятэцы яго «Выбранае» і апошні прыжыццёвы зборнік «Твар і душа», некалькі дзён жыў яго добрай, сапраўднай паэзіяй, тады і потым шкадаваў, што бацька і сваёй венгерскай «прысягі» не парушыў, і пра перажытае сынам нічога на сваім узроўні не надрукаваў...

Можа, напісанае ёсць?

* * *

Людзі з запаснОй душой.

Гэта пра тых, што працуюць у чужой культуры, а потым некаторыя вяртаюцца ў сваю.

Так думалася, знаёмячыся з манаграфіяй пра мастака Станіслава Жукоўскага, дарэчы, сябра Вітольда Бялыніцкага-Бірулі, а пры гэтым успомніўшы і Вацлава Серашэўскага, які, сябруючы ў якуцкай ссылцы з Уладзімірам Караленкам, пісаць пачаў па-руску.

Абодва яны, Жукоўскі і Серашэўскі, потым, калі гэта стала магчыма, вярнуліся на радзіму, у Польшчу, якая вызвалілася з-пад яе аўстрыйска-пруска-расійскай разарванасці.

Калі Жукоўскага я да апошняга часу не ведаў, дык Серашэўскага ўспамінаю ўдзячна за дзве кнігі, любімыя адна ў маленстве, зборнік апавяданняў «Ze świata», а другая ў юнацтве, «Zamorski diabeł», напісаная на кітайскім матэрыяле.

* * *

Даўней — хто ў лаціну, хто ў польскую, хто ў рускую мовы, бо са сваёю ходу не было.

А сёння літаратурны Ён ці Яна, што ў нас нарадзіліся, што нашай гадоўлі, роднымі каранямі публічна хваляцца, а кронамі шумяць чужымі.

Лічыцца ж хочуць і падаюцца ў свеце і дэмакратамі, і пісьменнікамі... таксама беларускімі. Сваякі!..

* * *

На тэлеэкране, у перадачы «Роднае слова» — кніжны кірмаш. Цэлае мора-акіян кніг, кніжак ды кніжачак, і ўсе такія шматкаляровыя, і ўсе на рускай мове!..

Сціплы паэт-журналіст снуе ад стала да стала, службова, з мікрафонам пытаецца, а дзе ж такія на яшчэ адной, на карэннай дзяржаўнай мове?.. I яму культурна, з падтэкстам адказваюць, што іх, маўляў, ніхто не пытаецца, што нашы людзі думаюць і гавораць, а значыцца, і чытаюць па-руску...

Бедны паэт з чорнай «грушай» мікрафона, з якою ён ветліва, як чужы, тыцкаецца да прадстаўнікоў розных выдавецтваў, бачыцца мне ў гэтым шматкалерным моры, як самотны ды ўпотай адчайны тапелец у дзіравай лодцы з адным вяслом або нават на нейкай дошцы з разбітага карабля... I не дзіва тут

захацець маладушна на белы велічны, музыкай урачыста раззвонены цеплаход, тым больш што з яго прапануецца драбінка, працягнутая рука братняй дапамогі: «Давай да нас, навошта табе захлынацца?!»

* * *

Тая аршанская бабка, што абуралася каля помніка Уладзіміру Караткевічу:

— Каму вы кветкі несяце, ён жа бэнэфавец!..

Чым гэта не «О, святая наіўнасць!» тое сярэднявечнай старэнькай праведніцы, што падкладала і сваіх дроўцаў у вогнішча пад Янам Гусам?..

* * *

Дубаўцоў артыкул пра ружовы туман, з якога вытыркаюцца адна-дзве галавы, нагадаў мне колішняга пераходнага шаўца. Хадзілі такія ад вёскі да вёскі, з торбаю свайго начыння, то рамантавалі зношанае, то майстравалі новае. Харчаваліся і начавалі ў тых, каму рабілі. І вось неяк аднаго такога будзяць — з жахам, але і з пашанай: «Уставайце! Вёска гарыць!» А ён сабе без панікі: «І ліха з ёю, я за свае капылы ды ў другую!»

Ну, а што як другое няма? — спытаемся літаратурна.

Цікавы публіцыст, мужны рэдактар, крытык, здавалася б, з невычэрпным маладым задорам,— Сяргей Дубавец пачаў ужо і азірацца. Па радыё «Свабода», у сваёй перадачы «Вострая Брама» нядаўна ён заклапочана трывожыўся і нібы нават наракаў, што

пасля пакалення «тутэйшых» настала нейкая паўза, ледзь не абвал, няма прадаўжальнікаў. Во як, толькі праз дзесяць гадоў!.. Горкі ў сваіх успамінах пра Талстога згадвае, як той казаў яму, што вось дажывяце да старасці, убачыце, што нічога на лепшае не змянілася, і заплачаце, «как бабы говорят, еще ручьистее».

Перадаю гэта з юнацкай памяці, ад першага чытання, з гэтым «ручьистее», што запомнілася найбольш.

А вось і цытата зусім дакладная:

«Без беларускай савецкай літаратуры ўся беларуская літаратура перастае існаваць. Праз дваццаць гадоў мы зможам дазволіць сабе выкінуць на сметнік Мележа, Танка, Караткевіча, Быкава. Да таго часу тыя, хто не пабываў у ружовым тумане, створаць новую літаратуру. А пакуль што, выбачайце, нельга».

Каб было дабро на свеце! — скажам па-вясковаму. Бо гэта ж не вораг нейкі піша, а сакавіцкае «Наша слова». Нехта Усяслаў Войніч, ці не прыкрыўшыся ваяцкім псеўданімам, падхапіў тую ружова-туманную эстафету і з прастадушнай руплівасцю сігануў далей. Ну хоць бы ўжо, як у людзей, адклаў тых «бедакоў» у гісторыю роднай літаратуры, а то ж проста на сметнік, каб самім — цікава, каму ж гэта? — свабодна рушыць у бездакорную вечнасць.

На Гомельшчыне, дзе Беларусь сутыкаецца з Украінай, якáсь бабуся, казалі, крычала на ўнука: «Їж сало з білым хлібом! А то будэш мэні, як той дурны білорус, істы одну свою бульбу».

Перабівацца нішчымніцай думкі, наіўнай пыхі, затоенай зайздрасці — і нудна ж яно, і так непатрэбна!..

* * *

З нейкага горада, ці то з Мінска, таксама ж разлеглага, ці то з Масквы, яшчэ куды большай, я выйшаў на далёкую ўскраіну і, як гэта зусім лагічна выглядае ў сне, апынуўся ў яшчэ далейшай чыстапо-ліцы, кудысьці чагосьці ішоў, не задумваючыся, пакуль не спыніўся і горад свой не ўбачыў на недасяжным даляглядзе...

А навокал не горы, а ўзгор'і, зялёныя з карычнева-жоўтым адценнем, падобныя і не падобныя адзін на адзін, роўныя і няроўныя, радасныя ў сонцы — ледзь не зіхатліва і зусім-зусім бязлюдна...

Я павярнуў назад, каб трапіць туды, адкуль выйшаў. І тут перада мною на дарозе, павярнуўшыся тварам да абрыву прыдарожнага ўзгорка — наш Міша, якога ўжо трыццаць тры гады назаўсёды няма... Я пазнаў яго са спіны ў нечым суконна-бурым, як тая жакетка або паўпалітак, што мы насілі ў маладосці, у чым я нават у войска пайшоў. Самапрадзеныя, саматканыя жанчынамі, толькі шытыя шаршаткай, дужымі рукамі краўцоў-мужчынаў.

Не памятаю, ці я не гукаў на свайго Мішу, ці гукаў, а ён ці чуў, ці не чуў. Чамусьці не павярнуўся. А мне як быццам хтосьці сказаў нейкае невыказнае «годзе!». І я — прачнуўся.

І яшчэ ўсё бачыў тыя зялёныя, карычнявата-сонечныя і нястрашна пустынныя пад чыстым блакітам узгор'і.

* * *

Як многа людзей, якіх я ведаю толькі па голасе, з радыё, па голасе і выглядзе, з тэлеэкрана, да якіх я прывык, а некаторых і палюбіў,— як гэта яны жы-

вуць сабе, гавораць, усміхаюцца, а пра мяне анічога-ніякага не ведаюць, ні разу нават не падумаюць пра маё існаванне?..

Недзе ў Талстога чытаў падобнае, толькі што ў дзіцяці,— як хлопчык стукаецца, каб увайсці, а на пытанне: «Хто там?» адказвае: «Я!» І яшчэ раз адказвае гэтым «я», з недаўменнем, што гэтага — мала.

Святую наіўнасць маленства ў старасць не пераняcеш. У нашым недаўменні штосьці ад суму адзіноты, якое ўсё больш ды больш...

* * *

Жыў чалавек, працаваў, сціпла, міжвольна падмацоўваў другіх сваім глыбока ўгрунтаваным аптымізмам, бачыўся такім надзейна даўгавечным. А ўжо і яго няма. Нечакана ды беспадстаўна.

І я, не быўшы на апошнім развітанні з ім, нават пачуўшы пра гэта са спазненнем, цяпер, ці не больш ужо як праз год, нібы без дай прычыны, здалёк убачыў ягоны твар, упершыню без шчыра прыязнай усмешкі, з назаўсёды закрытымі вачыма, з выразам мудрай, недасказанай значнасці, і ўспомнілася, як мала мы з ім, на жаль, сустракаліся, але як ад кожнай сустрэчы, гутаркі добра было на душы.

Ці не апошні раз такое было не ў Нацыянальным мастацкім музеі, дзе ён выдатна гаспадарыў і рады быў гасцям, і не выпадкова дзе-небудзь на вуліцы, а здаецца, што на святочным дзядзінцы Мірскага замка, у аднаўленні якога ён быў актыўна, дзелавіта зацікаўлены.

Юры Аляксандравіч Карачун.

* * *

Буду чытаць прысланы мне «Жыцця адвечны лад», другую кнігу трохтомніка «Беларускія народныя прыкметы і павер'і».

Пакуль пачаць, узяў з паліцы першую кнігу, «Зямля стаіць пасярод свету». Нібы толькі параўноўваю вясёлае мастацкае афармленне абедзвюх кніг, таленавіта зробленае Таццянай Беразенскай, чытаю прыемныя аўтографы складальніка, талковага руплівца Уладзіміра Васілевіча, на адвароце тытула зноў бачу імёны рэцэнзентаў...

Не ўпершыню з удзячнай пашанай думаецца пра фалькларыстаў, былых і сучасных, успамінаецца народнае пра пчаляроў: «святая работа», адпаведнае і тут, дзе працавіты і нястомны збор нектару несмяротнай паэзіі і мудрасці.

Хораша думаецца пра аднаго з рэцэнзентаў, Арсена Ліса. Мой даўні нелітаратурны сябар гаварыў мне гадоў два таму назад пра Арсена Сяргеевіча, што гэта самы інтэлігентны чалавек сярод беларускіх пісьменнікаў. Нікога іншага не крыўдзячы параўнаннем, я магу сказаць падобнае, бо ведаю гэта даўно, з нашых сустрэчаў, гутарак, з яго ных кніг ды артыкулаў, дадаўшы яшчэ пра глыбінную таленавітасць, высокую прафесійнасць, натуральную беларускую сціпласць.

Імя другога рэцэнзента — Генадзя Каханоўскага — у жалобнай рамачцы. І выданне прысвечана яго светлай памяці.

Яшчэ да таго, як мне прывезлі з Мінска падарунак, другую кнігу трохтомніка, я нібы ў нейкім невыразным, сумным прадчуванні, ідучы раніцай па ціхай прылясной дарозе, нечакана ўявіў Генадзеву маладую, прыязную ўсмешку, ягоны голас, бадзёры

і, здаецца, заўсёды з добрай навіною, убачыў светлы вобраз яшчэ аднаго, непаўторна значнага і патрэбнага чалавека, выдатнага работніка роднай навукі і культуры, такая заўчасная смерць якога прыгадала мне польскае: nie do odżałowania — пра боль, якім нельга перабалець.

* * *

Адчуванне ціхай удзячнасці кнізе, якая па-матчынаму верна, цярпліва чакала, калі я вярнуся да яе зноў.

Так я сёння гартаў двухтомнік Уладзіміра Дубоўкі, выдадзены неўзабаве пасля заканчэння ягоных... ой, доўгіх сібірскіх пакутаў.

На гэты раз захацелася перакладаў, у другім томе. І я з прыемнасцю чытаў Славацкага і Сыракомлю ў таленавітым перастварэнні старога, надзейнага майстра.

* * *

Уладзімір Содаль, «Сцежкамі Мацея Бурачка». Яна ўжо тут, гэтая кніга, даўнавата стаіць на дачнай кніжнай паліцы, але чыталася не цалкам, ад пачатку да канца, а прыхваткамі ці **выхваткамі** цікавейшых мясцін. Ды вось я вярнуўся да яе, чытаю ад пачатку.

Ва ўдзячным спакоі ды разбуджанай цікаўнасці думаецца пра шчырасць у працы гэтага работніка роднай справы. Ён, Содаль, спасылаецца сям-там на другога руплўца, Генадзя Кісялёва. І таму, відаць, што Генадзь Васільевіч рускі, а з нежынскага перыяду Багушэвіча адзін фотаздымак, адно прозвішча — Насэнка — светла гаворыць пра сябраванне беларуса з украінцам, у памяці маёй ажыў фотаздымак з вясны трыццаць дзевятага года,— украінец Нагірный і паляк Каўчыньскі, вобразы гэтых сяброў у салдацкай

масе, дзе мне таксама пашанцавала. На валынскага парубка Сэмэна, пачынаючага паэта, і лодзінскага ткача Уладка, проста добрага, шчырага хлопца, на два аўтографы пра дружбу, на дзвюх мовах.

Успомнім тое, што я ўжо неаднойчы згадваў у запісах, вычытанае ў Кузьмы Чорнага: тая кніга добрая, што наводзіць на добрыя думкі, і будзем чытаць далей.

* * *

Шанцуе на неспадзяванкі. От сабе, так сабе купіў у кіёску «Звязду», а там, гляджу,— разумны і сардэчны артыкул Таццяны Падаляк да дня нараджэння Якуба Коласа. А далей — Ніл Гілевіч захоплена і талкова піша пра сапраўды выдатнае апавяданне Івана Пташнікава «Тры пуды жыта».

Такое нам патрэбна, і заўсёды было, а сёння асабліва,— быць вышэй за драбнату ў адносінах, падтрымліваць адзін аднаго ў галоўным.

* * *

А калі ж ужо, як не ў старасці, гаварыць добрым людзям добрыя словы, якія ім заслужана належацца?

* * *

Зазірнуў у змест свайго зборніка «Пішу як жыву», яшчэ раз спыніўся на кароценькай, але змястоўнай анатацыі, напісанай рэдактарам, светлай памяці Валянцінам Рабкевічам, і журботна падумалася:

«А ці падзякаваў жа я яму як след і за гэта, і за добрае рэдагаванне кнігі?..»

* * *

У адной з запісак, на якія адказваў, выступаючы перад студэнтамі філалогіі педуніверсітэта, такое пытанне: «Каго з сучасных пісьменнікаў вы лічыце найбольш значным?»

Знячэўку адказаў успамінам пра тое, як унук, ліцэіст-матэматык, гаварыў мне ўлетку, што апошнім часам яму вельмі ўпадабаўся Алесь Гарун, якога ён ставіць для сябе «адразу пасля Максіма Багдановіча».

Гэтым ён, наш Гарун, і **сучасны**, як і ўсе тыя, што чытаюцца ды перачытваюцца сучаснікамі розных пакаленняў.

* * *

Адзін том **напісаны**, а яшчэ тры **дапісаныя**.

Такое можна сказаць ці хоць падумаць пра «некаторых» нашых эпапейшчыкаў.

* * *

Уладзімір Конан у сваім артыкуле ў ліпеньскім «Полымі» шкадуе, што Уладзімір Сядура-Глыбінны не пакаяўся за свае маладыя крытычныя выпады супраць літаратараў, так сказаць, недастаткова савецкіх. А пляменнік Валерыя Маракова ў сваім «лімаўскім» інтэрв'ю дадае сюды, да Сядуры, і іншых, якім трэба было б пакаяцца,— Антона Адамовіча і Юрку Віцьбіча. Яны таксама ж практыкаваліся ў казённа-пралетарскай аглабельшчыне...

Не скажу, што такое ў друку я сустрэў з якой-небудзь злараднасцю. Проста згадалася, што ў нас на ўсіх эмігрантаў — часам ды некаторымі — глядзіцца ледзь не як на святых пакутнікаў. І толькі.

* * *

У Купалу трэба ўчытвацца. Тады ў ягоных радках будзе спыняць увагу такая, для прыкладу, вобразнасць, як тут, у вершы «Мая навука», дзе душа паэта «купалася ў сонцы **вясёлкай распетай**», што я падкрэсліваю сваім захапленнем, убачыўшы яе, вясёлку, яшчэ раз інакш.

* * *

Ад невычэрпна свежай вечнасці на душу дыхнула тое проста прыродна-вяскова-жыццёвае ў «Ганне Карэнінай», дзе і выхад на паляванне, і касавіца,— што так блізка, родна хвалявала мяне, вясковага юнака, пры першым чытанні рамана.

* * *

Чаму не люблю даваць інтэрв'ю?

Каб не выказваць загадзя таго, што лепш у добры час самому напісаць.

* * *

Запісы, зацемкі, споведзі...

Ратуй нас, натуральны сэнс, ад старэча-недалужнага стрыптызу, а тым больш — ад бяззуба чорнай зласлівасці.

* * *

Столькі чытаць, цікавіцца, удакладняць, запісваць, перадрукоўваць, вычытваць — навошта гэта пасля васьмідзесяці?..

А гэта ж не толькі маё, пісьменніцкае. І дзед вясковы таксама ж варушыцца, робіць у гаспадарцы што-колечы, прымаючы ў ёй удзел. І менш, відаць, задумваецца: [redacted] навошта?..

* * *

Пазаўчора, нібы зусім абстрактна, нават весела, як ствараючы афарызм, падумалася, а ўчора і запісаў у блакноце для далейшага ўжытку: «Трохі пагрэцца графаманіяй».

А сёння вось і прымяніў гэта на практыцы, перапісаўшы дзве мініяцюры. І пагрэўся, і яшчэ раз пераканаўся, што калі ёсць адчуванне незакончанасці, недасказанасці, дык перапісванне — гэта не графаманія. Ну, [redacted] пацяпленне ад таго, што зрабілася, патрэбна.

* * *

Дыстанцыя ў часе дае пэўную аб'ектыўнасць у стаўленні да зробленага самім табою. Аднак ёсць тут і доля асабістай прыхільнасці, можа, нават і нейкая міжвольная ільгота, спагада самому сабе.

Але ж ёсць яшчэ ў нас, дзякуй Богу, і здаровая прыхільнасць да другога майстра, якая па-чалавечы не перашкодзіць тваёй аб'ектыўнасці ў ацэнцы зробленага ім.

* * *

Добра, калі творчыя прастоі, гнілое ныццё беспрацоўя робяць станоўчы ўплыў на далейшую працу, на якасць яе.

А калі не, калі яны, прастоі ды ныццё, толькі так сабе?

Мала таго што пакутліва ды агідна, дык яшчэ і непатрэбна?..

* * *

Заложнае чытанне беларускай савецкай прэсы дваццатых — трыццатых гадоў, яшчэ без спецфондаўскай абмежаванасці, у бéзладзе першых пасляваенных гадоў, разам з Валянцінам Таўлаем, нават можна сказаць: пад яго кіраўніцтвам, у Ленінскай бібліятэцы.

А пазней, у пяцьдзесят першым і пяцьдзесят другім гадах, ужо з Уладзімірам Калеснікам, чытанне заходнебеларускай і адпаведна польскай прэсы міжваеннага часу ў Вільні, у бібліятэцы Урублеўскіх літоўскай Акадэміі навук і, карацей па часе, ва універсітэце, карысна дапаўняючыся з Валодзем пэўным веданнем заходнебеларускага жыцця пры Польшчы.

Гэта была для мяне сапраўдная вучоба, як быццам на еўрапейскі універсітэцкі лад — слуханне лекцыяў, чытанне адпаведных крыніцаў, дый яшчэ ў большай свабодзе ўспрымання, бо без экзаменаў.

Калеснік пісаў пра тую маю **заложнасць**. Дадам яшчэ і пра натуральную **прагнасць** да ведання.

* * *

У кожнага з нас свая **мелодыя стылю**. Чаму ж ты хіліш, каб я спяваў абавязкова так, як ты?

Бывала, такое хацелася сказаць нават такому рэдактару, як Янка Скрыган, такому стылісту і чалавеку, з якім мы ўзаемна шчыра шанаваліся.

* * *

На старасць людзі **дзяцінеюць**, а я, так сказаць, **юна́чаю**. Можа, і менш хваляваўся нядаўна, чым ад надрукавання першага верша або выхаду першай кнігі, аднак і хваляваўся, і хвалююся, амаль па-юначы, ад новай публікацыі, потым яшчэ і перачытваючы...

* * *

Пішу алоўкам у блакноце, і ўспамінаецца, як у гады маёй вясковай творчай працавітасці ў акупаванай глухамані пісаў абы-чым і абы на чым, то ў школьных сшытках, то ў самаробных «гросбухах» з упаковачнай паперы, сшытых мамінымі «су́канымі» ніткамі.

Адзін з іх, з дробнымі запісамі, першым «зборам» мініяцюр, застаўся ў хаце з усім іншым дабром, на суседскі прагны расцяг ды на здзек паліцаям.

А другі, з якога я ў партызанскай зямлянцы дыктаваў штабной машыністцы Гіце свае аповесці для адсылкі ў Маскву, Максіму Танку, на хаду рэдагуючыся, той свабодна поўны тэкст **на ўсякі выпадак** спаліў у нашай печы з вялікай жалезнай бочкі. Бо і вясёлая ды вельмі не дурная Гіта ў паасобных наіўнасмелых мясцінах дыктанту прыязна, прыцішана пыталася: «Ваня, ты что — сумасшедший?»

Сёе-тое з майго вясковага архіва засталося, напісанае то пяром, то алоўкам, хімічным ці простым, і я з гэтымі папкамі не расстануся да канца.

* * *

З народнай мудрасці, даўно пачутае: «Лепш хай маё пяройдзе».

У «Слоўніку беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі» падаецца яно так: «Перайсці на карысць другому. **Хай маё пярэйдзе**».

Тут недзе блізка і кітайскае: «Пераконвай дурня маўчаннем».

Замест таго каб перад ім апраўдвацца.

* * *

Прыцемкам вяртаючыся дахаты, я не разгледзеў да канца ступенькі спуску ў падземны пераход і паляцеў на бетон, ажно звалілася шапка. Пачаў цяжка ўставаць, а з прахожых не хтосьці з мужчын, а жанчына з маладым голасам спынілася і спытала: «Вам памагчы?» Спачатку памкнуўся аднеквацца, а потым адчуў у сваёй старой лапе яе цёплую далоньку і не ад сілы яе, але ад пяшчотнай дабрыні даволі ўдала ўстаў, падзякаваў, нагнуўся падняць шапку... А жанчына тым часам знікла ў рэдкім, мітуслівым натоўпе, таксама ж спяшаючыся. Аднекуль і некуды — упершыню і назаўсёды...

Ці «красота спасет мир», ці дабрыня, якая так нам патрэбна?..

## *Дзевяноста дзевяты*

У апошнім леташнім «Нёмане» Адамовічавы «Записные книжки разных лет. 1984 — 1986 гг.». Чытаецца даволі туга, настолькі яно для самога сябе, вакол «Последней пасторали» і Чарнобыля. Але вось і жывінка, цікавая мне па-свойму:

«Погордиться малость, что ли?

Я не только предсказал брылевские «Нижние Байдуны», но подтолкнул Брыля к ним — своей статьей «А что же там дальше?».

И то же самое с быковским «Знаком беды».

Кожнаму ёсць чым паганарыцца, у гэтым выпадку яшчэ і мне,— тым, што ўсё ж такі, нягледзячы на сяброўскае «прадказанне» ды «падштурхоўванне», я ішоў перш за ўсё **ад самога сябе, па сваіх пазыўных**.

* * *

Ёсць у нас меншасці польская, яўрэйская, татарская, будуць, чаго добрага, азербайджанская, армянская... Рускіх так нягожа называць, бо яны ў нас **«подавляющее** меньшинство». А беларусаў гэтых як быццам і зусім няма. Учора, прачытаўшы ў «Народнай

волі» пра тое, як рыхтуецца перапіс і навошта ён задуманы, ажно ў душы пацямнела ад новага наступу інтэграцыйнай «хітрасці». Не дзіва часамі і слязе з'явіцца, калі слухаеш «Магутны Божа», як было ў мяне ўчора, на татарскім свяце ў Коласавым музеі.

* * *

Жыдліцкі коратка павіншаваў навагодняй паштоўкай, у пастскрыптуме дадаўшы: «Іду Тваім следам: пасля аперацыі перастаў бачыць на левае вока». Ад Няўважнага пакуль што нічога няма. У адказ на маё. А ўчора, на акадэмічнай сесіі, у даведніку «Персональный состав» прачытаў, што Навічэнка памёр... яшчэ ў лістападзе 1996-га. Жыва, сумна ўявілася наша апошняя сустрэча ў Кіеве, таксама ў лістападзе, але ж — у восемдзесят дзевятым.

Мой чэх, мой паляк, мой украінец. І такая раз'яднанасць!..

* * *

Думалася днямі і ўчора ўвечары зноў пра мае апошнія рускія кнігі «Сегодня и память», 1986 год, і «От сева до жатвы», 1988-ы. А сёння ўранні думаў пра... хочацца сказаць: багаты запас таго, што хутчэй за ўсё ў перакладзе кнігай мне не пабачыць. З чатырох зборнікаў там і «Мундштук и папка», і апавяданні, і мініяцюры, і эсэ, і ўсё гэта перакладзена, прапушчана цераз «Нёман». Пішацца, будзе новае і яшчэ, і таксама ж на вылежку...

І гэта ў мяне не сум па савецкім мінулым, але ва ўсе часы законнае жаданне літаратара друкавацца не толькі на роднай мове, але і на мовах іншых, у тым ліку і на рускай, што было ў мяне і чаго ўжо даўно няма...

* * *

Пытаюцца часам на літаратурных сустрэчах, ці хацеў бы я пражыць сваё жыццё яшчэ раз, нанава.

А я за сябе не ручаюся, што пражыў бы яго лепш, чым гэтае.

* * *

Адчуванне меры Талстой, што я нядаўна перачытаў у запісах Макавіцкага, лічыў для літаратара першаступенным абавязкам.

Можна дадаць: ва ўспамінах — таксама.

Нават на юбілеях і паніхідах.

* * *

Зноў «польскія беларусы». Не паленаваўся зверыць з двухтомным даведнікам «Literatura polska», колькі іх, старанна сабраных Мархелем у «Расу нябёсаў...», успамінаецца ў тым двухтомніку. Дваццаць сем з сямідзесяці. А нам усё падыходзіць — па прынцыпе геаграфічным, з меншымі і да прыкрасці большымі нацяжкамі ў сэнсе мастацкай вартасці і нашага абагачэння тымі «здабыткамі», якія літаратура іншая, калі злосна сказаць, змятае са свайго стала.

Такое адчувалася і раней, пры іншых нашых вельмі старанных уліках.

* * *

Крутая гушчыня слова і выбуховая магутнасць вобраза. І сярод тых разнамоўных ваяроў, што

штурмуюць сцены гэтай паэтычнай крэпасці, і наша светлая руплівіца Ірына Багдановіч.

Чытаючы яе пераклады «Крымскіх санетаў» Міцкевіча, зробленыя з розным поспехам.

* * *

Дзяжа — найсвяцейшае ў хаце. І нейкая няёмкасць адчуваецца, заўсёды мне адчувалася ў тым, што нявесту, дзеля праверкі нерушы, саджалі іменна на дзяжу. Хоць і прыкрыўшы кажухом, відаць, нават і паставіўшы дагары дном.

* * *

Прачытаўшы ў «Нашем наследии», як Ахматава падаравала Лукніцкаму спіс сваіх публічных выступленняў за 1923—1946 гады, падумаў пра свой такі спіс, пачаты з 1981-га, ад даведкі ў Саюз пісьменнікаў, хто колькі выступаў бясплатна, не цераз бюро прапаганды мастацкай літаратуры. Узяўся прывесці яго ў парадак. Здзіўляцца прыйшлося, перадрукоўваючы, колькі ўсё-такі выступаў, а гэта ж і праца была, да якое і рыхтаваўся, і значнасць, патрэбнасць яе адчуваў.

* * *

Заходзіў у «Бярозку», дзе Валодзя Ягоўдзік даў мне нумар свайго «Лесавіка». Сёння зранку, знаёмячыся з ім, быў хараша блізкі да адчування роднай,назаўсёды таямнічай веліччы свету прыроды, што чаравала з самага маленства, а цяпер шчымліва перагукваецца з тою зачараванасцю.

* * *

**«Дзед здырдзіўся».** Лазіў па слоўніках, шукаючы гэтаму слову, вядомаму здаўна, навуковага вытлумачэння. Толькі ў этымалагічным ёсць, а потым, весялей, у старога Насовіча: «Здырдзіцца — выцягнуць ногі».

А «стаць дырда»? Вертыкальна. Таксама ж наша, загорскае.

* * *

Пераглядаю трэці, чацвёрты і пяты тамы новага Збору твораў Купалы.

Ох, гэты цяжкі ды змрочны пяты том!.. З «паэзіяй» трыццатага — сорак другога гадоў, вельмі далёкай ад Яго таленту.

Ніякага асуджэння, а толькі жаль і позірк на падобнае і ў самога сябе.

* * *

...Чытаючы, як ён, Рэмезаў, у маленстве «прикладывался к мощам», выразна ўбачылася, як я, малы, з маміных рук, узяты пад пашкі, прыкладваюся да плашчаніцы, як быццам верачы ў яе сапраўдную незвычайнасць. А потым, само сабою, ведаючы цяпер, што мы з мамай і туды, у царкву, і адтуль ідучы па чатыры кіламетры, а назад яшчэ і прыцемкам, пра нешта ж і гаварылі ў дарозе. І так жа цікава стала: як, пра што гаварылі? Прыдумаць, неяк дагадацца можна, але ж яно будзе прыдумана!..



У «Полымі» з цікавасцю прачытаў «Маё мястэчка» Васіля Стомы-Сініцы. Цікавасць маю можна апраўдаць і тым, што гадаваўся я ў падобным часе і асяроддзі, але ж таксама і тым, што далёкі, заакіянскі аўтар сваё расказвае каларытна, як добры байдун. Дарэчы, чытаючы, я памятаў сваіх «ніжніх байдуноў». І думалася таксама, што калецтва, як і ў майго Рафалка, дапамагала гэтаму вясёламу назіральніку ў яго таленавітым апавяданні.

Толькі ў пасляслоўі ён палітычна вякнуў: «...у праклятай памяці 17 верасня 1939 году...» З якіх гэта пазіцый?..



А чаму мне трэба чытаць усё падрад, якая ў гэтым добрасумленнасць, перад чым ды перад кім? Асабліва калі ведаеш літаратурныя магчымасці таго ці іншага маэстра, які вось зноў надрукаваўся, тоўста ці крыху танчэй. Няўжо так многа вольнага часу, а ў перспектыве — дзён, гадоў жыцця?..

Сёння, пачаўшы дзень з Розанава (успаміны яго дачкі ў «Литературной газете») і Дзюрэнмата («Аварыя» ў «Крыніцы», у выдатнай Сёмухавай падачы), падумалася так, згадаўшы часопісную прозу тых з нашых, каго лепш не называць.



Днямі, як толькі прачнуўся, так і выскачыла ў памяці маміна: «На пахілае дрэва і козы скачуць». Як у народным мудрасць спалучаецца з вобразнасцю.

А сёння вось, у «Народнай волі», адна вясковая інтэлігентная патрыётка ўспамінае свайго настаўніка роднай мовы, які любіў паўтараць невядома чыё:

Выйдзі, бацька, падзівіся,
да чаго мы дажыліся!
Хата — бокам, клуня — бокам,
і карова з адным вокам.

Ёсць тут і яшчэ два радкі:

Няма сала, няма лою,
маж аладкі хоць смалою.

Аднак захапленне спыняецца на тым «адным воку».

* * *

Нібы жартуючы, крыху паблажліва, аднак калі на розум узяць, са справядлівай удзячнасцю думаем дый кажам: а хто нас чытаў бы, каб не графаманы?..

А тут вось, далей пераглядаючы добрую кнігу Ніны Гаўрош «Слоўнік эпітэтаў беларускай мовы», думаецца і пра мовазнаўцаў, з яшчэ больш сур'ёзнай удзячнасцю. Вось хто чытае нас, так многа і так уважліва.

І пра шчырасць іх трэба сказаць, бо гэта ж з ёю яны накіраваліся ў такую дарогу жыцця, дзе болей працы, чым наедку ды пашаны.

* * *

Во, і яшчэ адзін пнецца быць вельмі сучасным, усё ў яго «аповедзе» на адных намёках, на глыбакадумным недагаворванні... А я, прачытаўшы цярпліва, амаль пазяхнуў: не хапала яшчэ здагадвацца, што тут у цябе да чаго!..

* * *

...сказала, што ў Куляшова лермантаўскі радок «и звезда с звездою говорит» гучыць значна лепш: «зорка зорцы голас падае». Мне было прыемна пачуць гэта, бо і самому той радок Міхаіла Юр'евіча заўсёды адчуваўся ад збегу зычных цяжкаватым.

У «Нёмане» разумны артыкул Бугаёва пра Куляшова, ад чаго мне цьмяна прыгадалася нядаўна прачытанае ў «Навінах» молада-цынічнае, што Куляшоў, маўляў, аўтар верша «Камсамольскі білет» і яшчэ чагосьці іншага. Няўжо гэты верш, якім савецкая педагогіка доўга ды бязлітасна барабаніла па мазгах нялетніх чытачоў, трэба абавязкова згадваць так, нібы ён закрэслівае **ўсё іншае** ў таленавітага, высокакультурнага паэта?.. Нікуды ўжо не падзецца ад таго, што і ў Купалы, і ў Коласа, і ў маладзейшых, шануючы ў іх па-сапраўднаму **іхняе**, галоўнае, нямала вольнай-нявольнай палітычнай рыторыкі трэба адшалупшваць ды па магчымасці забываць.

* * *

**Абагдарыць** снеданне, абед, вячэру ці так які пачастунак,— абы-як падрыхтаваць тое, што з **Божага дару**. Такое чуецца ў гэтым слове з маіх родных мясцін. Няма яго ні ў тлумачальным, ні ў паўночна-заходнім слоўніках. А вось узяло ды само прыйшло з далёкай памяці.

* * *

«Пісаць для вечнасці» — гэта не з думкай пра вечнасць твайго слова, а з належнай настройкай на тое, што па-сапраўднаму жывое і застанецца жыццём.

І няма чаго кпіць з тых, хто ў гэтым паслядоўныя, не мітусяцца.

* * *

Недаперачытаная з дзён свежай жалобы кніга Навума Кісліка «Лестница лет».

Паспрабаваў нібы чапляцца: мова вывучаная, месцамі кніжная, не ўсюды ад сэрца, больш ад розуму. А потым і такое:

Льнут к стеклу любопытные листья,
тень нетерпенья дрожит на стене:
праздник предвидится в скромном жилище —
добрая книга лежит на столе.

. . . . . . . . . . . . . . . .

Выключим радио, двери закроем,
ясного света побольше дадим,
чтобы ничто не мешало — запоем
праздновать встречу один на один.

Строфы — першая і апошняя, але адчуванне ўсё. І так добра, люба вядомае.

Можна і з іншых вершаў выпісаць падкрэсленае на палях. Паэзія. Немітуслівa-ціхая паглыбленасць у яе. І робячы сваё, і памагаючы другім добрымі перакладамі. За што і ад мяне ў душы паўтарылася: «Дзякую!»

* * *

«Якое жыццё, такая і літаратура» — у сэнсе адлюстравання.

Значыцца, жыццё як мага ніжэй апусціць і туды ўжо цягнуць літаратуру?..

* * *

Пасмяротны Поўны збор твораў. На тое, каб пакараць маю памяць доказамі, колькі непатрэбнага і шкоднага я напісаў?..

* * *

Ноч. Уключыўшы святло.

Каб хацеў паплакаць па тых, што адышлі, дык і паплакаць няма з кім.

Апошні з найбліжэйшых — Шура, пляменнік, але амаль равеснік і блізкі, як брат, пра якога думаю, якога бачу прыступамі, зноў ды зноў. Штуршкі бываюць і такія, што ўспамінаецца евангельскае: «Душа моя скорбит смертельно». На такой ужо, здаецца, набліжанасці. І неяк нібы ненатуральна не страшна ад гэтага. Відаць, таму, што яшчэ не на ўзмежку.

* * *

Паэзію Пушкіна я любіў заўсёды. Вось перачытваю «Анегіна», упрыкуску два пераклады, Куляшова і Тувіма, час ад часу заглядваючы ў арыгінал. І адчуваецца — не перачытваю, а чытаю зноў як новае, з дакорам самому сабе, што не так, як належыцца, чытаў гэта, хоць і неаднойчы, але не ўчытваючыся ў глыбіню.

* * *

...Плачу ад Танінай закаханасці, ужо з дарослай унучкай, з яе чыстай красою параўноўваючы тую, душой паэта народжаную барышню, якая сутыкаецца юнай душой з суровай ды глыбокай, мудрай пяшчотнасцю нянінай народна-жаночай душы, якую Пушкін даваў нам, напэўна ж, бачачы сваю Арыну Радзівонаўну. Недзе ж чытаў я, што Радзівоніха была беларускай, што зусім верагодна ў тым этнічным пагранiччы. А памятаючы яшчэ і пра эфіопскае

паходжанне Аляксандра Сяргеевіча, чытаючы цяпер яго на трох мовах адразу, хораша адчуваецца агульналюдскае.

Вельмі шкада, што якраз на тым XV раздзельчыку, дзе маэстра Тувім усклікнуў, як на развітанне: «Tatiano, o Tatiano miła!», пераклад яго незваротна абрываецца, а далейшы, Важыкаў, гучыць не так дасканала ў паэтычнай адэкватнасці.

* * *

Інтэграцыя, аб'яднанне пагражае нам не толькі цынкавымі трунамі ды «отдельными фрагментами тел» з гарачых пунктаў недаразваленай імперыі, але і распрасторамі Поўначы і Сібіры, якія засумавалі па новых «нацдэмах» — катаржанах ды ссыльных...

* * *

Цыгаваць належыцца звычайна класікаў, а мне вось спадабалася ў маладзейшага ды знешне нягучнага рускага сябра па прафесіі такое, што нават і перакладу:

«Для таго, хто піша, што б ён ні пісаў, самае цяжкае — не сацыяльны прыгнёт, не цэнзура, не безграшоўе, не пахворванне, а час, калі не пішацца. А калі пішацца — няма ні хваробаў, ні безграшоўя, ні цэнзуры ці сацыяльнага прыгнёту, цяпер яму — дарогу дай! — ён зноў шчаслівы».

Паэт Федзя Яфімаў. Калі я званіў яму, мы гэтай мудрасцю, гэтым крэда падзяліліся весела, кожны, вядома ж, успомніўшы ў душы сваё.

* * *

Адчуваючы патрэбу і абавязак сказаць пра тое добрае ў бліжнім, што не павінна разам з ім пайсці ў нябыт, трэба ці ўмець, ці вучыцца асцярожна абыходзіць ягоную гразь, ці моўчкі, цярпліва перабрыдаць цераз яе, і думаючы пра блізкі надзейны бераг, зямлю, апору пад сабой, і падмацоўваючыся разуменнем, што гразі, такой самай ці большай, нямала і ў цябе самога, але ж не ўвесь ты ў ёй, а ёсць яно, добрае, светлае і ў табе, як і ў тым другім, пра каго ты хочаш сказаць неабходнае. Памагай табе Бог у цярплівым маўчанні!

* * *

«Мы **далі б** вам большую аўтаномію, чым **даюць** рускія». З такой нахабнай прыязнасцю гаварыў мне гэта пан Я., польскі прафесар, увосені 1987-га, ідучы побач **па нашай зямлі**.

Так думаюць дый гавораць і рускія дэмакраты, на свой лад, лічачы не менш нахабна, што і яны маюць нейкае права камусьці **даваць** або **не даваць**, грубай, бязлітаснай сілай не дазваляючы яму па боскаму, па чалавечаму праву браць належнае самастойна.

Такая ўжо доля слабейшых, калі іх няхай сабе і дзесяць мільёнаў, як нас, або значна менш, як лужыцкіх сорбаў ці кашубаў, або і значна больш, як украінцаў ці курдаў.

* * *

Два маладыя беларусы, журналіст і ксёндз, адказваючы па радыё на пытанне перыферыйнага слухача, ці муж і жонка, якія ў каханні ды згодзе пражылі

сваё на зямлі, і на небе будуць таксама разам, доўга і цьмяна блытаюцца ў біблійных цытатах, богведама куды падзеўшы сваё юначае, здаровае адчуванне гумару. Ну і што там старыя праведнікі будуць рабіць на тым небе, у штодзённым бясконцым святкаванні — у «дурня» гуляць, глядзець тэлевізійныя серыялы, маліцца ўдзячна за вялікапанскі догляд?..

* * *

Чытаючы па-польску славенца Драга Янчара, «Terra inkognita», успомніў пляменніка Шуру, як ён, маладзенькі тэхнік-лейтэнант у танкісцкім камбінезоне, абараніў ад магутна-нахабнага казака дзяўчынку з венгерскай сям'і, у якой спыніўся. Казак з лаянкай страшыў яго аўтаматам, а Шура сказаў, што «пісталет у мяне бліжэй», бо ў кішэні камбінезона, а не за плячыма, як у цябе... Злосць на злосць, аднак пасля абаронца быў вельмі рады, калі тая казацкая часць у той самы дзень пакінула вёску, у якой танкісты яшчэ заставаліся.

Ад Шуры, якому веру, як чыстаму юнаку, выхаванаму ў сям'і апальнага святара, майго намнога старэйшага брата, успомніўся памаўзлівы Н., які расказваў мне, як прасілася дзяўчо нямецкае: «Bitte, nein!..» Ён гаварыў такім чынам, што гэта было з некім другім, аднак можа быць і такое, што ён і сам па даўнасці так адмахваўся ад дакору сумлення.

* * *

Гэтымі днямі перачытваў «Крейцерову сонату» і «Казкі жыцця».

У Коласа, дзе розум сэрца, там найлепш. Шчасце любавання роднай прыродай, якое натуральна на-

водзіць аўтара на высокія, вечныя думкі. Адхіленні ў палітыку і літаратурнасць, якіх, на шчасце, мала, пагоды не робяць. А паэзіі ў гэтай прозе больш, чым у натужным ці распрэжаным рыфмаванні апошніх паэм і вершаў. Мова, дзе яна — пераважна — не «гарадская», не «вучоная», а па-народнаму, па-сялянску простая, чыстая, дакладная, з жывінкамі гумару, там чытаецца, можна сказаць, з асалодай. «Хто хоча жыць паўнейшым жыццём і вастрэй пранікаць у яго таямніцы-глыбіні, той павінен быць адзінокім і незалежным». «Чым, напрыклад, аса горш за авадня або сляпня! I то брыда, і то брыда». «Каб не было на свеце зла, дык кожны дурань лёгка трапіў бы ў рай».

Над Талстым — зноў здзіўленне сілай і дасканаласцю падачы слова. Закарэлымі струпамі на толькі што адкрытым лобе бачацца, адчуваюцца евангельскія эпіграфы і перад гэтай аповесцю, і перад «Дьяволом». Аўтар — такі заўсёды самастойны — тут як быццам хрысціцца, то на каленях, то лёгшы пластом, і адхрысціцца не можа, бо позна. А іншыя рэчы, у тым самым томе, «Смерть Ивана Ильича», «Хозяин и работник», «Отец Сергий», не менш глыбока значныя, да якіх таксама можна было б падабраць святыя эпіграфы, абыходзяцца і без іх. А яшчэ і недаўменне, што да балюча-палкай «Крейцеровой сонаты» патрэбна растлумачальнае пасляслоўе, перачытваць якое не захацелася.

* * *

Заклапочана аблыселы, вусата ўсмешлівы апошнім часам расійскі міністр фінансаў Задорнаў, як падала «Свабода», днямі заявіў,— ваяваць Расіі няма за што, у найпрасцейшым сэнсе — няма грошай.

Зашмат з'явілася тых, што «работают своим умом»,— усё капітальна раскрадзена.

I такая вось барацьба за мір.

* * *

Па маскоўскім тэлебачанні — кадры хрышчэння. З трайным панурваннем з галавой у падобнай да вялізнага цэбра рытуальнай пасудзіне. Малады мужчына, не відно, ці застрахаваны ад поўнай галізны трусамі. Потым — дзяўчынка шасці-сямі гадоў, а то і яшчэ менш,— зусім дзіця жаночага полу, без намёкаў на грудкі, з голенькім адтапыраным куточкам. Рука святара, які за кадрам, праводзіць на тварыку малое жэсты мірапамазання, а яна, якой, відаць, і не холадна, і не сорамна,— нарэшце ўсміхнулася.

Як гэта хораша — гэтая ўсмешка!.. Адразу так падумалася ўчора, а сёння вось зноў жыва паўтарылася ў свежым каляровым успаміне. Люблю дзяцей — дзяўчынак, хацеў, каб першым дзіцёнкам была ў нас дачка, за што быў узнагароджаны дзвюма, а потым яшчэ і ўнучкамі. Пяшчотная краса, якую ўспрымаеш са шчаслівым невытлумачальным адчуваннем, што яно — яшчэ не ўсё, што можна адчуць, а тым больш выказаць.

* * *

Гістарычнасць часу. Пачынаеш разумець яе не па сваіх дзядах, якіх не памятаеш жывымі, не па бацьках, хоць і іх ужо даўно няма, а па сёстрах ды па братах, якім, як у мяне, каму — па смерці лічачы — 107, каму 105, каму 100, каму толькі на два гады менш... Дый самому тым часам сабралася... Але ж я тут жывы назіральнік, думаю зводдаль.



Калі б ён пачаў хваліцца мне сваім прыёмам у Яна Паўла ІІ, я мог бы ледзь не таксама паганарыцца, як у 1983-м ляцеў з Познаня ў Шчэцін на тым самым анельска-белым верталёце, які абслугоўваў святога айца ў час яго нядаўняга перад гэтым гасцявання ў Польшчы. Духам ягоным верталёт той яшчэ ўсё поўніўся, вядома ж, асабліва ў паветры, якое — неба!..

Усмешліва лезе ў галаву. А сам чытаю пра Башкірцаву і яе раннедзявочы дзённік, у якім загуста ад непамернага арыстакратызму і ўсебаковай таленавітасці.



Сонечна. У сцягах нашых многа святла. Мноства людзей, якія ведаюць, што да чаго. З цынічнай дыктатурай, з авантурнымі «саюзамі», з небяспекай вялікай, ці не апошняй вайны, з пакутамі і смерцямі, імя якім чарнобыльскія...

Калі мяне з калоны заўважылі, прыязна замахалі рукамі, заўсміхаліся, кінулі «жыве Беларусь!» — голас мой у адказ слёзна ўздрыгнуў...

Так было ўчора. А сёння ўранні, толькі прачнуўся, адразу падумалася: колькі ў гэтым маім узрушэнні свайго, асабістага, а колькі агульнаграмадскага? Ну, а як гэта трэба і ці трэба дзяліць? Радасна, патрэбна мне адчуванне прыналежнасці да народнага, прыемна ад пашаны людзей, якіх я і сам паважаю. Добра было таксама прысесці на сходках шырознага ганка Палаца спорту, побач з незнаёмым мужчынам, у руцэ якога старчма стаяў высока і светла наш бела-чырвона-белы, а з гутаркі неўзабаве выявілася,

што гэта рабочы, ужо на пенсіі, што ў яго таксама ногі баляць, хоць ён і маладзейшы аж на семнаццаць гадоў.

Мітынгу, які быў падрыхтаваны, не адбылося, бо ўлады прадумана арыштавалі машыну з гукаўзмацняльнай апаратурай, а авалодаць увагай шматтысячнай грамады пры дапамозе ручнога рупара было немагчыма. Але свята адбылося. Тое, што агульнае і што ў кожным. Малітвенны настрой душы: дай Бог выжыць, каб без слязы ў душы сказаць, што Яна, Беларусь, жыве.

* * *

Усё расказваць, дазвання ўсё? А трэба ж нешта і для сябе пакінуць. З чалавечым правам на НЗ — недатыкальны запас.

* * *

Учора ў тэлеперадачы «Зеркало» — сюжэт пра Сахалін.

Пастарэлы Валодзя Сангі: «Сахалин не японский и не русский, он нивхский. Русские пришли сюда без приглашения...»

Якая цярплівая ветлівасць або яшчэ ўсё асцярожнасць!.. Бедны народзік, бедная мова, што памірае, што амаль і памерла. Бедны Сангі, як гаварылася, Ламаносаў свайго некалькітысячнага народа, самаахвярны асветнік, які не толькі алфавіт павінен быў наладзіць, але і «Онегина» пераклаў. Сумна, балюча было слухаць яго, глядзець на так даўно ўжо не бачанага, не чутага, міжволі думаючы не проста пра лёс слабейшых, але і пра нас, хоць нас і непараўнана больш, чым яго, Валодзевых, суайчыннікаў. Няхай сабе і ніўхаў — чалавекаў, а не гілякаў — сабак, як іх называлі тыя, што прыйшлі «без запрашэння»...



Нагала астрыжаны, вымуштраваны біцца, у моцных падкаваных чаравіках, каб «ворагу» балела як наймацней (капытам!). А гадоў, відаць, і васемнаццаці няма.

Фота ў газеце: два такія напалі на польскага журналіста. У нас.

Аказваецца, калі па Мрожаку, не толькі «дзядэк хцэ стшэляць», але і ўнукі таксама. Мінскія «баркашоўцы», змагары за «русский порядок» у Беларусі.

Яшчэ, здаецца, ці не пазалетась бачыў гэта ў газеце, а час ад часу ўспамінаецца. Як штосьці сімвалічнае, знак часу.



Ад ілюстрацыі ў дзіцячай кніжцы, дзе голуб на краечку драўлянага вядра з вадой да самага верху, захоплены хлапчук і таксама босая стомленая нестарая маці, што любуецца і голубам, і сынком.

Горка-балючыя думкі пайшлі да маладых пасляваенных удоў-салдатак, так жа нядаўна вясёлых дзяўчат, крута агрубелых ад гора і непамернай, і сваёй, і мужчынскай працы, ад галечы з малымі дзецьмі...



Перад ад'ездам з Мінска названіўся сябрам ды сяброўкам, зрабіў усё, што трэба было зрабіць у хатняй і літаратурнай гаспадарцы. Будзем уваходзіць, ужывацца ў сваё «ссыльнае», што камусьці іншаму ад гарадское тупіковасці бачыцца справядліва зайздросным.

Хоць вясна тут, пасля халадоў і яшчэ ў холадзе, бачыцца, адчуваецца ледзь не прастуджанай, сумнаватай у гэтай прастудзе.

* * *

У вясковай бабулі — гарадскі ўнучак з чорненькім, весела трапяткім шчанюком то на руках, то на каленях. Прысеўшы побач на лаўцы каля хаты, я хацеў таксама пагладзіць сабачку, а ён — брахаць і кусацца. Шасцігадовы сур'ёзны Валодзя:

— Скажыце яму, як вас завуць, дык ён кусацца не будзе.

Я сказаў яму сваё «дзед Ваня» і смялей пагладзіў па чорнай, вельмі ж рухавай лабацінцы, а ён і праўда не стаў кусацца. Нават і руку маю лізнуў. Каб я нагнуўся, дык і твару, відаць, дасталося б, як хлапчуковаму ўвесь час.

* * *

Холад. А ногі мае расходжваюцца. Апроч паходаў па малако, двойчы ўжо хадзіў надвячоркамі і на праходку. Лесам, то ў бок Студзёнкі, то Лузінаўкі. Прыгожыя назвы лясных урочышчаў. Як і само наша Крынічнае.

Май яшчэ ўсё не той па-сапраўднаму. Лес нейкі насцярожаны, нібы ў чаканні яшчэ горшага. Уранні было толькі плюс два, і на траве паблісквала пад сонцам шэрань.

* * *

Акула ў сваіх «Змагарных дарогах», якія больш успаміны, чым раман, як значыцца на тытуле, падае такі дыялог паміж станоўчым палякам Дэмарчыкам і яшчэ больш станоўчым беларусам Спарышом, за якім бачыцца сам аўтар.

«— Скажы мне,— спытаў Сымон,— які народ ты найбольш ненавідзіш?

— Немцаў.
— А пасля?
— Расейцаў. А ты?
— Насамперш маскалёў.
— А яшчэ каго?

Сымон адказаў не адразу. Дэмарчык спасцярог хістанне.

— Скажы, скажы, што ненавідзіш палякаў! — спанукаў Сымона».

А той пачаў выкручвацца...

Да пытання пра немцаў не дайшло, паляк не спытаўся.

З-за любасці да маці-Беларусі трэба ненавідзець і палякаў, хоць і няёмка аўтару ў гэтым прызнацца, і літоўцаў, трохі і латышоў, дый украінцаў, што такса-ма ж бліжэй да нас, чым немцы. Пра тых, геаграфіч-на далейшых, гаворыцца так, што каб іх не правака-валі партызаны, каб далі ім, немцам, панаваць у нас спакойна, дык яны, памардаваўшы жыдоў, камуніс-таў і ўсіх іншых, незадаволеных іхнім прыходам, былі б ласкавейшыя да нашых матак і бабуляў, не так шмат палілі б іх жыўцом у родных хатах, гумнах, драўляных цэрквах, разам з дзецьмі і ўнукамі. А да таго ж яны ашчаслівілі Беларусь паліцыяй, самаахо-вай і «кадэцкай» школай...

Колькі нянавісці трэба, каб жыць!

А жыць — каб ненавідзець?

* * *

Гэта і добра, што кнігу Сяргея Панізніка «Асвей-ская трагедыя» чытаю адразу пасля Акулавых «Зма-гарных дарог». Успомнілася, як у сваёй газеце «Зва-жай!» ён, Акула, злосна кіўнуў на «Я з вогненнай

вёскі...». Як быццам злачынствамі адных, сталіністаў, можна перакрыць, апраўдаць злачынствы другіх, гітлераўцаў. Галоўнае ж тут — было і засталося — у злачынствах супраць чалавечнасці, якім няма апраўдання.

* * *

Уранні салаўі пераклікаліся як быццам зусім-зусім у нашым агародзе — так блізка, на вішнях каля сеткі агароджы, на чарэшнях і яблынях, якія на градах, нават, здаецца, і на ліпе, за якою дарога і адразу бярэзнік.

— Цяплей ім тут, у зацішку, лепш, чым каля Нёмна,— сказала мая гаспадыня, калі я, вярнуўшыся ад надворнага ўмывальніка, паведаміў ёй у кухні пра новае ў нашым, яшчэ ўсё халодна-сырым жыцці.

* * *

Барыс Пільняк, «О'кэй», раздзел 23:

«...Сколько гениальных произведений создано на всяческих (и фактических и психических) чердаках и в голоде? — И писатель подобен птице: птице легче лететь, **когда ветер дует ей в грудь»**.

* * *

Чытаючы «Записные книжки» Ерафеева, мне былі цікавымі яго выпіскі з кніг, якія ён чытаў. Успомніў, штó тады падумалася, а цяпер паўтарылася ў памяці, чытаючы Пільняка: і цікава, і добра, і патрэбна яна, такая міжнародная, міжлюдская пераклічка,— для адчування агульнасці, для накірунку на чалавечае братэрства, мара пра якое жыла, жыве і будзе жыць як ідэал.

* * *

Ці будзе такі час, каб наймацней пашкадаваць, што таго чагосьці, што мог і павінен быў зрабіць,— ты не зрабіў, такі дзень, момант найбольшага праясцення свядомасці, каб усё-ўсенька ўбачыць як найлепш?.. А ўбачыўшы, што рабіць далей, плакаць ад немагчымасці не тое, каб паправіць усё, але ж хоць бы штосьці найбольш неабходнае зрабіць?

Тут скажам пра тыя латы і латкі, якімі можна дашткоўваць цэласць апавядання пра сваё жыццё, пра якія думалася ўчора.

Адчуванне, што ўсё магчымае табою зроблена (так гаварыў Карпюк Калесніку незадоўга да смерці), у мяне няма. Аднак і пра тое яшчэ большае, што трэба, можна і варта было зрабіць, думаецца не надта настойліва ды часта, відаць, і проста ад узроставай ды хваравблівай слабасці, ад натуральнай стомы, вычарпанасці і — дзякуй Богу — здольнасці бачыць межы сваіх творчых магчымасцяў.

Ногі ўсё-такі баляць, адмаўляюць паслушэнства, што адчуў не толькі ўчора пад вечар, але і сёння ўранні, хоць і пасля сямігадзіннай вылежкі. Больш за дзве гадзіны лежачы зноў, дабіваў Амерыку Пільняка, і з санлівасцю незразумелай, і з усмешкай успамінаючы анекдот, у якім немец, пакуль дайсці да адказу на пытанне: «Германія і сланы?» напісаў «шеститомное введение во слоноведение». Пра паўнемца Вагаў-Пільняка тут можна гаварыць з удзячнасцю за яго **цікавую грунтоўнасць**, аднак і гэтага крышку зашмат. Даб'ю тры дзесяткі апошніх старонак і каментар, у якім, відаць, будзе сказана, чаго аўтару твор гэты, у сукупнасці з іншымі, каштаваў — да пакутніцкай смерці ўключна.

А тады ў мяне будзе Мікола Гайдук з яго «Сполыхам» у «Беларускім календары» за 1981 год, што я ўчора «знайшоў» на адной з паліцаў. Пасля яго легендаў Беласточчыны і нечакана-заўчаснай смерці ёсць у мяне пэўнае адчуванне віны, што я праглядзеў, недагледзеў як след гэтага значнага, шчырага работніка, які руплівіўся так недалёка, па-суседску...

* * *

Учора апоўдні грэўся на сонцы, седзячы на ганку, упершыню тут адчуўшы гэтую раскошу.

Успомніў, як Пімену спадабалася ў мяне пра старэчае жаданне наглядзецца на ўсё перад разлукаю.

Да радаснейшага пераспеву птушак — яшчэ і пакалыханне белых і лімонных матылькоў.

Толькі ластавак яшчэ ўсё як быццам няма.

* * *

«Віцебскі летапіс» у «кнігазбораўскім» томе «Беларускія летапісы і хронікі», стар. 275:

«У год Божы 1660... **нарадзіўся вол** з дзвюма галовамі і сямю нагамі...»

Сем ног, дзве галавы... Але найбольшы цуд — нараджэнне быка адразу валом. Цікава — кумам быў сам храніст ці наш перакладчык з польскай мовы?

А ўсё ж і добра — хоць усміхнуцца, сустрэўшыся з такім сярод аднастайна, сумна крывавага ў старадаўнім тэксце.

* * *

Цікавая ўкраіначка Ірына Жыленка (у красавіцкім «Полымі»):

«Свет быў для мяне агромністым, і, згубленая ў яго зялёных хвалях, як конік у траве, я ўсё сюрчала ды сюрчала сваю ўдзячнасць Госпаду, пакорліва прымаючы жыццё з усім яго добрым і злым. Такія натуры спакойна прымаюць старасць і нават смерць».

Хораша такое, калі шчыра. А мне яно чымсьці блізкае.

* * *

Стары, з выгляду ўжо зусім нямоглы і назаўсёды інтэлігентна-сціплы чалавек бездапаможна паваліўся са сваёй гаспадарчай сумкай пры тлумнай пасадцы ў перапоўнены трамвай.

І я ў той трамвай прабіваўся і прайшоў, ды праз акно паспеў убачыць, як той стары чалавек цяжка падымаўся. Непасрэдна маёй віны не было, аднак ён днямі ярка ўспомніўся мне з далечыні маладосці, пасля таго, як і са мною нядаўна падобнае адбылося каля тралейбуса, у сутыкненні з маладою сілай...

Колькі ён, той даўні бездапаможны стары, праіснаваў зусім затоена ў глыбінях маёй памяці, каб іменна цяпер з'явіцца!..

* * *

Яшчэ не адышла належна пасля складанай аперацыі, гаспадаркай добра займаюцца пазменна гарадскія дзеці, змалку прывучаныя да вясковай работы, аднак ёй з кожным днём усё больш не ляжыцца ды не сядзіцца ў хаце.

— Гэта ж пакуль я ў бальніцы ляжала, дык яны, мае хлопцы ды дзеўкі, каб мне гэта лягчэй было, хацелі адну карову прадаць!

Расказвае і ўсміхаецца, паблажэлая красуня на сёмым дзесятку.

— А я, здаецца, і яшчэ адну купіла б, трэцюю. Я іх люблю, яны такія разумныя.

Так проста і так змястоўна. Народнасць пажаночы.

* * *

Пішу пад ліпай. Сёлета ўпершыню.

Добра было б — на ветрыку, у цяньку, каб не камарэча, незвычайна ўвішная ды куслівая, ад процьмы якой не схавацца ні ў доме, ні на дварэ. Добра было б таксама, нават вельмі добра, каб вецер, даволі пругка адчувальны, **нарваў** нарэшце дажджу.

Падкрэсленае слова — маміна. Часта думаецца, асабліва цяпер, старому, як багата рознага пачута змалку найперш ад яе.

* * *

Заходзіць сонца — цэлы бяздымны пажар, далёка за рэдкімі дрэвамі.

Яшчэ ўсё салавей.

А ўдзень ляцелі невысока два жоравы, курлыкалі — хоць ты бяжы за імі.

Няўжо гэтага мала?

* * *

Худы, заганяны калгасны каняга, як быццам нейкі маўклівы змоўшчык.

Колькі праз яго прайшло нелегальных паўлітраў? Конюху адзін, аратаму другі. І ўсе яны — міма каня, на радасць тым, што пілі, і тым, што ўдала ўправіліся з дачнымі соткамі.

А ён хоць бы пырхнуў!..

* * *

Быць сучасным і разам з тым верыць, што тое, чаго не змог надрукаваць цяпер, у свой час, выдасца потым. Ужо не ў сваім часе? Зробленае з надзеяй на час лепшы?

* * *

Колькі я страціў часу, пакуль не пісаў!..

А можа, якраз і нічога не страціў, але набыў,— якасна, дзеля таго, у тое, што вось пішу, як быццам наўздагон.

* * *

Калі чытаеш цікавую, таленавітую рэч, дык і жыццё мае разумны сэнс.

Як у мяне цяпер, чытаючы ў «Крыніцы» незнаёмага дагэтуль немца Зюскінда — «Басэтля».

* * *

І гэта ж трэба разумець, як дзве ластаўкі, блізенька седзячы на драціне, на фоне блакіту, проста сабе шчасліва маўчаць.

* * *

Нехта піша інакш, чым я, чым мне хацелася б. Ну і што? Спытаемся з адчуваннем прасторы, свабоднай і для яго, і для мяне. Прасторы і свежасці, як пасля задухі перад дажджом.

* * *

На ўчарашнім тэлеэкране з Косава.

Маці-сялянка, па-пажылому тоўстая, бежанка ў дарожнай стоме. Спыненая «грушай» замежнага карэспандэнта, і з нейкай адчайнай усмешкай, і са слязьмі сказала яму,— усё роўна мне, па-сербску ці па-албанску,— што ў яе з сынам толькі й багацця, што ў клунках, а яшчэ ж і не ведаюць, ці дома, куды вяртаюцца, што-небудзь засталося ад пажару або разбурэння.

Сын — крыху воддаль за ёю. Стомлены і маўклівы юнак. Цераз нашага Антося я адчуў яго горкую долю заўчаснага гаспадара, апекуна маці, у якога ні сродкаў якіх, ні вопыту.

Да болю шкада. Хоць боль гэты і мімалётны, здалёк.

* * *

У «Супружеской жизни» Эрвэ Баззэна, у пачатку рамана, дзе маладое каханне, прыемна думалася, як гэта можна пра ўсё гаварыць культурна і хвалююча,

без хамскага «сексу», якім некаторыя нашы, што неўпрыцям перасталі быць маладымі, намагаюцца сцвердзіць сваю еўрапейскасць.

І ўсюды ў яго натуральны, неназойлівы гумар, жыццядайная іронія, адзнака дабрадушнай сілы.

* * *

Што так — нягожа, што трэба стрымлівацца, паводзіць сябе заўсёды годна, прыстойна,— я ведаю гэта і сам, аднак, на жаль, усведамляючы яго тады, калі нешта не дый сарвуся. Найпрасцей сказаўшы — нервы. І адчуванне такое, нібы не сам я гэта зноў зрабіў.

* * *

У старасці па-дзіцячы здзіўляецца, як гэта вечна, правечна цякуць па зямлі розныя па велічыні, па красе ды такія шматлікія рэкі...

* * *

Пакуль зайсці ў жахлівы пераход, я быў паблізу, сядзеў на прыпынку, чакаючы патрэбнага аўтобуса, доўга сядзеў і прыглядаўся да выпадковых дзяўчат, суадносячы іх з тымі сарака чатырма, што былі два месяцы таму назад задушаныя амаль побач з гэтым людным прыпынкам, светлым у спякоце,— задушаныя пад зямлёй... То больш, то менш прыкметныя, то лепш, то горш адзетыя ў спакусліва загарэлай аголенасці, усе прыгожыя ранняй маладосцю, дзяўчаткі то з'яўляліся перада мной, то знікалі, у клопаце, у

шчэбеце сваім, здавалася, вельмі далёкія ад таго пякельнага моманту, тых крыклівых касталомных мінутаў. І ўяўлялася вельмі прыблізна, як пад нагамі людскога ахмялелага табуна хрумсцелі, ламаліся ножкі і ручкі, раздушваліся тварыкі і грудкі...

А ў дзень ад'езду я падаўся туды спецыяльна, адзін, каб з таго самага прыпынку, толькі ў падхмарным пахаладанні, пасля надоешняй грымотнай навальніцы прайсці пад зямлёю насупраць таго табуна, толькі ўяўляючы яго шалёна-крыклівы націск, нават, як гаварылася пасля, і з дзікім рогатам. Доўгі тунель, пераход пад шырокай вуліцай. На выхадзе, які тады быў уваходам, убегам, унаціскам маладога натоўпу з плошчы, з-пад дажджу і граду,— мноства прыступкаў, на якіх спатыкаліся і падалі ад слізготы таропкія, бездапаможныя ногі і ножкі, дзе ў жудасным крыку навалам клалася вострa, гвалтоўна-пакутная смерць. Гледзячы знізу на тыя высокія сходы, з папярэчнай паласою неба, як спадылба шырознага прычолку, балюча падумалася, якая была тут жахлівая пастка...

На сценах надпісы, фота, іконкі, свечачкі. Пад сценамі, з абодвух бакоў перахода, насцілы свежых і нясвежых кветак. Выхад пад хмарнае неба ўнізе амаль запоўнены людзьмі, у большасці маладымі...

Яшчэ ў самым пачатку трагедыі, у нашай дачнай далечы, чытаючы на тэлеэкране пералік задушаных, я ў нейкім цьмяным прадчуванні спыніўся на адным прозвішчы. Прозвішчы добра знаёмага, які нейкі час быў блізкі аднаму з маіх родных. Мог бы і сёння быць блізкім, каб не развод з яго дачкой. Памятаю — мой родны любіў зяця, разрыў перажываў бы нялёгка, калі б не памёр да гэтага. І зяць любіў цесця, пра што я спачатку здагадваўся збоку, а потым яшчэ больш упэўніўся, калі гэты працоўныя, шчыры вяско-

вы хлапчына, змалку бязбацькавіч, з бядой сваёю прыйшоў да мяне, шукаючы развагі і палёгкі. Пасля палёгка прыйшла ў другім жанімстве, тым больш — у нараджэнні дачкі.

І вось яна, тая дачка,— я вылічыў прыблізна: гадоў пасля шаснаццаці,— на фота ў кветках, ■ другім вянком вакол яе прыемнага тварыка — наддпісы на сцяне. Няхай наіўныя, недаўгавечныя, але ж і поўныя шчырага жалю. Ад якога і я дзерганууўся міжволі ў нячутным для кагосьці плачы...

А як жа тым, у каго найбольшая роднасць, дружба, каханне?..

Цяжка ішлося адтуль.

* * *

У кнігу пра Нёман мне было прыемна парэкамендаваць два невялікія ўрыўкі з Калеснікавай аповесці «Доўг памяці». Як яму з мамай і татам чароўна плылося супраць быстрай позневячэрняй плыні ў чайцы, на ўсяночную ў Ярэмічы, як зімою Нёман ператвараўся ў выдатны каток, і трэба было самому ладзіць канькі. Драўляныя, на канцы падкаваныя кавалкам тоўстага дроту. Гэты другі ўрывак з Валодзевай аповесці выходзіў на школьныя вершы Якуба Коласа, што так хвалявалі майстра канькоў і лыжаў родным словам, і я не стаў там лішне скарачацца,— такое нам трэба ды трэба...

Відаць, ад гэтага сутыкнення з сябравым малечым светам у памяці маёй замільгала даволі настойліва, прыемна ажыло і сваё. Наш загорскі сусед, вясёлы ды ўпарты дзядзька Паўлюк, прыйшоў да мяне, шасцікласніка, з польскім «элементажам» іхняй Любы і абураным здзіўленнем:

— Скажы, Іван, як гэта можна, каб такое ды ў буквары: «Папуга хцэ сера»?!

Прыйшлося растлумачваць, што ён, па-нашаму папугай, хоча сыру, а не таго, пра што дзядзька падумаў, не ведаючы, што наша «е» — гэта польскае «э».

Пасмяяўшыся разам са мною і тымі, хто быў тады ў хаце (не памятаю), дзядзька пайшоў з «элементажам» дахаты, а мне вось помніцца цэлых семдзесят гадоў.

Па малако ў пасёлачак я штодня прыходжу ў сем з мінутамі. А гарадскі гаспадынін унучак, шасцігадовы Валодзька, ужо або забаўляецца са сваім чорным шчанюком, або штосьці майструе на панадворку. Калі я першы раз здзівіўся з гэтага перад яго бабуляй, яна засмяялася:

— А Бо-о, дык ён жа спаць лажыцца ў пяць гадзін!..

Я лажуся таксама рана, каля дзесяці, то крыху «да», то «па». Бывае, і выцягну да пяці або шасці, а калі дык і ўзбуруся лішне зарана. Сёння, напрыклад, прачнуўся ў дзве гадзіны. І адразу з цытатай з таго Любінага «элементажа»:

Mała Zosia sobie śpi,
Coś się naszej Zosi śni,
Bo się Zosia we śnie śmieje...

Не ўсё тут, відаць, у мяне дакладна, а яшчэ адзін радок ці, можа, больш іх і зусім не ажывае ў памяці. Затое жыве, весела расчульвае маю бяссонную старасць цудоўны ўсясветны вобраз — дзіця шчасліва смяецца праз сон.

Той гістарычны перыяд справядліва называецца акупацыяй, паняволеннем часткі нашай радзімы «панскай Польшчай», дзе былі і прыгнёт, і беднасць, і асіміляцыя, і турмы для тых, хто супраць гэтага

змагаўся, і яшчэ недарэчна страшнейшае — для тых, хто ўцякаў у «вольную, шчаслівую БССР»,— турма, Сібір, Курапаты...

Але ж было і проста жыццё і ў нас, у Заходняй. Праца, нягоды, спадзяванні, матчыны слёзы, маладое шчасце кахання...

І такія драбніцы, як папугай, што хоча сыру, як усяночная над Нёманам, як усмешка малое Зосі праз сон...

* * *

Кожны робіць сваё. Яліны стаяць цёмна-зялёнай гушчэчай, нібы знарок дзеля таго, каб на іх найвыразней выдзяляліся беленька-стракатыя, тонка-стромкія ствалы маладых бярозаў і таксама тонка-вынёслыя сосны, што не паэтамі прыдумана, а сапраўды меднаствольныя. А ўсё гэта ад сонца! Так і хочацца ўсклікнуць ад захаплення. Кожнай раніцы зноў маладое, яно ласкава, весела дыханула на лясную прыдарожную сцяну сваім невычэрпна магутным святлом, зрабіўшы як найбольш прыгожым, як найдзяцінней радасным і гэты звычайны, просты закутак прыроды.

* * *

Тры дні таму назад прачнуўся апоўначы ад жахлівага сну. Мне трэба было выканаць загад: паставіць міну ў аўтобусе, дзе і жанчыны, і дзеці, і **той**, якога абавязкова, пад карай смерці абавязкова трэба знішчыць. Я так заблытаўся ў сваім партызанстве і чалавечнасці, што засталося толькі горка, балюча прачнуцца. І супакоіцца ў радасці, што гэта сон.

І тут не абышлося без кніжнага. Якраз чытаю Базэна, «Зялёны храм»:

«У меня нет кроликов, нет голубей, нет кур, ведь их нужно было бы убивать...»

І ад гэтага мірнага, свабоднага вегетарыянства ў настаўніка-пенсіянера, старога француза, мне прыгадалася сваё.

* * *

Выслухаўшы яго красамоўнае ды знішчальнае асуджэнне кагосьці з іхніх агульных знаёмых ці нават сяброў, той, хто слухаў, мог бы, меў бы права сказаць пасля паўзы, а то і адразу:

— Ну, а цяпер з такой самай адкрытасцю давай і пра сябе самога.

* * *

Даўні знаёмы, пра якога я даўно не чуў, аказваецца, знайшоў шчаслівае прымяненне свайму, як камусьці здавалася, дзівацтву — самастойнаму вывучэнню фінскай мовы: працуе сабе ў Хельсінках перакладчыкам. Выступаў па радыё «Свабода», талкова расказваў землякам, як там выглядае справа з заработкамі. І проста прыемна было пачуць яго, што помніцца чалавекам не толькі талковым, але і вясёлым, і прымавачку ёмкую пачуў, яўрэйскую: «Колькі ні пі — усё роўна рускім не будзеш!..»

* * *

Палітычна моднай даўгавата ўжо трымаецца Адамовічава «Вандэя», а літаратурна прыдатнае «сена на асфальце» слушна лічыцца за Стральцовым. Калі Алесь мог сказануць гэта ў дыскусійным запале, дык

Міхась, відаць, і не думаў, што такое просценькае стане вобразна крылатым.

А ёсць жа тут, у абодвух выпадках, і трохі таго, хто першы сказаў «э».

* * *

Учытаўся ўчора ў трэці том «Беларускіх народных прыкметаў і павер'яў».

Шукаючы спосабу на хваробы, сяляне, ад беднасці не ведаючы медыцыны, фантазіравалі на ўсе лады, з чаго цяпер, здалёк, можна часам і пасмяяцца, а то і здрыгануцца ад дзікасці, агіднасці некаторых спосабаў паратунку. А іх — процьма. Але ж і паэзіі колькі! Вобразнасць, моўныя залацінкі.

«Убачыўшы першы раз увесну бусла, дзікага гуся або жарабя, кажуць: «На ціхае лета, на буйнае жыта, а нам на добрае здароўе!» Ажно ўспомнілася запарожскае, пад бандуру: «На ясні зорі, на тыхы воды...»

Голую ведзьму засталі ў жыце — робіць зáламку. Гукнулі, спалохалі — кіне заламку ды як «суне на ўцекача, дык толькі цыцкі **лёпаюць**».

«Зязюля, кукуючы, заікнецца». «А так яны (грошы) **дзын** — і прападуць». «У нашых **даўнейшых** людзей было **вeранне**, што хваробы...» «Вада ў рэчцы бяжыць, бяжыць дый **задрэмлецца**». Ну, вядома ж, і іншае, больш.

* * *

Нашы вясёлыя тосты.

**Экалагічны**: «Няхай жыве беларуская птушка бацян!» Так уздымаў свой партызанскі самагон віцебскі рагатун Пятро, знатны мінёр-падрыўнік.

**Сацыяльны**: «Няхай жыве рабы вол, якога мы купілі ўсім калгасам!» Таксама Пятрова.

**Паэтычны** (як па Коласу): «Няхай будзе добра ў нашым кутку!» Чуў у Наваградчыне, ад шафёра грузавіка.

**Медыцынскі**: «Няхай жа пройдзе наскрозь!» Таксама з Наваградчыны.

**Сексуальны**: «Няхай жыве... (абавязковая паўзачка)... хто з кім хоча!»

Быў і такі, можна сказаць, **фальклорны**: «Шануючы вас, дарагія жанчынкі, так бы, здаецца, і паганяў каторую вакол хаты, як сваю! Так жа ў прадзедаў нашых было. Хай жа вам лёгка ўцякаецца!»

* * *

Каля студні — выварка з вадою. Сухмень штодня, штоночы такая, што жабы скачуць у тую высакаватую пасудзіну, шукаючы паратунку. Тры раніцы выплёхваў іх з вываркі, ужо і разгірачаных ад холаду. Уратаваная, яшчэ і пасядзіць у траве, адыходзячы.

Потым пашэнціла ўбачыць, як адна сядзела на краечку выварκі, задаволена адпачываючы. А праз дзень — зноў такая ж, можа, і тая самая, на тым самым краечку.

Трэба ж дадумацца. З бяды.

* * *

У нашу вёску з далейшай да сваякоў пагасцяваць прыходзіў на дзён колькі хлопец, які хараша спяваў. На пашы мы прасілі яго паспяваць, і ён ахвотна выводзіў сваім салодкім голасам такое дарослае:

«Какія воласы валністы, валнуюць сэрца, грудзь маю...» Уяўляю самога сябе, сябрукоў ды сяброва-чак, як мы сядзім на траве, заслуханыя... Каб жа такое фота ўбачыць цяпер!.. Ён мне, той хлопец, Данчыка нагадаў. Па голасе.

* * *

Прыемна чытаць пра тое, што памятаецца з маленства:

як вялікія зялёныя конікі скусвалі нам, пастушкам, бародаўкі на руках;

як маці прысмальвала мне грамнічнай свечкай па трошкі валасоў над вушамі, над лобам і на патыліцы, каб не баяўся грому, пярэпалаху;

як мы ад усіх пастушыных раненняў лячыліся аднолькава, сваімі цёплымі сцакамі, што так прыемна бачыць надрукаваным у навуковых запісах маэстра Сержпутоўскага.

* * *

«А навошта мне твой смурод?!» У адказ на вельмі шчырую споведзь. А ў падтэксце: і свайго хапае. «Давай лепш весялейшае!»

Тут тое, што чыталася калісьці ў Талстога: «Личное хорошо, когда оно полно жизни и страсти».

Гэта яшчэ і ад нядаўніх думак пра такую ці не такую, поўную ці асцярожную шчырасць у дзённіку. Які — хоцькі-няхоцькі — не толькі ж для сябе самога, тым больш што ты і друкуеш яго, хай сабе і не ўсё.



6 Зак. 46



«Калі жонцы ў цяжу сніцца зайчык, то сын будзе». Таксама сына абяцаюць сном пра іх жарабец, арол, бусел, дзяцел, сокал, шчупак. Скупей чамусьці з прадказваннем дачок: калі прысніцца качка, птушка маленька, рыбка маленечка...

Усё гэта ў Федароўскага. Толькі ў адным выпадку сам складальнік ды каментатар кнігі «Зямная дарога ў вырай» Уладзімір Васілевіч падае запісанае на Капыльшчыне: «Рыба ў сне — будзе байструк».

А імя пана Міхала Федароўскага, бачачы, дый вельмі часта, пад запісамі на розныя тэмы, нагадвае мне Мацея Канановіча, тое з іх сямейнай гісторыі, што бацькі яго сябравалі са славутым фалькларыстам. У «Крыніцы» — 50, хочацца сказаць: у нумары Федзі Янкоўскага, Валодзя Калеснік, успамінаючы Федзю, не абмінуў Канановіча добрым словам, назваўшы Мацея не толькі польскім пісьменнікам ды перакладчыкам беларускай паэзіі і прозы, але і чалавекам «таварыскім і мілым». Ад Валодзі, хутчэй стрыманага ў ацэнках, не схільнага да «сентыментальнічання», пачуць гэтае «мілым»,— ужо здалёк, не ў рукапісным, як было ў мяне ў першым чытанні, а ў друкаваным тэксце,— было неяк па-асабліваму прыемна.



Столькі пражыць, столькі прачытаць і толькі цяпер «адкрыць» для сябе, што тыя прыбудовачкі, відаць, каля кожнага беларускага гумна (калісьці!), куды ссыпалася мякіна, называліся ў нас **палоўнямі** — ад мякіны, **паловы**. Няхай сабе і з украінскай мовы ды песні, што тут сама весела выйшла з памяці:

Жито, мати, жито,
жито не полова.
Як дівчіну не кохаты,
коли чорноброва?..

* * *

«Дзярэчынскі дыярыюш» Міхася Скоблы, цікавы гістарычны нарыс пра гарадок, у якім мне не давялося пабываць, нямала пачуўшы пра яго ад Мацея Канановіча, бацькі якога з тых маляўнічых мясцін. Добрае веданне прадмета спалучаецца з жывасцю падачы.

А яшчэ ў зборніку артыкулы ды эсэ, у якіх таксама свой голас, сваё бачанне сапраўднага і не надта сапраўднага ў нашай літаратуры.

* * *

У апошнім ліпеньскім нумары «Литературной газеты» Леанід Жухавіцкі, сам сур'ёзны, наколькі магу меркаваць па яго выступленнях у друку, з пашанай піша пра Роберта Раждзественскага, з яго шчырай незадаволенасцю самім сабою, тым, што ім зроблена.

«В одном из его блокнотов осталась характернейшая запись:

«Буддийский ад.

Самая страшная казнь, самое жуткое наказание: человеку много раз подряд прокручивают его собственную жизнь, бесконечно повторяя страницы упущенных возможностей».

Написано так, словно это жуткое наказание он пережил еще при жизни».

У нейкай меры гэта знаёма і мне.

* * *

«Исповедь» Аўрэлія Аўгусціна.

Лінейка ў школе — тады ўжо, у другой палавіне IV стагоддзя,— як педагагічная прылада выхавання. Абтрэсванне з сябрукамі чужое грушы. А такое і выпісаць можна: «Я барахтался и кричал, выражая немногочисленными знаками, какими мог и насколько мог, нечто подобное моим желаниям — но знаки эти не выражали моих желаний. И когда меня не слушались, не понимали меня или чтобы не повредить мне, то я сердился, что старшие не подчиняются мне и свободные не слушаются как рабы, и мстил за себя плачем». Гэта — пра адчуванні немаўляці. І такое, і іншае, з матчынымі грудзьмі, з тою лінейкай, з тымі чужымі грушамі — усё так хораша, жыццёва гаворыць пра талент гэтага афрыканскага рымляніна, пра сілу і жывапіс лацінскай мовы, што вось і дагэтуль **не мёртвая**, калі яе добра падаць перакладам і каментаром. І аўтараў пафас, малітвенны асабліва спачатку, можна цярпець з разуменнем — дзеля галоўнага ў кнізе.

* * *

Да Аўрэлія Аўгусціна, прачытаўшы кнігу Аляксандра Меня «Сын человеческий», некалькі дзён успаміналася, як ён высока выказаўся пра «Жизнь Иисуса» Рэнана, і думалася, як мне ў раннім юнацтве ўсё-такі шанцавала — найчасцей выпадкова — на добрыя кнігі. І гэта я чытаў, няхай сабе і трохі зарана на грунтоўнае разуменне, на ўсю глыбіню. Нядаўна трымаў у руках «Пол и характер» Вайнінгера, таксама ж тады прачытаны, але жадання перачытваць не адчуў. А Рэнана перачытаў бы.

* * *

І нявыспаны сёння, і чытанне не пайшло, і работы мая гаспадыня не дала, сказаўшы: «У лес пайдзі. Потым будзеш успамінаць». І я пайшоў. Не так у лес, як па пясчанай дарозе, трохі над Нёмнам, з лугам абапал, а потым і лесам, успомніўшы адзін, даўні ўжо, адвячорак, калі я даўгавата пасядзеў на высакаватым сонечным беразе, развітваючыся з ракой перад ад'ездам у горад.

Збочыў з дарогі лясной на лугавую. І тут убачыў чалавечую спіну, прыгорбленую над нейкай работай. Чалавек пачуў маю хаду, азірнуўся, і я пазнаў яго. Паздароўкаўшыся, сказаў:

— А я падумаў — рыбак. Але ж і Нёмна каля вас няма.

— Ды не, я кароўку пасу.

— І кошык пляту, як заўсёды,— дадаў я ў тон яму.

Я ўжо яго заставаў такім чынам неаднойчы, у розных месцах, з каровай на повадзе, або і так, свабодна, ды з новым кошыкам, то пачатым толькі, то ўжо і з ладнай густой зелянінай лазінак уплеценых на белых рабрынах асновы.

Не ўваходзячы ў большую гутарку, я пайшоў лугам далей. Памалу, залажыўшы рукі назад, счапіўшы іх правай жменяй за левую запясць. Не па дарозе ішоў, а па зялёным, мяккім цаліку някошанай ды не спасвенай травы, паміж высокай сцяною лесу і наднёманскім кустоўем. І цішыня такая, і сонечна без спякоты, і ленасна ў патолі, і не ў лішнім роздуме...

І тут у адну маю далонь, павернутую навонкі малою місачкай, ткнулася штосьці цёпла і сыра казытліва, і я — нібы спалохаўшыся — вёртка азірнуўся. Трэба ж так! — знаёмая чорная карова, якой

не відно было за кустамі, зусім нячутна па маёй старэчай глухаватасці дагнала мяне і, відаць, па прывычцы хацела штосьці ласае лізнуць ды чмякнуць з маёй далоні-місачкі...

Я ўзяў яе за невялікі рог і павярнуў назад. За ёю вужам поўз па траве доўгі повад, і я падняў яго на павароце не за самы канчар, а так, каб замахнуцца, сцебануць каровіцу па крыжы,— туды ідзі, назад, дзе гаспадар!

А ён ужо ішоў у наш бок з усім сваім прыладдзем, на новы прысяд.

— Гэта яна прывыкла заўсёды на повадзе,— сказаў яшчэ здалёк,— дык і за вамі вось падалася...

Малагаваркі, ён не дасказаў, што яна нас, чаго добрага, пераблытала, ці што, а мне прыпомнілася яго мажная, вясёлая жонка, з далоні ці з прыгаршчаў якое гэтая маўклівая пястунка чым-небудзь і ласавалася, відаць, неаднойчы.

Вось і буду помніць. Нават і запісаць такое захацелася. І буду чытаць далей, што перад выхадам без цікавасці адклаў.

* * *

Над гэтай лацінскай, найстарэйшай для мяне «Споведдзю» ўспамінаю талстоўскую — тое ашаламляльна-радаснае ўражанне, якое яна зрабіла на мяне. Юнак на семнаццатым годзе, я нёс яе з мястэчковай пошты, выпісаную з эміграцкага выдавецтва «Добро» ў Варшаве, і, на хаду распакаваўшы бандэроль, прыхваткам чытаў на сцежцы ўздоўж гасцінца, так добра вывучанага за чатыры школьніцкія гады, а цяпер бязлюдна пустога.

«Исповедь» Талстога ўразіла мяне сваёй незвычайнасцю, тым, чаго не сустракаў ні ў кога іншага з пісьменнікаў, хоць ведаў іх ужо і тады нямала.

А вось другую «Исповедь», Русо, значна пазней прачытаную, пакуль што не ўспамінаю.

* * *

Некалькі дзевак толькі што ахрысцілі ў праваслаўную веру, і яны цераз знаёмых афіцыянтак ушчыліліся ў рэстаран, на багаты ўрачысты банкет, і так вельмі ўдала **адзначылі** сваё свята дармовым выпіцьзакусіць. **Благодать крещения** па-сучаснаму...

Яназіраў іх радасць з-за недалёкага стала, ведаючы, пачуўшы, што там, у весялосці, да чаго.

Успомнілася, чытаючы, з дзевяноста трэцяга года.

* * *

Такая вясёлая недарэчнасць,— каб жа сабрацца **на тым свеце** нашай кампаніяй родных, сяброў, добрых знаёмых ды пасмяяцца, паспяваць, паўспамінаць, распытаць, як **там** у іх, што было, пакуль я далучыўся, расказаць, што было ў нас, **на гэтым свеце**.

Брат Міша ўспамінаецца чамусьці з Чайкіным, былым партызанам, што прыжаніўся ды застаўся ў суседняй нам вёсцы. Два філосафы, яны ехалі з Міра, адзін у Трашчычы, другі ў Маласельцы, абодвум у адну дарогу, і каля Пясочнай зусім нечакана пакупаліся. Воддаль ад вёскі адзін песачлянін, выдзеліўшыся з бацькавай гаспадаркі, пабудаваўся каля высокага ўзгорка, на якім у «мікалаеўскую» вайну стаяла царская артылерыя, нават і сажалку выкапаў

каля сядзібы, на крыніцы. Філосафы ехалі, гаварылі, хоць і цвяроза, але весела лежачы на возе, а кабыле тым часам захацелася піць. Яна сабе павярнула з гасцінца ніжэй, да сажалкі, і, пакуль дапяць да вады, абярнула ў яе воз з двума гаварунамі. Як яны паганялі яе, як самі беглі абапал воза, кожны адной рукой учапіўшыся ў цапок, беглі, каб не ацэпнуць мокрымі, бо гэта ж было позняй восенню. Бачу іх, чую іхні смех — з саміх сябе!..

Ды ці мала чаго прыгадалася б на сустрэчы. Вось, чытаючы ў Аўгусціна такі чалавечы, сыноўні сказ пра смерць яго маці, мне раптам зноў успомніўся слаўны ў сваёй змястоўнасці Шура, што адышоў найпазней, а за ім згадаліся другія з родных і сяброў, пра сустрэчу з якімі іменна **там**, дзе я весела далучуся да іх, зноў, не ўпершыню ўжо нібы казачна ў неверагоднасці, але й зусім выразна ды праўдзіва, як у іншай, новай рэчаіснасці — думаю, уяўляю... Яны пераважылі, іх там больш, чым нас засталося тут, людзей аднаго пакалення, адной, толькі нашай сучаснасці, нашага месца ў вялікім руху жыцця, якое не павінна ўзяць ды так нікчэмна проста закончыцца павальнай, шматлюднай смерцю.

* * *

Блажэнны Аўгусцін, «Споведзь», кніга дзесятая:

«Хорошие люди с удовольствием слушают о бедах, пережитых другими, и радуются не бедам, а тому, что они были, а теперь их нет».

Як гэта проста, мудра, празрыста хораша. І як хацелася б пачуць гэта на боскай лаціне.

А вось узвышаная вобразнасць:

«Пусть взирают на одно с радостью, а на другое — с сокрушением, пусть из братских сердец, как из кадильниц, возносятся пред лицо Твое гимны и рыдания».

Выпісаў, і ледзь не адразу здалося, што ранейшае, пра «хороших людей», усё-такі лепш.

* * *

А шостай гадзіне, калі я выйшаў на ганак, каб ісці да ўмывальніка, яшчэ быў прыцемак, цямнейшы пасля хатняга электрасвятла. А на паўночным захадзе нечакана, пакуль я паспеў падумаць, што гэта нармальна, заходзіў над лесам вялікі ад дагарання месяц.

Толькі праз гадзіну і пятнаццаць мінут, калі мы з суседам, як штодня, акуратна сустрэліся каля яго дачы, каб разам ісці ў пасёлак па ранішні сырадой, над тым пасёлкам, далёка за ім узыходзіла сонца. Таксама вялікае. Аднак яно не згасала, але спакваля разгаралася — на цэлы дзень, які ці не надоечы стаў роўным з ноччу.

Можа, і гэты мой запіс — яшчэ адна ўспышка на дагаранні вогнішча жыцця і пэўнага таленту, пра што не вельмі сумна думалася днямі?..

* * *

Дачытаў Аўгусціна. Добра даведвацца, напрыклад, пра такое, што Петрарка малафарматны спісак «Споведзі» меў заўсёды пры сабе. Пра гэта ў «Приложении». Кнігу, з увагі да мінскай хатняй цясноты, пакідаю тут, а наогул беручы, яна назаўсёды стала, займела сваё месца ў маёй удзячнай памяці.

* * *

Тупіковыя моманты, калі становіцца ясна, што ты не ўсё прачытаў, што варта прачытаць, што можа быць цікавым і патрэбным у пажыццёвай вучобе, абавязковай для літаратара.

Так я, каб не пакутаваць ад пустаты душы, успомніў прывезеныя Хрысцяй Лялько экземпляры яе часопіса «Наша вера», уступна ды павярхоўна прагледжаныя ў тыя дні, калі ў мяне сабралася многа чаго чытаць, і пастаўленыя на паліцы на «крыху пазней». Успомніў перш за ўсё артыкул Уладзіміра Конана пра ксяндза Адама Станкевіча. З цікавасцю прачытаў яго, успамінаючы Валянціна Таўлая, ягоныя апавяданні мне пра гэтага незвычайнага чалавека, да якога Валянцін ездзіў у Вільню як супрацоўнік Купалавага музея і вяртаўся не з пустымі рукамі. Так засеў у маёй памяці рукапіс «Паўлінкі», прывезены ад айца Адама. Пэўна ж, прывозілася і яшчэ штосьці, як былі і апавяданні пра тыя сустрэчы, няхай сабе і забылася многае ў падрабязнасцях, але ж адчуванне значнасці, змястоўнасці тых сустрэчаў паэта са святаром, закаханых у роднае слова, у слова Купалы, у памяці маёй жыве.

Бывае і так, што нешта ў часопісе або ў газеце апускаеш таму, што здаецца неабавязковым для прачытання. Так з двух апошніх «ЛіМаў», прывезеных разам, я прамінуў артыкул Алеся Бадака пра творчасць Віктара Гардзея, а цяпер, апынуўшыся ў даўно знаёмым стане чытацкага тупіка, пачаў і гэта чытаць, а ўчытаўшыся, і задумаўся пра Віктара, сёе-тое прыгадаўшы.

Скажам, тое, як я, гасцюючы ў Калеснікаў, па Валодзевай рэкамендацыі чытаў Гардзеевы вершы, да таго часу малавядомыя мне, і мы гаварылі пра іх з

уцехай старэйшых. Запомніліся з аднаго верша тале-навітыя радкі, якіх даслоўна не памятаю, але вобраз, які яны нясуць, удзячна помніцца. Штосьці так: калі мама насіла мяне пад сэрцам, хтосьці перайшоў ёй вясковую вуліцу з поўнымі вёдрамі. А ён жа, як піша Бадак, без мамы застаўся ў маленстве, і гэта для мяне, пачутае цяпер, горка пераклікаецца з поўнымі вёдрамі шчасця...

Раніца мая нечакана запоўнілася цікавым чытаннем, з якога вартым светлай памяці ўбачыліся святар і паэт у адным выпадку і два паэты ў другім.

* * *

Уранні, раней чым выйсці ў пасёлак, заглянуў у падараваны Кудраўцом шыкоўны том «Познія яблыкі», прачытаў першы раздзел «Сачыненне на вольную тэму». Нікуды не дзенуся, буду перачытваць.

...Дзіўна, што робіцца з памяццю?!

Пакуль маладая ўдава не спусцілася з уціснутага воза сена ў рукі суседа, пакуль ён не данёс яе да бліжэйшай капы, а яна не зашаптала, тулячыся да яго: «Ой, Ігнат... І даюся, і баюся...», мне ўсё думалася, як жа гэта так здарылася, што я не чытаў **такога** рамана?.. Поўная ўпэўненасць, што чытаю першы раз. І толькі пасля гэтай сцэны з тымі «даюся — баюся», што нібы ключык ад усяго, у памяці стала разварушвацца іншае, тое, што пайшло пазней, з паваротам да раскалупвання ў памяці і ранейшага.

Збоку камусьці можна было б і сказаць: а што ты хочаш, столькі за век прачытаўшы, можна і пазабываць. А тут жа, мяркуючы па даце пад творам, толькі пятнаццаць гадоў прамінула і — такое... Ці ў гэтым

ёсць тое, што называецца проста: яго не толькі чытаць, але і перачытваць можна і хочацца?..

...Успомнілася Верачка Палтаран,— як яна хораша, шчыра цешылася з удачаў. У Пташнікава — Алімпіяда, у Кудраўца — Вапшчэткі. Як пра жывых гаварыла. Назаўсёды жывых.

...А можа, яшчэ і так: чаму ўласціва перачытвацца, тое мае і ўласцівасць лёгка забывацца?..

...У ціхага, слаўнага Толі мова такая сапраўдная, наша. Прыкладаў мноства я на палях паадчыркваў,— і ў «Сачыненні...», і на іншых старонках,— а яны ўсё яшчэ ды яшчэ — залацінкі. «Ці гэта ты, Ігнат, ці так сабе хто?» «Гурбячок зямлі, нашаткаваны кратом». «Смяецца, распеnecessaryразаўшы зубы на ўвесь рот»...

* * *

Пачуцці, у тым ліку і пачуццё чалавечнасці, у палітыцы не шануюцца. Іх называюць эмоцыямі, як каханне сексам.

«Нельзя отталкиваться от эмоций».

Чытаю гэта ў газеце і недаўменна, у думках пытаюся: ад чаго ж адштурхоўвацца трэба,— што ў нас вышэй?..

* * *

Параненаму ў Дагестане юнаку-салдату далі пагаварыць з мамай па тэлебачанні. З забінтаванымі рукамі, у чысценькай пасцелі ён пачаў гаварыць, збіўся з тону і расплакаўся. Як мог бы расплакацца мой унук-салдат і мноства іншых юнакоў.

Пазней, у другой перадачы,— галасы патрыятычнага абурэння: як можа плакаць рускі салдат?!

А гэты плач — над патаптанай чалавечнасцю — вышэй за ўсё. Калі б нам перш за ўсё ды наймацней, найясней адчуваць.

* * *

Лёг позна, добра заснулася, і спалася б яшчэ, ды вось — адзін толькі раз — загадна гаўкнуў сабака, і я прачнуўся. Пяць гадзін. А сабакі — няма. Ён сваю справу зрабіў.

І такое яшчэ:

У кароткім сне пад раніцу, пасля апошняй у Крынічным бяссонніцы, вызваляў птушыныя ножкі, заблытаныя ў конскай валасні на дроце каля слупа агароджы, а птушка, не памятаю якая,— загаварыла са мною па-чалавечы. Не памятаю, пра што, але прачнуўся весела.

* * *

...Казаў, а раней, чым сказаць, радасна думаў: дачушка, а потым і ўнучка ў хаце — гэта ж свежы букет на стале.

І цяпер ва ўяўленні, праз нервы, затузаныя мноствам пражытых гадоў, часта з адчайным болем з'яўляецца, як найбольшая крыўда, абраза, смяротны грэх — растаптаны, загублены жывёльным мужчынскім гвалтам вобраз дзяўчынкі ці чыстай дзяўчыны, не дацвіўшай свабодна да шчасця кахання і мацярынства.

Такое днямі прыйшло рэзкім святлом бацькоўскага болю, калі на юбілейным вечары Рэрыхаў аглядаў

дзіцячы «фальклорны» канцэрт, бачыў многа святых вачанят, весела расчульваўся пацешнай наіўнасцю танцаў, няспеласцю галасоў, то ў харавым гурце, то ў сольнай самастойнасці.

...У палавіне вечара нестарая жанчына ціхенька, асцярожна ўвяла ў залу і пасадзіла на вольнае месца ў першым радзе жанчыну старую, прыгорблена накрытую цёплай хусткай, і сама прысела побач. Калі канцэрт закончыўся, маладзейшая жанчына, таксама ціха, асцярожна вывела старую і не вярнулася, відаць, павезла яе дахаты. А мая незнаёмая суседка ветла шапнула мне, што гэта бабуля на ўнучку прыехала паглядзець. На тую, што ў радасці бачыў і я, хоць і не ведаў, каторая ж гэта найлепшая. Артыстачка.

Блаславёная краса маленства, у якой ты сёння жахлівай небяспецы!..

* * *

На вечары я выступаў. Падаравалі вялікую ружу і маленькую кніжыцу вершаў Мікалая Рэрыха з загадкавай назвай «Цветы Мории». Дома гэтай «Мории» ў слоўніках не знайшоў. І смаку ў вершах, калі зусім па шчырасці, не асабліва дабраў. Найлепшы — «Наш путь», зноў жа пра чысціню ды хараство маленства, якое не трэба, не можна абражаць. А далей, у іншым вершы, пад назвай «Я сохраню», надоўга спыніў увагу радок:

Мысли я погружу в тишину.

# *Двухтысячны*

Проста бутэлька, невядома, ад чаго. Яе, глядзі ты, яшчэ і не адмыеш. А то і з пашкоджаным рыльцам, на пункце не прымуць. Нехта шпурнуў яе понізам або і плазам пакаціў па лёдзе так удала, што ад рачнога берага яна не блізка… А можа, і добрая, што тут здалёк здагадвацца, трэба зірнуць.

Трэба дык трэба. Пайшоў. Адзін дагэтуль на паркавай дарожцы. І праваліўся, крыху не дайшоўшы да знаходкі, ужо на даволі глыбокім. Аднак, **на шчасце**, дзірка-палонка ў даўнавата адліжным лёдзе аказалася круглай, толькі каб шухнуць туды старчма. А ён паспеў яшчэ распасцерці рукі, затрымаўся над лёдам галавой і плячыма. І дзіка закрычаў. Старавальты пенсіянер, а можа, і бомж які, каму таксама ж хочацца жыць.

Той, што падбег яго ратаваць, маладзейшы, здагадаўся абламаць нізка навіслую галіну дрэва, але на лёдзе яна аказалася закароткай, не даставала да крыкуна, і выратавальнік, прыгнуўшыся, асцярожна пасунуўся нагамі раз, яшчэ і яшчэ раз наперад, падсоўваючы туды найпершае, найтанчэйшае голле… Ды ўсё ж і ён праваліўся. **На шчасце** — не на глыбокім.

Над берагам гарадской ракі, над правым, яшчэ аснежаным адхонам — вышэй праходзіць аднабокая вуліца з паднебнай, з парку гледзячы, градою шматпавярховых дамоў. Яшчэ раз падкрэслю словы **на шчасце**,— праз адно з безлічы вокан, што зверху глядзелі на раку і парк, нехта «спасёны», як сказала б мая маці, заўважыў тапельцаў, пазваніў у «хуткую дапамогу», яшчэ лепш — пажарнікам.

Мокрых, азяблых, смяротна перапалоханых выцягнулі на бераг (пажарнікі), узялі ў цяпло спецыяльнай машыны (медыкі) і памчалі туды, дзе ратуюць далей.

...Людзі, якіх тым часам паспела крыху сабрацца, спакваля, гамонячы, разышліся.

Не зусім. Бо калі я стомлена дайшоў сюды і прысеў на падсохлай за сонечна-ветраны дзень выгоднай лаўцы са спінкай, на другім баку асфальтаванай алейкі, бліжэй да ракі, яшчэ стаялі дзве пажылыя жанчыны, трэба думаць, не ўсё дагаварыўшы. Потым адна з іх развіталася і пайшла ў свой бок, а другая накіравалася да мяне.

— Не прастудзіцеся, яна ж халодная,— сказала пра лаўку, нібы замест прывітання. І расказала, зусім незнаёмая, пра ўсё здарэнне. Нават прапанавала перайсці туды, дзе яны толькі што стаялі, і паглядзець уніз, на лёд.

Дзве нястрашныя зводдаль палонкі, ужо зацягнутыя лядовай крошкай. Тая галіна, што аказалася закароткай. А так — праплешыны шэрага, наздраватага лёду, а бліжэй да стрыжня — адкрытая вада без толку і патрэбы развяснелай у пачатку лютага ракі.

Пустой бутэлькі на лёдзе не было,— думай што хочаш...

Яшчэ слухаючы гаманкую жанчыну, падумалася: а што каб гэта я нагадзіўся на першага крыкуна раней

за таго, што з галінай, каб гэта мне, амаль бездапаможна цяжкаму ў доўгім кажусе з непаслухмянымі нагамі, з ходу прыйшлося выбіраць паміж ганьбай страху, «разумнага разліку» і адчаем абавязку?..

* * *

Кожны дзень хацелася б пачынаць, як малітвай, нейкай добрай справай, патрэбнай працай. А я апошнім часам, ды ўжо й даўнавата, толькі чытаю. Добра, што хоць сапраўднае (Бунін, Талстой) або патрэбнае (чацвёрты том Федароўскага, слоўнік Ластоўскага), пацяшаючы сябе тым, што хоць абы-чаго ды абы-як не пішу, шануючы свой, нялёгка набыты, узровень.

* * *

У маім цяперашнім, як бы сонным існаванні прыходзіць і такая думка, такія думкі, бо неаднойчы:

Ёсць нешта, што я павінен зрабіць, а не раблю, і прыйдзе той час, калі ўбачу, што́ іменна павінен быў зрабіць, а не зрабіў!..

* * *

Чалавек жыве, жыве, а потым памірае, як быццам і не падумаўшы, што гэта ж — **назаўсёды**.

* * *

Я і раней быў не занадта прыткі абараняць свае творы ад крытычных нападкаў у друку, у чытацкіх пісьмах і ў вусных або ў ананімна-запісачных пытан-

нях на літаратурных сустрэчах. Тым больш цяпер, калі ўжо я даўно бацька і даўнавата дзед, не толькі па-сямейнаму, але і ў літаратуры. І ў гэтым не толькі старэчая абыякавасць, але і нармальная стома ды адпаведнае справе жыцця рашэнне — няхай яны, мае кнігі, і далей абараняюцца самі.

* * *

І на гэтай сустрэчы — на юбілеі сям'і Рэрыхаў — да мяне звярнуліся з мікрафоннай просьбай — расказаць, пра што буду гаварыць у сваім выступленні. Тэлевізійнікі нашы, якім гэта зручней, чым крышку пазней запісаць выступленне, якое ў мяне не на паперцы, а ў памяці, да якога я рыхтаваўся ў думках, каб сказаць сваё **адзін раз**.

І гэта ўжо не ўпершыню, такая іхняя «прафесійнасць», і кожны раз яно абурае.

* * *

І дзень іде, і ніч іде.
І голову схопівші ■ рукі,
Дивуешся, чому не йде
Апостол правды і науки!

Так мог, за чатыры месяцы да смерці, пісаць палымяны пакутнік Шаўчэнка.

Лягчэй было б яму сёння,— падумалася, зноў прачытаўшы ў газеце пра з'яўленне ў нас яшчэ аднаго апостала. Не праўды, не навукі, а нацыі, што, відаць, яшчэ вышэй.

* * *

Бунін у сваім «Освобождении Толстого»:

«Политика, говорил Гете, никогда не может быть делом поэзии».

Мог ли быть политиком великий поэт Толстой, душа, с детства жившая стремлением к «важнейшему»?..»

Не смейцеся, я прымерваюся не да вялікіх, а да справы паэзіі, найважнейшага.

...У Буніна, пасля Талстога, перайшоў на Чэхава. А там і тое, дзе нельга не засмяяцца:

«Есть большие собаки и есть маленькие собаки, но маленькие не должны смущаться существованием больших: все обязаны лаять — и лаять тем голосом, каким Господь Бог дал».

* * *

Прачынаўся рэдка і ўсё блытаўся то ў сне, то ў яве з **гэтым** і зусім **не гэтым** тэкстам, нібы маім і не маім, сам бачачы ўсё нібы збоку... Цяпер без чвэрткі пяць, і ўжо надаўжэй не засну. Толькі лягчэй, зноў жа то ў сне, то не ў сне блытаючыся ў тым дзесятку сшыткавых старонак, якія я, устаўшы, буду перадрукоўваць...

І не смешна мне гэта, і нібы зноў жа збоку бачыцца далейшае старэнне, без панікі і без завышаных прэтэнзіяў успомніўшы славутае: «Не мешайте. Павлов работает».

* * *

У аповесці Барыса Зайцава «Голубая звезда» каторы ўжо раз называецца Звянігарад, у якім я ніколі не быў. Успамінаецца спалучэнне «звянігарад-

скія салаўі», якіх калісьці, больш за трыццаць гадоў таму назад, слухаў з пласцінкі «Голоса птиц в природе». Але раней за тых, і сапраўды цудоўных, салаўёў успомніўся наш загорскі дзядзька Арсень Коцік (кіслагубы Авос у «Ніжніх Байдунах»), які ў тым Звянігарадзе быў салдатам, ці пры цару яшчэ, ці па летняй мабілізацыі 1944 года, пра што мне — таксама ўжо даўно хваліўся ў вёсцы, а яно вось і прыдалося. Як быццам у гэтым ёсць нейкі большы сэнс. А то і проста таму, што назва хораша гучыць, нібы нават узвышана.

...А ў Зайцава далей:

«Старый, маленький город. Красивый издали, беспорядочный, растущий как Бог на душу положит; освященный древнею, благочестивою культурой».

Ён у яго ў аповесці ўвесь час **прыгожы толькі здалёк**. А для мяне — з адлегласці яшчэ большай.

* * *

Купіў паштовак, каб імі павіншаваць сваіх неміначанак з 8 Сакавіка. На кожнай паштоўцы — незнаёмая красуня птушка задумалася на пустой зімовай галінцы. І трэба кожнай адрасатцы нешта адрознае напісаць. Калі дайшло да Ніны Мацяш, у памяці ажылі радкі:

Siedzi ptaszek na drzewie
I ludziom się dziwuje,
Że najmędrszy z nich nie wie,
Gdzie się szczęście znajduje.

Памятаю, чыё гэта, але ж і заглянуў у багаты том «Księga cytatów z polskiej literatury pięknej». Так, гэта Адам Асніук. Калісьці мне, вясковаму юнаку, верш гэты так спадабаўся, што я яго нават і пераклаў... на

рускую мову. Тады, шукаючы сябе, я рыфмаваў на трох мовах: кніжна-рускай, школьна-польскай і навакольна-роднай, пакуль яна, свая, не выбралася канчаткова. Не вытрымаў, дастаў з антрэсоляў папку з надпісам «Першыя творы. Вершы» і перачытаў той пераклад. Даволі прыстойна зроблены, і цалкам, усе васемнаццаць радкоў. А вось назаўсёды, як можна ўжо вельмі старому сказаць, запомніліся ў арыгінале першыя чатыры. Напісаў іх мілай Мацяшцы на адвароце паштоўкі, дадаўшы, што мы з ёю, Богу дзякаваць, ведаем, дзе яно, шчасце,— у працы, у дружбе, у радасці сказаць любімым пра гэта не толькі з нагоды святочнага дня.

Ніна мне адказала:

«Ваш ptaszek усё яшчэ siedzi na drzewie перад маімі вачыма і цешыць мяне kolorem, Асныкам і Вашай сардэчнасцю. Не знайшла Асныка ў сваёй бібліятэцы, а захацелася пачытаць яго, так дакладна леглі на душу тыя, працытаваныя Вамі, радочкі».

Што ж, Асныка ў нас амаль зусім, а можна сказаць і зусім не ведаюць. Дый у Польшчы, багатай на сапраўдных паэтаў, ён далекавата не з першых. Аднак цытатаў з яго паэзіі ў згаданым анталагічным томе параўнаўча з іншымі паэтамі вельмі не мала. Тры з іх, найбольш любімыя, пашлю Ніне ў наступным пісьме, перапісаўшы, бо кніжак пана Адама цяпер у мяне, на жаль, дома няма, не пашлеш.

* * *

Сам шчасліва сямейны, а ў сваёй пародыі на верш паэткі, якой доля судзіла застацца самотнай, невядома за што і навошта крыўдзіць яе кплівым перайманнем — за тугу па каханні?..

* * *

Наша ўсенароднасць юбілею Міцкевіча. Настаўніцы адной з мінскіх школ спатрэбілася нават... «отчество великого польского поэта». Мне, ад яе імя, ветлівенька-нясмела пазваніла пра гэта настаўніца маладзейшая, спыталася па-своянку.

* * *

Добрая, даўняя прыяцелька, зямлячка. Так рэдка бачым, што, выпадкова сустрэўшыся на вуліцы, міжволі павіталіся **з чмэкам**.

Само так сказалася, апавядаючы пра гэта дома.

* * *

Дзеля лепшай pogody ducha перачытваў у першым томе двухтомніка «Толстой и зарубежный мир» дзённік і ўспаміны славацкага друга Льва Мікалаевіча Альберта Шка́рвана. Перачытванне знаёмага з палавіны 60-х. З падсветкай успамінам пра падарожнае, позневячэрняе наведанне ў лістападзе 1979-га літаратурнага музея ў замачку Брадзяны. Сюды калісьці ў аўстра-венгерскае магнацкае замужжа прыйшла адна з дачок Пушкіна. У музеі тым было экзатычнапрыемна пачуць, што Шкарванаў пераклад рамана «Воскресение» выйшаў раней, чым арыгінал у Расіі. Ды яшчэ без цэнзурных купюраў!..

Шкарван вёў свае запісы на трох мовах: славацкай, рускай і нямецкай. Згадаўся магутны, на пяцьдзесят тамоў, збор твораў Івана Франко: на ўкраінскай, нямецкай, польскай.

Мая беларуска-руска-польская трасянка ў побыце і часткова ў нататках. А добра было б ведаць, ды грунтоўна, болей моў — з роднай у цэнтры.

* * *

Купіў у магазіне стужку да машынкі, а незнаёмы, вясёлы мужчына спытаўся:

— Мемарыялы будзеце пісаць?

Пра мемуары. Ведае, што ў модзе.

* * *

Нешта згубілася, і я шукаю яго, часамі доўга, а то і яшчэ даўжэй, то больш-менш спакойна, а то і нервуючыся, перабіраючы розныя варыянты здагадак ды меркаванняў, дзе яно, тое нешта, магло прапасці. А потым яно — тая кніга, той аловак, тыя акуляры — ляжыць сабе ў найпрасцейшым варыянце, толькі сваім, адзіным і нібы хоча сказаць: «А дзе ж мне было ляжаць?»

Гэта ўжо я так думаю, а то і гавару, задаволены знаходкай.

* * *

— Ды я ўжо тую чарку і ў рот не бяру,— кажа па тэлефоне саракагадовая загладуха, якая неяк перад гэтым, пры сустрэчы, скардзілася на сваю печань.

Адказваю:

— А яе і не трэба браць у рот. Палажыла краечкам на ніжнюю губку, а тады коўць — і па ўсім страху!..

Смяемся.

* * *

У сноўскай багатай аграгаспадарцы — галандская апаратура для гадоўлі на адкорм і продаж куранятаў. Карэспандэнтка абласнога радыё ў сваім рэпартажы захапляецца міжволі па-сучаснаму, па-хатняму:

— Жывуць кураняткі коратка, сорак пяць дзён, але ж прыстойна!..

Як пазайздросціла.

* * *

Славутыя словы Тургенева пра родную мову ніхто, наколькі мне помніцца, ніколі нацыяналізмам не называў. Ён толькі намі, беларусамі, згадваецца часамі іранічна, з горкім падтэкстам, з болем даўно дыглыбока пакрыўжанай меншасці, якую ў гэтым крыўдзяць і цяпер, далей...

* * *

Русіфікацыя пад выглядам **другое** дзяржаўнай мовы — па праву **дв**у**х**галовасці і надалей імперскага арла.

* * *

«Белорусский писатель, пишущий на русском языке». Гэта якраз тое, чаго не толькі для нашай літаратуры, але і для ўсяго народа дамагаецца сучасная ўлада.

* * *

Пасля цікавай, шматлюднай сустрэчы з моладдзю ў Купалавым музеі,— «Кніжны клуб ТБМ»,— падумалася, што вертыкальныя культурнікі, трэба думаць, ужо даўно мяркуюць, як гэта знайсці спосаб больш падкантроліць нашы музеі, як падкантролілі Дом літаратара, у планавым заціску нацыянальнага, народнага, называючы яго толькі апазіцыйным, бэнэфаўскім, а то і фашысцкім...

Ох, каб не накаркаць!..

* * *

Галоўны расійскі камуніст з крывой усмешкай радасці гаварыў днямі на каляровым экране, як гэта будзе добра, калі аб'ядваюцца Расія, «независимая Украина и самобытная Белоруссия»... Яшчэ не аб'ядналіся, а ўжо толькі самабытная. У складзе Расіі?..

* * *

Дык жа не ў адных нас, беларусаў, такая бядота з роднаю мовай. Вось прачытаў у татарскім квартальніку «Байрам» пра курдаў у Турцыі:

«Улады вырашылі на тэрыторыі Малой Азіі склеіць усе этнічныя групы ў адзін турэцкі народ... Улады не ўлічылі, што адзін з гэтых народаў — курды — маюць уласную культуру, сваю мову. Улады вырашылі, што курды павінны быць туркамі, і ўсё. Або наогул не павінны быць».

На колькі гэта разлічана? І ў рускіх з намі таксама ж.

А жыць жа трэба!..

* * *

Нашы глядзелі ў купалаўцаў «Тутэйшых», а потым задаволена здзіўляліся, як рэагуе на спектакль зала, поўная моладзі,— і сцягі, і воклічы.

А потым я пачуў і смешнае. На спектаклі па «Раскіданым гняздзе» (у рускім тэатры — па-беларуску!), калі са сцэны пачулася: «Чаго сядзіце? Бацька павесіўся!», моладзь грымнула смехам і воплескамі.

А яшчэ крыху пазней пачуў, што тое «чаго сядзіце?» і далейшае ў Купалавым тэксце... знята. Ці па загаду адных, ці з асцярогі або са страху ў другіх.

* * *

Па радыё «Свабода», у Дубаўцовай «Вострай Браме» — слушная думка пра нашу нацыянальную культурную эліту, якую трэба рупліва ствараць ды ахоўваць, як народны скарб, падмурак самастойнасці. Ён спасылаецца на польскага спецыяліста па Беларусі, прозвішча якога я на слых не ўлавіў. А дадаў бы яшчэ і прыказку: «Najgorzej jak się dziady poczną chlebem bić». («Найгорш, калі жабракі пачнуць хлебам біцца».) А мы гэта ўмеем, і маладыя, і старэйшыя, даводзячы кожны толькі сваё.

* * *

Студзеньская «Rzeczpospolita», святочны дадатак «+ Plus – Minus», фрагменты з дзённіка Анны Кавальскай:

«4.XI.61. Жукроўскі гаварыў. Бранеўскі, хворы на рак горла, атрымаў у шпіталі ад міністра кошык з

апельсінавым сокам. Сказаў: «У мяне ўсё ёсць. Хай пан міністр пашле гэта ад мяне Карнацкаму ў турму».

Ежы Карнацкі быў арыштаваны два месяцы перад гэтым. У яго забралі дзённікі. Кавальская трывожылася, што гэта зашкодзіць многім, каго ён там згадвае. І яе, і Карнацкага я, на жаль, не ведаю бліжэй. Мне толькі роднасна бліснуў здалёк Бранеўскі — мужным характарам, звонкімі вершамі...

* * *

У Ластоўскага **каменаклёў** — майстар па выклёўванні надпісаў на валунах.

Перакладчык з лацінскай мовы Шатон да месца і дасціпна карыстаецца словам **святуля**.

А ў Макаля — таксама ўпершыню сустрэтае — **безвач**.

* * *

Дзябёла-пануры дыктар ледзь не ўдушыўся словам **фан-ду-мен-та-ліст**, пераможна ўзяўшы яго з другога прыступу ды іменна ў такім гучанні.

...Даволі культурны каментатар стараецца ажно так: «Вера, надзея і каханне». Як не ведаючы, што гэта ж яшчэ і імёны, дзе трэцяе — Люба, Любося, Любоў.

...Замест **бізнесмен** у нашых рупліўцаў пра роднае слова ёсць двухмоўны наватвор — **бізнесовец**. Не меней гучна і **вясковец**, замест спрадвечна-традыцыйнага, проста прыемнага **селянін**. Нават і радыёперадача такая: «Для вяскоўцаў і пра вяскоўцаў» — зубное цаўканне кожную раніцу.

...Маладая дыктарка дробна ды ясненька сячэ перакладзенае іншымі: «З-за гэтага **каштавала** туды паехаць». У сэнсе рускага **стоило**.

...Зрэшты, і ў сталічнага карэспандэнта радыё «Свабода» неяк пачулася: «Тады яму **апранулі** кайданкі». А потым — яшчэ лепш, ажно боязна, што можна і не паверыць: «Ён **апрануў** боты»... Усё роўна ж ад аднаго **надевать**.

* * *

Увосень 1988-га, на адным з трыумфальных мінскіх канцэртаў Данчыка, у перапынку да мяне падышоў малады мужчына, сказаў, што ён настаўнік, сын Пятра Конюха, нядаўна быў у яго ў Канадзе. «Бацька вас памятае»,— дадаў з прасцяцка-шчырай усмешкай. А пра Данчыка пахваліўся, што з бацькам яны сябры, што Данчыку той памагаў ставіць голас.

«За польскім часам», як у нас гаворыцца і сёння, з Пятром у мяне нейкай большай блізкасці не было. Ён нашмат старэйшы за мяне, хоць такая розніца ва ўзросце не перашкаджала мне сябраваць з іншымі старэйшымі хлопцамі ў нашым мястэчку Турэц, аднак яны былі «кніжнікі», чым Конюх, помніцца, асабліва не вызначаўся. Наколькі я ведаю. Аднак я паслаў яму сваю новую кнігу «Ад сяўбы да жніва», атрымаўшы ў яго сімпатычнага сына адрас.

Ці гэта таму, што Канада ўсё-такі далекавата, а мы ўжо былі старыя і тады, ён на дзевятым, а я на восьмым дзесятку, з перапіскай не вельмі спяшаліся, наша збліжэнне наладжвалася з вялікімі паўзамі. Кнігу паслаў я напрадвесні, ён напісаў мне пад восень. І прыемна было, што наш славуты ў замежжы спявак піша... ну, земляку-пісьменніку, што

паміж намі, людзьмі роднай культуры, нарэшце наладжваецца нейкая лучнасць. Трохі дзіўным, нават і смешным здалося тое, што ў пісьмо, напісанае дастаткова прыстойна па-беларуску, была ўкладзена дваццацідоларавая купюрына. Але ж і прыемна было, што там, у Новым Свеце, мяне крыху ведаюць. Пятро неспасылаўся на Вітаўта Тумаша, «каторы напісаў некалькі кніг аб Ф. Скарыне», а да таго яшчэ «ён твае кнігі выкупліваў у савецкім магазіне ў Нью-Ёрку і многім беларусам высылаў...».

Пасля пэўнай паўзы я паслаў Пятру альбом пра мяне, напісаўшы, што гэта — «напамінак пра нашы родныя мясціны». Пасля ў маэстра была спроба пабудаваць сабе домік у тых родных мясцінах, і ён цераз сына звярнуўся да мяне па магчымую дапамогу. Я пачаў варушыцца, але, як неўзабаве аказалася, дарма,— бязладдзе старое змяшалася з новым... А тады наступіла яшчэ даўжэйшая паўза — да некралога ў заакіянскай газеце «Беларус», падпісаным яшчэ адным земляком, маладзейшым за нас абодвух, Янкам Запруднікам, Сяргеем Вільчыцкім з Міра.

Дарэчы, у некралогу адна істотная недакладнасць. «У Італіі ён апынуўся,— піша Запруднік пра Конюха,— як і шмат хто з колішняй Заходняй Беларусі, што былі ў 1940—1941-м вывезены ў Сібір, праз маршрут Іран — Ірак — Палестына ды паходы польскага генерала Андэрса». Пятро Конюх не быў вывезены, ён дасканаліўся ў расійскім Ржэве на ільнаводчых курсах, жыў там адзін, без жонкі і дзетак, дзе і застала яго вайна. Як былы польскі жолнеж, здаецца, нават і ка́праль, трапіў да Андэрса, ну і гэтак далей.

Я змалку ведаў гэтую сям'ю. У школу хадзіў з Пятровымі маладзейшымі братам і сястрой, мой брат служыў у польскім даваенным войску разам з Пятром, які пасля ажаніўся з адной з маіх школьных

сяброваК. З ёю я сустракаўся ў пасляваенны, нялёгкі ў яе, бязмужны час. Бачыў і сына іхняга, будучага настаўніка, а тады студэнта, што на «гулянні» ў нашым вясковым клубе ахвотна і хораша іграў на акардэоне, які яму, як з пашанай гаварылася, славуты бацька прыслаў, здаецца, з Італіі.

Ад некралога спакваля, з лёгкім усмешлівым сумам у памяці паўтарыліся некаторыя малюнкі школьнага маленства.

Як мы крыкліва-весела назіралі за спартыўнымі спаборніцтвамі пажарных камандаў з розных вёсак гміннага наваколля. Верхам на слізкім бервяне, высакавата над зямлёй, з мяшком у правай руцэ, напалавіну ці менш напоўненым сенам або саломай,— так збівалі адзін аднаго з бервяна. І ніводзін не мог утрымацца на ім — усіх збіваў дужы ды спрытны Конюх. Найлепш запомніўся мне толькі адзін са збітых. Вузкатвары ды белабрысы дзяцюк з недалёкай вёскі Лядкі, адкуль пасля, ужо ў савецкі час, нястомны ў сваіх фальклорных пошуках Генадзь Цітовіч вывеў у людзі «Лядкаўскую кадрылю». Сустрэўшыся з тым лядчанінам у партызанах, я ажно засмяяўся міжволі, як быццам зноў убачыўшы той жах на яго кадрыльнай белабрысасці пад сіняй пажарніцкай канфедэраткай, у момант горкага падзення з бервяна на вытаптаную траву...

Успомнілася таксама, як Пятро, які для нас, падшыванцаў, быў найгалоўнейшым у нядаўна арганізаваным духавым аркестры пажарнай каманды — гарністам. На кожным з паньствовых святаў ён іграў на сваім горне збор на пачатак урычыстасці. Спачатку, пакуль ён няспешна ды важна зыходзіў з ганка Людовага дома, выходзіў далей на «места», як называлі тады местачковую плошчу, спыняўся на пагорачку, мы, меншыя школьнікі, суправаджалі яго

захопленай чарадою. А пасля заміралі ў чаканні, калі ён уздымаў сваю ярка-бліскучую трубку да прыкметнай таўстагубасці і — нарэшце! — іграў, заклікаў!..

І такое яшчэ. Не памятаю нават, ці я гэта бачыў ды чуў асабіста, ці ўяўляю з чужое падачы з таго часу, калі ўжо ў царкву я сам, дастаткова крамольна начытаны, не заходзіў.

Як зноў жа Конюх, Пятро, яшчэ і найлепшы спявак у добра наладжаным царкоўным хоры, выходзіў з кліраса да аналоя, крыху не на самую сярэдзіну паўналюднай, урачыста аціхлай царквы, і грымотна чытаў сваім магутным басам «Апостала». Рэчытатыў быў такі, што празрыстыя вісюлькі панікадзіла над чытальнікам дрыжалі, гайдаліся і крыштальна пазвоньвалі...

...Улетку 1998-га, калі ў нашых раённых Карэлічах святкавалася двухсотгоддзе Яна Чачота — таксама ж земляка! — Пятро па запісе ды з вечнасці спяваў нам велічна натхнёную «Магутны Божа»...

* * *

Што за дурны звычай — хваліць аднаго ў дакор другому, трэцяму, якія тут па сутнасці ні пры чым!.. Нібыта нам цесна побач.

А той, што хваліць, не надта і хавае, не можа схаваць у падтэксце самога сябе. Я, маўляў, з тымі быў, што яго блізка ведалі, што хвалілі яго раней ды больш, чым усе іншыя...

* * *

...У палавіне снежня ён званіў мне ўвечары пра ўражанне ад майго «кнігазбораўскага» тома «Запаветнае», весела віншаваў, і тады гэта было мне

прыемна, а цяпер, успомніўшы, і горыч дадалася. Ягоны том вось-вось павінен выйсці там, а я яму не адудзячуся віншаваннем…

Калі ішоў на развітанне, думалася, што на ім законна, заслужана будзе вельмі шмат людзей. Гэта ж Мікола Ермаловіч!.. А як выходзілі, услед за труной, з былога Дома літаратара, я нават ціха спытаўся ў найбліжэйшых: «А дзе ж маладыя?..» Згадалася пахаванне Гаўрылы Іванавіча Гарэцкага, калі можна было спытацца таксама. Ды тое ж было ў канцы 1988-га, за гэты час адны маладыя пасталелі, другія, яшчэ маладзейшыя, увайшлі ў строй, а належнай адказнасці ў грамадскіх, нацыянальных справах не пабольшала…

* * *

Прызнацца, што ты зрабіў або неаднойчы рабіў штосьці, кажучы наймякчэй, **не так**, а то і **зусім не так**, і гэта ўсё — такое пакаянне?..

А не сказаць пра сваю віну, моўчкі, ледзь не няспынна цярпець дакоры сумлення — гэта лягчэй?..

А перад кім жа каяцца?..

* * *

Учора неяк ясней убачылася пошлая дробязнасць літаратарскай паўсядзённасці, чаго ў маіх запісах нямала. Ужо цяпер трэба праполваць ды адсейваць тое, што не цікава, не патрэбна ўяўнаму чытачу, а калі падумаць шырэй, на большую перспектыву — каму будзе зноў жа цікавай, а то і патрэбнай тая вашданіна з мноствам імёнаў, з накідамі вобразаў людзей, у якіх і тады, калі яны існавалі са сваімі

непамернымі прэтэнзіямі, не было за душой нічога сапраўднага, а тым больш нічога не засталося надалей, што ўжо відно крыху здалёк, а потым будзе і яшчэ відней.

* * *

Беларуска-руская, а то і з польскай прымессю («Я бальны, бесскрыдлаты паэт»), калі сказаць пасучаснаму, трасянка не змагла сваёй, даруй, Божа, нявіннай неахайнасцю прыглушыць сапраўдную паэзію Максіма Багдановіча.

Аднак вельмі прыемна бывала ў лепшых перакладах яго вершаў на рускую або ўкраінскую мовы (за даўнасцю не памятаю, чыіх персанальна, але добрае ўражанне, пачуццё задавальнення ўдзячна помніцца здаўна), або на польскую, у выкананні закаханага ў Багдановіча таленавітага Яна Гушчы, калі тыя моўныя недахопы, тая трасянка знікалі ў перастварэнні добрымі і выдатнымі майстрамі на мовы чысцейшыя ад неабавязковых запазычанняў, дасканалейшыя ў сваёй нацыянальнай культуры.

* * *

У густой, шматфарбнай, але ж і запаволенамаруднай прозе Марселя Пруста («По направлению к Свану») блізкім здалося такое (перакладаю крыху скарочана):

«Вялікае адрачэнне старасці (...) можна назіраць у канцы жыцця кожнага чалавека, старасць якога зацягнулася, нават у самых даўніх, гарачых каханкаў, у

сяброў, злучаных найцяснейшымі повязямі духоўнага сяброўства, калі, пражыўшы пэўную колькасць гадоў, яны раптам перастаюць ездзіць або проста нават выходзіць з дому, каб пабачыцца, перастаюць перапісвацца, бо настае разуменне, што на гэтым свеце ўсё для іх закончана».

Пражыў ён, Пруст, палавіну майго, раман гэты напісаў саракагадовым, і можна толькі праніклівасцю таленту апраўдаць такое разуменне старасці. У параўнанні з ім, жыццё маё зацягнулася, аднак жа і адчування, што «кантакты закончаны», на шчасце, яшчэ няма, ёсць чым адбівацца, на што мець надзею, чагосьці добрага чакаць.

...Як ні туга ідзе, дацягну чацвёртыя сто старонак. Другая частка («Любовь Свана») цікавая таленавітавобразным паказам пустаты існавання так званых вярхоў, наводзіла на рэвалюцыйныя думкі, нагадваючы, як зразумела ўспрымаліся яны ў раннім вясковапрацоўным юнацтве са старонак Талстога, найперш — у пазычанай у суседзяў кнізе без вокладак і добратакі патрапанай, дзе была «В чем моя вера?».

* * *

«Последняя любовь», зборнік апавяданняў нобелеўскага лаўрэата Ісака Бешэвіч Зінгера, які прачытаўся па прычыне і той, што шмат гаворыцца там пра Польшчу, пераважна даваенную, сёе-тое нагадваючы мне з вядомага, а то і пражытага. Ды не Шолам-Алейхем гэта з яго светлым смехам, а, кажучы папольску, drugi, inny żydek, у якога дзеля моднай сучаснасці зашмат каравага, а то і смярдзючага «шэксу».

* * *

У свой час, ужо зусім адзін, самастойна закончыўшы другую частку «Блакаднай кнігі», Алесь Адамовіч расказваў мне, што Даніла Гранін, які наогул не надта прылажыўся да працы і над першай часткай, а ў напісанні другой і цалкам не прымаў удзелу, адчуў няёмкасць і прапанаваў Алесю другую частку падпісваць толькі сваім прозвішчам, з чым той, вядома, не згадзіўся.

А вось у «ЛіМе» за 19.V Міхась Тычына кажа, што ў Санкт-Пецярбурзе нядаўна «Блакадная кніга» перавыдадзена і аўтары пастаўлены ўжо не па алфавіце, а з Граніным наперадзе... Няўжо ж і ён, Даніла Аляксандравіч, мае да гэтага дачыненне? Ці самі выдаўцы падышлі тут «со смыслом»: усё ж такі старэйшы брат?..

* * *

«Кнігарня пісьменніка». Завал літаратуры рускамоўнай, і амаль нічога беларускага. Як выдаецца, так і прадаецца. Самасільна рыхтуюць нас да братняга ўз'яднання...

* * *

У Таварыстве дружбы яўна было зацесна ад збою людзей, што прыйшлі на польскі прыём, людзей у пераважнай большасці маладых, незнаёмых. Дрэнны настрой пачаўся ў мяне ад урачыстай часткі. Пасля гімнаў на скрыпках, дзе пасля іхняга, за дзвесце з гакам гадоў загартаванага ў змаганнях, наш прапілікаўся нейкім часовым, няпэўным дадаткам. Польскі пасол дастойна і зусім прыстойна выступіў на бела-

рускай мове, сцісла і ясна паведаміў пра значэнне іхняй Канстытуцыі 3 Мая, таксама двухвекавой, што стала ў сусветнай гісторыі побач з амерыканскай і французскай. А тады наш вертыкальшчык, якога мне з-за спінаў ды галоў нельга было ўбачыць, па-руску ды па-казённаму суха, коратка і ледзь чутна прабубніў сякое-такое віншаванне. Пасля чаго пачаўся ўсеагульны наступ на фуршэтныя сталы і гамана.

Стому і нуду адчуў я душой і нагамі адразу, ды так, што пасля шклянкі грэйпфрутавага соку і палавінкі банана падаўся на выхад, дамоў.

Паважаць нас,— думалася,— можна толькі з дыпламатычных меркаванняў.

* * *

Як гэта добра, хораша,— чытаючы пра выдатнага паэта заслужаныя ім словы нашай удзячнасці, узяць з паліцы ягоную кнігу і перачытаць, яшчэ бліжэй прыпомніць шчырыя словы аўтографа. Як гэта: «Дарагому Івану Антонавічу Брылю, з вялікай павагай і нязменнай любоўю. А. Пысін. 17.XII.80». У першым томе яго чырвонага двухтомнічка.

* * *

Выступаючы не па напісаным, амаль заўсёды штонебудзь важнае забудзешся сказаць. Так у мяне, у слове да маладых перад пачаткам іхняй рэспубліканскай нарады, павінна было гучаць наступным чынам:

«...Прыемна, што на такіх нарадах я ніколі нікога не павучаў, як трэба пісаць, не гаварыў высокіх, тым

больш партыйных пропаведзяў, але заўсёды быў адкрыты да творчай дружбы і са старэйшымі, і з маладымі. Не ведаю, як з гэтым цяпер у вас, а мы калісьці чыталі адзін аднаго да здачы рукапісу ў часопіс або ў выдавецтва. Магу сказаць, што Таўлая, Мележа, Калесніка, а пазней Янкоўскага, Караткевіча, Стральцова і некаторых яшчэ я чытаў спачатку ў рукапісах, а потым ужо, калі сябры адыходзілі назаўсёды, творы іх з сумам і з радасцю перачытваліся...»

А я якраз спыніўся на «партыйных пропаведзях», а далейшае выскачыла з памяці, хоць і я ж да мікрафона прызвычаены нядрэнна. Іншае, што палічыў патрэбным сказаць — сказаў: і тое, як «раней і кахалі не так, і пісалі не так», наіўнасць уласцівая кожнаму новаму пакаленню, якая з часам паступова праходзіць. Аднак пажадаў, каб маладосць захавалася ў іх на ўсё жыццё, як на ўсё жыццё і пісьменніцкае самавуцтва. Сказаў таксама, што мне такія нарады помняцца, перш за ўсё, вобразамі іх удзельнікаў, якія, у свой час з'явіўшыся ўпершыню, спакваля ўвайшлі ў літаратуру назаўсёды,— Караткевіч, Быкаў, Разанаў, Купрэеў, Пархута...

Прыемна было, што сабралася так многа моладзі, амаль зусім незнаёмай. Гэта нядрэннае сведчанне пра імкненне маладых да роднага слова. Колькі іх выядрыцца ў сур'ёзных літаратараў, гэта пакажа час, а ўжо ж і сёння, асабліва сёння добра, што яны — ідуць.

* * *

Сам выдае загад, дурны і шкодны, і сам лічыць яго законам, які нам нельга парушыць.



Вось і зноў успомнілася з талстоўскага «Фальшивого купона»: забойца некалькіх чалавек пад канец жыцця пачаў адчуваць свае віны, грахі. І што? На колькі стагоддзяў трэба прадоўжыць яму існаванне, каб ён зрабіў і штосьці добрае для пэўнай раўнавагі, калі наогул можна дараваць ужо не ўсё, а хоць бы адно забойства добрай, мілай бабулі?..

А дзе ж яно — іншае выйсце?..



«Сляза пякучая айчыны» — зборнік артыкулаў пра творчасць Яна Чыквіна. Хораша выдадзеная кніга дастойна і па-асабліваму прыемна мне адкрываецца словам Валодзі Калесніка. Артыкулы Конана, Мацяш, Разанава і іншых аўтараў шчодра, пераканаўча падмацоўваюцца радкамі з вершаў і сапраўды таленавітага, культурнага паэта. А мне найбольш спадабаўся такі вось просценькі ўсплеск пачуцця:

Сад мой, садок,
Душа найлепшая з душ,
Прыбяжы да мяне ў Беласток
У белай кашулі груш.



«Такое дабро, як ты, можна выкінуць і без саўка. А я «саўком» не быў і не буду. І слова такое агіднае!..»

* * *

У развітальнай прамове Салжаніцына, а яшчэ выразней у яго ранейшым кароткім выступленні па тэлевізары адчулася няёмкасць у тым, як ён, Салжаніцын, хваліць нябожчыка Залыгіна за подзвіг надрукавання ў «Новом мире» ягонага «Архипелага ГУЛАГа». Як быццам у доўгім, працавітым жыцці таленавітага вучонага і літаратара — гэта галоўнае.

* * *

Выкручваю з калодзежа вядро вады, і тут — праз семдзесят гадоў — раптам радкі Жукоўскага:

> Рустем рванул — Зораб упал к его ногам;
> Рустем давнул — и в грудь Зораба
> Глубоко врезался кинжал…

Старэйшы волат забівае маладзейшага, не ведаючы, што той — ягоны сын, як і сын не ўведаў, хто яго перамог.

Падлеткам гэта да слёз хвалявала мяне — як сына, цяпер — як бацьку.

* * *

Эрнест Рэнан, «Жизнь Иисуса» (вытрымкі перакладаю падкарочана):

«Чысты культ, рэлігія без духавенства і знешніх абрадаў, якая трымаецца на сардэчным пачуцці…»

Гэта заўсёды было мне блізкім. Як і наступнае, дзе захацелася падкрэсліць аснову асноў:

«Аб'явіўшы палітыку нікчэмнай, ён адкрыў свету тую ісціну, што радзіма — гэта яшчэ не ўсё і што **чалавек старэйшы і вышэйшы за грамадзяніна**».

Калі б Ісуса судзілі па законе Майсеевым, рэлігійным, яго трэба было б каменеваць. А па законе акупантаў адправілі на крыж — рымскую вісельню, як злачынцу крымінальнага, нібы забойцу, злодзея, нявольніка, смерць якога падмацоўваецца ганьбаваннем. Ад страшнага — да страшнейшага.

«Як многае, што ў ім было вялікага, не дайшло да нас дзякуючы неразуменню яго вучняў, так, верагодна, і шмат якія недахопы яго схаваныя ад нас».

Які цвярозы рэалізм, якая жыццёвая мудрасць.

А ў самым канцы, ва «Уводзінах», такое:

«Бог адкрываўся да Ісуса, будзе адкрывацца і пасля яго».

Гэта — супраць абмежаванай канфесійнай замкнёнасці ў самой сабе, што жыве, культывуецца і шкодзіць дагэтуль.

Гётэва «Хто хоча зразумець паэта, павінен ісці ў яго край» падыходзіць і тут: кнігу сваю Рэнан пісаў у Галілеі, зачараваны яе райскай красою.

Мяркуючы па каментары, аўтарам выкарыстана процьма патрэбнай літаратуры. Дый сам тэкст гаворыць пра грунтоўную падрыхтаванасць даследчыка. Чытаючы, дакладней — перачытваючы гэтую кнігу, не адзін раз падумалася, як гэта я чытаў яе вясковым дзецюкам, многае не разумеючы. Дый цяпер таксама не да крышачкі ўсё зразумелае, калі мець на ўвазе некаторыя навуковыя тэрміны. Аднак галоўнае збольшага даходзіла ўжо і тады.

* * *

З «галасоў стагоддзя» па радыё «Свабода», хоць сярод іх трапляюцца і даволі цікавыя, нават і нечым значныя, найлепш пакуль што запомнілася выступленне мастака Алеся Пушкіна. У мястэчку Бобр яго лічаць дзіваком, усміхаюцца, калі праходзіць міма, а то і хіхікаюць наўздагон. Адзін з такіх высотнікаў нават у царкву, дзе Алесь паказваў турыстам свой роспіс, дазволіў сабе ўгрукацца ў шапцы на п'янай галаве, нават заўвагі нейкія мармытаў і таксама, павулічнаму, усміхаўся. Мастак пастараўся выпрасіць госця, адвёўшы ўбок, шэптам паабяцаўшы, што намалюе яго партрэт, абы ён да яго зайшоў. І той неўзабаве з'явіўся, а мастак, адкінуўшы прыкрасць, пачаў работу, ды так спакваля захапіўся, што ўвайшоў у высокі творчы настрой.

Гэта нас жывіць.

* * *

У «Литгазете» — Васіль Субоцін. Май сорак пятага, здабыты Берлін. І ён, малады афіцэр, фота, на якое хочацца глядзець... Няма тут адраса, каб напісаць яму. Дый не памятаю ўжо, ці мы з ім на «ты» ці на «вы». Напішу пазней, у Мінску, прачытаўшы яго пісьмо, ужо тым часам і даўняе, водгук на «Муштук і папку». Такі нездаровы ён быў, ціхі, удумлівы Васіль Яфімавіч, у канцы 1971-га, у падмаскоўным Перадзелкіне, калі я пісаў пра яго безымянна ў апавяданні «Тройчы пра адзіноту». А вось жа маладзец, трымаецца на сваім васьмідзесятым, новую кнігу закончыў — яшчэ ўсё пра вайну, як падаецца ў газетным слове пра яго.

* * *

Зноў выпадкова Джэральд Дарэл, «Натураліст на мушцы», на гэты раз па-руску. У першай для мяне кнізе гэтага аўтара, «Мае птушкі, жывёлінкі і радня», якую я пазалетась чытаў у польскім перакладзе, англійскі хлопчык, далёка-будучы пісьменнік, на грэчаскім востраве Корфу зачараваны працоўнай мітуснёнай мурашніка, шчасліва прыслухоўваўся, як гэта мурашкі, кожная сама сабе, дапамагаюць у працы нягучнай любімай песенькай.

А ў гэтай, другой кнізе колішні хлопчык, ужо недалёкі ад старасці бывалы мужчына, вядомы на ўсёй планеце даследчык прыроды, і са мной гаворыць з паўночна-вялікабрытанскага вострава Анст. Тут ужо бачу яго загледжаным не на прыземлены мурашнік, заслуханым не ў мурашынае ўяўнае памармытванне песняй. Ён піша:

«Недзе высока ў небе нябачны жаваранак і лілася бясконцая чароўная песня. Калі б зорка, падаючы, мела голас, мне здаецца, яна спявала б голасам жаўрука».

Добра гэта пераклікаецца ў душы — і астравы, і ўзросты, і два мае запісы пра аднаго і пра адно.

...Пацяшаю, апраўдваю сябе тым, што маё бясконцае чытанне — гэта не спосаб цікавей праводзіць час, не прывычка вучыцца, хоць і гэта, адно і другое, важна, а перш за ўсё яно, чытанне, можна назваць адчуваннем шчаслівай прысутнасці ў агульналюдскім свеце глыбокай думкі і чыстага пачуцця.

А ў выпадку з Дарэлам гэта яшчэ і агляданне неабдымнага свету прыроды, шчасце сыноўняй удзячнасці.

...Той ганарыста-важны самец-малпа, важак, што элегантна ласаваўся памідорам, найбольшым з тых, якім і нас на вымушаным дарожным прыпынку з

незразумелай прыязнай ветласцю пачаставаў чорнахуды паўдзённы індыец, гаспадар прыдарожнага агарода, і якім, у сваю чаргу, адзін з нас пачаставаў важака чародкі малпаў, што адразу ж, як толькі мы паспыніліся, богведама адкуль з'явіліся каля нас пацешным гуртам. Праўда, побач быў лес. Наш чорны і босы шафёр корпаўся ў маторы старога легкавіка, а мы, два беларускія дэлегаты, навуковец і літаратар, работнік Таварыства дружбы Індыя — СССР доктар Шастры і малады перакладчык з консульства, сядзелі на траве, елі цёпла-сакавітыя памідоры і любаваліся самавіта-ганарлівым важаком. Ён акуратна, моўчкі пачысціў пазурыкам падораны памідор ад скуркі, пакрысе адкусваў яго і няспешна жаваў, можна сказаць, у глыбокай задуме. А вакол яго, найбліжэй з усёй гуллівай чародкі какетліва круцілася шустрая самачка, з яўным намерам дамагчыся свайго. Аказалася —важацкае сэрца не камень. З недаедзеным памідорам у жмені, як быццам толькі між іншым, па грамадскім абавязку, ён задаволіў яе кароткай атакай, а прыгажуня (можа, па-іхняму, і прыгажуня), прыняўшы патрэбнае, адбеглася і да непазнавальнасці знікла ў групе дарослых і яшчэ весялейшай малечы.

Важак прадоўжыў сваё акуратна-маўклівае, важнае даяданне памідора, а мы, нават і вечна стрыманы містэр Шастры, перажывалі пэўнае ажыўленне. Відаць, не думаючы, што гэтае здарэнне будзе памятацца так доўга, ды так здалёк, з канца 1967-га, са штата Майсор у Паўднёвай Індыі.

А можа, помніцца яно толькі мне, часамі нават прымяркоўваючы да людзей?

Цяпер вось успомнілася над той Дарэлавай старонкай, дзе ён свабодна, ярка паказвае птушыны базар на раскошным поўдні Францыі, і мяне заразіўшы сваёй вясёласцю.



На вячэрнім тэлеэкране ўрачысты канцэрт. Вымуштраваныя сувораўцы і па-анёльску лёгенькія дзяўчаткі — у мазурцы. Пад мелодыю ўраз згадалася сваё — мой школьны «ма́зур» на заканчэнні чацвёртага класа. У пары з дачкой купца-«цялятніка» Фунта, непрыгожай, з уцягнутым падбародачкам Эляй Фунтуўнай. Не памятаю танцора другое пары, а толькі яго напарніцу Жэньку і маю адзінаццацігадовую рэўнасць...

Касцюмы ў нас былі «мазурскія», з рознакаляровай карбаванай паперы, з бесказырнымі «рагатыўкамі». Толькі боты ў хлопцаў свае, вядома ж, не хромавыя, да танца цяжкаватыя.

Такі артыстычны дэбют. А потым добра танцаваць і плаваць, як старэйшы брат Міхась, я і праз рэўнасць не навучыўся.



Застанецца тое, што запісаў. А не застанецца тое, што толькі здаецца мне запісаным. І цяжка разабрацца, што запісана, а што я толькі расказваў, ці маючы намеру потым запісаць яго, ці не задумваючыся над гэтым.

Яно, відаць, і суджана, запланавана так, з такімі неаплатнымі выдаткамі. Падумаць толькі, якая процьма бабулек ды дзядкоў не знойдзена па «глыбінках», не ахоплена фальклардыстамі. А тыя з простых таленавітых людзей, што думалі-прадумалі столькі свайго — аднаму самому сабе, у глухой адзіноце?..

* * *

Адзін зануда — яшчэ нічога, а вось уявім некалькі іх на доўгай лаве,— сядзяць, сапуць і паныла, важна маўчаць... Ажно табе няёмка стане быць, можа, крыху залішне балбатліва-вясёлым у кампаніі.

* * *

Квецень чарэшняў і алычы прымерзла тут без мяне. Густой, раскошнай беллю сустрэлі яблыні. Таксама, чаго добрага, асуджанай на глум, бо прымаразкі кожнай раніцы. Ці бядуй, ці хавайся за спрадвечную мудрасць: «Што людзям, тое й нам» — усё роўна.

А такая сухмень, бяздожджыца — чарговая ненармальнасць, як было з красавіцкім ненатуральна летнім цяплом?..

* * *

Наколькі лепшымі былі тыя вёсны, якімі захапляўся ў розныя гады, цяжка, а то і немагчыма сказаць, дый не так і патрэбна,— бо вось я, захопленыя, зачараваны вясной, як быццам і безлічна даўняй, бясконца паўторанай, аднак і зноў непараўнана новай.

* * *

Уранні я ішоў з пасёлка з малаком, а дачны сусед толькі ехаў туды, насустрач мне. Прыцішыў ход, неяк правай рукою крутнуў, зняўшы яе з «баранкі», нешта сказаў, чаго я добра не пачуў, але зразумеў як

«пачакай мяне тут!». Дарога, зноў з пыльнымі каляінамі, у гэтым месцы глыбокая, нібы бясконца доўтае карыта. Я прысеў на травяной узбочыне, як на нейкай знарокавай прызбе, і адразу прыгадалася не банальна-класічнае «спыніся, імгненне, ты цудоўнае», а раней спакойнае, сціплае ў Фёдара Янкоўскага: «Прыпыніся на часіну», такая назва яго не навуковай, а мастацкай кнігі.

Праходзячы тут кожнай раніцы, бачыў я гэта, але мімаходзь, а цяпер нібы зусім па-новаму смачна ды ўдзячна спыніўся зрокам на густой кляновай зеляніне. Цераз дарогу. Кантрастам прыгадалася і наша дэкаратыўная шыпшына пры дарозе, уздоўж драцяное сеткі агароджы, і маладыя, пяцідзесяцігадовыя дубы, якія да сцішнаты шэра-аголена, трохі загуста пасаджаныя, гаем стаяць над Нёманам у сваім Дубовым норце. Шыпшына пасяшалася даць лістоту ў красавіцкую ненармальную цеплыню, яе да карычневай ссохласці прыхапіла начнымі прымаразкамі, і цяпер зеляніна новай лістоты малапрыкметна прабіваецца праз жорсткую карычняватасць. А на маладыя дубы трэба пайсці зірнуць,— як яны, следам за дзедам, што магутна ўзвышаюцца бліжэй ад норта да нашых сядзібаў, трэба думаць, пачалі ўжо зелянець.

А тут, перада мной, у шчаслівым секундным пацікванні цудоўных імгненняў, густа ды сакавіта, у спакойнай няяркасці зелянела лістота маладых прысадных клёнаў, таксама загуста пасаджаных. Праўда, пакрыху збоку да іхняй цеснай грамадкі, нібы панавагодняму адна, стаіць вышэйшая за ўсіх, стройная ялінка, але ж святочная яна зялёнасцю іншай, круглагадавой, і шчасце спаткацца з гэтай зялёнай радасцю — невыказна іншае.

* * *

Да пяці дождж перастаў, і я, усё ж такі абуўшы гумовыя боты, пайшоў на праходку, на гэты раз у бок Лузінаўкі, карыстаючыся прамочанымі і прыкатанымі каляінамі, па якіх ідзецца лепш, чым па менш язджалай дарозе на Студзёнку.

Захацелася павярнуць у Дубовы норт, праверыць, як там тыя «сцішнавата голыя» дубы.

І такое мілае здзіўленне — на іх ужо густа-зелена, амаль паўнамерная лістота, што так «паперла» ад цеплыні і дажджоў. Што значыць маладая, разбуджаная сіла! Дый трава пад дубамі шчодра ўзнялася, пераклікаецца з верхняй зелянінай...

«Пераклікаецца» — гэта, відаць, зашмат, перабор. Пошум зверху бывае ад ветру ці ветрыку, а трава больш маўчыць, асабліва ў нізкім зацішку.

Няхай будзе хоць так.

* * *

Старому трэба не швэндацца па свеце, а трымацца роднага кута — і не таму толькі, што там і сцены дапамагаюць, але ж і дзеля годнага заканчэння свайго жыццёвага шляху, са сваім месцам у Зямлі.

* * *

Самагубства. Якія б значныя ні былі прычыны для яго, а крыўда, боль, абраза, ганьба, якія ён наносіць блізкім, калі яны ў яго блізкія, бачацца мне наймацнейшым аргументам супраць такога выхаду з тупіка.



Памёр апошні з тройкі Кукрыніксаў — «Нікс». Добрае слова пра яго ў «Литературной газете». Толькі адразу здзівіла: а чаму гэта на апошняй, гумарыстычнай старонцы? А потым прыйшлося і засмяяцца, дый з паўторамі. Аказваецца, мастак Мікалай Сакалоў і вершы пісаў, «дый нядрэнныя». А далей трэба працытаваць: «Аднойчы ён рызыкнуў паказаць свае вершы Чукоўскаму. Той прачытаў і сказаў: «Вашы вершы, дарагі Кукрынікс, трэба не чытаць, а танцаваць!» І пайшоў упрысядкі, чым вельмі збянтэжыў і так нясмелага аўтара».

Карней Іванавіч, якога я бачыў і чуў неаднойчы, якога нямала чытаў,— дзіцячае, крытыку, публіцыстыку, дзённік,— жыва ўявіўся ў тым танцы: худавата-высозны, злёгку сутулы, з «нестарэючай» усмешкай пад лапцявата-доўгім носам.



І яшчэ Рэнан, «Жизнь Иисуса». Спыніўся там, дзе адна простая галілеянка, паслухаўшы маладога праведніка Ёсуа, у захапленні сказала:

«Блаженно чрево, носившее тебя, и сосцы, питавшие тебя!..»

Мне жыва, сонечна згадалася лясная вясна 1950 года ў Доме творчасці «Каралішчавічы», тое застолле, калі Танкі святкавалі пяцігоддзе нараджэння сваіх дачушак-блізнят.

Тамадзіў яшчэ не стары Міхась Лынькоў, з яго пацэтным, злёгку духоўна-семінарскім гумарам. Так ён звярнуўся да абаяльна сціплай, хараша ўсмешлівай Танчыхі, таксама ж яшчэ маладой:

— Любоў Андрэеўна, паколькі вы ўжо не корміце малютак бюстам, то, грэшным дзелам, можа, такі

ўзялі б на радасць нам недастойным хоць адну, хоць найменшую чарчыну?..

Адгэтуль прыгадалася, як старэнькая Наталля Арсеньева ў сваім, нядаўна прачытаным мною, «Аўтабіяграфічным нарысе», надрукаваным у кнізе «Беларуская мемуарыстыка на эміграцыі», успамінае:

«Мы вельмі пасябравалі з Танкам і ягонай Любай».

Гэта — працуючы перад вайной у вілейскай «Сельскай газеце». А пазней, вярнуўшыся з казахстанскай ссылкі:

«У Беластоку я сустрэла Танка (ён, не ў прыклад іншым, быў мне нават напісаў ліст у Казахстан, не пабаяўся, за што я была вельмі ўдзячная), і той уладзіў мяне на кватэру і на працу ў рэдакцыю газеты».

Дзе тая Галілея, тая Беларусь, той Казахстан, тая Амерыка, дзе хто пра каго думаў, хто каму быў удзячны... А згадваючы такія «дробязі» — весялей на душы.

* * *

Гараць тарфянішчы. Узняўся вецер, пыл тарфяны гарыць на ляту, у паветры. І гэта страшна — з-за лесу, вёскі, статка і людзей, якія на дарозе гэтага агню-падпалу.

Страшна — бачачы, чуючы збоку, на тэлеэкране.

* * *

Чытаючы ў «Нашай ніве» за далёкі 1910 год хроніку, апрацаваную з чытацкіх допісаў, прыемна ўяўляецца, як гэта ўспрымала вёска, тыя людзі, што самі сабе чытаюць, і тыя, што слухаюць ды абмяркоўваюць чытанае ўголас...

* * *

Пасля стандартнага тупату салдацкіх кірзачоў і грукату ўбойнай тэхнікі цішэй тарабанілі камбайны і яшчэ цішэй тралейбусы. А ён стаяў на трыбуне, пастарабабску шчасліва, няспынна ўсміхаўся і, як Іван Іванавіч Перарэпенка, перакочваў пад спацелай лысінай буйны шрот думачак:

«Господи Боже мой, какой я хозяин! Чего только у меня нет?.. Хотел бы я знать, чего нет у меня?..»

* * *

Адрываючыся ад старонак серба Міларада Па́віча, яго «Пейзажа, нарисованного чаем», думалася, што, чытаючы добрую кнігу, і сам, здаецца, робішся разумнейшым, таленавіцейшым.

А чытаючы рускага Юрыя Палякова, аповесці ў томе «Сто дней до приказа», думаў, як гэта добра — быць самому вясёлым і весяліць сваім словам другіх!..

* * *

Толькі што выдадзены па-нашаму том выбранага Элізы Ажэшка.

Пачаў знаёміцца з невядомага дагэтуль вялікага нарыса «Людзі і кветкі над Нёманам», цікавага і прыемнага сваёй свабоднай пабудовай: вобразы сялянак-лекарак, і назвы іхніх зёлак, і прыказкі, таксама ж кветкі нашай зямлі,— усё гэта і спалучана ў адно цэлае, і расцярушана на старонках у замілаваным паказе.

Учора за дзень амаль неадрыўна прачытаў нячытаныя па-польску «Нізіны», на ўсю душу прыняўшы моцны, яркі па маляўнічасці, глыбокі па пранікненні ў тэму чалавечнасці твор.

Перачытваць «Дзюрдзяў» і «Хама» не пацягнула, даволі празрыста памятаючы іх у арыгінальным гучанні. Не захацелася перачытваць і свой даўні пераклад даўжэйшага — «Зімовым вечарам», а з карацейшым «Тадэвушам» не вытрываў, яшчэ раз адчуўшы красу і сілу гэтага апавядання.

Наогул — добры, хораша выдадзены том.

І яшчэ раз — які малайчына са сваім «кнігазборам» наш Кастусь Цвірка!..

* * *

Валодзя Машкоў... Такая балючая нечаканасць...

Потым ён да мяне вяртаўся. Ціхі, спакойна-ўсмешлівы, удумліва працаваты пісьменнік, найбольш і найлепш дзіцячы, і перакладчык, які так нямала і добра зрабіў і для мяне, яшчэ і ў сёлетні першы нумар «Нёмана». «Хорошо он перевел Вас, уловил не только главное, но [redacted] оттенки»,— так пісала мне, падзяляючы жаль, масквічка Іна Сяргеева, знаўца абедзвюх моў, вядомая перакладчыца нашай прозы.

«Запаветнае» я падпісаў яму з падзякай «за плённае супрацоўніцтва», і думаецца цяпер, што гэта зроблена было належна. І горка ад думак, як гэта ўсё-такі і крыўдна, і недарэчна — так молада памерці...

Апошні раз (як заўсёды — хто ж гэта думаў, што апошні?!) мы з ім бачыліся нешта ў палавіне ці пад канец красавіка, калі ён зусім адпаведна падобны да самога сябе і маладжавым, здараўчаным выглядам, і ўсмешлівым спакоем, пытаўся пра маю маскоўскую

кнігу, для якое мы ўсю зіму шчыравалі, і мы пагаварылі даўгавата, спачатку толькі ўдвух у рэдакцыйным пакоі, а потым і з другімі, калі пачалі збірацца «нёманцы», у прыязным, утульным сяброўскім гурце...

* * *

Гляджу на старую, прывезеную з горада канапу і з тугою думаю, як на ёй ляжаў калісьці Валодзя Калеснік, а каля другое сцяны, на самаробнай дачнай «тахце» ляжаў я. Увосені гэта было, мы начавалі толькі ўдвух у доме, і можна было ў бязмежным вечары пагаварыць **пра ўсё** — літаратурнае, сяброўскае, мужчынскае...

* * *

Просценькае, з бабуліных вуснаў: «Коце-браце, ратуй мяне!..» А так жа люба ўявілася яно з абавязковай прысутнасцю і самога ката, які, на цёплай лагодзе печы, можа, і трохі слухаў разам з бабінай унучкай ці ўнучкам натуральную перадачу спрадвечна народнага, а можа, толькі соладка драмаў, заплюшчыўшыся і не варушачы вусамі.

Верны «коце-браце» і майго маленства.

* * *

Такое важнае гучанне гістарычных датаў — 1905, 1917... А некаму ж і ў кожным з гэтых высокіх гадоў было па некалькі годзікаў маленства з належна вялікім, толькі сваім, законным, адзін раз дадзеным зместам штодзённага, штогадзіннага, штохвіліннага пазнавання свету...

* * *

Далёкае, ваеннапалоннае.

Спраўны хлапчына, не мой аднапалчанін і родам не з нашых мясцін, на «арбайтскамандзе» пры заводзе крышталънага шкла, дзе я ў нашай замкнёнай на кожную ноч і назаўсёды закратаванай па вокнах «штубе» вечарамі вучыў ахвотных сяброў роднай грамаце, выказаў мне недавер, як «такому ўжо настаўніку». Сказаў: «Па-рускі і па-беларускі, калі ўжо ты хочаш, буква «к» пішацца без доўгай верхняй ножкі. А ў цябе?..» І не хацеў паверыць, што гэта ў мяне — у сшытку, куды ён зверху зазірнуў, у слове адным — проста апіска ў польскі бок, па школьнай памяці, колішняй прывычцы.

* * *

Учора ў штотыднёвай радыёперадачы «Адпачынак на канапе» — непаўторная Ганна Герман, песні яе апошніх гадоў. Спакойна-інтэлігентная вядучая ў сваім захапленні, так зразумелым і мне, раптам назвала аўтара слоў не знаёмай мне песні: «...яе друг, паэт Станіслаў Рышард Дабравольскі». Думалася пасля пра гэтую цудоўную нечаканасць — хораша і сумна. Бо мог жа і я пазнаёміцца з паняй Ганнай — вельмі проста, праз вясёлага, таварыскага Рыся, сябра і майго. А вось жа не ведаў пра іхнюю дружбу...

* * *

Новы асколак даўняй памяці — пачатак верша літоўскай паэткі Оўнэ Міцютэ, перакладзенага маладым, віленскім Танкам:

Ведаю, што не спіш ты начамі,
Боль вочы ссе ціха і слёзамі свежыць,
І птушкі цябе, як раней, галасамі
Вясёлымі болей не цешаць.
О маці, маці мая! Твой сын цяжка хворы...

Больш памяць не захавала. Пазней, пасля вайны, даведаўся, што Міцютэ — жонка Янкі Шутовіча, рэдактара і мне знаёмага «Калосься». Максім пазнаёміў нас з Шутовічам, калі той у канцы 50-х вярнуўся з лагера. Памятаю чамусьці найлепш, як Максіма раздражнялі Шутовічавы папрокі, што піша ён, Танк, горш, чым раней. З Міцютэ я ніколі не бачыўся, не помніцца, каб чытаў яе больш, як той верш, пачатак якога не-не дый згадваецца, вось і цяпер. І не таму, што гэта такі ўжо шэдэўр. Ну, а чаму? Хоць ты скажы дзіцячае: ■ таму! Хоць нейкая ж прычына ёсць, чаму сёе-тое так доўга трымаецца ў глыбейшых залежах памяці, час ад часу міжвольна выбліскваючы.

* * *

Неабдымна дзябёлы, безнадзейна гультаяваты, нават і дабрадушны, лагодны завала, целяпень, заўсёды ненацешна мокры, да вушэй у вадзе. Усё такое — пра бегемота. Такія ўспаміны ў мяне пра яго, з усіх заапаркаў, дзе я з ім весела сустракаўся, з усіх экранаў, на якіх яго ахвотна бачыў.

А вось чытаю ў дзіцячай пазнавальнай кнізе і смяюся, задаволены справядлівасцю. Ён, аказваецца, свабодна перакусвае напапалам найбольшага кракадзіла, а льва можа ўзяць за царскі каршэнь ці за каторую лапу і ўцягнуць у ваду, на глыбокае, каб ён пабулькаў і назаўсёды змоўк.

А справядлівасць смеху ў чым?

А вы — магутныя ды страшныя — не чапайце, не палохайце мяне, спакойнага, калі я вас не кратаю.

Ды яшчэ мне смешна па той прычыне, што я так доўга не ведаў гэтага, а даведаўся з кнігі дзіцячай.

* * *

На прынёманскім лузе — скрозь «купальскае зелле», вядомае з пастушынага маленства. То светлажоўценькія, то ў бела-салатавай драпястасці незлічоныя мяцёлачкі...

Адвячорак пасля дажджу. Іду па надрэчнай травяной сцяжыне. І так свабодна, лёгка ўспамінаецца светла-народнае, шчыра-купалаўскае:

На Купальле, на сьвятое
Рвій, матуля, зельле тое,
Што ў нас папараць завецца
І шчасьлівым быць здаецца!

Памятаецца са школьнай чытанкі «Родны край». Прыемна было нядаўна сустрэцца з яго першадрукам у факсімільным выданні «Нашай нівы» за 1910 год, адкуль, дарэчы, і выпісваю. А як яно лёгка... не скажу: завучвалася, бо дакладней будзе: запаміналася — так мы яго любілі. Жыва ўспомніўся прадаўгаваты, пад гладкай цёмна-русай прычоскай, крыху шыракароты, чарнабровы тварык аднакласніцы, імя і прозвішча якое цяпер буду ўпарта намагацца прыпомніць. А бачу і чую, як яна прыўзнята, хораша расказала верш, стоячы каля дошкі, а ў канцы ўсміхнулася міла на двух апошніх радках:

Будзеш, маці, меці ў хаце
Долю, згоду і багацьце!..

...Такі пастскрыптум:

Верш, вядома, на той час з усімі патрэбнымі мяккімі знакамі, але ж і з польскім «**рвій**». У газеце падобнае маецца: **джýма** — замест чума, **згладзіць** — замест забіць, **сафандýла** — няўдаліца… Не памятаю, ці ў чытанцы было тое «рвій». Школа польская, настаўніца полька, магло так і лічыцца за належнае…

* * *

А ўсё ж такі небывалае — дзяцел на градзе клубніцаў. Побач з высокім падмуркам белацаглянага дома, паміж кустом даўно ацвіцелага бэзу і сценка дэкаратыўнай шыпшыны, кветачкі на якой ужо духмяна ружавеюцца. Той дзяцел, на якога звычайна глядзіш угару, спынены яго працавітым пастукваннем, цяпер прызямліўся на градзе, патупаў сярод клубнічнай лістоты і малатком сваім ці долатам не дзёўб, [illegible] гулліва хапаў — адну за адною — першыя спелыя ягады. Калі я весела прыкрыкнуў на яго з-пад ліпы, з-за стала, пярэсты зладзяйчук не адразу ўцяміў, што да чаго. Прыйшлося грукнуць кулаком па стальніцы. А потым — і пашкадаваць, калі ён успырхнуў і знік… Будзеш ізноў цікаваць на яго толькі знізу, яшчэ і галаву задзёршы, як блазнюк?..

* * *

Такое хочацца дэкламаваць. З гэтым я сёння прачнуўся:

Оружия любимейшего род,
Готовая рвануться в гике,
Застыла кавалерия острот,
Поднявши рифм отточенные пики…

Або такое, і сёння сучаснае:

Мне ни рубля не накопили строчки,
Краснодеревщики не слали мебель на дом,
И кроме свежевымытой сорочки,
Сказав по совести, мне ничего не надо.

Цытую, вядома, з памяці, і з яго «лесенкой» тут у мяне можа быць непарадак. Яна мяне, гэтая «лесенка», раздражняла ў яго трынаццацітомніку. Столькі лішніх прабелаў! Пасля, скарачаючы бібліятэку, якой і ў чатырохпакаёвай кватэры стала зацесна, і гэты збор твораў здаў букіністу, сабе набыўшы аднатомнік.

З усёй іншай, яшчэ большай шматтомнасці засталіся ў трыццацітомніках Чэхаў і Дастаеўскі, якіх ніколі не зашмат. А пазбавіўся я, ці здаючы ў антыкварыят, ці дорачы каму-небудзь або куды-небудзь, і Маркса з Энгельсам, і Леніна, і Горкага, і Герцэна... Трыццацітомнік Аляксандра Іванавіча, у палавіне падпіснога тыражу апамятаўшыся, я абмяняў з суседам на дзевяцітомнік, а потым і пашкадаваў, што паспяшаўся, і цяпер шкадую — з-за «Колокола»...

Талстога не зашмат у першую чаргу, але яго дваццацітомнік я, аддзяляючыся з жонкай у асобную двухпакаёўку, пакінуў сынавай сям'і, забраўшы толькі выпадкова набытыя апошнія тамы дзевяностатомнага Поўнага збору, з перапіскай і дзённікам, а таксама ўсе мемуары вакол Льва Мікалаевіча. І не хапае часамі дома таго ці іншага мастацкага твора, прыходзіцца прасіць прынесці. Ахвотна набыў бы які «сярэдні» збор твораў. Тым часам у друку было ўжо, што выйшаў першы том стотомніка, але тут, з падпіскай на яго — штосьці касмічнае па часе: і малады не кожны дачакаецца ўсяго выдання.

* * *

У «Нашай ніве», зноў за 1910 год, апавяданне нейкага Н., «Праўда — не праўда, казка — не казка». Хлопец пытаецца ў дзяўчыны, навошта яна жыве, у сэнсе найвышэйшым, ■ яна адказвае: «Я? Я жыву, **каб праўды дажыцца**». Як проста і як нязвычна хораша. А яшчэ і фотаілюстрацыя да гэтага, «Дзяўчына з-пад Слуцка» — сціпла-просценькая краса прыняздзеленай работніцы,— здымак, удала знойдзены рэдакцыяй, а можа, і прысланы тым засакрэчаным аўтарам, не так сабе, а з адпаведнай думкай. Якую мне падкрэсліць захацелася.

* * *

Здаравенныя, наедзеныя зады, доўгія размашыста-квяцістыя спадніцы і безаглядна, гучна-вясёлая гама на цыганак у сталічным тралейбусе. А яшчэ ж і няўрымсліва-шчабятлівая чарнамазая малеча. І ўвайшлі ўсім гамузам на прыпынку, і выйшлі потым, на прывакзальнай плошчы, з тым самым бесклапотным гоманам.

А наша сухая, паджарыста-загарэлая вясковая цётка, стоячы побач са мной каля вагоннага акна, уздыхнула:

— Во як! А нам толькі ведай — пашы́ ды пашы́!..

І слова не сваё пра ворыва — цяжкую ды бясконцую працу.

* * *

Яна вельмі баялася паміраць, адчувала набліжэнне канца ў няўмольнай хваробе. Прыгожая ў сваёй бялявай статнасці, амаль дзявочай пасля двойкі дзя-

цей, і, як дзіця, гатовая вось-вось расплакацца. Расказвае мне пра свой страх, а я і сёння, ужо больш чым праз дваццаць гадоў, не магу прыдумаць, а што тут сказаць?..

У надвячэрне-сонечным парку нас было тады некалькі добра знаёмых жонак і мужыкоў, і неяк атрымалася, што мы з ёю апынуліся, ішлі ззаду за ўсімі адны. І яна пачала пра сваё...

Прадчуванні яе збыліся. Я не быў у горадзе, калі яе хавалі, пачуў пра гэта пазней. Дружба мая з яе мужам працягвалася, бо й не магло быць інакш, прычыны для нейкай рэўнасці ніколі не было, хоць у той паркавы адвячорак мы з ёю далучыліся да кампаніі тады, калі яна яшчэ не выйшла з суму, блізкага да плачу...

Ды вось не стала і яго. Я зноў жа не быў, не мог быць на развітанні. Гляджу на ягонае фота ў некралогу ды ўспамінаю і яе...

* * *

Жахлівыя кадры з разгромленага Грознага. Бездапаможная старасць і маленства, пахаванні і перазахаванні, слёзы і адно, галоўнае пытанне: «Навошта?!»

Муж катуе жонку, бацька здзекуецца з дзяцей, дзеці з бацькоў, брат ідзе на брата... І гэта — іх «сямейная», «унутраная» справа?! Такая ж логіка і ў крывава-вогненным вырашэнні лёсаў міжнародных...

Адчуў гэта ўчора позна вечарам, гледзячы і паглядзеўшы тэлеперадачу «Чачэнскі дзённік». Толькі пэўная аб'ектыўнасць грозненскіх кадраў, праз адчайны крык ды гвалт натоўпу розных узростаў **падтэкстава** гаворыць штосьці агульналюдскае, чалавечнае...

* * *

Калісьці недзе чытаў, як на Сахаліне саўгасны бык і акіянскі васьміног доўга змагаліся на беразе, цягалі адзін аднаго то з вады, то ў ваду... Там хоць нова гэта было, незвычайна. А кожны вечар слухаць пра цяганіну з Чачнёй — Божа мой, як гэта сумна, цяжка!.. Асабліва калі на тэлеэкране чарнявая руская красуня дыктарка, якой толькі б радавацца і радаваць каханнем ды мацярынствам, а яна ўсё лічыць ды лічыць з вечара ў вечар мілым дзявочым голасам забітых і параненых, паўтарае ды паўтарае афіцыйна аднабокую «праўду»...

* * *

Калі маўчанне — золата, дык замоўчваць недахопы блізкіх нават і проста выгадна: не патрацішся дарма найдаражэйшым.

* * *

У мностве старых часопісаў «Крестьянка», прывезеных сюды ўжо... зноў некалькі гадоў таму назад, знойдзена ў нумары за сакавік 1993 года высакароднае апавяданне Булата Акуджавы «Девушка моей мечты». Не пра каханне — пра вяртанне яго мамы з казахстанскай ссылкі. Прачытаўшы ранелька, перад выхадам у пасёлак па малако, адчуў малітвенна-чысты настрой. Потым, вярнуўшыся, зірнуў, які тыраж — каля трох мільёнаў. Колькі людзей усхвалявала гэтая рэч, колькі іх адчула ўдзячнасць, пакуль таксама параіць твор камусьці блізкаму, як мне параіла дачка!.. І як гэта добра — такая знаходка поблізу, на гарышчы!..

* * *

Сон. Даў згоду быць намеснікам Лынькова, старшыні Саюза пісьменнікаў адразу пасля вайны. А потым, дома, ніяк не мог заснуць — усё думаў, як жа ад гэтага прыстойна выкруціцца?.. Прыдумваў, прадумваў розныя варыянты, і ніводзін з іх не падыходзіў. Ажно прачнуўся ад такога прыкрага тупіка. Разабраўшыся, што гэта быў толькі сон, рады, сказаў сам сабе: «Спі далей, намеснікам ужо не будзеш». І неўзабаве зноў заснуў.

* * *

Вясковае, народнае: «разбрыджаная баба», «разбрыджаная дзеўка».

А такія нават і кнігі пішуць. Таксама разбрыджаныя. Сам чытаў.

* * *

У партызанах сядло мне рабіў у наднёманскай Вобрыне знаёмы майго старэйшага брата, Коля Марцюкоў. Гэта не прозвішча і не мянушка, ■ так «павулічнаму». І толькі нядаўна пачуў ад аднаго вобрынца, што гэта ў Колі дзед быў Марцін, а змалку, ласкавей — Марцюк, так яно і пайшло ад дзеда да дзяцей, унукаў, праўнукаў — да сённяшніх дзён Марцюковы.

Майстар ён быў, Мікалай, і сядло рабіў не мне першаму, не мне апошняму. І гэта без нейкай пахвальбы ці, тым больш, пахвалы або ўзнагароды за ўдзел у народным змаганні.

Пасля вайны ён вёў у мясцовай школе ўрокі працы, майстравання. Прыемна было сустрэць яго над нашым Нёманам хоць зрэдку. Спінінг — свае работы, а шчупакоў ды жэрахаў браў нядрэнна, зноў жа без пахвальбы. І так нам добра гаварылася — над ракой або сустрэўшыся на лугавой дарозе. Такі гэта спакойны, светлы чалавек.

* * *

Культурны рост Міра. Замак на ўліку ў ЮНЕСКА, рэстаўрацыя ідзе, турысты таксама. А газетны кіёск на плошчы знеслі. Прэсы якое і на пошце не купіш. Рэдка бываю тут апошнім часам, дык яно і дзіўна ўсё. Скажам, пайшоў у кнігарню каля касцёла, а там ужо не кнігі, а магазін рытуальных прадметаў — усё для нябожчыкаў. А кнігі дзе? Мне ветліва адказалі, што яны цяпер у «прамтаварах», у спецыяльным аддзеле. Падаўся туды, хоць далекавата. І праўда — крыху дзіцячых, больш дэтэктываў, [redacted] найбольш — дзве доўгія паліцы стройненька застаўлены — катушак туалетнай паперы.

А так жа нядаўна за мяжой зласліва хіхікалі, што ў нас яе няма!..

* * *

«Даведалася я, што мая братавуха, ужо каторы год удава, жыве адна, бо дзеці таксама ж па гарадах, нешта расхварэлася. У адведкі трэба пайсці. З пустымі рукамі не пойдзеш,— узяла чысценькі цэлафанавы мяшэчак шакаладных цукерак, з тых, што нявестка на Новы год з Баранавіч прывезла.

Хоць можна было б, добра падумаўшы, і не пайсці — за іхнюю з яе суседачкай дурную брахню, што я — ведзьма... Трэба ж дадумацца!..

Прыйшла, а яны сядзяць якраз абедзве, груба-кахлянка гарыць, па тэлевізары кіно глядзяць. Павіталася, пакуначак аддала, «дзякуй» пачула, і пасядзелі мы, пагаварылі, як людзі, як сваякі.

А потым — чую — зноў тое самае: ведзьма!.. Яна — адной нашай бабе, а тая — мне, слова ў слова: «Не пачалі мы тых яе цукерак, ні з ёю разам, ні пасля. Пайшла яна, дык мы іх у печку, у агонь! Ну ж і трашчалі, мая ты мілая, ну ж і трашчалі!.. Каб ты, ведзьма зіркатая, сама з'ела тое, чаго ты мне начаравала!..»

* * *

Вялікі, тоўсты, у цёмным пераплёце слоўнік, узяты выкладчыцай на дачу, для работы, суседкі тое жанчыны, у якое яна стала жыць, палічылі «чорнай кнігай». Адна другой бажылася, што яе Анжэлачка, пойдзе ўжо ў чацвёрты клас, «дальбог жа, сама на свае вочы бачыла, што тая чорная кніга, лежачы на канапцы, падскаквала, як жывая!..».

* * *

Універсітэцкі вахцёр, і строгі, і важны таварыш з загадкавых адстаўнікоў, калі наведвальнікі звярнуліся да яго па-беларуску, не прыпадняўся з-за свайго службовага, прыўваходнага століка, толькі сказаў: «А вы по-человечески спросить не можете?..»

Гэта — у Мінску. А ў Беластоку,— чытаю ў газеце «Ніва»,— маці прыехала з вёскі да гарадскога сына ў бальніцу, сядзяць, гамоняць па-свойму, па-роднаму, а пані доктар падышла да іх і кажа: «No, może byście chociaż w szpitalu gadali po ludzku!»

Якая блізкасць моў! І як аднолькава — «по-человечески» і «po ludzku» адносяцца да нас браты і сёстры славяне!..

* * *

Позна ўвечары вялікі ліхтар жнівеньскай поўні глядзіць скрозь верхавіну... думаецца, што яліны, завостранай па-кіпарыснаму. Захацелася пастаяць, паглядзець...

А ўранні, запісваючы гэта, выйшаў на ганак праверыць сябе. Не яліна ўчора была ў гушчары за агародам і дарогай, а бярэзіна такая вастраверхая, а ў ёй прагалле такое ў лістоце — якраз акенца для поўні. Цяпер трохі ветрана, каб так было ўвечары, ліхтар зусім кругла ды чыста не глядзеў бы.

* * *

Я яго справядліва ляпнуў па мяккім, а ён расплакаўся ад найвялікшай крыўды і... прытуліўся да дзеда, у мяне добрага шукаючы абароны ад мяне дрэннага.

Тыя яго краплістыя слёзы не даюць мне спакою гадоў ужо з пятнаццаць, час ад часу вяртаюцца — як боль і вобраз...

І запіс пра гэта, здаецца, не першы.

* * *

Летась, яшчэ пазалетась пачаўшы, хварэў наш ельнік, яго спускалі ды вывозілі, масава. Адну яліну, старую ды вялікую, неяк прапусцілі ў санітарным пляжанні, яна засталася стаяць пры дарозе, ужо без

іголіцы, з рэшткамі кары, толькі з тонкімі, голымі галінамі ды галінкамі, сілуэтам такая плоская, празрыстая піраміда, як на дзіцячым старанным малюнку.

Уранні я так бы і прайшоў міма яе, як штодня, але зверху нечакана пачулася буслінае клекатанне. Не проста вясёлае, а з дзіцячай гарэзнасцю: «А во дзе я!..» На самым-саменькім вільчыку. Адразу ўспомнілася слова **накольнік**, з матчыным клапатлівым гуканнем: «Куды ты ўзбіўся, накольнік, злазь, а то я!..» Падумалася, што бусел сёлетні, маладзён, у першых радасцях палётаў, вучэбных перад выраем і свавольных, як сёння, над аўсяным полем ад роднай буслянкі на слупе электралініі каля надніёманскага хутара. Падумалася таксама, што яго, навабранца, чакае яшчэ і нялёгкае шчасце далёкай дарогі, а пасля і глядзенне, стоячы, ужо ў большым пасталенні, з непараўнана вышэйшага верху ды ў зразумелай задуме… Як гэта ў Сыракомлі, што мы ў школьнай чытанцы любілі ў родным Лучынавым гучанні:

> …І думаць думкі пра край тутэйшы
> На піраміды вяршыне…

* * *

Як няпроста, як жудасна пайшоў з жыцця Мікола Ермаловіч!..

Перачытваю ў «Нашай ніве»:

«…Ішоў снег, пад нагамі хлюпала. Пераходзіў магістраль. Таксіст не паспеў затармазіць. Машына цягнула збітага яшчэ дваццаць пяць метраў… Галавою прабіў лабавое шкло… скальпаваная рана галавы… дыслакацыя галаўнога мозга… падвойны пералом таза… пералом дзвюх скабаў… пералом лыткі… трынаццаць гадзін быццам захоўваў свядомасць…»

Такая ўзнагарода за працавітае, разумнае, натхнёнае, пакутнае жыццё!..

...Праз тыдзень.

Да таго, што здарылася на мокрым асфальце, пад снежна-туманным дажджом, я зноў іду адчуваннем, думкамі, уяўленнем — ад старанна, чыста, наогул цудоўна выдадзенай кнігі, якое ён не пабачыў, а я другі дзень чытаю.

Страшная смерць. І светлая даўгавечнасць.

* * *

Інвалід вайны, з партызанаў ды з фронту, і працы, на торфазаводзе і дома, на гаспадарцы, ён спакваля зусім аслабеў. Але змоладу спраўныя рукі яшчэ ўсё служылі ў лягчэйшым. Гэта ўжо толькі дома. Пачаў вось у садзе, на самым краечку неадгароджанага панадворка, першы сёлета пракос, ды на ім і знямогся. Паклыпаў, абязножаны, у хату, зноў паляжаць. Толькі касу павесіў на сцяне, як звычайна, дзе ў яго адмысловы гвозд.

А я, пакуль зайсці да яго, палюбаваўся пачатай работай. Роўненькая, чысценькая пакоша сама сказала, як па-майстэрску асаджана, накляпана яго каса. Ажно пагладзіць хочацца тую пакошу, правесці па ёй рукою, не раўнуючы як па галоўцы малога сына, сёння гладка пастрыжанай машынкай і чысценька памытай з матчынай любатой.

* * *

Чытач хоча мець і мае гатовы тэкст. А тое, як гэты тэкст узнікаў і дапрацоўваўся, колькі было выкрэсліванняў і знаходак, зноў выкрэсліванняў, ужо ў

знаходках,— гэта мой клопат, мае радасці... Так, радасці, асабліва калі не працуецца і адна нейкая правачка, зробленая дарэчы, дапаможа горка ці нудна беспрацоўнаму перадыхнуць, ураўнаважыцца.

* * *

За чатыры дачныя месяцы ўбачыў нарэшце першага сёлета вужа. Затое якога! Па чыстых цэментаваных плітках ходніка, пярэстага ад сонечных пляма і кветкавых, ад ветрыку рухавых ценяў, ён, шпарка вільнуў па ходніку наўскасяк, паміж ружовага і аранжавага, а яшчэ і зялёнага багацця кветак. Аднак, пакуль нырнуў у траву, я паспеў заўважыць, які ён упасвены, доўгі, акулярысты. Ажно падумалася наўздагон пра казачную карону — на яго прыўзнятую галоўку.

* * *

«Ку-ра-са́-ва!» Такое знячэўку, раптам сказалася, калі пачаў уставаць, нібы каманда на пабудку. І так даволі часта, міжволі знаходзіцца штосьці яшчэ ў бязладна растрэсеных былых запчастках старэчай памяці. Нейкі паэтычны радок, народная прымаўка, трапнае, смешнае слова або, як сёння, прозвішча, нават далёка-японскае, якое неаднойчы чуў, бо яно належыць вядомаму чалавеку.

А ёсць жа і ў гэтым нейкае навуковае, медыцынскае абгрунтаванне?..

* * *

Не смяюся з «дзей-барадзеяў» Мюнхгаўзена і ад сатыры Самасуя — не смешна мне, што ты зробіш.

Пра першага падумалася, чытаючы Пяскова, які ў Нямеччыне наведаў баронаў дом, а пра другога — успомніўшы нядаўна прачытаны хвалебны артыкул маладога даследчыка.

* * *

Што адчуваю з даўнім недаўменнем:

Чаму гэта ў Багушэвіча не **ўмерлі** або **памерлі**, а «каб не **ўмёрлі**»? Дзе так гавораць? А калі гавораць або раней так гаварылі, дык няўжо яно можа, павінна лічыцца нормай?..

І другое, яшчэ адна «драбніца», недаравальная другому класіку, Коласу, ягоны заклік у кожным нумары «Народнай волі»:

На прастор, на шырокі разлог
**Выхадзі**, мой народ, грамадою…

Свярбіць рука паправіць хоць так: «Ты **выходзь**, мой народ…» Прынамсі, па-беларуску.

* * *

«Славянская адзінства»… А ці не будзе па-людску няёмка толькі з такім адзінствам сярод сяброў **не-славянаў**, калі гаварыць пра жывых або адчуваць сябе перад памяццю тых, якія паадыходзілі?.. Жыды, татары, эстонцы, латышы, літоўцы, ніўхі, немцы, башкіры, індыйцы, таджыкі, малдаване… Усе і яшчэ,

як падумаць, не ўсе, з кім мне ў меншай ці большай меры пашчасціла адчуць цяпло чалавечых узаемаадносінаў, чые імёны магу назваць і ўжо называў у напісаным, чые вобразы свецяцца ў перажытым...

* * *

Яму сорак пяты, свая сям'я, свой клопат у нялёгкі час. Сустракаемся рэдка. І вось я здалёк шчасліва ўспомніў даўняе.

Работа была пільная, я нават і зашчапіўся ў сваім «кабінеце», яшчэ не звыклы да гэтага слова.

А ён, устаўшы, як і належыцца, значна пазней, калі і сёстры ў школе, і маці на кухні занятая, і тое, што «тату сёння не можна перашкаджаць»,— ён спачатку патупаў мякка каля дзвярэй, потым зашморгаў па іх нечым драўляным, а нарэшце тым нечым і застукаў.

Падыходжу, крыху раздражнёна пытаюся:

— Ну, што табе?

Адказ — упершыню такі і ў памяці — назаўсёды:

— А я хачу ў цябе жыць!..

* * *

Светлае, ціхае ранне. Іду. Справа лес, злева доўгай градою высокія кусты, заслона ад нізкага, яркага сонца, пад ёю контур невялікага мурашніка, а потым адкрытае поле, зелістае аўсянае іржышча.

Не паспеў да яго як найбліжэй падысці, як адтуль узнялася, густа зафуркатала кароткімі крыламі ладная чародка курапатак.

Прыемны ўздрыг ад нечаканасці і думка, нібы азарэнне якое, наўздагон:

«Яны не дзікія, яны — свабодныя!..»

* * *

Палавіна верасня, [redacted] ў шэсць трыццаць, калі выйшаў да ўмывальніка пад ліпай, само ад холаду сказалася матчына:

«Не пі, не еш і з хаты не лезь!»

Народнае і тут не так сабе, дарэчы, а для бадзёрасці яшчэ і складна.

* * *

«Ты мне гэта назад у зубах прынясеш!»

Злодзея так эканомна яшчэ і сабакам назваць.

* * *

Адзін з дачных суседзяў, едучы з вёскі, падвозіць мяне з малаком ад пасёлка на сваім захляпаным па лужынах легкавіку. Гаворыць, як пазаўчора дамовіўся з чалавекам выараць бульбу, а той прыязджае ўчора ажно апоўдні, ды такі п'яны, што і ў баразну яго не пусціш, пойдзе зігзагамі... (Сусед — навуковец, таму і «зігзагі», а я ўспамінаю прасцейшае: «Баразну вядзе, як бык сцыць на хаду».) Адправіў ён такога аратага, ды вось і ездзіў зноў, дагаварыўся з другім.

Выходзячы з машыны каля сваёй сядзібы, я і падзякаваў, і пажадаў:

— Дай Бог, каб гэты прыехаў цвярозы!

І такое сёння вясковае шчасце.

* * *

Васіль Субоцін усцешыў доўгачаканым адказам на маё ліпеньскае пісьмо. Піша, што і яму ёсць што ўспомніць пра нашы былыя, ужо і даўнія сустрэчы. У 1990-м у яго выйшаў трохтомны Збор твораў, адкуль ён нават працытаваў у пісьме пачатак запісу пра мяне, які быў раней, яшчэ даўней надрукаваны ў падараванай мне кнізе. Кажа і сам пра гэта Васіль Яфімавіч, не падкрэсліваючы, што паўтарыцца яму прыемна. За дзесяць гадоў змог ён надрукаваць, ажно ў часопісе «Урал», успаміны ў чатырох нумарах, а тая кніга, пра якую было ў «Литературной газете», ужо трэці год ляжыць без руху ў выдавецтве, што ледзь ліпіць пад страхам банкруцтва. Проста пісьменніку, няхай сабе і добраму, але сціпламу, непрабіўному, і там, у Маскве, жывецца нявесела, на што ён паскардзіўся стрымана, і пра смерць жонкі напісаўшы коратка...

Я без віны вінавата спазніўся павіншаваць з дзевяностагоддзем Апанаса Цыхуна, заслужанага настаўніка, краязнаўца і фалькларыста, і, каб лепей выйсці з няёмкага становішча, паслаў яму сваю новую кнігу, аўтограф на ёй разгарнуўшы ледзь не ў цэлае кароткае пісьмо. Гродна бліжэй за Маскву, паважанага Апанаса Пятровіча ведаю як чалавека культурнага, і трывожна было на душы, што ён не адказвае таксама трэці месяц... А ён гэта, відаць, начэкваў, пакуль і ў яго, калі па Багушэвічу, таксама будзе «ксёнжачка», і прыслаў мне яе, «Песні з народных глыбіняў», з цікавымі запісамі, і ў сваю чаргу перагукнуўся шчырасцю ў аўтографе, шчодра напісаным, дай Бог здароўя, яшчэ зусім паслухмянай рукою...

Прафесар Эдуард Га́шынец, вядомы славацкі мовазнавец, даўні сябар Фёдара Янкоўскага, а затым і мой, на прыгожай, доўгай паштоўцы з каляровай панарамай красуні Браціславы дробненька піша на адвароце, прыстойна па-беларуску, дзякуючы за тое, што я, яшчэ ў чэрвені, дапамог яму скантактавацца з Яўгенам Лецкам, які працуе ў «Голасе Радзімы», каб ён, Гашынец, прапанаваў туды новае са сваіх даследаванняў пра ўдзел славакаў у беларускім партызанскім руху. А таксама нібы між іншым, але з прыкметнай прыемнасцю дадае, што пераклаў нядаўна дзве нашы народныя казкі, адну з якіх, «Žiarliry stryc», пра зайздроснага прагнага дзядзьку, што здзекаваўся з асірацелых пляменнікаў, далучыў ужо і надрукаванай, а я, дарэчы, папрактыкаваўся ў славаччыне...

Важна гэта і радасна — перапіска з добрымі людзьмі, як ні вяла сёння працуе ўсюды пошта. Успомнілася, з якой пашанай Чэхаў ставіўся да прысланых яму пісьмаў, як спарадкавана іх захоўваў. Думалася і пра тое, як прыемна бывае ўяўляць, паслаўшы, іхні далейшы шлях і сустрэчу з тымі, каму яны адрасаваныя...

Учора проста было па-восеньску холадна, з панылай хмарнасцю і рэзкім ветрам. А сёння сонечная раніца чароўна выходзіла з першых, нечаканых замаразкаў у пагодлівы дзень. Уся прыземная зеляніна, як у дзіцячай тэлевізійнай казцы, была пакрыта і на погляд калюча-зімнім срэбрам шэрані, а вялікае, паўнакроўнае сонца, толькі што ўзышоўшы, понізам свяціла над лугамі, Нёмнам, полем і маёй прылясной дарогай, упэўнена абяцаючы ўзяць сваё спакваля, ужо зверху.

Дзень пачынаўся пад мой настрой, светлы і ад пісьмаў, атрыманых напярэдадні, трох за адзін — святочны — раз.

* * *

Сёння пад ранне падумалася, што бяссонніца даецца старому не толькі дзеля таго, каб яму караць самога сябе панылымі ці горкімі ўспамінамі.

Бывае яшчэ і такая блаславёная гульня, такое ўсё-такі шчасце, як дапрацоўка ў думках новай задумы, якая доўга не дае табе заснуць...

* * *

Зайшоўшы ад сонца, якое ўжо добра схіліла з паўдня, спыніўся паглядзець у голле высокай, разложыстай «зімовай» яблыні.

Нядаўна тут была непрадзьмутая зеляніна сакавітай лістоты, а вось ужо кожную залацінку бабінага лета, кожнага жаўтлявага ці барвяністага матыля, які ў дрыготка-няспешным палёце шукае вольнае месца — спланіраваць на халодную траву, можна, здаецца, узяць на ўлік паасобку.

Многа яблыкаў тыдзень таму назад было абярэжна знята на даўжэйшую вылежку, а недасяжных стрэсена на ранейшы ўжытак. На шэрым голлі, вышэй і найвышэй, яшчэ ўсё трымаюцца то наўкруг чырвоныя, то зрэдку светлабокія, крамяныя мацакі, і зводдаль адасоблена, і чародкамі, і нават пацешнымі спарышамі, зусім адно пры адным.

І гэта прыгожа. Красою позняй восені.

* * *

Ратуючыся ад сумнага «няма чаго добрага пачытаць», раптам знайшоў у нашай чатырохсямейнай шматгадовай кніжна-часопіснай залежы сціплы томік

па-польску з англійскай: Axel Munte, «Księga o ludziach i zwierzętach». Пасля прачытання ўступу і першых навелаў або нарысаў, як іх акрэслівае сам аўтар, памеціў у блакноце пачатак удзячнага адчування.

Напісаная ў 1930 годзе, выдадзеная па-польску ў 1975-м, чытаецца беларусам яшчэ праз дваццаць пяць гадоў, гэтая кніга, проста «Пра людзей і жывёлаў», можа быць названай наскрозь шчырым і выдатна апрацаваным творча зарадам чалавечнасці, пушчаным у свет, можна сказаць, надоўга.

Ад бедных людзей Мунт перайшоў да бедных цыркавых жывёлінаў, а я падумаў пра свае «Знічку» і «Дакор». Чаго яны вартыя, я не магу акрэсліць абгрунтавана, толькі адчуваю іх пэўную значнасць і ў самы строгі адбор апавяданняў уключаю толькі ад гэтага адчування...

А потым і яшчэ адна знаходка, кніжыца, якой калісьці собіла заваліцца за шафу, нават і трохі паднішчаная, зноў пераклад з англійскай мовы, ужо на рускую: «Несколько зеленых листьев» — раман не тое што незнаёмай, але і нячутай дагэтуль Барбары Пім, элегантная кніжка на дзесятак з нечым аркушаў, нібыта выклік нашай правінцыйнай шматтомнасці, напісаная густа, вобразна, з натуральнай культурнай іроніяй у падтэксце. Такіх кніжак на свеце, яшчэ раз падумалася, і многа, і не можа быць замнога, і адкрываць іх у прыклад самому сабе і ў пацверджанне і тваіх адносінаў да свайго абавязку — прыемна па-асабліваму.

А што не ведаў я дагэтуль і яе, Барбару Пім, як і Акселя Мунта, сораму няма. Яны абое доўга, цярпліва ішлі да чытача і свайго, і замежнага, выданні іхніх твораў і па-польску, і па-руску і з вялікім спазненнем далучыліся да іх пасмяротнай славы або пашаны.

* * *

Падзея ў дачнай роўненькай будзённасці — суседскі певень, па-хатняму ўтульная кукарэка якога была вельмі нялішняй пры бусліным клёкаце, салаўіных спаборніцтвах, лугавых занёманскіх галасах то жорава, то перапёлкі, то драча, трапіў усё-такі ў кіпцюры каршуна. «Усё-такі» таму, што той злыдзень выцікоўваў курынага бацьку некалькі дзён, то з сасны, то з бярозы, бо лес тут адразу за плотам. І дамогся свайго. Калі гаспадары заўважылі бяду, было ўжо позна.

«Галава цэлая,— расказваў сусед,— значыцца, ён не забіў яго адразу, а катаваў, пачаўшы з нагі, ад сцягонца дабраўшыся ажно ў кішкі...»

Што ж, у драпежнай дзічыны гэта нармальна, апраўдваецца неабходнасцю, законам прыроды, а можна сказаць, што і гастранамічнасць такая — як яно спажываецца смачней.

Было гэта ў пачатку верасня, больш за месяц таму назад. А днямі па маскоўскім тэлебачанні двойчы паказвалі крыўду, несправядлівасць, незаконнасць, якая чыніцца з кантрактнікамі, што выконвалі сваю «працу» ў Чачні. Ім вельмі цяжка атрымаць заробленае, бо афіцэры вымагаюць хабар, а ў дарозе дамоў чакаюць бандыты, тэрарысты...

І ні слова пра тое, што там, дзе людзі на сваёй зямлі абараняюць сваё жыццё, сваю свабоду, законную самастойнасць, яны, кантрактнікі (на ўсё ёсць адпаведна тэхнічнае слова!), зарабляюць грошы забойствам, больш прафесійна вопытныя за тых няспелых, у спешцы дрэнна абвучаных юнакоў, некаму хлопчыкаў, якіх зблізку, у самы твар бачыць і на экране проста балюча...

* * *

Сем гадзін раніцы, а яшчэ такі прыцемак, што я свае злёгку «дымчатыя» акуляры зняў, нясу ў руцэ, каб весялей бачыць дарогу, якая ідзе перада мною святлейшай паласой. Сёння цяплей. Сустрэчны вецер амаль ірвануў нечакана, аднак і лагодна азваўшыся прыціхлым шумам. А шум гэты пачуўся зверху, з вышыні значна гучней — ад сілуэтаў рэдкіх і высокіх дрэў, прыдарожных ад поля. Хвілінаў праз дваццаць, вяртаючыся з пасёлка, калі ўжо выразней павіднела, я паглядзеў на іх, зрэшты, даўно знаёмых,— на двухствольную з аднаго пня меднакары́стую сасну і яліну з рэдкім лапнікам, але таксама высокую, як суседка. Такія вось — пад ветрам — музычныя інструменты.

Дзень ад'езду. Па апошняе малако я пайшоў раней звычайнага, бо гаспадыня ўчора сказала, што сёння ранелька паедзе ў млын. Таго, з кім яна паедзе на грузавіку, яшчэ не было, і мы, стоячы на двары, крыху пагаварылі.

Яна здавала ўчора сваю другую, старэйшую карову на мясакамбінат. Ужо і пазаўчора, гаворачы мне пра гэты намер, ледзь не расплакалася, а сёння — тым больш не вытрымала, бо ўжо і момант зусім адпаведны. Яе разумная, ласкавая Рабіна (першы раз чую такое імя), ідучы ў рагатай чарадзе на смерць, пазнала сярод людзей на абочыне сваю гаспадыню і — «паверце!» — заму́кала...

Дзякуючы пажылой, адзінокай жанчыне,— дзеці ж усе па свеце,— за ўсю яе людскасць, пацалаваў вясковую нястомную руку з цёплым «дэмакратычным» адчуваннем...



На нядаўняй сустрэчы з настаўнікамі і навучэнцамі гуманітарнага ліцэя. Сярод запісак-пытанняў было і такое: «Ці лічыце вы сябе пісьменнікам, які адбыўся, ці вашы галоўныя творы наперадзе?»

Перш чым з усёй старэчай шчырасцю адказаць на шчырасць юную, я ўспомніў пазалеташнюю сустрэчу з выкладчыкамі і студэнтамі педуніверсітэта і запіску з гарэзлівай, а то і з'едлівай маладою калючасцю: «Ці лічыце вы сябе вялікім пісьменнікам?»

«Лічу,— адказаў я спакойна, вытрымаў пэўную паўзу, як мне здалося, пад недаўменнае маўчанне, і дадаў: — І ўсё жыццё ад гэтага пакутую. Метр восемдзесят сем сантыметраў і, у сярэднім, сто пяць кілаграмаў. Ні вопраткі гатовай, ні абутку не знайсці...» Тут мяне спынілі смехам і воплескамі.

Было падобнае і ў ліцэі, калі я расказаў пра тую колішнюю пісульку.



Газета «Rzeczpospolita» за 31.X — I.XI, у рубрыцы «Odeszli» (памерлі), паміж двума «Днямі задушнымі», леташнім і сёлетнім, паведаміла, што сярод іншых знатных палякаў памёр і Жукроўскі. Высокіх слоў пра Войцеха, як і пра кожнага ў пераліку, няма,— некалькі скупых, дэмакратычна аб'ектыўных радкоў: пісьменнік і сцэнарыст, аўтар чатырох найбольш вядомых твораў. Да слова **аб'ектыўных** я спераду дадаў **дэмакратычна**, успомніўшы пра сучасную, ужо і дзесяцігадовую апалу аднаго з лепшых празаікаў былой Народнай Польшчы. «Żukrowski

nie jest obecnie u nas lubiany»,— сказаў мне пазалетась у Карэлічах, на Міцкевічавым свяце, адзін з салідных польскіх літаратуразнаўцаў.

У лістападзе 1983-га, ужо не памятаю выразна, у Хэлме ранняй раніцай, калі мы ўдвух з Жукроўскім праходжваліся па ціхіх яшчэ вуліцах, ці ў Познані, калі ўжо ўтрох з Алесем Адамовічам няспешна блукалі па вуліцах, па-начному апусцелых, раней звычайна вясёлы, іранічны Войтак сумнавата расказваў, як у пачатку ваеннага становішча Ярузэльскі доўга і не першы раз угаворваў яго ўзначаліць Саюз літаратараў. А нарэшце, страціўшы цярплівасць, прэзідэнт вырашыў справу па-генеральску: «Палкоўнік Жукроўскі — ба́чносць! Пачынаючы з сённяшняга дня вы займаеце названую пасаду! Што, да халеры яснай, я павінен усё рабіць адзін?!» Так ён, свабодны пісьменнік Войцех Жукроўскі, і апынуўся паміж двух агнёў — немалым варшаўскім і непараўнана большым ватыканскім. Таму што,— як гэта ў нас не вельмі вядома,— падпаручнік артылерыі ў абароннай вайне 1939 года ў дні гітлераўскай акупацыі працаваў каля Кракава ў каменяломнях разам з маладзейшым на чатыры гады падпольным духоўным семінарыстам Каралем Вайтылам, сёння — Янам Паўлам II. Расказваў Войтак і пра тое, як ён пісаў каханаму Каралю то з асабістай ахвоты, а то і па-традыцыйнаму pro publico bono — дзеля агульнага дабра, і як перапіска тая не надта ў іх клеілася...

У адной з кніг Святога Айца, перакладзеных Хрысцінай Лялько, у вялікім нарысе «Дар і Таямніца», цікавым аўтабіяграфічнасцю, хоць і крыху залішне стрыманай, мне было добра прачытаць, як папа згадвае і Войцеха, з яго малодшым братам Антонім, іх сумеснае паднявольнае мадзенне.

Апошні раз я быў у Варшаве ў лістападзе 1987-га, але мы не пабачыліся, бо Войцех некуды надаўжэй паехаў. Пазней я паслаў яму другое выданне перакладзенай мною з жонкай яго займальна-вясёлай аповесці-казкі «Прыгоды ў Цюцюрлістане», [redacted] ён праз нейкі час прыслаў працяг тых прыгодаў, пад назвай «На троне ў Блябоне», аповесці-казкі больш сатырычнай, але і слабейшай, і наогул не для дзяцей, так што я ўстрымаўся ад перакладу, пра што і напісаў аўтару па-сяброўску.

Больш мне як быццам і няма чаго сказаць, бо і ён пасля гістарычнага 1989-га замоўк у сваёй апале, і [redacted] не вельмі ведаў, што ды як пісаць... А гадоў праз чатыры прачытаў у польскай літаратурнай газеце, што Войцех Жукроўскі аказаўся, выступіў з таленавітай кнігай успамінаў, і гэта было мне прыемна. Добра было б, вядома ж, кнігу тую прачытаць, напісаць яе аўтару, атрымаць якое слова ад яго, хоць, дарэчы, заўсёды не надта ахвочага да ліставання. Niestéty! — скажам па-польску, што азначае **на жаль**! З маўчанням сваім ён не першы, і тут ёсць свой інтэрнацыянал, і я ў ім — не з лепшых.

І вось тым часам «Дзень задушны», свята памяці, газетная калонка з мноствам імёнаў людзей, што адышлі, а сярод іх — амаль зусім апошні з тых, каго я ў Польшчы ведаў бліжэй, з кім сябраваў.

* * *

Па-ўладнаму расчуленая ўсмешка задавальнення на паказе сілавых практыкаванняў спецназа. Каму такія галовы, што лбом з падскоку разбіваюць тры белыя цагліны, пакладзеныя адна на адну, патрэбны больш за тыя, што думаюць і да чагосьці дадумваюцца.

* * *

У добрай кнізе І. Б. Канапацкага і А. І. Смолкіна «Гісторыя і культура беларускіх татар» цікава было сустрэць і такое:

«Агульнавядома, што першае ўказанне, якое было дадзена ўсявышнім Алахам Прароку Мухамеду (Мір яму і міласць Усявышняга!), было вызначана адным словам — «Чытай».

У гэтым сэнсе і я даволі магаметанскі вернік.

* * *

Буйным планам на тэлеэкране адна граната, якую антычачэнскі ваяка браў з рукі ў руку, рэзка нагадала мне польскую франтавую зямлянку, у якой іх стаяла дзве скрыні, у адной «zaczepne», з гладкай паверхняй, у другой «obronne», з паверхняй насяканай, нібы яна ў шакаладных квадраціках.

Адчуўся, паўтарыўся той юначы жах пачатку другой сусветнай вайны...

* * *

Іду спакойна на зялёнае святло, пераходжу вуліцу, а з бакавое, за маім невідушчым вокам, на чырвонае святло шухнула перада мною «иномарка», як заўсёды, вельмі ж кудысьці спяшаючыся. Не славутыя, з песні, «четыре шага», а нейкі метр ад неваеннага канца яшчэ аднаго чалавека...

Страшна стала пазней, успомніўшы.



На першае прадвяснянае сонца худую каровіцу выпусцяць з халоднага ды гразкага хлява, [redacted] яна пастаіць, пастаіць, прыгрэецца і раптам смешна, бо недалужна, падбрыкне.

На вольна-пенсійным прыгрэве так час ад часу, зусім сур'ёзна падбрыкваюць «вершамі» не скажаш каб худыя акадэмікі, нават і навук дакладных.



Наша карэліцкая кніга «Памяць». Увечары зноў глядзеў яе, за другім заходам шукаючы і знаходзячы штосьці новае.

Так у раздзеле «Вернутыя імёны», які я, відаць, проста прапусціў, гартаючы кнігу першы раз, знайшоў такое:

«Рап'евец Канстанцін Сцяпанавіч, н. у 1916 у в. Лыкавічы. Арыштаваны ў студзені 1939. Асуджаны ў маі 1939. Прыгавораны да расстрэлу. Рэабілітаваны ў снежні 1966».

Было каму і плакаць па ім, і пра рэабілітацыю паклапаціцца. Той самы мой аднакласнік Косця-Лы́чык, пра якога я ў «дзевяноста пятым» пісаў, як ён, будучы польскім жаўнерам, у форме і з карабінам уцёк «у Саветы», а што з ім здарылася там (1937—1938!), я або чуў ды забыўся, або, хутчэй, і не чуў. Памылка толькі на год: «суд», пасля турмы і катаванняў, і расстрэл адбыліся ў 39-м. А ўсё гэта — у чатырох радках кніжнай калонкі...

Ёсць і яшчэ скупей. У раздзеле «Ахвяры фашысцкага тэрору»:

«Барысевіч Іван Гаўрылавіч.

Барысевіч Ірына Сафронаўна.

Яны расстраляны ў маі 1943 у г. п. Мір».

Бацькі Цімы Ны́грыса (сямейная мянушка), дзядзька Іван (па бацьку я яго не ведаў) і цётка Ярына (так па-вясковаму), дачка пацешнага дзеда Цупрона Гаркавага (мянушка Мурын). Небагатыя хутаране на «кругліцы» поля паміж нашай, загорскай, пашай і сенакосамі. Там іх, дома, арыштавалі раніцай, а хату і ўсе будынкі падпалілі. Пагаворвалася пасля, а вясёлы, дасціпны Ціма, вярнуўшыся з Нямеччыны, даводзіў мне, што немцаў тады на іх «навялі свае сабакі», бо ён жа і праўда быў звязаны з партызанамі. У Нямеччыне гаравалі яны з Любай і дзіцем, дзяўчынкай. А старых акупантам выгадней было закапаць у Міры за бойняй, на месцы расстрэлаў.

Многа ў кнізе такога падобнага, пададзенага коратка і яшчэ карацей, і ўсё яно ў тых, да сцішнаты сумных пераліках у памяці могуць ажывіць толькі свае пра сваіх, мясцовыя пра мясцовых. Некалькі вёсак навокал тваёй, а перш за ўсё найжывей усё ў сваёй.

* * *

З-за паганай слізготы пошту 29-га прынеслі адзін раз, зусім пад вечар. Затое ж радасць якая — пісьмо ад Вацлава Жыдліцкага!.. На адной палавіне «раскладушкі» з панарамай начной Прагі віншаванне, на другой P. S., які хочацца запісаць:

«Дзякуй за ўспамін, за добрае слова. Яно, зараз сказанае такім сябрам, як Ты, асталося адзінае з усяго, што было. Бо ў ім, як у нейкім кодзе, усё пражытае... Вось, відаць, сіла мастацкага слова, літаратуры... Няхай Бог Цябе беражэ!»

Гэта — у адказ на маё спачуванне, жаль па яго мілай, слаўнай Марцэле. Не памятаю ўжо, як там дaслоўна я, два з нечым месяцы таму назад, пісаў, аднак, аказваецца, як і трэба.

І ў яго віншаванні «з Новым годам і шчасцем», як і ў некаторых іншых сяброў, зноў пра канцы і пачаткі стагоддзяў ды тысячагоддзяў. А я гляджу на гэта ў нейкім ці не санлівым спакоі. Заўтрашнюю поўнач магу, чаго добрага, і праспаць, як пераезд у цёплым вагоне яшчэ адной дзяржаўнай граніцы.

А як гэта хораша — чэхам па-беларуску — сказана, што хочацца павярнуць і на яго, і на ўсіх добрых людзей:

Няхай нас Бог **беражэ**!

# *Дзве тысячы першы*

З газеты «Rzeczpospolita» перакладаю пісьмо Жаромскага да незнаёмай панначкі.

«Пелягіі Маляхуўне
Налэнчуў, 2 жніўня 1918 г.

Паважаная Панна Пелягія Маляхуўна, вуліца Аградова ў Закапаным.

Пісьмо, адрасаванае Адаму Жаромскаму ў Налэнчове, а напісанае 25 ліпеня, я адкрыў таму, што з двух чалавек, якія да нядаўняга часу насілі гэтае прозвішча, я ўжо на гэтым свеце адзін. Мой сын Адам памёр тут 30 ліпеня, а Паніна пісьмо прыйшло назаўтра пасля яго пахавання. Шкада, што не раней. Можа, яно праясніла б вялікі перадсмяротны змрок і невыказны смутак промнем успаміну пра радасныя дні і мары маладосці. Адась жыццё закончыў у сне, у тры гадзіны раніцы — і сапраўды спачыў у Богу. Быў ён чысты, як сляза, і чысты пайшоў з гэтага свету.

Калі Пані мае да яго ў сваім сэрцы ўспамін прамінулай дружбы, прашу захаваць яго назаўсёды, бо ён варты гэтага.

Няма ўжо «Каханага Адася». Спіць у гэтай чароўнай налэнчоўскай зямлі, сярод палёў, поўных спелага збожжа, кветак, садавіны пад вялікімі дрэвамі, у ройным спеве птушак. Калі гэта праўда, што ён быў

для Пані «Каханым Адасем», што я праз слёзы прачытаў у самым пачатку пісьма, прашу Бога, каб ён даў Табе на зямлі ўсялякага дабра.

*Стэфан Жаромскі».*

І мужнасць, і годнасць, і боль. І толькі адзін раз не «Панна», не «Пані», а горка бацькоўскае «Табе»...

Зноў падумалася сумна, што так я, відаць, і не змагу прачытаць яго шматгадовы дзённік, толькі нядаўна выдадзены. А гаварылася, напісана было ў паведамленні, што гэта — яго найлепшы, найважнейшы твор, які так марудна ішоў да чытача. А пісьмы і яшчэ ідуць...

Вялікаму ўласціва не спяшацца.

* * *

Мікола Купава пазычыў для выстаўкі да 100-годдзя Пятра Сергіевіча калісьці купленую мною карціну «Зімовая ноч. 1942». Назаўтра пасля вечаровага адкрыцця выстаўкі, на якім я не змог папрысутнічаць, паехаў уранні ў Палац мастацтва і паглядзеў яе.

У «Малой зале» Палаца, дзе светла ад сценаў, столі і вялікіх вокнаў, няспешна ўбачылася ўсё, можна сказаць, даўно знаёмае, а потым і пасядзеў на самотным крэсле пасярод пустое зранку залы, таксама, як тое старое крэсла — адзін. Добра думаючы пра самабытнага мастака і цікавага чалавека.

Перад партрэтам Любы Асаевіч успомнілася, што ў мяне гэта першая работа Сергіевіча, убачаная ў арыгінале, калі я ўвосені 1944-га, прыехаўшы з Міра ў Мінск, пакуль што ў нейкую журналісцкую камандзіроўку, начаваў у Танка, сагрэты гасціннасцю яго Любові Андрэеўны, сяброўскай прастатой Максіма і забаўнасцю іх трохгадовага сынка.

У Сергіевіча мне заўсёды найбольш падабаліся партрэты, і жывапіс, і графіка. Стоячы перад партрэтам Забэйды-Суміцкага, яшчэ раз сумна пашкадаваў, што мой, такі самы «пакаленны» памерам, партрэт паважаны маэстра **быў пачаўшы** (як гаворыцца ў яго родных мясцінах) у красавіку 1952 года, калі мы з Уладзімірам Калеснікам зайшлі да Сергіевіча пад канец камандзіроўкі. Сёння, здалёк падумаўшы, можна мне было тады і «здрадзіць кампанію», застацца ў Вільні на дзень-два, папазіраваць. А мы ўсё вечна кудысьці спяшаемся...

* * *

Два нумары часопіса «Куфэрак Віленшчыны». У Маладзечне група моладзі сведчыць свой светлы ўдзел у справе народнага адраджэння. Спачатку я прачытаў пра гэтую справу, а потым пазычыў часопісы ў Гілевіча, тры дні знаёміўся з ціха-радасным адкрыццём. Першы нумар трымаецца на постаці Генадзя Каханоўскага, слова і ягонае, і пра яго, а ў другім — постаць вішнявецкага святара Уладзіслава Чарняўскага, беларуса ў каталіцтве. Апроч гэтых двух — талковая гутарка пра цікавае ды змястоўнае, важнае ў жыцці той часткі Радзімы, што называецца Віленшчынай і пэўным чынам працягвае віленскія традыцыі, не толькі заходнебеларускія, але яшчэ і нашаніўскія. Чыста, культурна, без ляпаніны моднай сексавасці і моўнага прэтэнцыёзнага штукарства, што месцамі раздражняе або зануджвае і ў «Arche», і ў новай «Нашай ніве».



Вялікія, зблізку духмяныя гронкі бэзу за дзень стаміліся ад рэзка халоднага ветру, які матлашыў імі перад маім шырокім акном, і ад сцёбання няцёплага дажджу, які то прыцішаў свой наступ, то ўзмацняў яго. І цяпер, пад вечар, калі як быццам ужо і нечакана распагодзілася на ўвесь сонечны блакіт, бэзавыя гронкі адпачываюць у ясна-спакойным цяпле, толькі лёгка пакалыхваюцца ад ветрыку, які не-не дый выбягае на нашу паляну перад акном — яшчэ крыху лагодна пасваволіць.



З-пад ніжняй прыступкі старога цымантовага ганка дробным букетам-кусцікам вылезла шэсць кветачак рамонку. Іменна тут ім спатрэбілася вырасці, бела-жоўценька расквітнець, іменна тут вясна знайшла сабе шчылінку на яшчэ адзін выхад.



«Кнігазбораўскі» том Паўлюка Труса, набыты некалькі дзён таму назад, прачытаў, пачаўшы з перапіскі, дзе ўразіла беднасць яго вясковых сямейнікаў, што неаднойчы нагадвалі яму, то брат, то бацька, то сёстры, каб «ношанага не выкідаў», а прывозіў або перасылаў дахаты...

Проза слабенькая, «паэтычная». А ў паэзіі, якою я канчаў чытанне кнігі, прыкметна, як ён энергічна рос, як хутка вызваляўся ад уплываў, выходзіў на сваё. Смерць трагічна ранняя, страта для літарату-

ры значная, але ж і думалася, чытаючы, пра тое, як ён справіўся не дажыць да горшага, што пачалося з 1930-га...

Успаміналася і пра другога ранняга, Багдановіча, якога ў гады вынішчэння магла б, вельмі проста, не выратаваць ад карнікаў і геніяльнасць.

* * *

Голда Меір, «Моя жизнь». Дзе той Ізраіль, а на старонцы кнігі, у гутарцы пра пасадкі дрэў на суровых пустэчах, мне раптам бліснуў успамін, як мы, школьнікі яшчэ Загорскай трохкласнай школы, садзілі абапал гасцінца бярозкі, прывезеныя з недалёкага Качаноўскага лесу,— бліснуў пяшчотным падабенствам маленькага чалавека і маленькага дрэва, стракаты ствалок бярэзінкі ў малой руцэ над чорнай ямкай, у якую з рыдлёўкі некага старэйшага спрыяльна сыплецца зямля.

* * *

Куст ружы пайшоў пупіхамі, а некалькі бутончыкаў ужо выядрылася светла-ружовай красой. Старая маці, па сваёй ахвоце дачная катаржніца, цяжка спынiўшыся каля гэтага куста, што голлейкам трохі над плітачным ходнікам, ціха сказала, нібы самой сабе:

— Сынок паслязаўтра прыедзе — якраз усе расцвітуць.

Ёй праз месяц будзе восемдзесят, а яму праз тры дні сорак пяць.

* * *

Жонка прапанавала тэму. Сустрэчная незнаёмая старая жанчына павіталася з ёю на вуліцы і сказала:

— Вы мяне, можа, і не ведаеце, і я вас таксама не ведаю. А я жыву, мая дарагая, зусім адна, і так жа мне адзінока, што хочацца з кім-небудзь людскім пагаварыць...

А ў мяне — такое. Днямі заходжу ў аўтобус, а на першым збоку сядзенні мужчына сярэдняга веку, спаважны такі, у джынсавым рабочым адзенні, устаў і прапануе:

— Сядайце.

Здзіўлены, адказваю:

— А мне толькі адзін прыпынак. Сядзіце.

І стала — адразу і потым, калі выйшаў,— неяк няёмка, што не падзякаваў выразней.

* * *

У «Крыніцы» — постаць Алеся Жука, інтэрв'ю з ім Юрыя Станкевіча, слова пра яго Галіны Тычка, Ірыны Шупляковай, Андрэя Федарэнкі. І кавалак Алесевай прозы, якую прачытаў пасля ўсяго.

Неяк вельмі ж душэўна, усцешна адчулася шчасце пісаць пра роднае, шчасце Алесева і сваё, якое было і, можа, Бог дасць, «блеснет улыбкою прощальной» яшчэ хоць трохі...

Ад слоў маладых пра старэйшага захацелася праверыць, што я пісаў пра яго, старэйшы пра маладога, так даўно ўжо, у пачатку 70-х, у пасляслоўі да рускай кнігі, у добрым перакладзе Іны Сяргеевай.

Радасць ад пераклічкі разумення сапраўднага ў літаратуры.



Трыццаць гадоў ад майго апошняга наведання Балгарыі. Многае помніцца, пра многае пісаў і расказваў. А вось і сёння, у паўночным бяссонні, зноў убачыўся горад з пацешнай назвай Пернік, у якім толькі што адшумела фальклорна-веснавое свята, вясёлая публіка амаль уся разышлася, а на ўскраінным лужку, зводдаль ад святочнага цэнтра з лаўкамі ды эстрадай на плошчы, яшчэ ўсё размашыста кружыцца, топчацца карагодны танец «Хоро́». Чуваць аднастайная музыка, да кален мігацяць голыя, быстрыя ногі дзяўчат, рукі танцораў, уразмах надзейна трымаюць кола — далонь у далонь. Сакавіта-сонечная зеляніна ранняй травы, а на фоне яе яшчэ святлейшая сукенка адной у тым крузе дарослай жанчыны, трэба думаць, настаўніцы, у адной руцэ якой рука дзяўчынкі, а ў другой юнакова, чаго добрага — на не зусім дзіцячую зайздрасць іншым хлопцам... Як ім усім свабодна і радасна! Як ім недаставала такога настрою! Яны ўдзельнічалі ў свяце, можа, былі і заслужана пахваленыя, а вось тое, што на дадатак — тое для душы, самі сабе парадавацца і спрытам, і шчасцем, і ўступленнем у маладосць, у якой ужо папраўдзе іх мілая, вясёлая настаўніца.



Мне прынеслі дзве кнігі пра Арсенія Таркоўскага. Чытаю ўспаміны пра яго, пачаўшы з аднаго знаёмага сярод некалькіх аўтараў — дасціпнага і мудрага Лявона Мкртчана, затым на выбар з незнаёмых ды пераважна жанчын, а нарэшце ўсё агулам, з большай ды большай цікавасцю.

Потым буду чытаць «Осколки зеркала», кнігу дачкі паэта і сястры кінарэжысёра, прадчуваючы значнае.

З падобным прадчуваннем купіў калісьці, у пачатку васьмідзесятых, кнігу самога паэта, «Стихи разных лет», і, гартаючы яе цяпер, з прыемнасцю сустракаюся са сваімі паметкамі на палях. А гартаў — шукаючы верша, радок якога працытавала адна з успамінальніцаў. Знайшоў яго ў вершы пад зорачкамі («И это снилось мне, и это снится мне...»). Вось той радок: «Не надо чисел мне, я был, я есмь, я буду». Бачыў я і яшчэ зусім падобнае, але дзе, у каго, здаецца, замежнага — памятаецца невыразна. А ў нашага цудоўнага Валодзі Караткевіча такая назва лічыцца... ах, як жа арыгінальнай!..

...Кніга «Осколки зеркала» напісана па талстоўскаму прынцыпу: «што ярчэй успамінаецца», не задумваючыся пра літаратурныя каноны, свабодна ў адступленнях і падрабязнасцях, а ў выніку — таленавіта, што можна назваць прыналежнасцю ўсёй гэтай слаўнай сям'і.

* * *

Дзве ночы ўзапар сніліся рукапісы, якія зноў жа, як і наяве нядаўна было, перад здачай у архіў, даводзіў да апошняга развітальнага ладу. Сплю апошнім часам напоўніцу, без паўзаў бяссонніцы, і абодва сны, у гэтую ноч і ў ранейшую, аднолькава сніў пад раніцу. Першы раз рукапіс быў хаатычны, так я і прачнуўся, не выблытаўшыся з такога безладу, а сёння былі дзве папкі добрых фрагментаў вобразнай прозы, ажно я, прачнуўшыся, пашкадаваў, што ў сапраўднасці такога чагосьці няма. І яшчэ адно дзіўна —

сёння быў другі экземпляр машынапісу, а я так і не мог успомніць, куды здаў першы...

Без суму ды шкадавання думаецца, што ў тым сне, другім, намёк на тое, як мала і не на ўсю сілу мною зроблена, і лепш ды больш ужо не зробіцца...

* * *

— Гэта ж у майго дзеда быў такі конь!

Карычнева-іржавая падкова — пад стрэшкай ганка, на старэча-шэрай сцяне — укругаля як талерка велічынёю. Во дзе канішча было, што такія падковы насіла, зімою ажно чатыры! Чую сямейны гонар у словах старой жанчыны, якая, стоячы за парогам, у сенях, толькі што адказаўшы на прывітанне, заўважыла маю зацікаўленасць былой падковай.

— На шчасце людзі даўней прыбівалі,— кажу таксама па-маладому.

Сівенькая, з мыліцаю пад пахай і з кульбай на дапамогу мыліцы ў другой руцэ, яна стаіць у цёмнай пройме сенечных дзвярэй і шчыра, весела дзякуе за тое, што я не забыўся наведаць яе хутарок на ўзгорку над ракою. Зусім ужо ёй дрэнна ходзіцца, але ж і логма ляжаць абрыдзела.

Пакуль яна выйшла з кухні, я заўважыў на падворку зялёныя бульбяныя граду́сікі ў зручных закутках, то за старою лаўкай каля старога плота, то побач з пустою сабачай будкай, то абапал крывой абамшэлай брамкі, што ўніз да ракі... Сказала пасля, усміхнуўшыся, што гэта ж яна сама настаралася столькі, бо з вялікай бульбай у агародзе ёй ужо не справіцца. Сын, які шоферам грузавіка ў суседнім раёне, святамі прыязджае.

І сёння ён ужо тут. Выйшаў з агарода на маё прывітанне, маму мне з кухні выклікаў, а сам зноў у агарод. Я толькі і паспеў, што ўголас падзівіцца з яго пасіўеласці, а ён адказаць мне: «А што ж вы, Антонавіч, хочаце — праз паўтара года шэсцьдзесят!..»

Падумалася мне і такое: як бы ж яна жыла цяпер, каб не «саграшыла» маладою, каб не сынок-самасейка, нявестка ды ўнукі?..

На шчасце ў яе — не толькі спракаветная вялізная падкова на сцяне, але ж і свой бусел на сялібе. Навокал высокія дрэвы, а ён прыладзіўся на слупе электралініі. Што ж, зручна і ўзлятаць, і садзіцца. Шырокі, нізенька круглы букет святочна бялеецца ў гняздзе над зялёнай палянкай — гэта адно з дзюбатых бацькоў і моладзь.

— Нешта ж іх многа сёлета! — здзіўляюся. І чую небывалае — буслянят ажно пяцёра.

І мы гаворым пра тое народнае, што абое чулі змалку: год будзе з хлебам, буслы гэта ведаюць, лішніх, звыш двойкі, дзяцей з гнязда не выкідаюць.

* * *

Адна — у мамы на канікулах. З учарашняга вечара. Ранішні варыянт маладзенькай красы, паміж салодкім хатнім сном і злёгку дрыготкім купаннем у роднай рэчаньцы. Куды яна ідзе па роснай сцежцы босая.

А другая — у спрытных, моцных руках вясёлага хлопца, крута адкінуўшыся плечыкамі назад, падбіваючы каленкамі вышываны падол не лішне кароткай сукенкі, раскашуецца на свежапагабляванай сцэне ў самадзейнай польцы.

Яны мне ўцешна мільганулі ў памяці, унучкі і нейчыя, і нібы мае.

* * *

Малады «бізнесовец», або «новы рускі», які купіў у нашага суседа дамок з садам і лазенкай, відаць, каб па-моднаму «ўлажыць грошы», ніколі на тую дачу не з'яўляецца. Ды вось прыехаў на дарагой замежнай машыне, з залатавалосай дзеўкай ці маладзіцай побач, адны ў машыне, павітаўся са мною праз апушчанае акно і прапанаваў: «Может, отхлебнете?» З тое замурзанае бутэлькі, мусіць, таксама замежнага віна, якое яны шчасліва «отхлебывали» на палявой ды лясной дарозе, далей ад міліцыі. Маёй адмове з падзякай ён не здзівіўся — от, не хочаш, дзед, і не трэба.

* * *

**Благочестивый** старэйшына расійскага сената, выступаючы ў беларускай тэлеперадачы «Падзея», гаварыў пра тое, як гэта будзе добра, калі мы аб'яднаемся, калі зноў будзе наверсе той самы любімец, і спакойна, роўненька **изрек**: «...мы ведь **один народ, один язык**...»

А перад гэтым у «Народнай волі» з'явілася выступленне беларускага і расійскага акадэміка Радзіма Гарэцкага, якое я чуў на III з'ездзе «Бацькаўшчыны», але ж выразку пакінуць захацелася іменна цяпер. Выпісваю:

«Гэта ўжо не світанне,
Гэта наша настала змярканне,
Гэта з мовай маёй,
Гэта з песняй маёй
Развітанне.

Ад крыўды плачу, ад болю крычу, чытаючы гэтыя Панчанкавы радкі».

Сын вучонага і пляменнік пісьменніка — братоў Гаўрылы і Максіма Гарэцкіх, вялікіх сыноў Беларусі, і сам яе годны сын.

* * *

Усе нашы дабрадзеі старанна абыходзяць дадзеныя ўсенароднага перапісу, спасылаючыся на ранейшую рэферэндаўскую і штодзённую хлусню пра нашу любоў найперш, а то і толькі да мовы рускай.

* * *

Не «боскі памазаннік», як рускі цар, і не сам бог, як японскі мікада, а проста нібы нармальны чалавек, выпадкова апынуўшыся на самым вільчыку ўлады, лічыць, што ён мае поўнае права змагацца за яе і надалей, як быццам не для самога сябе, а для народа.

* * *

У нас па радыё і на тэлеэкране паведамленні з нядаўняга часу ідуць патроху, меншымі порцыямі, але значна часцей, каб слухач ды глядач лепш засвойвалі «ваймяцá».

А з Масквы — такое надакучлівае ўражанне, што як не выбух які, не новае зладзейства, не забойства кілерскае або чачэнскае, дык пра жыццё многамільённага народа не было б чаго і сказаць.

* * *

«На Бога спадзявайся, але і сам...»

Адзін на ўрадавым чорнавокна-браніраваным лімузіне, другі ў спецпразрыстым акварыуме на колах, яны трыумфальна пабывалі абапал беларускай і ўкраінскай мяжы, і тая чорная і празрыстая браня — галоўнае, што гаворыць пра палітычны змест іх набожных місіяў...

* * *

Атрыманнем незалежнасці справа не закончыцца. Яшчэ так далёка да незалежнасці сапраўднай, а ўжо ж і заўважаюцца прычыны для нацыянальнай варажнечы. Так ужо то патроху, то больш намякаецца і гаворыцца пра **забраную ў нас** Вільню, не хочучы слухаць пра такое ж ці падобнае права на той самы горад у літоўцаў ці ў палякаў, а тым больш не хочучы думаць, што лепш бы той Вільні стаць вольным горадам, своеасаблівым сімвалам дружбы паміж суседнімі народамі. Такіх балючых «вузлоў» бліжэй і далей, на ўсім свеце нямала, і пакуль людзі, народы не навучацца іх разумна развязваць — дабра не чакай.

* * *

Уладкоўваць сваіх дзяцей ці ўнукаў на лягчэйшае жыццё ў замежжы — гэта пасылаць іх на патрыятычнае ўздыханне па мілай Радзіме здалёк, пажадана з самой Амерыкі. Адны з «адраджэнцаў» заняліся гэтым адразу, адкрыта, а другія пазней стараюцца, спакваля ды спадцішка, самі застаючыся актыўнымі патрыётамі!

* * *

Адзін у сваім бойкім артыкуле пра халуйскія асаблівасці беларусаў сам сябе, трэба думаць, у халуі не залічвае.

Як і другі, што і гаворыць па замежным радыё, і піша таксама, што ў нас «няма сапраўднай інтэлігенцыі», сябе таксама ж абмінаючы.

Такое лірычнае міжрадкоўе...

* * *

Страх прыйшоў потым... Спачатку стары мужчына паволі, асцярожна дыбаў па сходках крутога спуску з вуліцы на вуліцу, а потым не стрываў — заступіўся, хоць словам, за дзяўчыну, якую каля парэнчы біў кавалер. Дабіраўся аберуч да горла, тоўк нагою па ножках, а яна маўчала, толькі плачучы з хрыпам... На другім баку сходкаў, трохі наўскасяк, на парэнчы сядзелі яшчэ два дзецюкі, відаць, з той самай кампаніі. Адна з трох жанчын, што спускаліся перад старым, спыніўшыся ніжэй, пачала сарамаціць грамілу, а тады стары далучыўся, зачапіўшы нават і тых «прысяжных засядацеляў», што прыглядаліся да зверскай расправы...

І толькі назаўтра, без пары прачнуўшыся, старому з жахам уявілася, як лёгка было б яго таўхануць і як ён паляцеў бы назад, уніз галавою...

* * *

Разнастайныя варыянты страшных і яшчэ страшнейшых сітуацыяў, успомненых, узніклых ва ўяўленні — з франтавога, падакупацыйнага ды парты-

занскага жыцця,— як часта апошнім часам яны тасуюцца, вар'іруюцца ў старэчай памяці, у жывым уяўленні, і як ад гэтага бывае балюча... Нялюдскія зверствы, якія рабіліся другімі пры табе і да якіх, па законах вайны, і цябе маглі б прымусіць, што было б яшчэ страшней...



Пагодлівы досвітак у польскім букавым лесе, высока над морам, з-за далягляду якога павінна з'явіцца сонца. Глядзім туды, першы і другі нумары станковага кулямёта. Жахліва-трывожны найпершы дзень, а то й найпершы момант другой сусветнай вайны...

На родным надвушáнскім лузе — адбіванне «броду», пратоптванне сцежкі-граніцы ад пáлькі да пáлькі. Паставіў каля кожнай з тых пáлькаў тычку з накручанай, як зімовая калматая шапка, травой, і, гледзячы, прыгнуўшыся, на тыя «шапкі», адна цераз адну, ідзеш задам, кладучы сцяжыну, «брод» у роснай траве.

А ў сонца свой час на ўзыход, яно ўжо загараецца над рысай зямнога далягляду. Павітаем яго першым, уступным звонам мянташаных косаў.

Ад гістарычнага — у будзённае, ад чыстай радасці — нейкая скруха, нешта такое, пра што не расказаць, хоць яно час ад часу прыкра вяртаецца...

І так многа тых раніцаў, тых дзён, з якіх яно складаецца — жыццё. Можа быць і гульня такая на старасць — перабіраць у памяці дні, тым больш калі яны самі прыходзяць, вяртаюцца...

* * *

Мастак Рыгор Сітніца нечакана выступіў з нізкай вершаў. Спелая, культурная паэзія. Чытаючы, успамінаў адну яго карціну — сцяна вясковай хаты, глыбокая, шчырая прастата. Ужо даўнавата, на нейкай выстаўцы, я пастаяў каля той сцяны, а яна вось і сёння бачыцца...

* * *

Апавяданні Борхеса. Ужываюся ў ягонае бачанне свету, можна сказаць, з нечаканай цікавасцю. Нават і выпісаць захацелася (з апавядання «Фюнес памятливый»):

«Вот уж действительно, мы живем, откладывая на потом все, что только можно отложить; возможно, в глубине души мы уверены, что бессмертны и рано или поздно успеем все сделать и все познать».

* * *

Мова ў даволі папулярнага «сюжэтніка» такая, як быццам ён не нагамі ідзе па зямлі, а на сваіх нейкіх дыбах дробненька дыбае, ледзь дакранаючыся да грунту.

А ёсць і так: рыпіць, скрыгоча, як сухая драўляная вось, таксама ж старанная проза ў сваёй нецікава-бясконцай дарозе.

* * *

Пажылая цётка гаварыла мне, што закончыла толькі чатыры класы. І вучылася добра, і хацела вучыцца, але мачаха далей не пусціла, трэба было

глядзець малых, новых брацікаў ды сястрычак. І слова адно пачуў ад яе, не вычытанае, а з сялянскай памяці. Хораша, і ніколі, здаецца, не чуў:

— Няхай Бог абносіць!

Абмінае нечым благім.

* * *

Маладая, адукаваная гараджанка дарэчы згадала ў гутарцы таксама вясковае:

— У нас казалі: «Каб зацяжарыць, трэба глядзець на пуню».

Ніколі гэтага вясёлага не сустракаў. Так і не ведаеш, адкуль прыйдзе неспадзяванка.

* * *

На рэдакцыйным калідоры выпадкова сустрэў Георгія Юрчанку, і добра было сказаць яму, што ў «Полымі» з цікавасцю прачытаў яго «Паэзію народнай моватворчасці», асабліва такое — журботнае:

«Асталася адна, не прыдумае, куды кінуцца, ёй хоць з жураўлямі ляці».

* * *

Можа, пара ўжо было б замяніць нечым іншым шматварыянтна-банальны **камок у горле**, які ўжо нават і раздражняе?..

Муляе мне таксама і «ад няма чаго рабіць», прымітыўная калька з рускага «от нечего делать».

* * *

«Мала мелі — прэндка з'елі». Чаму не **хутка**, а **prędko**? Няўжо гэта ў палякаў узята, і даўно, калі яны былі ў нас панамі, нямала мелі і сёрбаць не спяшаліся?

* * *

Распранаўся спаць, і ўспомнілася: «Во жыццё — як устаў, дык і за ныццё!» Варыянт мой, ад гнілога настрою. А трэба: «і за выццё». Не памятаю, ці вычытаў дзе, ці гэта па людзях хадзіла.

* * *

«І бядота такая, і дзецьмі **абкідаўся**!..» «Твар **абкідаўся** болькамі, струпамі». Блізка?

«Танцуй, Грышка, карчма блізка!» З маленства, матчына.

«Каму руку, каму нагу!» Так развітваўся ў кампаніі, вельмі спяшаўся.

«**Ты́цкала** — тое з яды, што на скавар**а**дзе, што можна **ты́цкаць** аладкай ці бульбінай.

«Свая **свайня**». Радня, сваяцтва.

* * *

Недзе яшчэ ў 50-х, у Маскве, туфлі мае пачысціў на вуліцы не стары, але з сівізною ў раскошнай барадзе, нечым незвычайны касмач без шапкі, у якога захацелася спытацца, хто ён па нацыянальнасці.

Спытаўся, а ён спакойна, зусім па-сучаснаму адказаў: «Асірыец»... Адтуль, дзе Асірыя, Вавілон, Егіпет — яшчэ са свежымі пірамідамі?!

* * *

І цяпер, чытаючы Борхеса, і раней, над старонкамі Картасара, Зюскінда, адкрываючы іншыя імёны, замежныя і свае, думалася, якое мноства людзей на ўсім свеце пісала і піша, і гэта маючы на ўвазе толькі таленавітых. І не страшна яно, калі ў цябе ёсць душэўная, унутраная патрэба сказаць і сваё. Хоць і ў нашым моўным закутку, з абмежаванасцю выхаду ў людзі ў належным, непасрэдным перакладзе.

* * *

«Но всё же, всё же, всё же...» Пра Твардоўскага ўспомнілася, калі падумаў пра большасць сяброў, якіх я чамусьці, на нешта ці й так сабе, без пэўнага сэнсу, перажыў і яшчэ ўсё жыву, далей перажываю іншых, новых... І не таму, што мне трэба іх замяніць, што я змагу зрабіць нешта і за кагосьці, у той час калі і за самога сябе ўсяго патрэбнага не зробіш.

* * *

Бывае ў маіх паводзінах трохі, а то і больш за трохі ранейшай, прысавецкай боязі ды асцярожнасці, у тым ліку і ў запісах. Лаўлю сябе на гэтым, дакараю, а потым бачу, што і яшчэ не выжыў гэтага з сябе, каб цалкам.

* * *

Ліпеньскае, ужо і здалёк:

На ўзгорку праз лабавое шкло машыны адкрыўся шырозны абсяг уробленых палёў, паўсвету хлебнай прасторы, шчодра асветленай і прыгрэтай позне-ранішнім сонцам.

Калі нудна дажджыла — трэба было верыць, што яшчэ ж і распагодзіцца.

* * *

«Прыйшоў Пятрок — апаў лісток». А ўжо быў і Спас, на сем дзён больш за месяц ад Пятра. І калі я прысеў пад ліпай за сталом, у пажаданым цяньку, першы жоўты лісток апаў на мае калені зусім нячутна, а другі, упаўшы на белы, ужо й даўно пафарбаваны стол перада мною, нават ціхенька шархануўся, пад'ехаў, нібы ад подыху ветрыку, па гладкай стальніцы. Два з іншых, даволі многіх лішніх лістоў, якія з густой і моцнай, сакавітай лістоты спакваля цярушацца долу ў прадчуванні верасня. Два ў набліжэнні такія цікавыя, як жывыя ў сваёй просценькай красе.

* * *

На шыферны дах нашага белацаглянага дома паміж лесам і ракою, на востры хрыбет старога, ужо і прымшэлага даху з неба апусціўся бусел. Упершыню за васемнаццаць гадоў нашага тут летавання. Апусціўся і пастаяў, чамусьці не заклекатаўшы.

Сам я гэтага, на жаль, не пабачыў, а, выйшаўшы на двор, пачуў ад дачкі, якая, спыніўшыся з вядром вады, толькі што адвяла весела здзіўлены позірк ад бела-чорна-чырвонага госця, які пастаяў, паазіраўся і лапануў цяжкім крыллем у новы перадвырайны палёт.

Не пачуўшы наўздагон майго не сказанага «дзякую» — за пашану да нашага месца на любай зямлі.

* * *

Прачнуўся з пачаткам верша «И скучно, и грустно...», паступова аднавіўшы яго ў памяці, нават і паўтарыў увесь уголас, яшчэ ў пасцелі.

Лермантавым я зачытваўся, можна сказаць, змалку, аднак не памятаю якога-небудзь ранняга ўражання, зробленага іменна гэтым вершам. Яго для мяне нібы і не было да старога талстоўскага томіка філасофскіх «статей», з якіх асабліва выразна запомнілася адна, з проста-выразнай назвай «О жизни». Нават нязграбная друкарская памылка помніцца ў радку «Любить... но кого же?..» замест «кого же» — «како же»...

Сосны на маласельскіх могілках, пад якімі я апынуўся, коней пакінуўшы з плугам у баразне. Страх смерці, хуткаплыннасць і недарэчнасць жыцця мне, дзецюку на семнаццатым годзе, адчуліся... так і хочацца сказаць: глыбока. «Такая пустая и глупая шутка...» Рэдка калі пасля думалася таксама балюча ды безвыходна.

Сёння ж падумаў і так: тут, далёка ад сваёй бібліятэкі, не магу праверыць, у якім узросце Ён пісаў гэта. Калі ж і пад самы канец жыцця, дык усё ж маладым чалавекам, і колькі б у яго ні было глыбінных прычынаў для такога трагічнага расчара-

вання ў разумным сэнсе чалавечага лёсу, у яго не было і такой расцягнутасці існавання, як у мяне, такога нагрувашчання памылак, такое стомы ад перажытага, такое натуральнай блізкасці да заканчэння...

* * *

Два тоўстыя тамы Зігфрыда Ленца, збор апавяданняў з цяжкаватай па-даўняму назвай «Эйнштейн пересекает Эльбу близ Гамбурга» і раман «Краеведческий музей». Не помніцца, штó я мог чытаць у гэтага заходняга немца, ва ўсякім разе не «Урок немецкого», ды вось яно — адкрыццё, па словах Нэру, яшчэ аднаго «вартага прачытання» — гэта бясспрэчна. Пачаў з апавяданняў. А ўчора папоўдні, застаўшыся тут, на дачы, адзін, прысеў на ганку насупраць ласкавага сонца над блізкім лесам і перайшоў на другую «цагліну», раман.

Бывала, дый неаднойчы, такое цягучае, прыкрае адчуванне, што я чытаю зашмат, як ваду ў пясок льючы, амаль услед забываючы прачытанае. А цяпер, і ўчора, і сёння зноў, радасць сур'ёзнага чытання, законная доля работы жыцця, славутае «общение с душами прежде живших людей», хоць у гэтым выпадку не «прежде живший», а нават даволі значна маладзейшы за мяне сучаснік.

І ў адзіноце няма адчування яе — адзіноты.

* * *

Учора, гледзячы-слухаючы па тэлевізары «элегантна»-трыумфальную прэс-канферэнцыю, успомніў адно выказванне Рыгора Бярозкіна. Звычайна мы з ім

гаварылі па-беларуску, а тут ён сказаў па-руску, можа, і паўтараючы кагосьці, не памятаю ўжо з далёка-брэжнеўскага часу: «Как высока у нас культура лжи!..»

Успомніўся і адказ Мікалая Рэрыха на пытанне ў нейкай анкеце: «Чем вы занимаетесь в праздничные дни?» — «Как чем? Работаю».

Тое, што прадбачылася і здарылася — далёка не свята, аднак іншага не застаецца — толькі працаваць.

Прачнуўшыся ў тры гадзіны, больш не заснуў да раніцы. Згадалася і яшчэ адно выказванне, ужо найбольшага аўтарытэта — Льва Талстога, якое не магу прывесці даслоўна, а толькі як помніцца, па сэнсе. Калі вам трэба прыняць важнае рашэнне, прымайце тое, на выкананне якога патрэбна больш смеласці.

* * *

Няшчасце яднае людзей, абуджаючы ў душах тыя пачуцці і думкі, якія даюць надзею на святлейшую будучыню чалавецтва. Так цяпер, пасля адзінаццатага верасня, з Амерыкай, усе апошнія дні.

Праўда, ёй намякаюць пра Хірасіму, пра Бялград і яшчэ пра што, і ёй, яе кіраўніцтву варта было б задумацца над тым, што пекла вайны яна ў сябе дома не перажывала, а лёсам другіх народаў хоча і практыкуецца распараджацца па праву сілы і заможнасці. Вось і цяпер, калі ёй шматлюдна, шчыра спачуваюць, яна зноў пагражае, спадзяецца на сваё золата і жалеза, не ўлічваючы найдаражэйшага — крыві нявіннага маленства, святога мацярынства, мірнай мужчынскай сталасці, безабароннай старэчы — новых тысяч, мільёнаў ахвяр... Ужо не іхніх, зноў «варожых»!..

Страшна, няўтульна на нашым свеце!.. І не па Гогалю — «господа», а па-народнаму, па-чалавечы: людзі добрыя, дарагія сябры!..

* * *

Столькі пішацца расійцамі пра Сталыпіна, столькі ўздыхаецца па ім, і нідзе ні слоўца пра тое, што гэта ж і ён быў прычынай з'яўлення эпахальнага «Не могу молчать».

* * *

Востра адчулася, што маё, у той ці ў іншай меры аўтабіяграфічнае, перш за ўсё «Птушкі і гнёзды», трэба было напісаць з усёй безагляднай, бязлітаснай шчырасцю, чаго я не зрабіў на ўсю моц, а з той асцярожнасцю, аглядкай, з тым страхам, які абумоўліваў і мой сацрэалізм...

Літаратарам-прафесіяналам я стаў дзякуючы ўваходу ў савецкую рэчаіснасць, то па наіўнай шчырасці, то з патрыятычнага абавязку вучачыся стаць, быць савецкім пісьменнікам, бо іншым быць і не мог. Калі б вайна, аб'яднанне Беларусі адбыліся гадоў на дзесяць пазней, я, жывучы ў Заходняй, застаючыся селянінам, можа, і змог бы стаць, як літаратар-саматужнік, у пэўнай меры значным ці прыкметным сваёй шчырасцю, праўдай жыцця, аднак — гэта ж толькі **калі б**...

* * *

Старому чалавеку трэба трымацца прыстойна ды лішне не вякаць. І ў літаратуры.



Забалела, што нехта так і пайшоў з жыцця, беспадстаўна чорна думаючы, танна ды пошла пляткарачы, з даносным намёкам пішучы пра мяне ананімна...



У «Литгазете» прачытаў нядаўна вершы Якава Хелемскага, у адным месцы цёпла засмяяўшыся ад канцоўкі верша, які пачынаецца такім знаёмым і мне настроем:

Надоела безнадёга,
Поспеши расстаться с ней,
Жить осталось так немного,
Не губи закатных дней.

Можна было б працытаваць і дванаццаць наступных радкоў, але бяру канцоўку:

Побеседуй с музой пылко,
Белый лист в машинку вдень
И, воскликнув: — Жив курилка! —
Оправдай дарёный день.

Крыху залёгка, можа, і з пэўнай бравадай, але ж і весела, услед за народнай мудрасцю.

І трэба ж! — тое чытанне аказалася нейкім уступам, нейкім прадбачаннем у мяне — ад Яшы прыйшла бандэроль, зборнік вершаў «Високосный год» з сяброўскім, верыцца, шчырым аўтографам. Учора, пасля дажджлівай хмарнасці захад рэзкавата распагодзіўся, і я закончыў дзень чытаннем таленавітай паэзіі даўняга і актыўнага сябра беларускага слова.

* * *

У Салжаніцына («Бодался теленок с дубом») спадабалася:

«Что-то скажется прямо о Боге, заплеванном семечками атеистов».

І яшчэ, пра аўтабіяграфічнасць:

«За всей жизнью пером не поспеешь».

А ў Лужаніна пра адзіноту (і назва верша такая):

Напішаш ліст, вазон пальеш,
Глядзіш, і дзень правёў,—
Кароткі дзень старэчых спраў.

* * *

Драбніца, што даволі часта паўтараецца:

Яшчэ старонка ў кнізе не дачытана, а ўжо адчуваецца, што на наступнай будзе канец раздзела. І амаль ніколі не памыляешся.

Тут і аўтар кнігі вінаваты: сам хоцькі-няхоцькі выдае, як закругляецца.

* * *

Пасмяемся са старасці — сваёй.

З дачным суседам, хоць і на шэсць гадоў маладзейшым, за паўтара кіламетры штодзённай няспешнай хады з пасёлка з малаком, так і не ўспомнілі, як называецца той звер, што не аса, не чмель, але кусучы і наймацней, і, на дадатак, небяспечна. Суседаву жонку пазалетась ён цяў у аголенае перадплечча, і яна паняньчылася з пякучай пухлінай даволі доўга. А на маім гарышчы гэтая поскудзь гудлівая

змайстравала сабе пад вільчыкам даху адмысловае гняздо, белае ды пукатае, як добрае вымя ў каровы, і майму маладому гаспадару трэба было дадумацца прывезці з Мінска пыласос, паставіць у ім задні ход, зарадзіць разведзенай атрутай, якую яму нараілі, шумануць у тое «вымя», і яны пасыпаліся долу, на дашчаны насціл — цэлая горба вартых жалю мерцвякоў... Словам — даўнія нашы знаёмыя, а як яны называюцца, мы з суседам нарэшце ды раптам, нібы між іншым, але ўжо дома, кожны па сабе, успомнілі, што гэта ж проста шэршні!

Сустрэўшыся назаўтра ўранні, пасмяяліся самі з сябе — во дажыліся! І што ж, вяртаючыся з малаком, зноў застопарыліся, на іншым пытанні. Ёсць у нас, беларусаў, тры падобныя назвы мясцінаў на бліжэйшай Міншчыне: Смалявічы, Смілавічы... Ну, а як жа трэцяя? І бывалі ж там у свой час, адтуль пачатак нашых яблыняў, чарэшань, сліў, алычы, кустоў агрэсту, парэчак, купленых ушчэпамі ды чаранкамі ў багатых інстытуцкіх гадавальніках. А як яна, тая мясціна, называецца — зноў жа ўспомнілі дома, кожны сабе — Самахвалавічы!..

Колькі адкрыццяў, амаль кожны дзень!..

У самым нягеглым настроі, калі і не пішацца, і чытаць выпадковае надакучыла, і надвор'е гнілое, нават бяссонніца прыплялася, уранні, адзяваючыся, падумаў, што новыя тапкі, нядаўна купленыя мне нявесткай, трэба будзе забраць у Мінск, каб, як хто прыйдзе, было што прапанаваць разутаму. Ледзь не ўголас сказаў гэта сам сабе і... засмяяўся. Ну вось, няма чаго скардзіцца — і вялікія думкі таксама ж прыходзяць!

Добра, што можна яшчэ пасмяяцца.



У нашым Загоры ў маім маленстве лапці насілі сырамятныя, нават у каго і аборы былі не вераўчаныя, а з мякчэйшай скуркі. Толькі ў дзеда Коціка яшчэ ўсё паласатыя, з лыка. У прадвясняным разводдзі раўчуком каля платоў з вышэйшага канца вёскі ў наш ніжэйшы канец калі-нікалі даплываў, натоўкшыся ў берагі, такі нямодны паласяннік, і нам, падшыванцам, пацешна было пароць якімі-небудзь патарчакамі той «карабель» без абораў, знятых старым Коцікам для наступнага, каб яшчэ раз не віць.

Таксама ж успамін. Прыйшоў ён, пакуль я сядзеў пры не зусім астылай за ноч белакахлянай грубцы, ціха чакаючы прыезду ўнучкі з мужам. На машыне, вядома, што сёння не толькі ў горадзе, але і ў вёсцы не навіна

Прагрэс!..

А днямі старая паштарка гаварыла мне, што ў школу з іх недалёкага Бяражна ў Мір, за пятнаццаць кіламетраў, спецыяльны аўтобус бярэ ўжо толькі двое дзяцей — з двух з нечым соцень хат...



Цёўканне аерам, як на губным гармоніку,— дзіцячае, найбольш хлапчуковае свята ў суботу перад Сёмухай, калі з лесу прывозіліся для ўпрыгожання двара бярозкі, а з-над рэчкі аер, нарэзаўшы якога пасыпалі свежавымытую падлогу ў хаце.

У нашага бацькі ад любасці да дзяцей і ў самога былі дзіцячыя рысы ў характары. Так ён, ужо і хвараваты, і вечна ў рабоце, у сваё апошняе лета ездзіў на нашым сівым злосным сібірачку на Вушу,

за два кіламетры, і ў лес за ракою, яшчэ больш за тры, каб прывезці радасць малым.

У татарскім квартальніку «Байрам» прачытаў пра ўласцівасці аеру, і вось павяло на запіс.

Там яшчэ цытуецца з кітайскага медыцынскага трактата: «У яго каранішчы смак пякучы, уздзеянне цёплае, саграваючае, моцна ўплывае на страўнік, мужчынам дае сілы на ноч і спакой днём».

А дзецям,— дадамо,— такое бела-ружова-зялёнае цёўканне.

* * *

Дзятлу, праходзячы панурым, халодным ранкам каля яго сасны:

— Дзяўбі, дзяўбі! Гэта табе не шпакам памагаць на верхнім голлі нашых салодкіх чарэшань!

* * *

Паўвекавы дубовы гай залішне густымі ствaламі і непрадзьмута сплеценымі кронамі з пажоўклай лістотай даходзіць да самага абрывістага берага ракі. Стаю пад лёгкім пошумам вяршыняў і гляджу на Нёман. На тым, ніжэйшым баку разлогі — выпасвены луг засланы сонечным надвячэрнім спакоем. Дзве стромкія алешыны, збоку асветленыя сонцам, стаяць на голым, роўным беразе вялізнай рагаткай з укапаным канцом-дзяржаннем, а можа, лепш лацінскай літарай V, мітынговым знакам вікторыі-перамогі, і хораша, нібы й незалежна ад сонца, выразна адлюстроўваюцца ў роўненькай, хуткай плыні. Уздоўж майго, крутога берага рэдкім накрапам плыве апалае лісце, а далей, за стрыжнем, чыстая вада свабодна раскашуецца сонечным бляскам, ажно нібыта моршчыцца ад аса-

лоды, гулліва пераплываючы цераз тое нерухомае адлюстраванне.

Так ідзе час.

А можа, і вечнасць...

* * *

Зімою, калі мы, загорцы, мужчыны і дзецюкі, санным абозам вярталіся з пушчы, седзячы на дрывах, у Вялікай, а лепш было б — у Доўгай Вобрыне, дзяўчаты-папрадухі, у нас казалася скудзельніцы, што пазбіраліся ў хатах гурточкамі, каб весялей было працаваць, пастуквалі нам, хлопцам, праз шыбы — па дзве, па тры ў акне — то чу́чкамі, то жучка́мі, таўсцейшымі канцамі верацёнаў. Адна аж пагразіла мне кулачком — чаму не гляджу. Смеючыся. Адтуль гэта, з далё-далёкай маладосці.

* * *

«У новым рамане Віктара Казько палескае: «Хто сказаў, што лапці ваду прапускаюць?»

Гэта ў мяне запісана ў канцы васьмідзесятых. А яшчэ ў ранейшым блакноце — наша, з Міршчыны, таксама ж вясёлае: «Не можа быць, каб лапці ваду прапускалі!..»

Пераклічка.

* * *

«У засеку не вымакае, а высыхае». У Беражне так намякаецца на гаспадароў, якія п'янствам самі сябе абкрадаюць.

10. Зак. 46.

* * *

«Вецер **вышугаў** хату».
«У кожнай хаце — **свая печ**».
«І стаяць твая хата будзе — **век веку падасць**».

* * *

Праз чырвоныя, жоўтыя і блакітныя, featured рознафарматныя шыбіны ды шыбінкі касцельнага вітража відно, як у сонцы варушацца лапы сасны, неад'емна дасканалячы красу.

* * *

Едучы ў родныя мясціны, з акна электрычкі гляджу, як да густога, высокага ельніку прысуседзіўся нейчы белы, у квецені, ціхі садок.

* * *

Нёман пятляе, і ў яго разложыстых лукавінах, памясцоваму нарта́х, дзе зрэдку высяцца спрадвечныя дубы, хораша бачыцца светла-зялёная, свежая стрыжка сенажаці.

* * *

Вясковы пажарнік: «Агонь мы **ўкамячылі** адной цыстэрнай вады».
«Крывое кола **на сябе** гразь кідае».

«Стаіць, **павесіўшы рукі**, і маўчыць».

«Хмара толькі **засценьвала** на дождж, ды нешта ж не пайшоў».

«Гэта анёл, але **з-пад млына**!» Як чорт.

* * *

Пад нагамі шэлест кляновага лісця, густога, мяккага насцілу золата. І ўсё яно то ножкамі, то рожкамі скрозь нізенька тырчыць — такая лёгкая шурпатасць.

* * *

Дзядзька Паўлюк, зайшоўшы ў хату, калі суседзі абедаюць:

— Дзень добры, хлеб цёплы, капуста гарачая, натура сабачая!

І за такое на яго, старога байдуна, не абражаліся — прывычка і гаварыць, і слухаць.

* * *

Рыхтуючы перавыданне, **вышалушваюся** з рыторыкі.

* * *

Сонца раптам ды нечакана выглянула з-паміж хмараў, і на суседавай яблыні ў яркім святле **запрышчыліся** яблыкі, якіх бачыцца больш, чым лістоў.

* * *

Бальнічная санітарка:

— Пяцёра дзетак у мяне. Старэйшая ўжо ў дзевятым класе. Памочнікі. Як мурашкі, з лесу нясуць — то ягады, то грыбы...

* * *

Прыбалтыйскія чайкі. Бела-шэрыя, трошкі чорнага, кроплямі. Спецыяльна тоненькія чырвоныя ножкі, як цацачныя. А ступаюць па мокрым пляжным пяску па-спацырнаму важна.

* * *

У блакноце з канца шасцідзесятых гадоў:

«Засталіся ў калгасе адны дзяды, як **недагараныя карчы**».

А цяпер ужо, здаецца, толькі адны бабулі — **лічаныя**...

* * *

«Старое — як малое». Пра здзяцінеласць. Аднак не крыўдна, няхай сабе і з паблажлівасцю, але ж і з цяпельцам у падтэксце. Калі пра роднага ды ў разумнай сям'і.

* * *

Унучка на чацвёртым годзе:

— Гуляць мы, дзеду, пойдзем з табою, калі сонейка нагрэе ветрык.

* * *

Маці — вобраз святы. Але ж з яе бывае таксама мачаха, якая ненавідзіць **не сваё** дзіця. Тут ужо не да святасці.

* * *

У штотыднёвай радыёперадачы «Спадчына», амаль заўсёды прыемна змястоўнай, фальклярыстка Таццяна Валодзіна зацікавіла апавяданнем пра даўняе павер'е, што бытуе на Палессі. Калі памрэ гаспадар, душа яго знаходзіцца ў смецці сорак дзён нямеценай хаты, а таксама і ў веніку, якім столькі ж часу не карыстаюцца.

І для ўсмешкі яно, і для роздуму.

* * *

Нібыта па народнай мудрасці: «Трэба жыць як набяжыць», зранку ўзяўся за вершы Пісьмянкова ў яго прыгожа выдадзенай кнізе «Я не памру, пакуль люблю», якую ён падараваў мне днямі. І па-сапраўднаму зачытаўся. Шчаслівае спалучэнне пачуцця і думкі, сардэчная шчырасць, чыстая апрацоўка. Па звычаю, чытаючы вершы, асцярожным алоўкам стаўлю «плюсы» там, дзе трэба, а тут гэтых «плюсаў» столькі найшло, што захацелася пазваніць Алесю.

* * *

У «Куфэрку Віленшчыны» — пра «кушлянскага рупліўца» Міхала Ляпеху, ахоўніка Багушэвічавай сядзібы. З гэтым «нізавым патрыётам» я калісьці

выпадкова сустрэўся ў вестыбюлі Дома літаратара, нехта нас пазнаёміў, і сухарлявы, высокі дзядок на дзевятым дзесятку весела нагаварыў мне пра Пятра Барана, майго таварыша па войску і палоне,— як той, таксама дасціпны смаргонскі каваль, прыязна мяне ўспамінае...

Прыемна гэта, такія дакрананні душамі з цікавымі людзьмі.

* * *

У дыярыушы Пачобута-Адланіцкага, аднаго з «нашых» магнатаў у эпоху Вялікага княства Літоўскага, пра Бога гаворыцца і паўтараецца, што ён «Пан над Панамі» — і ў другім выпадку з вялікай літары, зусім феадальна.

* * *

Памёр Астаф'еў. Сёння недзе ў далёкай Краснаяршчыне, у роднай вёсцы Аўсянка, будуць яго хаваць.

А пазаўчора ўвечары мы з жонкай бралі па тэлевізары то «Сегодня», то «Вести», то «Время», што дзе было пра яго, хоць патроху, а потым значна больш ішло па канале «Культура», доўгае інтэрв'ю ў пустым салоне турысцкага карабля, у дзевяноста трэцім. Бачачы, чуючы яго, успамінаў нашы рэдкія сустрэчы: у дарозе на Магілёў, зімою семдзесят пятага, з песнямі ў аўтобусе, у Маскве разоў некалькі, а найдаўжэй у шаўчэнкаўскім падарожжы па Дняпры, у маі восемдзесят дзевятага, таксама ўжо даўно...

Далучаешся душой да агульнага, урачыста-жалобнага, а разам з тым, міжвольна, вытыркаецца ў

памяці і сваё. Я паслаў яму «Нёман» з «Муштуком і папкай» па-руску, а ён мне не адказаў. І думай як хочаш: ці гэта пошта падвяла, і тады ўжо, у дзевяноста першым, бязладная, ці нешта іншае, на чым прыкра спыняцца... Бо і сустрэліся мы на цеплаходзе з сяброўскімі абдымкамі, якімі ён мяне апярэдзіў, і доўга, шчыра пагаварылі ў Каневе, на гары Чарнечай, адзінока чакаючы ў цяньку, пакуль людзі даўжэзным натоўпам паднімуцца на свята пехатою, бо нас з Віктарам Пятровічам, як старых слабакоў, уважлівыя гаспадары паднялі з нізіны на легкавіку.

...На вячэрнім тэлеэкране — яго вясковае пахаванне. Калі запрацавалі рыдлёўкі, пасыпаўся першы пясок — так далёка, а сэрца кранула зблізку, да слёз.

І такое ў далейшым сумна-высокім настроі: ён спыніўся, застаўшыся Словам, ■ нам яшчэ трэба ісці, да новага распараджэння.

* * *

Дакументальныя тэлефільмы, адзін за адным, пра двух жывых лаўрэатаў Нобелеўскай прэміі.

Працаўнік Салжаніцын. Заслужаныя слава і дастатак, прысмак апальнасці і глыбокая старасць. Яна была асабліва выразна відаць, калі ён, па просьбе нябачнага аператара, праходжваўся па вузкай, доўгай верандзе, на цёмным фоне недалёкага лесу, снежнага цаліку на зямлі і гульні сняжынак у паветры. Разоў некалькі няспешна праснаваў туды і назад, асцярожна пахістваючыся, з кіёчкам, барадою і шапкай падобны на «яснополянского старца».

Гаварун Гарбачоў. Найбольшай пашаны варты за тое, **чаго не зрабіў**, з трона сышоўшы без крыві, можа, нават і мудра «смирив гордыню»...

* * *

...А мне **адраджацца** не трэба, беларусам **я нарадзіўся** даўно, у раннім вясковым юнацтве. Няма і патрэбы хваліцца тым, што ад пачатку і назаўсёды твае.

* * *

Каторы ўжо нумар чытанне «Полымя» пачынаем з дзённіка Дубянецкага. Мяркую па сабе і па сябрах. І чалавек гэты, значны і пры жыцці, яшчэ прыгажэй раскрываецца сёння. І час, які ён так руплiва апісвае, васьмідзесятыя гады, бачыцца парагістарычнаму праўдзіва, шырэй за справы толькі выдавецкія, і незабыўныя чыноўнікі, што кожны па-свойму тармазілі прагрэс, дзейнічаюць у летапісца Міхася на цэкоўскіх ды камітэцкіх падмостках з жывой тэатральнай пацешнасцю.

* * *

Светлая, мужная жанчына, знаёмая выкладчыца адной з нашых тэхнічных ВНУ, у тэлефоннай гутарцы, калі я спытаўся, як жа ёй працуецца, падаючы маладым вышэйшую матэматыку — па сваёй волі і настаянні — па-беларуску, з вясёлай... лепш — радаснай шчырасцю расказала, як прыкметна апошнім часам расце ў студэнтаў **свабодная цяга** да роднай мовы.

* * *

У снежаньскім «Полымі» — грунтоўны артыкул Серафіма Андраюка пра нашу прозу з палавіны шасцідзесятых гадоў да палавіны васьмідзесятых. І такое вось — **упершыню,** ажно захацелася выпісаць:

«Падтрымка ў друку ці ў вусных выступленнях таленавітых маладзейшых празаікаў была арганічнай рысай чалавечых і мастакоўскіх паводзінаў старэйшых калег па цэху. Вядома, як падтрымлівалі...»

Называюцца імёны. Добра ўбачыць і сябе ў тым пераліку.

# *Дзве тысячы другі*

## *Студзень — жнівень*

Зноў успомнілася наша атака на Мэхэлінкі 13 верасня ў 39-м, раннім і хмарным прыморскім ранкам. Двое нядошла-старых кашубаў на затоена пустой вясковай вуліцы. Баба ў прыглушана-спалоханым пагалошванні. У дзеда рабочая куртка з правага боку грудзей прарвана клінам, як мне здалося, ад шальное кулі ззаду. І задыханыя словы на польска-нямецкай трасянцы:

— A oni durch strzylają, durch strzylają!..[1]

Бездапаможнае чалавечае нараканне. Я ўбачыў і пачуў гэта, подбегам пераходзячы забрукаваную вуліцу, услед за першым нумарам кулямётнага разліку, пад цяжарам пяцідзесяці трох кілаграмаў нерасчлянёнага «максіма», які, мяркуючы па выбітай на ім даце **1908**, прайшоў і першую сусветную вайну. Не на колах ён, а з палазка́мі, не пакоціш, а трэба цягнуць, паўзучы, або тарабаніць на гарбе, надзеўшы рамай на галаву.

Сустрэча тая сяды-тады пераклікаецца ў мяне з дурнымі кінабаевікамі ды рэкламнымі кадрамі ваяўнічых анонсаў на штовячэрнім тэлеэкране і з усім тым

---

[1] — А яны ўсё страляюць, усё страляюць!..

бязглузда крывавым, што адбываецца то далей, то бліжэй на Зямлі,— жахлівае **durch**, што азначае: **усё, бясконца**...

* * *

Шэсцьдзесят пяць Стральцову. Было б...

Нашы надзеі, нашы прароцтвы збываюцца,— зноў і зноў нас палоняць, хвалююць свежасць і краса, глыбіня і сіла мастацкага слова, радасна бачыцца яго пераможная хада ў будучыню, дзе забяспечана адпаведнае разуменне і гордая пашана.

Над старонкамі Міхасёвага аднатомніка, які ўранні гартаю перад вячэрнім выступленнем, успамінаецца Рыгор Раманавіч Шырма, пра якога і я гаварыў нядаўна на святкаванні яго юбілею ў сціплай утульнасці кінатэатра «Змена». Перачытаў і ўступны артыкул Адамовіча, можа, больш чым у іншых выпадках у Алеся разумны і востры.

Нібы нават убачылася, як усе яны, натуральна аддаляючыся, кожны з часам свайго адыходу,— Шырма, Стральцоў, Адамовіч,— усталёўваюцца ў нашай народнай гісторыі, у няспешнай чарзе за іншымі, несакрушальна абарончымі вежамі, нязгаснымі маякамі і, як сказала ў сваім нядаўнім газетным выступленні таленавіта-ціхая Марыя Вайцяшонак, нашымі храмамі, «которые видны из многих точек света».

* * *

У рэдакцыі — чалавек некалькі нашых, старэйшых і маладых. У гутарцы дайшло да тэмы п’янства. І я, між іншым, сказаў, што ніколі адзін не піў і не

п'ю. А дома прыпомнілася, як зімою на пачатку 1962-га, калі я жыў падоўгу ў вёсцы, у брата Міхася, працуючы над «Птушкамі і гнёздамі», паехаў з братам у Карэлічы, дзе ён працаваў, вяртаўся без яго, раней, у кузаве грузавіка семнаццаць кіламетраў, у сцюжны мароз, проста ацэпшы, адубеўшы.

— Лячы мяне! — папрасіў братавуху.— Што ў цябе ёсць?

— Капуста ў печы...

— О! А сала, цыбуля? І чарка, можа, знойдзецца?

Перад лустаю хлеба, скрылямі сала і цыбулінай, перад місай гарачай капусты (успомнім Пушкіна: «Да щей горшок, да сам большой!») я кульнуў гранёную чарыцу самагону, горача, смачна, напоўніцу закусіў, а тады падаўся на вялікую, яшчэ не астылую печ і, у смак адляжаўшыся, не прастудзіўся.

Такое вось выключэнне.

* * *

У чарговым «Arche» — «Скарына» — інтэрв'ю Сямёна Букчына з Яновічам, дзе Сакратавы Крынкі параўноўваюцца то з Фолкнеравай сядзібай Ёкнапатофем, то з талстоўскай Яснай Палянай...

Можа, яшчэ б якую парачку падобных мясцін — для весялейшага падтэксту? Ці хопіць і так?..

* * *

Выйшаўшы з падземнага перахода, ад станцыі метро, на шырокай і чыстай ад снегу панелі апынуўся ў рэдкім, рухавым натоўпе. Іду паволі, разглядаюся і — дзіўнае, небывалае адчуванне — не бачу ніко-

га, з кім быў знаёмы або сябраваў, чым нейчы воблік запомніўся.

Так не будзе калісьці, для кагосьці і мяне самога. Хоць людзей і не паменшае.

* * *

Васіль Зуёнак, якому я падпісаў свой «кнігазбораўскі» том, пры наступнай сустрэчы нават ухвальна здзівіўся: «А колькі ж вы ўсяго запомнілі!..» Не хапіла духу адказаць: «А колькі ж я дадаў героям ды сітуацыям выдумкі, свайго!» Бо ёсць жа гэта, дый нямала, і ў гэтым ужо мая патаемная радасць: пападаць у тон, прыдумляць адпаведнае.

А гаварылася пра «Ніжнія Байдуны».

* * *

Некралогі ў «ЛіМе» ідуць звычайна на перадапошняй старонцы. Бывае часамі, што адразу адгортваеш іменна там і адчуваеш палёгку, калі няма партрэціка і чорнай рамкі. А то ўсё часцей нечаканае, ажно і ахнеш.

Пазаўчора — Пятро Васілеўскі. Адразу пазваніў ягонай Галі, і яна мне няспешна, стрымана расказала пра ўсё. Упершыню... а можа, і не ўпершыню, але не з такой дарэчнасцю пачуў, што пасля франтавога ранення ў 1941-м ён дыхаў толькі правым лёгкім. А цяпер гэтае адно, нармальнае лёгкае атакавалі метастазы. У свой апошні дзень ён папрасіў Галю нікуды не ісці, а прысесці побач і падаць яму руку. Апошнія словы: «Як цяжка паміраць!..» А потым парыў,

спроба яшчэ сказаць, можа, і найважнейшае, аднак гэта было ўжо штосьці зусім невыразнае...

Калі ў Пятра з'явілася сівая бародка без вусоў, я пачаў называць яго Аксакавым, памятаючы змалку любімага Сяргея Цімафеевіча, аўтара «Дзіцячых гадоў Багрова-ўнука». Мы сустракаліся заўсёды весела. Аляксандр Твардоўскі, з якім Пятро быў даволі блізка знаёмы, называў яго і па «отчеству» і па «Капітанскай дачцэ» Савельічам. У іх былі доўгія, далёкія праходкі ў кактэбельскіх гарах, многа перагаварылі. Праўда, калі мы з «Аксакавым» пазней, у Дубултах, нечакана сустрэліся з Марыяй Іларыёнаўнай Твардоўскай, ён прыкметна збянтэжыўся: відаць, было за што крыху саромецца разумна-строгай удавы вялікага паэта, якая з паслядоўнай мужнасцю ахоўвала цвярозасць свайго Сашы... Пятро мне і пра гэта потым расказаў, спачатку пагаварыўшы з Твардоўскай. Ён быў выдатным субяседнікам, я гэта ведаю па нашых з ім частых і доўгіх праходках, толькі ўдвух, у лясных Каралішчавічах, у прыморскіх Дубултах, яшчэ сям-там, на мінскіх сустрэчах і ў перазвонах. Наогул — слаўны таварыш, разумна глыбейшы, чым на першы ці толькі знешні пагляд, чым у сваёй прозе і кінадраматургіі,— скажам яшчэ і такое, памятаючы ягоную шчырасць ды сціпласць у самаацэнках. З удзячнасцю памятаю ягоную ўвагу да маіх «лірычных запісаў», крыху чытаў такое і ў яго. Хацелася б пачытаць і больш, усё...

* * *

Коля Марцюк зрабіў мне ў Вобрыне партызанскае сядло, я напісаў пазалетась пра гэтую ўдзячнасць. А наган даў мне Іван Смалянка, па-вясковаму Евін, у

Маласельцах. Навёў мяне на яго мой старэйшы брат Коля, выдаўшы сяброву таямніцу. Ціхманы, дабрадушны Іван не стаў адмаўляцца, сказаў мне пачакаць яго ў сенцах, а сам унёс аднекуль з двара абматаную анучай цяжкаватую гамоліну і ацішана прагудзеў:

— Ванячко, каб другому каму — не даў бы...

Гадоў праз трыццаць пазней я папракнуў яго, чаму, бываючы ў Мінску, у дзяцей, не зойдзе і да мяне, як бывала раней, а ён пачаў апраўдвацца:

— Забыўсё, Ванячко, твой **домер нома**...

У іхняй вёсцы пра Беларусь можна пачуць **Бералусь,** пра Лаўрына **Раўлын,** пра Рап'ёва **Япрова**... Цьмяна помніцца, што Федзя Янкоўскі неяк мне гэта растлумачваў па-навуковаму.

* * *

Не па выбару, а каму як ад роду прыйшлося, жывуць людзі ў прыгожых і яшчэ прыгажэйшых мясцінах, прылясных, надрэчных закутках роднай зямлі. У нялёгкім, шчаслівым клопаце гадуюць дзяцей, змалку да старасці многа працуюць, спакваля співаюцца, ашваркам дошкі па галаве сын б'е бацьку, потым вешаецца ў непадасланым хляве, а тата плача па сыне і апускаецца яшчэ ніжэй, а потым памірае...

Адзіная навіна, што нядаўна прыйшла мне адтуль,— пахавалі панурага Яся, апошняга на ўвесь пасёлачак мужчыну. Прыбыло на яшчэ адну не вельмі старую ўдаву, не горшую за ўсіх работніцу і гультайку, пляткарку ды зводніцу, аматарку засветных тэлесерыялаў, якая і чалавеку свайму не давала патолі за п'янку, і сыну, хоць і сама, як кажуць, цягне дый не надта моршчыцца.

А рака — памяццю мне па даўняй прывычцы бачыцца — усё цячэ, плыве нястомніца, дрэвы на высокім беразе то зелянеюць моўчыкам, то, як прачнуўшыся, і пашумяць. І беражанкі ўсё шыбуюць заклапочана над люстрана-гладкай вадою, раз-поразу залятаюць, утыкаюцца ў бязлікія норкі на крутым, слаёна ды зрэдку, ад каранішчаў вісюча-касматым, адкрытым абрыве берага, то зноў улегцы вылятаюць адтуль то ў нізкі, то ў вышэйшы паляўнічы палёт бясконцай бацькоўскай руплівасці.

А ціха-імклівыя, светлыя, востра-доўгія чаўнакі байдарак з аголена загарэлай турысцкай або канікульнай моладдзю розных узростаў плывуць апяяна быстрай ракою, ажыўляючы, дзякуй ім, пераклікам ды смехам спрадвечную ціпіыню гэтых чароўных мясцін. І зноў ды зноў іншыя людзі ўдзячна здзіўляюцца, як тут прыгожа, а яшчэ ж, відаць, і шчасліва, як падумае нехта, жывуць у такой летуценнай красе...

* * *

Прыстойна выдадзены таміна «Новай зямлі» на трох мовах. Зачапіўся за польскі пераклад захоплена-энергічнага Чэслава Сэнюха, дачытаў усё тое, чаго ён мне, асабліва пад канец работы, не дасылаў на сяброўскі суд,— і трэба прыемна сказаць, што дачытаў з неаслабнай цікавасцю. Пераклад атрымаўся добры, месцамі я ўсміхаўся ад задавальнення, нібы нанова ўбачыўшы наш нацыянальны скарб. Для «очистки совести» выбарачна прачытаў некалькі раздзелаў рускага перакладу. Усё ж такі Ісакоўскі, Гарадзецкі і менш вядомы мне Сямынін, усё ж такі іхняя сяброўская павага да аўтара. Пераклад дзе «терпимый», а дзе і добры. Прыкра за рэдакцыйна-цэнзурныя купю-

ры палітычнага характару (то рэлігійнае, то некалгасна-сялянскае), як горкая памятка былога,— год выдання 1949-ы,— больш за тысячу радкоў шкодна забранага ў рускамоўнага чытача...

* * *

Нібы ў мяне памінкі па Астаф'еве,— перачытваю, як новае чытаю «Затеси» ў кнізе «Падение листа», выдадзенай у 1988 годзе, з маімі тагачаснымі паметкамі на палях. І ў блакнот адхіляюся час ад часу.

Багата ўсяго, і не толькі для рускіх. Багацце слова як сеткай, а то і як невадам цягае з народных глыбіняў. І адбірае з гэтага ўлову лепшае ды найлепшае, як быццам лёгка, многа гэтаму не правучыўшыся. Колькі ж ён бачыў сваім, пасля франтавога ранення адзіным вокам, колькі сабраў і аддаў на радасць чытачу, не абцяжаранаму лішняй зайздрасцю, якая хоць і ёсць, аднак жа чыстая. І народнасць ад самага нізу, на ўсю глыбіню-шырыню. І вайны ён паспытаў удосталь, радавы сувязіст, «израненный воин», як хтосьці так у дні жалобы гістарычна напісаў.

Над Астаф'евым успамінаецца трэці часопісны кавалак Пташнікавай таленавітай «Ненапісанай аповесці», школьны экзамен па алгебры. І там аўтар ведае яе, як і трэба ведаць тое, пра што пішаш, і Астаф'еў усе свае алгебры ведае так, як быццам з гэтым раскошным веданнем і нарадзіўся. А я прымаю гэта ў абодвух з пашанай. І таежнае, і палявое, і вайсковае, і гарадское, і чым жыў салдат, і чым галодны, босы пасляваенны падлетак — усё натуральна жывое.

Думалася пра дружбу сібірскага самародка з нашым Быкавым, афіцэрам-франтавіком, і з Пысіным, франтавіком-радавым, яшчэ ж і сувязістам таксама. А як ён шчыра, хораша напісаў пра слаўнага, незабыўнага Дзіму Кавалёва, па маці рускага, па бацьку беларуса!..

Успамінаю Віктара Пятровіча на гары Чарнечай, каля помніка Кабзару, стомленага і нялёгкім жыццём, і заложнаю працай дома, у сваёй Аўсянцы, і бясконцымі спрэчкамі на цеплаходзе, па вечарах, дый не на́суха... Я амаль усю сваю ўвагу аддаваў тады польскаму сябру Фларыяну Няўважнаму, з якім можна было задавальняцца і сціплай чарачкай, і змястоўнай, вясёлай цвярозасцю. І сёння чую распа́раны познім ды шумным застоллем голас сябра літоўскага, магутнага Вітаса Пяткявічуса,— як ён счапіўся са «старэйшым братам», Астаф'евым, абараняючы роднае імкненне да дзяржаўнай незалежнасці: «А что ты так заботишься о нас, бедных литовцах? Дай нам, позволь умереть с голоду!..» Спрэчку гэтую мы чулі ўдвух з Няўважным, і Фларыян расказваў мне пазней, што Астаф'еў перад гэтым дняпроўскім рэйсам нешта нядаўна быў у Варшаве і не спадабаўся палякам сваёй «маскальскай» імперскасцю. Са мною ў яго такога не было. Асабліва ў самотнай прахалодзе, калі нас з ім прывезлі на гару і мы чакалі на лаўцы пад дрэвамі, пакуль знізу не падняўся даўжэзны пешы людскі паток. Нагаварыліся... А на мітынгу былі ў групе міжнародных гасцей, выступалі, і была такая спёка, што Віктара я ўспамінаю з усмешлівым перабольшаннем. Ён у мяне не проста прысеў на зялёным адкосе, у самым падножжы помніка, а нават скінуў свае ўяўныя кірзачы і парцянкі паслаў, распасцёр на халявах, каб падсохлі ад поту. Такая свабодная прастата.

Праз усё яго бачанне, веданне прыроды, працы, бяды і болю прасвечвае, я паўтараюся, не толькі рускае, але і агульналюдское,— любоў да сумленнага жыцця, да людзей цяжкай працы. І колькі ў гэтым непадробнай шчырасці, колькі высокай паэзіі, зразумелай кожнаму і ўсюды!..

І не гумар у яго, а радасць жыцця такая, што і мяне, чытача, час ад часу ўдзячна развясельвае.

...Столькі ў свой час гаварылася пра салжаніцынскі «Матренин двор», які мне, дарэчы, з самага пачатку нагадваў «Живые мощи» Тургенева. А вось чытаю «Пару́ню», і думаецца, як шчодра ў яго, Астаф'ева, такога высокамастацкага дабра, калі б пачаць хваліць «паштучна».

...Перачытаў Тургенева і Салжаніцына.

І «Живые мощи», і «Матренин двор» — як заклік да цішыні і роздуму, неабходных для сапраўднай літаратуры, каб яна ў такіх умовах рабілася, з самага нізу жыцця выносячы праўду пра яго «на свет цэлы». І грунтоўнасць у апісаннях — ад той свабоды выбару і абавязку праўды, паўнаты жыцця.

Тры аўтары, далучыўшы і Астаф'ева.

Радавіты прыгоннік, барын-паляўнічы; настаўнік матэматыкі пасля вырастання ў інтэлігентнай сям'і, афіцэрскага фронту, турмы і ссылкі; вясковы сірата, не ў роднай хаце, а ў дзіцячым доме, юнак, які сваё літаратарства аплаціў ваеннай гарапашнасцю, раненнямі, пасляваенным ліхалеццем, амаль самавук у параўнанні з памешчыкам, адукаваным па-еўрапейску, і з савецкім педагогам, у якога, праўда, не было даваеннага шастання па замежных сталіцах, свабоднага ведання некалькіх моў, а ўсё ж гэта не тое, што двухгадовыя літаратурныя курсы ў Маскве...

Аўтар «Живых мощей» пісаў, што называецца, ад паўнаты душы, у свабодзе выбару ды ў безнагляд-

насці. Другі аўтар, «Матрениного двора», адваяваўшы, выпакутаваўшы трохі свабоды сілай душы. А трэці, што напісаў, між іншым, і «Паруню» «по веленью божьему» ды з мужным пераборам выкарыстваючы час «галоснасці», «перабудовы» і «дэмакратычнай» **смуты**, ужо без двукосся.

Можна яшчэ сюды і Цютчава дадаць, эпіграф да «Живых мощей»:

> Край родной долготерпенья —
> Край ты русского народа!

І можна перайсці да самога сябе, задумацца над тым, а як жа ў цябе з вобразам жанчыны-маці, пакутніцы ў працы, у горы ды ў бедах, сваіх і народных?..

* * *

Не памятаю, ці дзе запісана ў мяне, хоць бы намёкам на тое, што мама расказвала пра сябе-маладзіцу. Хутчэй за ўсё — не. Як яны з нашым, з маім бацькам згодна жылі, як толькі аднойчы было, што яна да сваіх, у суседнія Маласельцы схадзіла, дык за тое, што без дазволу або ўзгаднення, ды яшчэ і пераначавала там, бацька наш, цяжка ўявіма малады з яшчэ на тры гады маладзейшай мамай, у якой нават Ганны, нашай найпершай, не было яшчэ, упершыню, як яна казала, «першы і апошні раз», ці ад бацькоў наказ які пачуўшы, пакуль яе не было, ці свой характар захацеўшы паказаць, калі яны селі сям'ёю за стол і яна з лыжкай прысела каля яго, ён — во ажно як! — выхапіў у яе тую лыжку і бразнуў яе, хоць і не звонка, драўляную, аб падлогу. А яна сабе ўстала, лыжку падняла ды, не абцёршы яе,— тыц у крупнік. І сёрбае, як усе, бо гарачае.

Таксама ж характар! На ўсё жыццё, бо яшчэ ж і найменшаму з дзяцей, мне, па ліку дзесятаму, ужо ўдавою стаўшы, расказала за прасніцай.

Успомнілася гэта цяпер над старонкаю «Матренина двора», дзе старая пакутніца ўспамінае: «Меня **сам** ни разику не бил». Не кніжнасць тут у мяне, а наша «общность», агульнасць літаратараў і людзей. А яшчэ і сямейная гордасць — тым, што ў **маіх** тая першая і апошняя сутычка была не такая, як у Матроны са сваімі, з мужыком пры ягоных бацьках і залвіцы, бо там: «То есть был-таки раз — я с золовкой поссорилась, он ложку мне об лоб расшибил. Вскочила я от стола: «Захлебнуться бы вам, подавитесь, трутни!» И в лес ушла. Больше не трогал». А наша мама нашаму тату, дзеду з бабай нават і слова злоснага не сказала.

Запісваю, і думаецца з сумнаватай усмешкай, як бы гэта Валодзю Калесніку спадабалася ды прыдалося ў кнізе пра мяне...

* * *

Калі памёр Уладзімір Высоцкі, Эльдар Разанаў параўноўваў яго... з Гётэ.

А на пахаванні генерала Лебедзя артыст Аляксей Пятрэнка, зноў жа па тэлебачанні, параўноўваў «этого самородка»... з Ламаносавым і Шаўчэнкам...

Таксама з жалю.

* * *

Акружэнец, не партызан, а прымак у багатым хутары, былым фальварку, амужычаны журналіст, працавіты круцель, прысуседзіўся на мірскім кірма-

шы да ларка з «чарнілам», прывёзшы з дому, за дванаццаць кіламетраў, на выпрашаным у брыгадзіра калгасным гора-кані бочачку салёных агуркоў. Хвацкая закусь, жывая капейка!.. І раз, і другі раз, і трэці...

Расказваючы мне пра гэта, колішні зямляк, жыдок з Турца, цяпер ажно маскоўскі бухгалтар на пенсіі, расчулена смакаваў гэтую «смекалку», ажно вочы заплюшчыўшы:

— Огурчик — рубль! Огурчик — рубль!..

І рубель жа не сённяшні, а сталінскі ці хрушчоўскі.

* * *

Вярнуўся з ЗША з нейкай вялікай удачай у сваім бізнесе, а дома, ледзь не з ходу — шырокі інфаркт і некралог з памінальнай нацяжкай.

Прыгадаўся пачатак ягонай кар'еры, кніга рускіх народных казак, поўная адкрыта-агіднага брыдкаслоўя, але для гандлёвай прыманкі маляўніча афармленая пад кнігу для дзяцей. На паседжанні праўлення Саюза пісьменнікаў, у «розных», яна разглядалася як шкодная парнаграфія. А ён, выдавец-пачатковец, моўчкі адседжваў сваё за доўгім сталом і толькі прытоена ўсміхаўся, трэба думаць, з таго, якія мы ўсе прастакі са сваёю адсталай маральнасцю.

* * *

Наша Крынічнае.

Да ўсяго прывыкаеш. Салаўёў яшчэ застаў, але запісваць не пацягнула. А жураўліны пераклік за Нёманам, дзе лугі тым часам дружна пайшлі ў

зяляніну ад начных і дзённых дажджоў, чую кожную раніцу з дарогі ў пасёлак, як быццам без хвалявання, як штосьці звычайнае, неад'емнае.

Што ж, на дваццатай тут вясне.

* * *

Рэкс на ланцугу, злосна гаўкае ад будкі, ніяк не можа змірыцца з тым, што мы даўно знаёмыя, што я тут як свой чалавек. А малая чорная сучка (прабачце, забыўся за зіму, як вас завуць) то моўчкі тупаціць, то сядзіць каля ганка, начэкваючы, што гаспадыня нарэшце выйдзе і штосьці дасць. Ніяк не паддаецца на маё пацмокванне, упрошванне падысці да лаўкі, дзе я прысеў з малаком, пад маю далонь, каб пагладзіў. Толькі сярдзіта, нягучна пагаўквае на камароў, на ляту хапаючы ды чаўкаючы іх. Гаворыцца: «Як сабаку муха». А тут жа яшчэ меншая назола.

* * *

Спёка ледзь не па-летняму. Яблыні дацвітаюць багата, як ла́пчатым снегам пасыпваючы пялёсткамі на траву і на яшчэ адкрытую зямлю.

Абедаем на кухні. А потым хтосьці першы, нечакана:

— А зірніце ў акно! І хмары няма, а такі спорны дождж!

Потым я выйшаў на ганак і, прысеўшы, пачаў любавацца, што адбылося ў такой раскошы, пасля некалькіх дзён спякоты і тут, не толькі ў горадзе, перад нашым ад'ездам сюды.

Багаты ў сонцы цвет яблыні хутка намок і абвяў, густа абсыпаўшыся вялікімі бялячкамі пялёстак. А чарэшня, што адцвіла раней, стаіць сабе ў сонцы, яшчэ ўсё шчасліва мокрая.

Шпак, сёлета першы для мяне, прысеў на найвышэйшай галінцы чарэшні. Мала гэтага — пырхнуў яшчэ вышэй, на высачэнную галінку таксама мокрай ліпы. Добра быць птушкай! Усё навокал ды зверху — яшчэ прыгажэйшае.

* * *

Сонца і цішыня. Пасля ўчарашняга дажджу квецень не вярнулася на яблыні. Цвітуць толькі бэз і каліна. Неяк песенна, нават запісваць прыемна.

* * *

Вячэрняе бойкае вогнішча. Самотна высокі, няпоўны месяц на другой квадры. Скрылікі сала і лустачкі хлеба на ражэнчыках. І салаўі ў цёмнай надрэчнай гушчэчы. Спачатку далекавата, а затым спакваля бліжэй, бліжэй, як быццам зацікаўленыя вогнішчам.

Тое, што потым, здалёк успамінаецца як шчасце.

* * *

Шырокія аўтакаляіны прылясной дарогі ўтапіліся ў павышэлай ад дажджоў траве, а замест ранейшага пылу на іх, цяжкага для хады, гладкая ўезджанасць, па якой ідзецца тупка.

Не толькі мне.

Павярнуўшы з двара на дарогу, заўважыў воддаль у каляіне... бусла. Так проста гэта і так незвычайна, ніколі не бачана, каб і ён уладзіўся прайсціся!.. А мне прыйшлося яму перашкодзіць, хоць я спачатку і пайшоў павальней. І раз, і два азірнуўшыся на мяне, буська няспешна, але ж і абачліва падскочыў, залапаў крыламі ўшырыню, на выгляд цяжка ўзняўся, пашыбаваў над дарогай і ўзлескам, пад ранняе сонца, туды, дзе асядзе тонка-чырвонымі цыбамі на росна-зялёнай роўнядзі, закіне дзюбу ў неба і зойдзецца шчаслівым клёкатам-смехам.

* * *

На самым лісцяным чубчыку старой, разложыстай бярозы, у сонейку — зязюля. Спыніла мяне голасам, бачу яе знізу, з дарогі, і збоку, у профіль. Як яна ледзь прыкметна, рытмічна патузваецца раскрытай дзюбай наперад, у лад свайму прыемна простаму, заўсёды новаму «ку-ку!..».

І такая яшчэ падзея на пачатак новага дня.

* * *

«Кнігазбораўскі» аднатомнік Наталлі Арсенневай.

...Скрозь у яе **сінь**, пачаўшы з заходнебеларускага зборніка «Пад сінім небам». Сінія завеі, сінню ўмыцца, сніць сінь, рассініць далеч год, сіняя пушча... І далей, і далей... І толькі ў палавіне кнігі, у верша «Пачакай»:

І блакітным ладанам удалеч
Найшчырэйшая плыве туга.

Па найвышэйшым рахунку — найлепш у яе з прыродай. І ніхто ў падобным выпадку не папракне толькі пейзажамі боскага Левітана... Можна сабе дазволіць такую раскошу і ў паэзіі. Бо прырода ў яе ідзе праз душу, часта наводзячы на светлае, высокае, **чалавечнае па-жаночы**. І сінь, сінеча — ад вясёлай, шчаслівай, як кажуць палякі, пагоды духа, ад глыбіні чыста-мірнага неба.

...І трывожная думка, між іншым, чытаючы, што і да нашага «Кнігазбору» яшчэ, чаго добрага, начальнікі дабяруцца,— такое, як гэты смела-апальны том, выдаўцам не даруецца, так не пройдзе...

* * *

У сваім нядаўнім, разумным і мужным выступленні па радыё «Свабода» Віктар Казько, які апошнім часам многа перацярпеў, добра намякнуў пра неабходнасць адчування вечнага. Дзеля як найбольш правільных паводзін, найбольш адпаведнай настройкі для творчасці.

* * *

У дачнай залежы старых часопісаў — разрозненыя нумары «Иностранной литературы» з канца 80-х — пачатку 90-х гадоў. Колькі непрачытанага ў свой час! Раманы, аповесці, апавяданні. Албанскія, нарвежскія, кітайскія, румынскія, індыйскія... Ні аўтарскіх прозвішчаў, ні назваў твораў, само сабой, не

запомніш, але ж і добры настрой, і роздум неяк са мной застануцца, пашыраючы ды паглыбляючы мой вобраз вялікага свету, з чытацкай і пісьменніцкай удзячнасцю за гэта.

* * *

Учора, звонячы ў Мінск, папрасіў дачку прывезці тамы Якуба Коласа з апавяданнямі. Захацелася іх, успамінаючы шэрую кніжыцу «Родныя з'явы», афармленнем падобную на «Рунь» Максіма Гарэцкага. З маёй першай вясковай бібліятэкі, што не змяшчалася сваім трохмоўем на самаробнай этажэрцы.

...Апавяданняў з 1906—1917 гадоў значна менш за тыя, што напісаны, як значыцца на тытуле, у паслякастрычніцкі перыяд. Дачытаўшы першыя, да другіх адразу не пацягнула, не ведаю, ці пацягне і крыху пазней, бо выразна адчулася, што я захацеў вярнуцца іменна ў ранні, зусім свабодны час творчасці Тараса Гушчы. І варта, і трэба было гэта зрабіць, хаця б з-за «Маладога дубка» і «Наша сяло, людзі і што робіцца ў сяле...» — яркага, глыбокага апавядання і светлай, шчырай заяўкі няхітрым нарысам на пачэснае месца ў сапраўднай літаратуры і мастацкай прозе.

...На машынапісе дзвюх маіх аповесцей, пасланых з партызанскай пушчы ў Маскву, з кароткім адрасам: «Саюз беларускіх пісьменнікаў, Максіму Танку», былі не надта шматлікія паметкі тых, хто мяне прачытаў да вызвалення Мінска і майго прыезду на працу ў газеце-плакаце «Раздавім фашысцкую гадзіну». Былі пытальнікі і клічнікі, нават і чырвоным алоўкам, аднак цяпер мне прыгадаўся прыгожы по-

чырк Максіма Лужаніна з такім суровым прысудам: «Поўнае няведанне ўмоў часу і патрэб часу».

Былі пасля і добрыя водгукі старэйшага сябра, з якім пяць гадоў працаваў у адной рэдакцыі, дзе і з почыркам яго пазнаёміўся, нічога не сказаўшы яго ўладальніку пра той прысуд. Ды вось жа зноў успомнілася і найранейшае, і яшчэ два водгукі, у цэлым станоўчыя, але і з падтэкстам. Прачытаўшы ў рукапісе мае «Птушкі і гнёзды», ён ухваліў іх у выдавецкай рэцэнзіі, аднак і намякнуў на «ўважлівае прачытанне Пруста» і падобных яму (не памятаю прозвішчаў) тэарэтыкаў ды практыкаў «патоку свядомасці», што ў мяне выклікала вясёлае недаўменне, а выдаўцоў магло і насцярожыць рэцэнзентавым намёкам на такое адхіленне ад сацрэалізму...

Трэці падтэкст мог бы пайсці тут і зусім асобна. Таксама ў выдавецкай рэцэнзіі, зноў жа пахваліўшы мяне за «Ніжнія Байдуны», Максім, дарэчы, сакратар пры Коласе, даволі тонка падсунуў і меркаванне пра пэўнае падабенства мае рэчы да Коласавага «Наша сяло...».

Нядаўна я выбарачна перачытваў польскі пераклад «Ніжніх Байдуноў», таленавіта зроблены Янам Гушчам, а таксама і яго даўгаватае пасляслоўе да тонкай кніжкі. Ён называе маю рэч не аповесцю, а хутчэй кнігай свабодных гавэндаў, да якіх, пісьмом папрасіўшы мае згоды, далучыў у канцы і апавяданне «Гуртавое». Успомнілася, калі перачытваў гэта, што і Валодзя Караткевіч у эсэ пра мяне наконт пахваленых ім «Байдуноў» сказаў, што «ніякая гэта не аповесць». Пры ўсёй павазе да маіх паляка і беларуса, я тут не задумваюся, на ўсе грудзі **выдыхнуўшы** даўно і шчыра, а ў нечым і захоплена сабранае памяццю з як найбольш натуральнай свабодай,— у гэтым галоўнае.

Колас, Лужанін, Гушча, Караткевіч... А быў жа яшчэ нестары літаратуразнавец, які на абмеркаванні новых празаічных твораў спытаўся ў мяне, ці чытаў я Міхаіла Аляксеева, «Хлеб — имя существительное». Не ведаю, ці ён паверыў мне, калі я сказаў адмоўна, але адразу пасля паседжання я спусціўся ў бібліятэку Дома літаратара, папрасіў тую кнігу і дома неадкладна прачытаў. Што ж, у кожнага тое, што цяпер найчасцей называецца «малой радзімай», дае яму права на любасць і наймудрэйшую выснову: «Мая мама лепшая за ўсіх». Нямала ўжо такіх кніг у сусветнай літаратуры, і будзе іх яшчэ больш, і чытацца будуць яны з патаемнай і адкрытай удзячнасцю, а то яшчэ некаторыя і перачытвацца.

Нядаўна на старонках «Нашай нівы» другі літаратуразнавец, значна маладзейшы, з наіўнай прасталінейнасцю з прачытанага адкрываў, як гэта ў савецкія часы беларускія пісьменнікі павінны былі пісаць толькі тое, што патрабавала камуністычная ўлада. «Нават адпаведная разнарадка тэмаў і вобразаў існавала...» Во як, нават і вобразаў!.. Юнаму тэарэтыку такая спрошчанасць, можа, і даравальная, а вось што я, стары, абстраляны практык, паспяшаўся акрэсліць зусім і не зусім свабодны час Коласавай творчасці на «да» і «пасля» кастрычніка, дык гэта ўжо дарма. Свабодны выбар тэмаў і вобразаў у Коласавых апавяданнях і, так сказаць, курскага, настаўніцкага перыяду, і наогул дваццатых гадоў адчуваецца з поўным даверам. З заслужанай пашанай бачыцца сталасць мастака, культура яго слова. За спелай прозай адчуваецца і свежая паэзія вершаў, «Новай зямлі», «Сымона-музыкі». А ўжо недзе далей, дый не так далёка наперадзе будзе трагедыя літаратурнага прыгону, пляга рэпрэсіяў ўсемагутнага камуністычнага тэрору — той час, калі ён, Колас, «тры гады спаў

не раздзяваючыся», пра што нам, групе маладых, расказваў вясной 1953-га ў Каралішчавічах.

...Хораша, весела і сардэчна, мудра піша ён пра абедзве крайнасці чалавечага веку — маленства і старасць, хоць сам яшчэ ў тым узросце, пра які рускія гавораць: «Уже умен [redacted] еще молод», сталасць пасля саракоўкі. Хоць ужо і ён прымяркоўваецца да старэчых адзнакаў. «У Міхаіла Іванавіча была досыць пачэсная лысіна,— расказвае ён і ў дужках дадае: (з некаторага часу я пачаў гаварыць аб лысінах з пэўнай павагаю)», і ўсмешка яго, яшчэ й з пагладжваннем сваёй галавы, перадаецца мне, чытачу.

Дзед Баўтрук за два тыдні змайстраваў хутаранцу Даўнару свіронак і паветку. А тым часам рэвалюцыйныя грошы так упалі ў цане, што хоць плач,— ці не ў дзесяць разоў, параўноўваючы з тым днём, калі прастадушны цясляр дамаўляўся з хітраватым умельцам жыць (такія былі і тады, не толькі сёння), аднак падарунак унучку на кірмашы ён купіў. І тут ужо варта не паскупіцца на цытату большую:

«Прысеў адпачыць у дарозе. Даўнаровага тытуну закурыў, пакупкі свае агледзеў яшчэ раз. З кішэні казельчыка выняў — зграбны, падла: ножкі — па каленцы, пад чэраўцам — рыжавата, хвосцік угару задзёрты, а ў хвосціку дзірачка, пад хвосцікам дзірачка і па баках па дзірачцы. Паднёс дзед хвосцік у рот, падзьмуў — свіснуў казельчык, аж рэха па лесе пайшло. Усміхнуўся дзед Баўтрук: вось будзе рад унучак Андрэй!»

Колькі ўсяго ў гэтай канцоўцы апавядання пад назвай «Называецца зарабіў»!

...Нібыта й радасць, што слабых, **як не ягоных**, апавяданняў з канца дваццатых і да палавіны пяцідзесятых Колас напісаў, можна сказаць: вымучыў толькі

паўтара дзесятка. Куды што падзелася — і разважліва, грунтоўна жыццёвы тэкст, і шчырасць пачуццяў, і натуральны гумар... Памятаецца, як здавалася будучай з'явай яго вялікае, як аказалася, апошняе ў жыцці апавяданне «Між дзвюх рэчак», як мы, маладыя, чакалі яго і як яно расчаравала,— тая самая слабізна, што і ваенныя прымітыўна-бездапаможныя замалёўкі, з той толькі розніцай, што павярхоўна «публіцыстычнай», панылай расцягнутасці намнога больш...

Малодшы брат дзядзькі Якуба, эмігрант Міхась, здалёк, адкрыта даводзіў, што «Колас цяпер гаворыць не сваім голасам». Малады Максім Танк пісаў яшчэ маладзейшаму Пімену Панчанку ў лютым 1945-га, са зруйнаванага Мінска ў легендарны Іран: «Новых твораў за гэты час, вартых увагі, не з'явілася. Праўда, напісаў Колас паэму «Адплата». Урыўкі мне чытаў Лужанін. Рэч, здаецца, слабая. Стары не хоча зразумець, што ў вершах атупела яго пяро. Пісаў бы ён прозай. Праўда, сам я паэмы не чытаў, але як прачытаю, напішу табе падробную рэцэнзію, якую, можа, калі-небудзь надрукуюць патомкі, пад загалоўкам «Перапіска з другам Піменам», бо зараз, сам ведаеш, праўды пра творы класікаў ніхто не асмеліцца надрукаваць».

«Пісаў бы ён прозай»... Штосьці тут ад маладой паэтычнай наіўнасці. Пісаў жа Колас і прозай, амаль да самага канца: трэцяя, найслабейшая, частка «На ростанях», тое самае «Між дзвюх рэчак»...

Аляксандр Твардоўскі слушна гаварыў, ведаючы гэта па ўласным горкім вопыце, што дакараць пісьменніка за маўчанне несправядліва жорстка, таму што сам ён найперш і найбольш пакутуе ад свайго маўчання. А хіба ж лягчэй, разумней за маўчанне бездапаможнае плявузганне абы-чаго ды абы-як у

цяжкай, затхлай самотнасці раздзьмутай славы, калі ніхто табе не скажа праўды?..

...Чытаю новае — раман «Скажи смерти «нет»» аўстралійкі Дамфны К'юсак. Пачаў з асцярогай, а пайшло добра. Праўдзівая, шматфарбная палатніна іншага (не хочацца сказаць: чужога), далёкага геаграфічна, але па-чалавечы блізкага жыцця людзей.

Падумалася, чытаючы, пра папярэдняе: пра два тамы Коласавых апавяданняў. Законы сапраўднай літаратуры абавязковыя для ўсіх, усюды.

* * *

«Народная воля» перадрукавала з кнігі «Шчыра, як на духу...» мой раздзельчык пад назвай «Адусюль добра вяртацца ў Беларусь». У чытацкай анкеце, на пытанне: «Чым (якімі падзеямі, здарэннямі) засталося ў памяці дзяцінства?» я адказаў у свой час пробліскам успаміну, які прыйшоў першым, ды па пісьмовай просьбе выдавецтва найкарацей: «Калі ішло-ся з мамай за ручку». Ды вось жа ізноў, і неаднойчы, і пасля выхаду кнігі, і да таго, успамінаецца недагаворанае ў гэтым, заказана скупым адказе.

А з мамай за ручку, як выразна ўспомнілася, я ішоў у Адэсе на вячэрню, ці то ў Андрэеўскую царкву, ці ў Панцялееўскі сабор, якія ад нашага дома на Старасянной плошчы амаль аднолькава недалёка. Гэта ўжо меркаванне пазнейшае, і з 1949 года, і з іншых, калі я бываў у горадзе майго нараджэння. А тое, што ярка ўспомнілася, было на шырокай панелі, пад буйна зорачным небам, на якое я раз-поразу азіраўся, задзіраючы твар, з ручкай у мамінай руцэ, што маме, такое маё «круцельства» ды адставанне, не падабалася. Бо ішлі мы ў асноўным моўчкі. Маме

было пра што маўчаць. Цяпер я магу гадаць, пра штó,— пра зацяжную хваробу мужа, пра арышт старэйшага сына, пра неадчэпнае жаданне дачакацца нейкай палёгкі і вярнуцца ў сваю далёкую вёску, да роднай зямелькі... Маўчанне нялёгкае, можа, і беспрасветнае, з гэтым цяжарам яна і ішла памаліцца...

Ну, ■ мяне хутчэй за ўсё не было на каго пакінуць, каб спакайней ісці. Або таксама для нейкай палёгкі?..

* * *

Летась сын выштукаваў знак перад нашай вясковай сядзібай, нумар дачы, патрэбны раённым газавікам, што развозяць заказаныя балоны. А днямі хтосьці той наш паказальнік з фанеры пераламаў, адну палавіну пакінуў на слупчыку, а другую шпурнуў у траву пры дарозе. Я адразу ўспомніў чародку вучняў з нейкай экскурсіі, што напярэдадні прашумела на дарозе за нашай драцяной сеткай і зялёнай сценкай шыпшынніку.

Праўда ж і тое, што наша маці калісьці прыгадвала з народнай няпісанай філасофіі: «Грашней таму, у каго прапала»,— ён думае дрэнна пра многіх, а зрабіў не па-людску хтосьці адзін. Успомнілася адно,— як мы, некалькі загорскіх падшыванцаў, што хадзілі ў мястачковую сямігодку, накралі кантовых таўкачыкаў крэйды, якімі пішацца на дошцы, і панапісвалі амаль усім у нашай вёсцы на варотах ці на сценах ад вуліцы мянушку кожнага гаспадара ці гаспадыні. І разам з гэтым прыгадалася другое,— даўняе паведамленне ў газеце, як нейкі стары дачнік, у прыступе ўласніцкага шаленства, стрэліў з драбавіка па вясковых дзецях, што «ўбіліся» ў яго вішні. Можа, і праўда, што хацеў толькі напалохаць распус-

нікаў, як гаварыў на судзе, але ж і страшнейшая праўда была — адну дзяўчынку застрэліў. З вясковымі ў вішні прыйшла і гарадская, госця ў бабулі з дзедам, ціхенькая ды не такая ўвішная, як мясцовыя накольнікі.

Наш малады гаспадар, прыехаўшы ад гарадской занятасці ды мітусні, прыняў да ведама такую значную навіну, зламаную фанерынку, пажартаваў з малечы, паабяцаўшы прывезці праз тыдзень фарбы, каб на новым паказальніку намаляваць яшчэ прыгажэйшае **27**.

* * *

Ідучы з рэдакцыі на метро, а не пяшэчкам, як раней ішлося дахаты па парку, скардзіліся з сябрам на ногі, кожны на свае. І я расказаў, як у пачатку 1973-га на лясных, глыбокаснежных ваколіцах друскеніцкага санаторыя «Беларусь» я выходжваў штодня каля пяці гадзін — уранні, пасля абеду, увечары.

На ўступным медаглядзе трэба было падзьмуць у спецпрыладу для вымярэння аб'ёму грудзей. Ніяк не ўспомню назвы тое прылады, падобнай да высокай бляшанай банкі з накрыўкай. Сярэдняя колькасць адзінак вымярэння дыхання — 4500. Я столькі і выдзьмуў, без асаблівай натугі. А праз месяц, перад ад'ездам, зноў трэба было падзьмуць. І дзьмухануў я так, што ажно покрыўка з тое прылады падскочыла і бразнулася аб падлогу, нават трохі пакаціўшыся, пакуль легчы. На здзіўленне пажылой медсястры,— больш за шэсць тысяч адзінак, на якія разлічаны той вымяральнік.

Такія ногі ды грудзі бываюць у свой час.



Пажылая мінчанка, што бярэ малако ў адной з намі гаспадыні, таксама дачніца, якая тут, у хутарскім пасёлку, зноў адчула сябе на зямлі-карміцельцы, адной раніцай, перад гаспадыняй і мною абуралася на каларадскіх жукоў, ад якіх няма «аніякага спасу», а другой раніцай павярнула сваё абурэнне на іншую поскудзь — крата.

— У мяне ён, сляпак гэты, усё перавашава́ў, а ў суседкі каб што крануў! Не паверыце?

Мяне падкусіла ўлучыцца ў жаночы дыялог. Яны заклапочана гаварылі, стоячы пасярод двара, а я сядзеў каля сцяны, дзе гаспадыня кожнае ранне стаўляе нам белыя, поўныя слоікі.

— Яна ў вас **ведае слова**,— са смакам падкрэсліў я чутае неаднойчы, яшчэ ў маленстве ў сваёй вёсцы.

Атрымалася!.. Абсяляненая мінчанка і са мною згадзілася, і з гаспадыняй перайшла амаль на шэпт, пачала тлумачыць ёй штосьці адпаведнае пра суседку і не толькі... І я падаўся дахаты, каб не падумалі, чаго добрага, што падслухоўваю.



Снова в поле чистом кто-то стонет,
А над ним кружится воронье...
Никакая родина не стоит
Тех, кто умирает за нее.

В небесах высокая награда
Будет всем, кто до нее дорос.
Видит Бог, кому все это надо,—
Женщина не видит из-за слез.

Аўтарка — невядомая Іна Кабыш з Саратава, зборнік якой, «Место встречи», у бязмежнай Расіі выйшаў у колькасці пяцьсот экземпляраў.

Адразу ўспомніўся Блокаў «Коршун». Няма тут кнігі, каб яшчэ богведама каторы раз прачытаць той верш, услед за гэтым, толькі што,— якое шчаслівае «між іншым»! — прачытаным у «Литературной газете» за 5—11 чэрвеня.

...Доколе коршуну кружить?
Доколе матери тужить?

І гэтае:

Женщина не видит из-за слез.

* * *

«...Прыход любімага мною Янкі Брыля, Веры Палтаран...» Яшчэ кагосьці трэцяга, што я ці не дачуў, ці не запомніў. Прыемна, што і «любімага» і што названы з незабыўнай Верачкай.

Гэта — з пазаўчарашніх фрагментаў дзённіка Дубянецкага па радыё «Свабода»,— як мы заходзілі да яго, кожны па сабе, у розны час, пасля выхаду Міхася Фёдаравіча з бальніцы, віншуючы з радасцю папраўнку і вяртання на свой, як сёння бачна, нялёгкі, гераічны пост дырэктара выдавецтва «Мастацкая літаратура».

Успомніў свой, ужо і даўні, запіс, як я на Паўночных могілках ішоў да магілы свайго сябра з дзён вайны, Ціхана Дуднікава, і наткнуўся на пірамідку з прозвішчам — так запісаў — **мілага** Міхася Дубянецкага.

Так здарылася, што на пахаванні гэтых блізкіх мне людзей мне не прыйшлося быць. Кветкі размне дзяліў на двух.

І такая ўзаемная пераклічка шчырых пачуццяў.

* * *

Такое майстэрства або мастацтва мае сваю назву, якую я, вядома ж, сустракаў, але не запомніў. Камбінацыя з малюнка і наклейвання знойдзеных птушыных пёркаў. Малюнак тут — толькі дробнакрапліста-шэры фон да пёрыстага букеціка. У тон усяму — рамачка, шкло і... думкі мае пра тое, як гэта шчыра, душэўна рабілася, і радасная ўдзячнасць да майстрыхі гэтага юбілейнага падарунка — мілай Ніны Мацяш, нашай пяшчотнай мужнасці, ініцыяламі якой і датай у куточку сціпла дапаўняецца твор.

* * *

Калі я выходзіў у дачнікі, вельмі няпроста, як аказалася, было знайсці печніка. Насваталі аднаго ў не надта далёкай вёсцы. Калі яму сказалі, каму гэта ён спатрэбіўся, пячнік-аматар ледзь не ўсклікнуў: «А, Брыль! Наш галоўны ілгун!» Пра яго ж гаварылі, што ён «нейкі баптыст, ці што», дый «паэт, вершыкі састаўляе». Калі мы пазнаёміліся, ён і паспрабаваў навязаць мне райска-пякельную спрэчку, і пазлаваўся, відаць, далёка не ўпершыню на Жэню Янішчыц, якая напісала яму з «Маладосці», што вершы яго друкаваць нельга. Грубку і пліту рабіць ён адмовіўся, ужо і не помню чаму. Неўзабаве знайшоўся іншы пячнік, таксама аматар, але ўжо не прапаведнік і не

паэт, справа выпрашылася належна. А неяк на юбілейна сямейным застоллі, тым часам ужо праз цэлых дзевятнаццаць гадоў, нам весела ўспомніўся той, першы, з ягоным «галоўны ілгун».

А ўчора — зноў. Мне аднаму. Чытаючы Танкаў верш «Дзівоснае здарэнне».

Пазайздросціўшы чалавечай дзятве, лясныя звяры і птушкі і сабе наладзілі, прыбралі навагоднюю ёлку.

...Такі пачаўся ў лесе карнавал,
Што нават я —
Вядомы балабон тутэйшы,
Які прысутнічаў
Пры гэтым выпадкова,
Слоў не знайду,
Каб гэта апісаць.

Учора я зранку ныў без працы, дачытваў абы-што, а кніга вершаў усё чакала, пачаўшы з канца кастрычніка 1989 года (так у аўтографе), Максімава кніга, адна з апошніх пры жыцці, чакала, калі ж і я вазьму яе і спакваля, са старонкі на старонку панясу ізноў набыты, светлы сэнс існавання.

Яго натуральна вясёлая самаіронія, не толькі з «балабонам», адзнака сілы і ў старасці; яго бачанне красы роднай прыроды «У расе ззяе папараці парасон,/ Пад якім сушыць крылы свае махаон./ У зязюліным лёне да шышкі прынік/ Ап'янелы ад пахаў лясных баравік». Мудрасць ягоных мініяцюр хочацца цытаваць свабадней, не ў дужках:

МАЎЧАННЕ

Маўчанне
Ніколі не было
І не будзе золатам:
Яно — або

У шмат разоў даражэйшае,
Або — нічога не вартае.

## ЗНОЙДЗЕНЫ...

Знойдзены:
Невядомая карціна Рафаэля...
Невядомая партытура Бетховена...
Невядомыя строфы Пушкіна...
А на папялішчы купалаўскай хаты —
Яго жалейка...
Нічога дзіўнага!
Каму невядома, што яны жывуць
І твораць вечна!

## У АКУЛІСТА

Чакаю ў прыёмнай
Акуліста.
Чытаю пра розныя хваробы,
Якія пагражаюць чалавеку,
І як ад іх ратавацца.
І дзіўлюся, што забылі
Пра самую небяспечную хваробу —
Пра слепату
Ад славы ці ўлады.
Можа, таму, што яна амаль
Не паддаецца лячэнню.

1989 год. Леў яшчэ жыў, працаваў, сціпла падзяляў з народам усе яго беды-нягоды, а порсткія «адраджэнскія» вослікі бяздумна падбрыквалі вакол яго, падкідалі яму абразлівыя пісьмы.

Такое — прароку ў сваёй айчыне...

Праўда, дагэтуль адны вослікі проста стаміліся, змоўклі, а да іншых і сталасць прыйшла, цвярозае апамятанне.

А ён і далей усталёўваецца ў нашу народную вечнасць.

* * *

Дурань сам па сабе не такі і страшны, калі падумаць, колькі дурняў, за якімі агромністая сіла ўлады, на якую ён, кожны ўсеўладны дурань, апіраецца.

* * *

Галоўны на ўрачыстым вечары выступіў па-беларуску, зрэдку заглядваючы ў паперыну. А потым, у тэлеперадачы, вядучым было сказана, што выступіў ён «**на втором** государственном языке».

* * *

Без пары спалавелае ад штодзённай спякоты поле аўса. Пад самае ранне — нарэшце! — хоць трохі пацерушыўся нейкі міжвольны дождж.

Ідучы пакропленым пылам прылясной дарогі, прыемна думаецца, як гэта на кожную гронку, на кожнае звіслае зярнятка і востры лісток-тыркун прыйшлося хоць па кропельцы.

І мне таксама дыхаецца лягчэй. Бо неба яшчэ ўсё прыхмаранае.

* * *

У паўдзённай лёгкай прахалодзе сяджу на лаве за доўгім сталом. Нада мною высозны, агромністы шацёр густой лістоты, а побач шурпаты, аднаму не абняць, ствол красуні ліпы. Далей умывальнік, белая пластмасавая бочачка з накрытай свежай вадой. За ёю — карэла-тоўстая, тым часам і старая ўжо сліва,

за якою тое, на што я гляджу, метраў за дзесяць. Гэта цымантовы круг, які аказаўся лішнім, калі капалі калодзеж: вада пайшла раней, чым меркавалася. Дно круга пазней зацымантавалі, і гадоў блізу пятнаццаць маем вялікую бочку на ацяпленне вады на сонцы, для вячэрняга паліву агарода.

А гаворка пра ўсё гэта па той, няхай сабе і дробязнай, але ж і незвычайнай, прыемнай прычыне, што на край гэтай поўненькай бочкі раптам сеў-прысеў не хто-небудзь, а дзяцел!.. Калісьці я з гэтай самай застольнай лавы назіраў, як падобны прыгажун на градцы каля сцяны дома зладзейкавата кляваў клубніцы. А цяпер другі нечаканы госць у чырвонай шапачцы прысеў на тоўстым канце бочкі, спачатку клюнуў глыткоў з дзесятак вады, а потым вырашыў і купнуцца. Вядома ж, не нырнуў качкай у дно, а раз-поразу злёгку штурхаўся дзюбай у ваду, то трапечучы крыльцамі, то пашчыпваючы пер'е на валляку і вакол яго, аднак не ахкаў, як гэта рабіў бы ад асалоды чалавек, а зноў і зноў моўчкі тыцкаўся ў цёплую ваду, усмак наталяючыся раскошай.

З-за ствала слівы калодзежны круг бачыўся мне напалавіну, і дзяцел то паказваўся на ім, то знікаў, а ўжо на заканчэнне любаты нібы знарок адкрыўся са сваёй шапачнай чырванню ўвесь. Не надоўга, бо пырхнуў на яблыню, нават здалося — дзюбнуў у бліжэйшую стромую галіну, як быццам выпрабоўваючы сілу, якое пэўна ж пабольшала.

* * *

«Выпад у свет» быў бы яшчэ весялейшы, каб не агідна-сцішнаваты смог у дзесяць — дванаццаць гадзін зноў жа сонечнага дня, і ў Міры, і ў дарозе, лесам і

сярод палёў, на якіх ужо, хоць і зарана, капаюць бульбу.

А дыміць, нібы прачнуўшыся, каб далучыцца да небяспечнай «моды», былы торфазавод Міранка, хоць там, як кажуць, хто ведае або толькі чуў, торфу (тарпы́ па-мясцоваму) зусім ужо няма, вычарпалі да дна і «канавай абкружылі тое балота». А вось жа дыміць, дыміць...

Дапісваю пазней:

Пазаўчарашні смог, пра што сусед удакладніў у Беражне, не ад былога торфазавода: гэта за Нёманам — во дажыліся! — **гарэлі лугі**, ажно стаўбцоўскім пажарнікам прыйшлося добра, доўга папрацаваць...

* * *

Прагноз ізноў на сухую сонечнасць, а на тэрмометры сёння, каля сямі гадзін раніцы — пяць градусаў.

Сыплюцца яблыкі, сыплецца лісце, буслоў ужо не відаць, не чуваць. Толькі жоравы абжальваюць занёманскім пераклікам заўчаснае заканчэнне лета.

# *Тры вузлы*

«Вучыўся, настаўнічаў, дзве вайны перажыў, знёс клопату і трывог, голаду і холаду, меў назаўсёды не адну страту, перажыў жахлівыя трагедыі».

Аўтабіяграфія ў адным сказе. У пэўнай меры, якую вызначае сталая сціпласць, ён, гэты жыццяпіс, расшыфроўваецца ў кнігах Фёдара Янкоўскага, вучонага і пісьменніка.

Калі пра дзве вайны, дык гэта саракаградусныя маразы на фінскай, цяжкае раненне, бясконцыя дні і ночы ў шпіталях; потым Вялікая Айчынная, спачатку падпольшчык, тады камандзір разведкі, які падняцца ў сядло самастойна яшчэ ўсё не вельмі мог.

Мне даводзілася бываць з Фёдарам Міхайлавічам у тых мясцінах, дзе ён партызаніў,— паўночнае наваколле Мінска і Радашкавіч,— я чуў, **што** і **як** людзі гаварылі пра яго разумную чалавечнасць і ў маладосці, назіраў, як спакойна і радасна ён сустракаўся з тымі мужчынамі, жанчынамі, якіх на ўсё жыццё запомніў некрыклівымі патрыётамі. «Спакойна» — гэта сказалася не зусім дакладна: праўда, спакойна ў тым сэнсе, што табе няма чаго саромецца мінулага, аднак спакой толькі знешні, бо ў ім затоена і шчаслівае, і журботнае хваляванне.

Страты, трагедыі... Было з найбліжэйшымі. Было, вельмі многа было перажыта ў баях, франтавых і партызанскіх, убачана, адчута і ў руінах шматпакутнага, няскоранага Мінска, і на крывавых папялішчах родных вёсак.

Ну, а вучоба, вясковае настаўніцтва, зноў вучоба, інстытуцкае выкладанне, навуковыя пошукі — гэта вялікі і змястоўны шлях ад буквара ў палескай школцы да цэлай бібліятэкі ўласных прац мовазнаўцы з айчынным і міжнародным прызнаннем, з мноствам падрыхтаваных ім настаўнікаў роднай мовы. Усё жыццё настаўнік. Святая праца і літаратараў, пачынаючы ад Цёткі, Коласа, Гарэцкага...

З ранняга вясковага юнацтва, з адвароту лістка ў насценным адрыўным календары запомніліся мне словы Меражкоўскага, якія працытую з памяці:

Дагэтуль адны многа ведалі, але мала любілі, другія многа любілі, але мала ведалі, і толькі той, хто будзе многа любіць і многа ведаць, зможа зрабіць нямала.

Іменна такі ён, Фёдар Янкоўскі, мужны і верны ахоўнік свяшчэннага агню роднай мовы, яе высокай народнай культуры і несмяротнай красы.

Дастойны працяг, шчодрае дапаўненне навуковай дзейнасці прафесара Янкоўскага — кнігі яго мастацкай прозы, глыбінна-простая мудрасць і майстэрская адточанасць лірычных запісаў і эсэ.

Сямідзесяцігоддзе нашага таварыша хораша ўшанавана выданнем кнігі «З нялёгкіх дарог». Гэта яго найдаражэйшае, што выбрана самапатрабавальным аўтарам з некалькіх папярэдніх зборнікаў. Можна дадаць — гэта яшчэ і тое, што не толькі добра чытаецца, але і перачытваецца як жывое, ад чулага сэрца і сталага розуму.

Тры моманты па-новаму ўбачыліся мне пры чытанні гэтай кнігі, пераважная большасць густога і празрыстага зместу якой вядома была і раней. Тры моманты, тры вырашальныя вузлы.

Ліпень саракавога года. Орша... Нават падумалася над тымі старонкамі, што недарма яна, Орша, адзін з нашых галоўных чыгуначных вузлоў... Спісаны франтавік з рукою на перавязі, вяртаючыся пасля ўсіх маразоў-баёў-шпіталяў, доўга на гэтым вузле чакаў свайго цягніка. І там быў развязаны ці завязаны —як тут найдакладней сказаць? — галоўны вузел яго жыцця. Там ён глыбока і канчаткова ясна адчуў сваё прызванне,— зноў пачуўшы роднае беларускае слова, апынуўшыся паміж найраднейшых людзей, прыняўшы матчыну ласку старэнькай вясковай жанчыны, што накарміла «салдаціка» і прывеціла. Цяпер яму — толькі зноў у школу сваю, да чыстых вачэй, поўных святла нявіннага даверу, дапытлівасці, гарэзлівага шчасця! Да сваіх патаемных сшыткаў, дзе запісы народных слоў ды сказаў вякамі адшліфаванай, ачышчанай мудрасці!..

Нельга, вядома, катэгарычна сцвярджаць, што іменна там, на вакзале вузлавой Оршы, былы настаўнік, былы салдат, ціхманы глускі хлапчына, іменна тады, на сваім ужо шматвопытным дваццаць другім годзе ўпершыню адчуў, у чым яго жыццёвае прызванне,— такое думалася, прадчувалася і раней. Аднак ён сам лічыць тыя гадзіны вакзальнага чакання, тыя сустрэчы з людзьмі, тое вяртанне ў свет роднага слова вельмі значным, знамянальным днём свайго жыцця, скажам яшчэ раз — вузлавым.

Гэта было хвалюючым пачаткам таго, што значна пазней, ужо тады, калі нам штодзень, то ўсё больш уласціва думаць пра вынікі ды пралікі, калі пасівелы, прытомлены чыстай вады заслужаны дзеяч навукі, таленавіты празаік скажа:

«...Маё роднае слова, родная літаратура вялікага краю, родная Беларусь. Вы — мая радасць і ўцеха, вы — мая скруха і боль, вы — маё шчасце, жыццё».

Не давялося тады маладому настаўніку доўга пашчыраваць у зноў жа сваёй, дафрантавой вясковай школе, пахваляйвацца над сшыткамі запісаў...

У яго вышэйзгаданай кнізе выбранага ёсць раздзел з простай назвай «У садзе».

А было яно ў садзе Антося Лявіцкага, больш вядомага ў нашым народзе па крыху дзіўнаватым псеўданіме Ядвігін Ш., у чэрвені сорак трэцяга года, у дні чарговай фашысцкай блакады гэтых мясцін. Аднае ночы там адбыўся смяротна-хвалюючы паядынак цішыні і асцярожнасці. Група карнікаў засела ў тым садзе, затаілася ў чаканні партызан, што меліся тут прайсці, як часта праходзілі. Група партызан-разведчыкаў таксама спынілася там, адчуваючы блізкую небяспеку. У сціхоцці чакання, грознай напружанасці ўсіх думак, усіх пачуццяў, галоўны з разведчыкаў заслухаўся салаўінаю песняй, задумаўся прозай Ядвігіна Ш., паэзіяй маладога Купалы, таксама тут земляка, частага госця ў доме радашкавіцкага аптэкара Лявіцкага... Ад роднага слова, ад салаўінай песні пайшоў ён, затоены партызан, на вяршыню мудрасці і красы,— у творчым хваляванні ўспомніў, перажыў заключны акорд непераўзыдзенага «Хаджы-Мурата»...

Глыбей ісці няма куды,— ты на самым надзейным грунце роднай зямлі, найважнейшай усенароднай справы, адгэтуль усё-ўсенька ўбачана, адчута, улічана, толькі з такога падмурка, з такое цвердзі можна ўздымацца, стартаваць.

А партызаны ў тым паядынку маўчаннем перамаглі. Засада карнікаў «не дачакалася» іх, пайшла адтуль на́пуста.

Галоўны разведчык, той малады, яшчэ ўсё нямоглы ад карэльскіх ран настаўнічак, той паэт у душы, у садзе тым, як і ў Оршы, адчуў свой галоўны вузел, сваё прызначэнне — яшчэ раз.

Трэцім вырашальным момантам як найяснейшага бачання, яшчэ адным вузлом на жыццёвым шляху бачыцца мне і тое, што ў раздзеле «Полымя», адным з наймацнейшых у кнізе «З нялёгкіх дарог».

Полымя роднага ачага, з маленства роднай печы, перад якою нясе сваю нястомную службу маці, у якой палаюць сухенькія, бацькам назапашаныя дровы, нязгаснае полымя дружнай і працавітай сям'і. Як гэта добра бачыцца ў сталасці! Сям'я, адчуванне яе,— прадзеды, дзяды, бацькі, мы самі, нашы дзеці, унукі, праўнукі. Цэласць, бясконцасць, вечнасць жыцця, першааснова роднай гісторыі. І шчасце наша, і грунтоўная школа, і ўдзел у сыноўнім служэнні.

Хай будзе блаславёнай сённяшняя маладосць з яе крынічнай прагай нацыянальнага адраджэння, няхай жывуць і множацца святыя парывы нашых юнакоў і дзяўчат — тых, што і любяць многа, і нямала патрэбнага ведаюць!..

А зблізку бачачы такіх, як Фёдар Янкоўскі, чытаючы яго кнігі — сапраўднаю роднай мовай, разумна пра родную мову — добра, з гордасцю і верай думаецца: нам ёсць што любіць, ёсць што абараняць. Слова яго, шчырасць яго, вернасць яго можна браць у дарогу, як спрадвеку бярэцца хлеб.

*1998*

# *Пераклічка*

Пачну з даведкі, нібы з эпіграфа да развітальнага слова пра сябра:

«**Жыдліцкі** Вацлаў (н. 16.IV.1931), чэшскі літаратуразнавец і перакладчык. Доктар філалогіі, прафесар Карлава універсітэта ў Празе. Даследуе гісторыю беларускай і ўкраінскай літаратур, іх сувязі з чэшскай літаратурай, чытае пра іх курс лекцый ва універсітэце. Аўтар прац «Украінская і беларуская літаратура ў чэшскіх перакладах», «Даследаванні па гісторыі чэшска-беларускай супольнасці», «Кароткі нарыс гісторыі беларускай літаратуры» і інш.

На чэшскую мову пераклаў кнігі «Я з вогненнай вёскі...» А. Адамовіча, Я. Брыля і У. Калесніка, «Хатынская аповесць» А. Адамовіча, «Птушкі і гнёзды», «Ніжнія Байдуны» і «Апошняя сустрэча» Я. Брыля, «Абеліск» і «Дажыць да світання» В. Быкава, «Дзікае паляванне караля Стаха», «Нельга забыць», «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» і «Чорны замак Альшанскі» У. Караткевіча, «Данута» А. Карпюка, «Мсціжы» І. Пташнікава, «Сэрца на далоні», «Гандлярка і паэт» І. Шамякіна, асобныя творы Ц. Гартнага, К. Чорнага і іншых. Уклаў анталогію сучаснай

беларускай паэзіі, аднатомнікі Я. Купалы, М. Танка і інш., напісаў да іх прадмовы ці пасляслоўі».

Узяў я гэта, трохі падціснуўшы, у Адама Мальдзіса, з другога тома «Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі».

А далей — пра пражытае.

* * *

Ліпеньскі тыдзень у Мінску.

Увечары пазваніла з Прагі наша вядомая журналістка Алена Ціхановіч. Павітаўшыся, сумна сказала, што Вацлаву Жыдліцкаму рабілі аперацыю на сэрцы і ён у цяжкім стане... Спатрэбілася паўза, абаім, пасля якой Лена перайшла на службовае: папрасіла сказаць кароткае слова пра дзённік Міхася Дубянецкага, абнародаванне якога пачалося друкаваннем у «Полымі», і закончылася некалькімі перадачамі па радыё «Свабода».

Слова тое я ёй падыктаваў на запіс адразу, а напісаць цяжка прадуманае пісьмо змог толькі на чацвёрты дзень, перад ад'ездам на далёкую дачу на Міршчыне.

«Дарагі Вацлаў!

У нашай цудоўнай надрэчнай ды прылясной глухамані, у цішыні ды самоце многа думаецца пра пражытае, пра сустрэчы з найбліжэйшымі з людзей... Для мяне, для Ніны Міхайлаўны, для ўсёй нашай сям'і гэта і Ты — адзін з такіх людзей, чыя абаяльная чалавечнасць дапамагае паўнацэнна жыць, адчуваць сябе абдораным шчасцем сапраўднай дружбы.

Мы часта думаем пра Цябе, успамінаем многае, у тым ліку і Тваё леташняе гасцяванне ў Мінску і ў нашым доме.

Усяго Табе добрага!»

Адказу я, можна сказаць, не вельмі спадзяваўся, думаючы пра ягоны стан, ды тут галоўнае, каб мой сігнал дайшоў, быў яму перададзены.

Лена пісала мне праз два тыдні:

«Сёння званіла сп. Жыдліцкаму, хацела пацікавіцца яго здароўем. Мне зноў адказала жанчына, што пан Жыдліцкі пасля аперацыі сэрца, пакуль слабы, але мой прывет яна яму перадасць.

Бывайце як мага больш здаровы».

Можа, гэта будзе неяк залішне эпісталярна, аднак і далей хочацца выкарыстваць пісьмы, не пераказваючы іх.

Вось толькі што напісаў:

*«Крынічнае, 21.VIII*

Мілая Лена!

Пра Вацлава я пачуў пазаўчора, па вячэрняй «Свабодзе». Думаў, будзе потым трохі больш. Не было... У мяне пакуль што «закрамянелае сэрца», як гаворыцца пра мужчын у такіх выпадках. Больш за сорак гадоў нашай дружбы... І пісаў пра яго, і буду пісаць, пакуль мне бачыцца толькі ягоная ўсмешка... Ён жа быў у Мінску ў канцы кастрычніка — пачатку лістапада, за сталом у нашай хаце ўсміхаўся: «Піць мне не можна, але ж і хочацца...» А на вечары ў бібліятэцы Дома літаратара мы разам, два міжнародныя дзяды, любаваннем ды пахвалой даводзілі да чырвані шчочак красуню Вераніку Стральцову, дачку незабыўнага Міхася, па бацьку таленавітую ў літаратуразнаўстве.

У яго два сыны, Гонза і Дáлібор, у 1967-м яны гасцявалі з бацькам у нас, вазіў іх па Наваградчыне. Я тады захапляўся фатаграфіяй, і яны ў мяне, пацешныя хлопчыкі з усмешлівым бацькам, на многіх здымках. А дарослымі я іх не бачыў, хоць двойчы, у

1979-м і 1980-м, быў у Празе. Не ведаю, як, на якой мове з імі трэба гаварыць або як ім пісаць, маючы толькі бацькаў адрас і нумар тэлефона.

Ці не можаце Вы, Лена, неяк дапамагчы мне? Куды пойдзе Вацлаваў архіў? Мноства ягоных пісьмаў да мяне я здаў у адзін з двух архіваў,— не памятаю і не магу тут праверыць, у акадэмічны ці ў дзяржаўны, яны там у належным захаванні. А які лёс чакае мае пісьмы яму?.. Чэхі народ культурны, акуратны, Жыдліцкі асоба значная, аднак ведаць хацелася б больш ды канкрэтней. Прабачце, што нагружаю Вас просьбай, аднак не магу прыдумаць, да каго б звярнуцца...»

Крыху пазней прыйшло пісьмо ад незнаёмай Галіны Бінавай, украіністкі з Брноўскага універсітэта, раней пражскай студэнткі Жыдліцкага, якая была пры ім да скону. Гэта, відаць, яна адказвала на Леніны званкі. Перакладаю з рускай мовы:

«...Вельмі шкадую, што даводзіцца пісаць Вам з такой сумотнай нагоды. 18 жніўня, каля 23 гадзін памёр Вацлаў Жыдліцкі. Апошнія шэсць гадоў ён быў вельмі блізкім мне чалавекам. І вось яго няма. Як страшна і несправядліва. У душы такі вакуум, які, ведаю, нікім і нічым да канца майго жыцця не запоўніцца...

12 ліпеня ён перанёс цяжкую аперацыю, якая ішла 7,5 гадзін. Божа мой, колькі болю ён выцерпеў у першыя дні пасля аперацыі! Ды аказалася, што толькі дзеля таго, каб прадоўжыць сабе жыццё на месяц. Пасля аперацыі вельмі аслабеў, але спакваля мацнеў, адчуваў сябе лепш. І раптам увечары 18-га прыйшоў крызіс. І хоць я адразу ж выклікала «хуткую», рабілі ўсё магчымае — беспаспяхова.

Ведаю, што Вы былі з ім блізкія. Ён з вялікай цеплынёй часта гаварыў пра Вас і Вашу жонку,

успамінаў сустрэчы з Вамі, чытаў Вашы пісьмы, пераглядаў фотаздымкі. У апошнія тыдні перад смерцю ён штодня званіў Вам, хацеў павіншаваць з юбілеем, але, на жаль, так і не дазваніўся. Меркаваў, што жывяце на дачы. Так на стале каля тэлефона і застаўся яго блакнот з Вашым нумарам тэлефона. Цяпер, хоць і са спазненнем, выконваю гарачае жаданне майго Вацлавічка і віншую Вас, Іван Антонавіч. Будзьце здаровы і ўспамінайце яго. Гэта адзінае, што нам засталося. У нашай памяці ён будзе жыць і памрэ толькі разам з намі.

...Пасылаю Вам і Вашай жонцы паклон ад Яна і Да́лібора, сыноў Вацлава».

Як было ў свой час з адыходам Міхала Забэйды-Суміцкага, спадарыня Галіна прыслала мне надрукаванае жалобнае паведамленне ўсім блізкім, сябрам і знаёмым, што «назаўсёды адышоў наш любімы тата, дзядуля, брат, дзядзька і свёкар». Пасля пераліку сыноў, сястры з сям'ёю, унукаў, нявесткі — значыцца і дацэнт, доктар Галіна Бінава.

Зноў Лена Ціхановіч:

«...Ваш ліст атрымала 9 верасня. Я напісала вам раней пра развітанне — у памяць кампутара, але пакінула на потым, каб вярнуцца. Вось з той памяці:

Вацлаў Жыдліцкі памёр 18 жніўня. Адразу пасля патопу ў тыя дні ў Прагу прыйшла вялікая спёка. Тое месца, куды перабраўся сп. Жыдліцкі, было часткова затоплена, вада заліла і бліжэйшую станцыю метро — Андал.

Развітанне было ў Страшніцкім крэматорыі ў пятніцу, 23 жніўня ў 15 гадзін. Месца ўрачыстае — вербы, туі вечназялёныя, а побач агонь у свяцільніках гарыць... Там жа недзе ў братняй магіле пахаваны і Тамаш Грыб.

Я вельмі хацела сказаць некалькі слоў ад беларусаў, але, на жаль, відаць, паводле рашэння сям'і, грамадзянскай паніхіды ўвогуле не было. На сцэне стаялі кветкі і вянкі (ад украінскай і беларускай амбасадаў, сястры, дзяцей і ўнукаў), грала музыка. Праз мінут пятнаццаць заслонкі прыкрыліся, усе ўсталі з лавак і падышлі паціснуць рукі блізкім.

Гэта было маё першае пахаванне тут, у Чэхах. Я ўспамінала наша стаянне над нябожчыкам, цалаванне халодных рук, а потым галашэнне, як забіваюць цвікі, апускаюць у магілу... Тут усё спрасцілі і ўзвысілі, схавалі твар смерці і нябожчыка — нават умоўнай труны яго не бачыш. Ніхто на людзях не плача і не галосіць, здаецца, як на канцэрце пабыў...

Ад беларусаў былі мы з Ганнай Сурмач і сам амбасадар Бельскі — прынёс вялізны вянок белых і чырвоных гваздзікоў. Ад украінцаў — нейкі дарадца з амбасады.

Прызнаюся Вам, хоць нябожчыка я не бачыла, некалькі ўжо дзён неадступна ўспамінаецца мне сп. Вацлаў. Гэта быў адзіны чэх у Празе, з якім я з асалодай гаварыла па-беларуску. Увесь час цікавіўся, як я абжылася, ці разумею чэхаў, ці разумеюць чэхі мяне, калі ўжо я найду сабе чэшскага сябра...

Пасля пахавання я падышла да аднаго з сыноў, Яна. Сказала, што калі б яны не ведалі, што рабіць з беларускім архівам, то могуць звярнуцца да нашай суполкі «Скарына».

Атрымаўшы Ваш ліст, я зноў яму патэлефанавала і перадала прывітанне. Ён сказаў, што хоць гэта было даўно, у дзяцінстве, але памятае Вас і хацеў кантактавацца з Вамі, але не ведаў як. Паведамляю цяпер Вам яго каардынаты.

Ён мне таксама паведаміў, што урна будзе, відаць, пахавана на Альшанах, побач з магілай яго маці. Яны

сапраўды не ведаюць, што рабіць з кніжкамі і архівам, бо не дадуць рады разабрацца. Частку перададуць Карлаву універсітэту. У гэтую нядзелю ўнучка (дачка Яна) прапанавала мне прыйсці і паглядзець, што засталося. Потым Вам напішу».

І напісала:

«Учора, у нядзелю, мы з Ганнай Сурмач і Сержуком Сокалавым паехалі забраць беларускія кнігі са спадчыны Вацлава Жыдліцкага. Мы дамовіліся менавіта пра кнігі, бо архіў узялі сыны, яны, відаць, будуць у гэтым яшчэ разбірацца. Кніжкамі займалася ўнучка Тэрэза, ёй памагала Галіна Бінава, якая сказала, што спадар Жыдліцкі прыняў рашэнне галоўную частку ўкраінскіх кніг перадаць ім, у Брноўскі універсітэт.

Беларускія кнігі былі складзены дзесьці ў дваццаць скрынак. Гэта ўсё найлепшае, што выходзіла да канца мінулага стагоддзя, плюс чэшскія пераклады. Частку кніг возьме на захаванне Сокалаў, частку — я. Плануем скласці спіс, а калі наша суполка «Скарына» будзе мець свой куточак у Празе, то зрабіць там беларускую бібліятэку.

У гэтай апошняй кватэры сп. Жыдліцкага (Bozdechova, 3) я не была раней, хоць гэта вельмі блізка ад майго дому, па дарозе. Гэта маленькая двухпакаёўка, на другім паверсе, пад ёю, здаецца, кавяранька. У той кватэрцы ён пражыў апошнія тры гады. Выглядае, што жыллё не было ягоным, бо сям'ю прыспешваў уласнік, каб хутчэй вызвалілі...»

* * *

Яну Вацлававічу (бацька называў яго малога Гонзай) я напісаў па-руску, палічыўшы, што гэтую мову ён вывучаў у школе. Апроч пісьмаў Вацлава да мяне,

назваў яшчэ і той, планаваны выдавецтвам «Мастацкая літаратура» ў канцы 80-х, том Жыдліцкага — артыкулы пра беларускую літаратуру, які ён быццам рыхтаваў, але не спяшаўся з гэтым, кажучы мне, што спачатку складзе ды пераклядзе добры аднатомнік Кузьмы Чорнага, бо калі не ён, дык у Чэхіі ніхто гэтага не зробіць... Папрасіў Яна паглядзець у бацькавым архіве, ці не засталося там нарыхтовак да мяркуемай кнігі артыкулаў.

Добра думаецца пра тое, што мае пісьмы да Вацлава або іх ксеракопіі будуць прысланыя. Узаемная перапіска, шматгадовы творчы дыялог пабольшыцца яшчэ і на сябра-чэха, пасля іншых сяброў-літаратараў — рускага Дзмітрыя Кавалёва, паляка Мацея Канановіча, нашых Караткевіча і Калесніка, а таксама й заходнебеларускіх местачковых настаўнікаў, краязнаўцаў і чытачоў Міхася Петрыкевіча і Уладзіміра Томкі. Мой дыялог з кожным, каго называю, налічвае дзе многа, а дзе і мноства пісьмаў, здадзеных у архівы. Надрукавана толькі перапіска з Караткевічам, па колькасці найкарацейшая.

Чакаючы весткі ад Яна, летуцелася часам, як гэта я нарэшце і дачакаюся сваіх пісьмаў, пазычу ў архівах (смешнавата неяк: пазычу — сваё) пісьмы Вацлава, храналагічна складу іх з маімі і, перш за ўсё, начытаюся ад душы, яшчэ раз перажыву наша жыццё, хоць у пэўнай прыблізнасці, як гэта бывала ўжо з пісьмамі іншых сяброў...

На самай ранняй яго кніжцы — «Současna sovecka literatura III ukrainska a beloruska» — найпершы аўтограф:

«Вельмі шаноўнаму Янку Брылю..., **які даў мне адчуць беларускую душу**... Шчыра Вацлаў Жыдліцкі. Прага, 4/4 1966 г.».

Падкрэслена мною цяпер, у горкім роздуме, хваляванні і ўдзячнасці.

Ёсць аўтографы на іншых маіх кнігах, перакладзеных ім...

Недзе ў хатнім архіве Караткевіча захоўваюцца «Прыгоды Швейка» ў арыгінале, прысланыя нам Вацлавам з адным аўтографам абодвум зараз. Бо неяк мы на сяброўскім застоллі, не змаўляючыся папярэдне, ляпнулі, што ахвотна пераклалі б любімую кнігу на нашу родную, а Вацлаў, што быў тады госцем, неўзабаве прыслаў, здаецца, нават двухтомнае раскошнае выданне тых прыгодаў.

Перабіраў я і запісы, шукаючы, што дзе пра Ва́шака, як мы яго называлі. Прыемна ўразіў той, з канца 1987-га, дзе пра тое, як я позна ўвечары праводзіў яго ад нас у гасцініцу, а ён у ліфце сказаў:

«Добра, калі ёсць на свеце дом, сям'я, дзе можна быць як дома».

Перабіраў я таксама і фотаздымкі, выбраўшы з папак тыя, дзе ёсць Жыдліцкі. З назваў мясцін, запісаных на адваротах здымкаў, нават і нейкае ледзь не «хоку» складалася, для сябе, з сумнаватым інтымам успамінаў:

Мір, Свіцязь, Туганавічы,
Альбуць, Крынічнае, Ісласч,
Мінск, Прага, Масква...

Нібы й нямала, і — мала...

І неяк ці не найболей шкада, што не знойдзены, не захаваўся адзін з найранейшых здымкаў, з лета 1967-га, зроблены мною дома, пад вечар, пасля сяброўскага застолля. Вацлаваў меншы, вясёлы чэшскі жэўжык Да́лібор спіць на канапе, чорнавалосы на белі, з гронкай бананаў у ручцы...

* * *

Сталага веку мужчына, якога я ведаў і памятаю стрункім падлеткам, у адказ на маё пісьмо з канца верасня напісаў мне ў палавіне снежня. Шаноўны медык Ян Жыдліцкі маё рускае прачытаў, але адказваць на той самай мове не асмеліўся. У сваім горадзе Мельнік напісаў па-чэшску, а спадарыня Бінава тое пісьмо ласкава пераклала ў сваім Брне на мову рускую, адтуль і даслаўшы.

Строга-скупыя камптутарныя радкі пачынаюцца цёпла: «Milý Janku Bryle...» А далей перакладаю з перакладу:

«Дзякую за пісьмо і прашу прабачэння, што пішу са спазненнем. Здарылася так, што пасля татавай смерці памерла 30.10.2002 і мама, вось таму...»

Перапыняюся, каб сказаць, што маці Гонзы і Да́лібора — гэта першая жонка Вацлава, якую я не ведаў, пра далейшы лёс якой нічога не чуў.

«...Што датычыцца татавага архіва, дык мы пасля яго смерці знайшлі толькі кнігі, частку якіх перадалі універсітэту, частку ў Славянскую бібліятэку. Ніякіх пісьмаў мы не знайшлі, бацька ў апошнія гады двойчы перасяляўся, кожны раз стараючыся сваё мінулае пакінуць за сабою, ліквідаваць. Мы знайшлі шмат фотаздымкаў, звязаных з паездкамі на Украіну і ў Беларусь, іх мы перадалі дац. Бінавай.

Гэта ўсё, што я магу Вам у сучасны момант паведаміць.

Жадаю Вам як найлепшага 2003 года і шчаслівых Калядаў».

Чытаючы ўсё гэта, я міжволі прыгадаў сваю фразу з нядаўняга інтэрв'ю адной журналістцы пра злыбеды нашага часу: «Гэта, мая дарагая, не эмоцыі, **гэта — боль**...»

А ўсё ж я не магу зусім рэальна ўявіць ні свядомага аўтадафэ вялізнай карэспандэнцыйнай украінска-беларускай спадчыны аўтарытэтнага вучонага, ні нейкіх іншых формаў яе беззваротнага знікнення. Такую процьму пісьмаў няпроста і пагубляць усю, нават пры перамене жылля. У памяці стаяць словы з першага пісьма Галіны Бінавай: «...Ён чытаў Вашы пісьмы...»,— значыцца, яны былі і ў яго апошнія гады і месяцы. «Беларускія кнігі,— пісала мне Алена Ціхановіч,— былі складзены дзесьці ў дваццаць скрынак. На адной з раскрытых скрынак ляжаў ліст, напісаны знаёмым почыркам і прычым складзены так, што я там убачыла сваё імя. Так выпадкова маю адзін Ваш ліст, і паколькі ён адзін, то лепш Вам вярну».

Дык вось яно — толькі адно з найменш паўсотні маіх пісьмаў Вацлаву, напісанае 14.IV.1999 года, без канверта, бо пасланае ў падарунку, які ўзяў ад мяне для прафесара Жыдліцкага ягоны студэнт па імені Ян (прозвішча я не запомніў), які нешта з месяц стажыраваўся ў нашым БДУ. А ляжала пісьмо на скрынцы, складзенае так, што наверсе былі словы:

«Мая амаль зямлячка, сімпатычная Лена Ціхановіч, пісала пад Новы год, што яны, маўляў, на «Свабодзе», успамінаюць мяне і самі, і з прафесарам Жыдліцкім. Пры нагодзе перадай ёй, калі ласка, маё прывітанне».

І такая яшчэ акалічнасць. Пісьмо гэтае ляжала «на адной з раскрытых скрынак»,— значыцца, яшчэ дзевятнаццаць былі нераскрытыя. А скрынкі з кнігамі ўкраінскімі, якія накіроўваліся ў Брно?..

Словам, калі ў мяне раней была трывога пра лёс тых пісьмаў, дык цяпер спадцішка з'явілася і пэўная надзея. Дай Бог!..

...Не перакладзены аднатомнік Кузьмы Чорнага. Той том артыкулаў Жыдліцкага пра беларускую

літаратуру, што ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» пераносіўся з плана ў план, гэта мелася быць гісторыя беларускай літаратуры XX стагоддзя, але, як напісала мне Галіна Бінава, «задума засталася ў планах, праектах і ў зборы матэрыялаў — не больш таго...».

Што ж, у многіх застаецца штосьці няздзейсненае, недаробленае... Тут у мяне не проста развага, не гаркáвая згода з тым, чаго не паправіш,— тут ёсць і суцяшэнне, яно ў адчуванні шчырай, вялікай удзячнасці за тое, што зрабіў для нас, беларусаў, гэты цудоўны, непаўторны чэх.

*2002*

# ЗМЕСТ

## ЗАПІСЫ І МІНІЯЦЮРЫ



## ЭСЭ

**Брыль Я.**

Б89 З людзьмі і сам-насам: Запісы, мініяцюры, эсэ / Янка Брыль.— Мн.: Маст. літ., 2003.— 334 с.

ISBN 985-02-0603-9.

Новая кніга Янкі Брыля «З людзьмі і сам-насам» — своеасаблівы працяг такіх ягоных кніг, як «Жменя сонечных промняў», «Вітраж», «Вячэрняе», «Дзе скарб ваш», а таксама — цыклаў лірычных запісаў і мініяцюр «Усё, што ўражвае», «Свае старонкі», «Пошукі слова», «Хлеб надзённы»... І ў новай кнізе народнага пісьменніка — роздум пра час, чалавечыя лёсы, галоўныя праблемы сучаснасці, шчыры клопат пра мір, свабоду, дэмакратыю, родную мову, захапленне красой прыроды і вечнай паэзіяй маленства.

**УДК 821.161.3-3**
**ББК 84(4 Беи)-44**

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**БРЫЛЬ Янка (Іван Антонавіч)**

# З ЛЮДЗЬМІ І САМ-НАСАМ

*Запісы, мініяцюры, эсэ*

Рэдактар *Л. Т. Калюжная*
Мастак *М. Р. Казлоў*
Мастацкі рэдактар *Л. М. Рудакоўская*
Тэхнічны рэдактар *В. Ю. Серчанка*
Стылістычны рэдактар *Я. А. Бебель*

Падпісана да друку 22.04.03. Фармат $70 \times 100^{1}/_{32}$. Папера афсетная.
Гарнітура Тып Таймс. Афсетны друк. Умоўн. друк. арк. 13,65.
Улік.-выд. арк. 11,81. Тыраж 2000 экз. Заказ 46 .

Выдавецкае рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Мастацкая літаратура» Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Ліцэнзія ЛВ № 3 ад 28.11.2002. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства
«Мінская фабрыка каляровага друку».
220024, Мінск, вул. Каржанеўскага, 20.